

Колькі іх—слаўных юнакоў і дзяўчат—у вольны ад працы час схіляецца вось так, як і Тамара Петрусёва, над канспектамі і падручнікамі. У цэху зборкі прыёмнікаў на Мінскім радыёзаводзе Тамару Петрусёву ведаюць як выдатную настройшчыцу. Брыгада, членам якой яна з'яўляецца, змагаецца за права насіць званне калектыву камуністычнай працы. Выдатнае валоданне прафесіяй дапамагае ёй у паспяховай вучобе на вячэрнім аддзяленні Мінскага політэхнікума, які яна заканчвае сёлета. Хутка Тамара Петрусёва атрымае дыплом тэхніка-тэхнолага радыёпрамысловасці.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



3 (73)

Сакавік.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12 000 экз. Цана 4 руб.

АТ 01252 Здадзена ў набор 1. II 59 г. Падпісана да друку 6. III 59 г. Заказ 71.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.





**Аляксандр МІРОНАЎ**

# СВЕТЛЫМ ШЛЯХАМ КАМУНІЗМА

Пачатак сёлетняга года азнаменаваўся для савецкага народа дзвюма падзеямі, якія ўскалыхнулі ўсіх людзей свету: у першыя дні студзеня ў нашай сонечнай сістэме з'явілася новая планета, назву якой здзіўленае чалавецтва ўсё яшчэ не паспела прыдумаць, а ў канцы месяца адкрыўся XXI з'езд КПСС, які сваімі рашэннямі праклаў светлы шлях у наш заўтрашні дзень.

Гэтыя падзеі нельга аддзяліць адну ад другой. Пройдуць стагоддзі, людзі пачнуць весці летазлічэнне не ад «нараджэння Хрыстовага», а, напэўна, з дня здзяйснення Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, і калі ў іх зойдзе гаворка аб першым штучным спадарожніку Сонца, яны скажуць, прыкладна, так:

— Ён быў запушчаны тады, калі нашы продкі ступілі ў камунізм.

Мы часта гаворым аб тым, што людзі працуюць у імя будучыні, не вельмі глыбока ўдумваючыся ў сэнс гэтых слоў. Людзі розных класаў і розных сацыяльных, грамадскіх сістэм слова «будучыня» разумеюць па-рознаму. Дробнаму фермеру Арызоны будучыня абяцае разарэнне, продаж яго маёмасці, а потым — дні і гады галодных бадзянняў па дарогах Злучаных Штатаў; вуглякопу Кардзіфа або ткачу Манчэсцера — закрыццё шахты ці завода, пасля чаго пачынаецца тое, што называецца адным, страшным, як сама смерць, словам — беспрацоўе; для патрыёта Алжыра будучыня — гэта вызваленне яго радзімы ад прыгнёту французскага каланіялізма; для падбухторшчыка «халоднай вайны» і падпальшчыка вайны гарачай — гэта новыя барышы, нажытыя на гонцы ўзбраенняў.

І толькі для савецкіх людзей, для людзей усяго лагера сацыялізма, будучыня складаецца з зусім канкрэтных лічбаў і планаў таго, што павінны працоўныя самі зрабіць сваімі ўласнымі рукамі, — і што абавязкова зробяць яны дзеля далейшага росквіту шчасця і дабрабыту народа.

Пра гэтую будучыню і ішла размова на гістарычным XXI з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Гэтая наша светлая будучыня, як пражэктарам, асветлена рашэннямі з'езда, прынятымі аднадушна.

У сваіх планах далейшага развіцця народнай гаспадаркі з'езд выказаў думкі, спадзяванні, надзеі і волю ўсяго савецкага народа. Больш двух месяцаў абмяркоўваліся тэзісы даклада Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, — іх дапаўнялі, удакладнялі на сваіх сходах усе савецкія людзі. Вось чаму даклад таварыша М. С. Хрушчова і з'явіўся выражэннем усенароднага імкнення і ўсенароднай волі — пабудаваць на савецкай зямлі камунізм.

Шлях да камунізма, светлы шлях у заўтрашні дзень — так коратка можна ахарактарызаваць змест гэтага даклада, які з'явіўся асновай асноў распрацоўкі кантрольных лічбаў развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1959—1965 гады. У ім, нібы ў люстры, з дакладнай яскравасцю бачна ўсё, чаго мы дасягнулі за мінулыя дзесяцігоддзі савецкай улады. І ў той жа час даклад М. С. Хрушчова—гэта праграмны дакумент не толькі нашай партыі, нашага народа, але і ўсяго міжнароднага рабочага і камуністычнага руху. І не выпадкова таму па глыбіні аналізу, па яснасці і дакладнасці сваіх тэарэтычных палажэнняў ён быў успрыняты ва ўсім свеце як адзін з буйнейшых твораў марксізма-ленінізма нашых дзён. Кіруючыся марксісцка-ленінскай тэорыяй, партыя прывяла наш народ да канчатковай перамогі сацыялізма і зараз вядзе яго да вышынь камунізма.

На самай справе, яшчэ нядаўна многія схільны былі лічыць, што камунізм — гэта такая далёкая будучыня, рэальныя абрысы якой цяжка сабе ўявіць нават у агульных контурах. Сёння ж наша краіна, мы самі ўжо ўступілі ў перыяд паступовага пераходу ад сацыялізма да камунізма, ад першай, ніжэйшай фазы камуністычнага грамадства, пабудаванай намі, да яго вышэйшай фазы, якую таксама пабудуем мы, сучаснікі і стваральнікі штучнай планеты з вымпелам «СССР» на борце! Для гэтага ў нас ёсць усё: наша партыя, якая вызначае генеральны курс у будучыню, наш народ, які здзіўляе свет сваімі выдатнымі поспехамі і дасягненнямі, наша таленавітая і натхнёная моладзь, якая не ведае спачыну ў штурме перашкод, і наша воля, нязломная, па-ленінску цвёрдая ў дасягненні пастаўленай мэты.

М. С. Хрушчоў у сваім дакладзе высунуў глыбока абгрунтаванае меркаванне аб тым, што да камунізма прыдзе спачатку не адна, не асобная сацыялістычная краіна, якая вырвалася наперад, а ўсе краіны сацыялізма будуць пераходзіць у вышэйшую фазу камунізма больш або менш адначасова. Якое ж яркае, сапраўды прамяністае святло праліло гэтае меркаванне на будучыню ўсіх — і малых і вялікіх — дзяржаў народнай дэмакратыі! Якім велізарным мабілізуючым фактарам у дасягненні яшчэ большых перамог у будаўніцтве новага жыцця з'явіцца яно для народаў усяго сацыялістычнага лагера! Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў адкрыў у сваім дакладзе заслону над нашай агульнай будучыняй, паказаў, чым стане Савецкі Саюз і ўвесь сацыялістычны лагер заўтра, калі мы супольна ажыццявім нашы вялікія планы і наблізімся да камунізма.

Для таго, каб пабудаваць камунізм, трэба перш за ўсё стварыць трывалую матэрыяльную базу для яго, стварыць важнейшыя эканамічныя ўмовы для ажыццяўлення галоўнага прынцыпу камуністычнага грамадства: ад кожнага — па яго здольнасці, кожнаму — па патрэбнасці. Ці будзе так? Будзе, і цяпер ужо хутка, — тады, калі мы створым багацце ўсіх матэрыяльных і культурных даброт, аснова якіх закладваецца ў цяперашняй працоўнай сямігодцы краіны. Для дасягнення гэтай мэты нам не трэба ні ў кога пазычаць ні сіл, ні энергіі, ні веры ў перамогу — усім гэтым мы самі



шчыра дзелімся з тымі, хто ў гэтым мае патрэбу.

З'езд партыі вырашыў, народ ухваліў гэтае рашэнне, а значыць і даб'ецца таго, што за сямігодку прырост прамысловай прадукцыі ў Савецкім Саюзе будзе раўняцца ўсяму прыросту за апошнія дваццаць год. Нам патрэбна трывалая матэрыяльна-тэхнічная база для пабудовы камунізма — і за сямігоддзе капітальныя ўкладанні ва ўсю народную гаспадарку краіны як цэнтралізаваных, так і не цэнтралізаваных сродкаў складуць амаль тры трыльёны рублёў, ці прыкладна столькі ж, колькі ўкладзена ў яе за ўсе больш як сорак гадоў савецкай улады. Астранамічная лічба!

Як вядома, мінулае саракагоддзе было для нашай краіны не толькі гадамі барацьбы за пабудову сацыялізма, але і гадамі змагання з белагвардзейшчынай і інтэрвентамі Антанты, аднаўлення народнай гаспадаркі, разбуранай у часы грамадзянскай вайны, цяжкімі гадамі Вялікай Айчыннай вайны. Якія велізарныя сродкі, якая волатаўская сіла спатрэбілася на ўсё гэта! І вось цяпер яшчэ большыя сродкі, і яшчэ больш магутныя сілы народа, цесна згуртаванага вакол сваёй камуністычнай партыі, накіроўваюцца на тое, каб за кароткі прамежак часу збудаваць у краіне трывалы фундамент камунізма.

Цяжкімі на першы погляд уяўляюцца задачы, якія паўстаюць перад кожным чалавекам і перад усім грамадствам. Такой цяжкай задачай уяўлялася нам не так даўно велічная мэта — у гістарычна кароткі тэрмін дагнаць і перагнаць найбольш развітыя капіталістычныя краіны па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва. А хіба мы спасавалі перад гэтымі цяжкасцямі! Хіба хоць на хвіліну адмовіліся ад змагання!

Не трэба далёка хадзіць за прыкладамі. Дастаткова азірнуцца хаця б на тое, што зрабіў за гады савецкай улады беларускі народ, каб упэўніцца і ў перамозе нашых ідэй, і ў велічы нашай назаўсёды вольнай, натхнёнай, стваральнай працы. Рэальныя рысы камунізма ўжо сёння мы бачым і ў тым, што прамысловасць Беларусі дагнала капіталістычныя краіны Аўстрыю і Італію па выпуску універсальных прапашных трактараў, абагнала тую ж Аўстрыю, Данію і Швецыю па выпуску грузавых аўтамабіляў. Яны — гэтыя рэальныя рысы — і ў індустрыяльнай магутнасці рэспублікі, і ва ўздыме сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, і ў небывалым росквіце беларускай сацыялістычнай культуры. Яны — і ў тых грандыёзных стваральных планах, якімі зараз жыве і якія паспяхова здзейсніць разам з усімі народамі Саюза ССР і беларускі народ.

Ва ўсёй гэтай стваральнай рабоце першынство належыць нашай таленавітай і працавітай моладзі. І не дзіўна. Ёй жа жыць у камунізме, ёй і ўзводзіць велічны будынак яго. А большага гонару на долю моладзі не выпадала ніколі і нідзе! Быць у ліку першых, на самых цяжкіх, рашаючых участках барацьбы за ўсенароднае шчасце — хіба можа быць для моладзі больш ганаровая і натхняючая мэта!

Нашы камсамольцы, маладыя рабочыя на новабудоўлях ужо цяперашняй сямігодкі рэспублікі — на будаўніцтве Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, Бярозаўскай ДРЭС, Старобінскага калійнага камбіната — з гонарам выконваюць велічныя задачы, самаадданa працуюць у імя набліжэння светлай будучыні. Камсамол Беларусі ўзяў шэфства над гэтымі прамысловымі гігантамі — значыцца і пабудуе іх раней тэрміну, як паабяцаў роднай партыі.

Мы цвёрда ведаем, што ў гэтым сямігоддзі абавязкова дагонім найбольш развітыя капіталістычныя краіны па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва. Мы цвёрда ведаем і тое, што, як сказаў на XXI з'ездзе М. С. Хрушчоў, «дасягнуты на гэтым этапе ўзровень эканамічнага развіцця для нас зусім не канечная станцыя, а ўсяго толькі раз'езд.

на якім мы зможам дагнаць самую развітую капіталістычную краіну, пакінуць яе на гэтым раз'ездзе, а самі рухацца наперад».

Такім чынам, выйграўшы эканамічнае спаборніцтва са Злучанымі Штатамі Амерыкі, мы завершым няхай пакуль яшчэ першы, але зусім канкрэтны этап камуністычнага будаўніцтва. А за першым, як вядома, пойдуць і ўсе астатнія этапы...

Мы будуем новыя дамы для таго, каб нашым людзям жылося лепш, будуем электрастанцыі, каб у дамах было святло, будуем водныя сістэмы, каб квітнелі сады, зелянелі стэпы і пустыні. Усё, што робіцца ў нас, — ідзе на шчасце чалавека. І так заўсёды — у малым і ў вялікім. А калі гаворка заходзіць пра будучыню, найбольш галоўнае ў ёй — далейшае развіццё індустрыяльнай магутнасці і сельскагаспадарчай вытворчасці ў нашай краіне. Без гэтага не можа быць багацця, а значыцца і шчасця.

Што дасць народу гэтае сямігоддзе?

У нас будзе самы кароткі ў свеце працоўны дзень і самы кароткі працоўны тыдзень. Павялічацца даходы рабочых, калгаснікаў і служачых. У нас будзе ўсеагульная сярэдняя адукацыя пры адначасовай падрыхтоўцы кваліфікаваных спецыялістаў ва ўсіх галінах працы. З насельніцтва не будуць вылічвацца падаткі. Самая мінімальная аплата працы ў краіне складзе не менш 500 — 600 рублёў у месяц. Кожная сям'я будзе мець асобную кватэру. Калі дадаць да ўсяго гэтага павелічэнне выдаткаў дзяржавы на сацыяльнае страхаванне, выплату пенсій, дапамог, стыпендый навучэнцам, бясплатнае навучанне і медыцынскае абслугоўванне, выдаткі на ўтрыманне дзіцячых устаноў, санаторыяў, дамоў адпачынку, аплату водпускаў і многае іншае, — стане яскрава відзён той заўтрашні дзень, да якога мы наблізімся ў гэтыя сем год.

Кожнае слова кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Урада ў нашай краіне — гэта голас народа, выражэнне ўсенародных спадзяванняў і волі да лепшага жыцця. Вось чаму такую ўсеагульную і гарачую падтрымку і шчырае адабрэнне знайшлі рашэнні XXI з'езда партыі ў сэрцах усіх савецкіх народаў, у сэрцах нашай моладзі. Гэтыя рашэнні адкрываюць маладым будаўнікам камунізма светлы шлях у заўтрашні дзень, у дзень іх шчаслівай будучыні. Шлях гэты не ўсыпаны ружовымі пялёсткамі. На ім сустрэнуцца і цяжкасці. Але хіба савецкая моладзь калі-небудзь палюхалася перашкод? Хіба не ўмее яна пераадольваць любыя цяжкасці?

Спатрэбілася народу — і сотні тысяч юнакоў і дзяўчат пакінулі бацькоўскі дом, рушылі на ўсход, на цалінныя і абложныя землі, каб у кароткі тэрмін ператварыць іх у край багатых ураджаяў. Спатрэбілася краіне — новыя атрады маладых патрыётаў накіраваліся ў тайгу, у тундру, у бязводныя пустыні, каб пракласці там каналы, збудаваць гіганты-заводы, узвесці цудоўныя гарады і пасёлкі.

Сёння героем-цаліннікам, першаадкрывальнікам і будаўніком новага жыцця, адчувае сябе кожны малады савецкі чалавек, дзе б ён ні працаваў. Не выпадкова, што іменна ў перадз'ездаўскія дні ў гушчы нашай моладзі нарадзіўся новы выдатны патрыятычны рух — спаборніцтва за званне брыгад камуністычнай працы. Гэты патрыятычны рух знамянуе сабой новую, больш высокую ступень сацыялістычнага спаборніцтва, нясе ў сабе камуністычныя рысы і, такім чынам, з'яўляецца адной з важных форм далучэння моладзі да камуністычнага ўкладу жыцця. Невыпадкова, што ў дні XXI з'езда КПСС з новай сілай выявіўся самаадданы патрыятызм савецкай моладзі — разгарнуўся рух нашых слаўных дзяўчат, якія парашылі выехаць на сталую працу ў раёны асваення цалінных і абложных зямель.

Моладзь — гэта будучыня на-



рода, гэта сам наш народ заўтрашняга дня. І ўжо калі мы будуем камунізм, то і жыць у эпоху камунізма будзем па новых законах — па законах камуністычнага грамадства, дзе натхнёная праца на карысць народа і высокая камуністычная свядомасць працоўных будуць асновай асноў усяго быцця. Хто, як не Ленінскі камсамол, абавязан ужо сёння выхоўваць у юнакоў і дзяўчат такія рысы, як калектывізм, любоў да працы, сумленнасць, непрымірымасць да парушальнікаў норм нашага жыцця.

— Камсамолу трэба будзе прыняць актыўны ўдзел у прамысловым, жыллёвым і культурна-бытавым будаўніцтве, у барацьбе за далейшае развіццё сельскай гаспадаркі, за асваенне прыродных багаццяў новых раёнаў краіны.

Так сфармулявана роля камсамола па здзяйсненню велічнай праграмы камуністычнага будаўніцтва ў рэзалюцыі XXI з'езда партыі. Поўная сіл і рашучасці выканаць сямігадовы план датэрмінова, наша моладзь разам з усім савецкім народам рушыла па светламу ленінскаму шляху на вялікую справу пабудовы камунізма.

Пройдуць стагоддзі, і нашы патомкі — маладыя людзі эпохі камунізма — пабудуюць на самым прыгожым месцы нашай планеты грандыёзны манумент, які ўславіць зару камуністычнай эпохі. Гэта будзе, мне ўяўляецца, фігура юнака, вылепленая з новага, пакуль невядомага матэрыялу. У руцэ, узнятай да сонца, юнак будзе трымаць ззяючы ўсімі колерамі вясёлкі сімвал будучыні. На ім незгасальнымі агнямі будуць напісаны ўсяго толькі чатыры літары, якія сёння асвятляюць народам свету дарогу да шчасця. Гэтыя літары — СССР. І будзе ведаць кожны, адкуль пачынаў сваю трыумфальную хаду камунізм!



Эдзі Агняцвет нарадзілася ў 1916 годзе ў Мінску ў сям'і служачага. Скончыла будаўнічы тэхнікум і літаратурнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута.

У 1935 годзе выйшаў першы зборнік яе вершаў «Маё пакаленне». Пасля гэтага з'явіліся кнігі «Край мой родны», «Другу на фронт», «Простыя песні», «Васількі», «Ля піянерскага кастра», «Песня пра піянерскі сцяг», «Твае таварышы», «На вуліцы нашай», «Кліча вецер свежы» і іншыя.

Паэтэса напісала таксама лібрэта дзіцячай оперы «Марынка».

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

# ДЫРЫЖОР



Ён — за пультам,
ён — на скрыжаванні
Самых шумных вуліц гарадскіх.
Не глядзіць ён на чыны і званні,
Строгі і прыдзірлівы да ўсіх.

Штат яго аркестра незлічоны —
Пешаходы
і грузавікі,
Легкавых імклівых
батальёны,
На веласіпедах хлапчукі.

Вельмі чулы ён да кожнай ноты —
Пільны і няўмольны дырыжор.
У яго хапае тут работы:
Разявакі ёсць, як на падбор!

І сягоння, непакорны рытму,
Самазвал якісьці маху даў...
З выглядам і голасам сярдзітым
Дырыжор шафёра дапякаў:

— Хіба так дазволена імчацца?
На той свет спяшаецеся вы!..
Я такім бы не даверыў працы,—
І забраў шафёрскія правы.



Раптам ён заўважыў —
у шафёра
Косы з пералівам ільняным,
Вочы, як палескія азёры.
«І няхай! А я тут ні пры чым».

Хлапчукі крычаць яму з паркана:
— Адпусці на волю грузавік!..
А шафёр — лірычнае сапрана —
Да сур'ёзных спрэчак не прывык...

Слёзы пырснуць праз адну хвіліну
З двух блакітных злосных аганькоў.
«Ах, якая добрая дзяўчына...»
Але ўсё ж ён не аддаў правоў:

— Разбярэмся потым ва ўпраўленні!—
Самазвал памчаўся на прастор.
І глядзіць услед яму ў здзіўленні
І смуткуе строгі дырыжор.

# НЕВЯДОМЫ МАСТАК



Цішыня ў незакончаным доме,
Павявае ад сцен халадком.
А на вышцы
ў аконным праёме
Прымасціўся мастак з палатном.

Хай нядзеля! Усе ў адпачынку,
Ён затое на працу прышоў.
Свежы пах сыраватага тынку
Непакоіць, як водар палёў.

Што па-свойму ўбачыў, прыкмеціў
Невядомы нікому мастак?
Што за фарбы адкрыў ён на свеце,
Хударлявы і русы юнак?

Ён малюе, як быццам баіцца
Прапусціць,
недагледзець,
забыць.
Эх, каб можна было
да драбніцы
На малюнку світанне змясціць!

Як у сонечным, радасным спектры
Разгараецца фарбаў прыбой,
Як высока ў блакітным паветры
Хмаркі белай ідуць чарадой.

Як над Круглаю плошчаю Мінска
Самалёт пасажырскі ляціць,
Як на зорцы жывой абеліска
Несмяротная слава гарыць.

...Аб сваім існаванні, паверце,
У гэты момант забыўся юнак...
У праёме на шостым паверсе
Ён да сонца бліжэй як-ні-як!

Вецер шапку сарваў...
Што ж такога?
Па карнізах хай коціцца ўніз!
...Ён малюе.
Дапытліва, строга
Углядаецца ў новы эскіз.

## МАЛАДАЖОНЫ



Ён маладую ў дом прывёў.
Пакой — пад самым небам.
Ні аксамітных дываноў,
Ні люстраў ім не трэба!

Прынёс, нясмелы, як жаніх,
Ахапак лісцяў звонкіх —
Чырвоных, жоўтых, залатых —
Букет для любай жонкі.

І фарбы памятных алей —
У радасным букеце.
І гэта — сціплае — мілей
За ўсе багацці ў свеце!

А восень кажа маладым,
Што сонца іх высока,
Што ім, са шчасцем веснавым,
Да восені
далёка...



Іван НАУМЕНКА

# ВЯСЕЛЛЕ Ў ПАЛЫКАВІЧАХ

**Апавяданне**

Мал. Г. Паплаўскага.

Дзень сонечны, нядзельны. Лётае белая павуціна; маўклівай задуменнасцю вее ад вясковых прысадаў. Лёгкія празрыстыя тоны пануюць у паветры, у бязвоблачным небе, ва ўсім наваколлі.

У суседніх з Асцюкамі Палыкавічах прастольнае свята—«прачыстая». Калі ісці ад Асцюкоў да Палыкавіч шашой — адлегласці шэсць кіламетраў, калі напрасткі, полем і ляском,— усяго тры.

Жыхары абедзвюх вёсак даўно парадніліся. Цяжка знайсці ў Асцюках сям'ю, якая б не мела ў Палыкавічах сваяка — свата, цёшчу, свёкра, кума, брата, родзічаў другога ці ў крайнім выпадку трэцяга калена.

Сёння Асцюкі, нягледзячы на свята ў суседзяў, малоцяць. Малацьба ідзе ля гумнаў, на ўскраіне вёскі, дзе паўкругам пасталі стагі. Натужна тарахціць стары, спрацаваны ХТЗ, які цяпер толькі і годны, каб вярцець пас малатарні. З тока нясецца рогат і крык, які чуваць за вярсту. Гэта, мабыць, таму, што на таку адны маладыя. Працаваць спакойна і паважна яны не ўмеюць.

Не смяецца толькі адзін чалавек — трактарыст Іван Кніга. Ён ляжыць крокаў за дзесяць ад трактара і жуе саломіну. На яго прыгожым чарнявым твары — адбітак зацятасці і змрочнасці. Здаецца, Івану няма ніякай справы ні да малацьбы, ні да ўсяго гэтага шматгалосага тлуму.

Дарога, якая вядзе ў Палыкавічы нацянькі, праходзіць паўз гумны. Па ёй клыпае на фэст вартаўнік збожжасклада Дзямід Гузік, нізкі, крыху сагнуты стары з драўлянаю леваю нагою.

— Куды дзядзька? — крычаць з тока.

Дзямід робіць выгляд, што не чуе, і чыкільгае на сваёй дзеравяшцы далей. Але адбіцца ад языкаватай талакі не так то проста.

— Не спяшайся, дзядзька, — данімае той жа голас. — Будзька цябе на матацыкле падвязе. Пайшоў запраўляцца...

Ля малатарні новы выбух рогату. З брыгадзірам Пятром Будзькам сёння не лічацца. З раніцы ён бегаў па таку, камандаваў і загадваў, а цяпер ляжыць пад стогам і спіць. Прычыну перамены ў брыгадзіравым настроі ведаюць усе. У яго ў Палыкавічах вялікая радня, і Будзька даўно мог сядзець у кума на покуце за святочным сталом. Але прышлося скарыцца. Ці то з гора, ці то можа проста, каб нагнаць упушчанае, Будзька на сняданні перабраў лішку і зараз адпачывае.

Дзямід падыходзіць да малатарні. На ім новы суконны гарнітур, вышытая сарочка, на назе наглянцаваны бот.

— Можна б было і падвезці,— гаворыць Дзямід.— Хіба не заслужыў? Але ў нас не ў той бок глядзяць. Рэлігійнае свята! А можа мне не на свята, а па дзелу патрэбна. Разумнікі!

— А што ў цябе за справа, дзядзька Гузік?

— Гэта маё ведае...

У размову ўступае Марыля Сініца, загадчыца збожжасклада. Яна нясе бярэмак новых мяхоў і не вельмі дружалюбна паглядае на вартаўніка.

— Да вечара можаце гуляць,— гаворыць Марыля.— А вечарам павінны быць тут. Склад вам не цацка. Я за вас адказваць не збіраюся.

— А цябе ніхто і не просіць, — гарачыцца Гузік. — Ёсць начальства большае за цябе. Ты кожнага дня ляціш куды хочаш, і я не пытаюся, дзе ты была. А калі на вяку чарвяку раз прышлося...

— Правільна, — дзядзька! — падбадзёрвае вартаўніка нехта з хлопцаў.— Дай там дыхту. Склад не ўцячэ, а «прачыстая» адзін раз на гаду бывае.

— Прачыстая, прачыстая, — агрызаецца вартаўнік. — Знайшлі гуляку Дзяміда Гузіка. Склад прапіў... Калі мяне на вяселле пазвалі, то не магу ж я, як хросны бацька, маладой адмовіць? Не магу. Дык навошта ж языкамі малоць?

— Цяпер ясна, дзядзька Гузік, — рагочуць хлопцы. — Нездарма ты сёння такім кавалерам...

Нешта мармычучы, Гузік адыходзіць.

— На Марылю не крыўдуй, дзядзька! — крычаць яму хлопцы наўздагон. — Усе дзяўчаты такія. Яны злыя, бо іх замуж не бяруць. Баяцца іх характару і бягуць жаніцца ў Палыкавічы...

На таку толькі і размоў, што пра вяселле. Услых абмяркоўваюць якасці жаніха і нявесты. Сёння жэніцца іхні ж хлопец Рыгор, які цяпер працуе ў Палыкавічах трактарыстам.

Твар Івана Кнігі, які адзін з усёй талакі не прымае ўдзелу ў размове, то чырванее, то бялее. Хлопец у гэтую хвіліну проста баіцца, каб хто-небудзь не распачаў з ім гаворкі. Хаваць сваіх пачуццяў Іван не ўмее...

У дзяўчат супраць Івана змова. Пазіраючы ў яго бок, яны робяць адна другой таямнічыя знакі і пырскаюць смехам. Цікаўнасць да Івана



і яго настрою ў іх дужа вялікая, бо перамірграванне і перасмешачкі не спыняюцца з самай раніцы.

Іван бачыць усё гэта, і яго разбірае яшчэ большая злосць. Ён злуецца на сябе, што згадзіўся пайсці на ток, на рабую Марылю Сініцу, якая выстаўляе сябе начальніцай, на ўсіх, у каго здаровае, бесклапотнае горла. Але болей за ўсё Івана выводзяць з цярпення намёкі і загадкі, якімі, нібы згаварыўшыся, сёння ўсе размаўляюць.

Хлопец устае і падыходзіць да трактара. Мерна тахкае стары, спрацаваны матор, у радыятары сіпіць пара, бясшумна слізгае бліскучы пас. Па таку, нібы апантаная, носіцца Марыля. Яна то бяжыць у склад, куды заносяць поўныя мяхі, то завіхаецца каля вагаў. Грукоча малатарня, глытаючы сноп за снопам. Рагочуць запыленыя да самых вушэй малацьбіты.

Іван бярэ старое, дзіравае вядро і ідзе да студні.

— Матор перагрэўся, — гаворыць ён, не звяртаючыся ні да кога. — Трэба заліць вады...

Пасля таго, як хлопец знікае, з хвіліну ўсе маўчаць. Потым, нібы праз адчыненыя застаўкі, прарываецца на волю стомленае доўгім чаканнем дзявочае красамоўства.

— Гэта ўсё Марыля вінаватая!— крычыць са стога шустрая бялявенькая дзяўчына. — «Малаціць, малаціць!» Ёй хоць бы што, а ў хлопца сэрца разрываецца...

— Цэлы будзе, не памрэ. Яшчэ ніводнага не панеслі на могілкі з-за гэтага.

— Такая ўжо княгіня, гэтая Шура. Проста дурныя нашы хлопцы. Куды адзін, туды і ўсе...

— У Палыкавічы іх цягне...

— Але папаварыла гэтая Шура з Івана вады. І з носам аставіла. Так яму і трэба. Няхай не бегае за чужымі...

Цяпер у наступ перайшлі хлопцы.

— Маладзец, Рыгор, з-пад носа ў Івана перахапіў дзяўчыну.

— Паваяваць там было за што. Такой у нас з агнём не знойдзеш. Нашы дзяўчаты проста ад зайздрасці нагаворваюць на Шуру.

— Далёка ім да Шуры. Такая толькі вокам павядзе, і хлопцы за ёй цугам.

— Усе дзяўчаты такія. Хто больш перад імі віляе, да таго яны і ліпнуць.

Прышоў Іван са старым вядром, з усіх дзірак якога цурчэла вада. Размова ў адзін міг абарвалася. Тарахцеў трактар, грымела малатарня, густымі клубамі падымаўся шэры, едкі пыл. Іван заліў ваду ў радыятар, падняў капот і стаў корпацца ў маторы. Праз некалькі хвілін матор сціх, пас, бездапаможна слізгануўшы, павіс дугой у паветры.

— Усё, — сказаў трактарыст, выціраючы рукі пакуллем. — Трэба свечы мяняць...

— Іван, хоць гадзіну яшчэ, — папрасіла Марыля. — Заўтра б завезлі ў раён гэтыя восем тон і разлічыліся. Мы і так ад Палыкавіч адсталі.

— Што, я сам запрагуся ў малатарню? — агрызнуўся трактарыст. — Сказаў усё, значыць, усё.

— Табе цяпер на работу напляваць, — уз'елася Марыля. — Падумаеш, прычыну знайшоў, свечкі... Мігрэнь у цябе ад рэўнасці, вось што. Дурнымі ўсіх лічыш. Пачакай, на праўленні...



Іван моўчкі пайшоў прэч. Сонца толькі-толькі пачало хіліцца к захаду. Пасля доўгага тарахцення і грукату на таку стаяла нязвыклая цішыня. Было чуваць, як асядае ў сціртах салома.

— Якая яго муха ўкусіла? — здзіўлена спытала дзяўчына, што адграбала салому. — Кінуў-рынуў, як на пажар...

— Вядома, якая, — ахвотна растлумачылі хлопцы. — Палыкавіцкая, чорненькая. Балюча кусаецца. Як укусіць, то і праз год не ачухаешся.

— Губіце вы нам жыццё, дзяўчаты! — робленым трагічным голасам залемантаваў нехта з хлопцаў. — Нейкая канарэйка такога арла скасавала. Ёй бы яму ногі мыць...



— Паперабіваць бы вам гэтыя ногі...

Прачнуўся брыгадзір Пятро Будзька. Ён цёр заспаныя вочы і ўтрапёна пазіраў на ўсіх.

— Кончылі ўжо? — запытаў ён у Марылі.

— Можаце канчаць тое, што пачалі раніцай. Які брыгадзір, такія і парадкі. Адзін спіць без просыпу, другі робіць, што хоча...

— Ну, ну, разышлася. Стог жа змалацілі. Паабедайце, а калі трактар спраўны, то падмалоцім яшчэ. Нідзе ён не дзенецца, твой Іван. Не пабяжыць на чужое вяселле, не бойся.

Ток апусцеў...

Іван Кніга блукаў па ляску ўзбоч сцежкі, якая нацянькі вяла ў Палыкавічы. Сонца садзілася за лесам. Прамені падалі на вершаліны дрэў, і ад гэтага там, наверсе, панавала залатая празрыстасць. Унізе, на верасавым доле, расплываліся шэрыя цені. Было ціха.

Хлопец раз-по-раз нагінаўся, зрываючы брусніцы. Ягады здаваліся горкімі. Думкі набягалі адна за адной, зліваючыся ў нейкую гарачую, шалёную хвалю. Хвілінамі гэтая хваля захліствала ўсю істоту, распірала грудзі, салёным камяком падступала к горлу. Тады муцілася свядомасць, знікалі думкі і расло неадольнае жаданне бегчы куды-небудзь у белы свет. Хацелася ўцячы ад знаёмых твараў, насмешлівых вачэй, ад гэтай сцежкі...

Іван забрыў у зацішак і лёг пад дубком. Сухі ліст, сарваўшыся з галіны, упаў на дол. Ад усланае леташнім лісцем зямлі ішоў халадок. Вяртаўся спакой. Няўрымслівае, шалёнае пачуццё стала знікаць, саступаючы месца балючаму суму. Боль, нібы цвік, сядзеў у сэрцы. Іван ужо адчуваў, што нікуды не ўцячэ і нідзе не схаваецца ад свайго смутку. Ён не ў гэты дзень пачаўся і не заўтра кончыцца. Ён у ім самім.

Аднекуль з шэрага ляснога зацішку выплыў і паўстаў перад вачамі вясёлы круглы твар раз'язнога механіка Шацілы. «Год будзеш пакутаваць,— некалі суцяшаў былы карабельны качагар.— Марской хва-



робай трэба перахварэць. Гуляй з другімі. Хутчэй тады пройдзе гэтае...»

«Гэтае» не праходзіла, Шаціла проста аказаўся слабым пракокам. Іван даўно чакаў загадзя вядомай развязкі, і ўсё-такі яна застала яго нечакана. Яна, Шура, раствгарылася ў наваколлі і замяніла сабой увесь свет. Пра яе ведалі і рэчка, і поле, і кожнае дрэва вось на гэтай сцежцы. Яна стала той радасцю жыцця, якая нагадвала аб сабе кожную хвіліну...

Можа Іван заснуў, а можа гэта было толькі ціхае трызненне. Ледзь чутна шасцеў лісцем дубок, і ў яго шасценні звінеў знаёмы з дзяцінства матыў. «Табе, Йванка, сто дарог, сто дарог, гані гора за парог, за парог»... Песню спявала бабка. У яе былі мяккія рукі і маршчыністы твар. Маці памёрла рана, і яе Іван не памятаў...

Усе сто дарог прывялі к Шурыным веснічкам. І гора нікуды не прагоніш, калі яно ў табе самім...

Іван ляжаў доўга. Ён не варушыўся: у вушах звінела бабчына песня, і яна гучала цяпер, як музыка на Шурыным вяселлі. Душу агарнуў жаль да самога сябе. На вочы набеглі слёзы. І раптам прышла ясная думка, як раніца цёплага летняга дня. «Люблю Шуру і буду любіць. Што з таго, што яна цяпер замужам. Яна ж такая толькі адна...»

Ён устаў і абтрос з сябе апаўшае лісце. Сонца зусім схавалася за лесам. Паміж дрэў расцякаўся змрок. І цяпер Іван ужо выразна пачуў не гукі гармоніка і перастук бубна, а тарахценне трактара і прыглушаны гул малатарні. Вострая радасць ахапіла хлопца: не вяселле, а Рыгораў трактар гудзеў у Палыкавічах. Іван кінуўся па сцежцы ў вёску. Ён ужо бачыў Шуру не ў падвянечным плацці за вясельным сталом, а на таку, ля малатарні.

Калі ён выбег з ляска, у палыкавіцкіх вокнах загарэліся першыя аганькі. Трактар ужо не гудзеў. Не зважаючы на гэта, Іван ляцеў на ток. Там ён ужо нікога не застаў. Было толькі ясна, што малацілі тут да самага вечара. Ля гумна Іван наткнуўся на дзеда-вартаўніка: той драмаў, накрыўшыся кажухом.

— Усё змалацілі? — з надзеяй у голасе запытаўся Іван.

— Усё, — адказаў вартаўнік. — А цяпер пайшлі гуляць вяселле. Толькі якое гэта вяселле: папяюць, паскачуць, бы на вечарынцы...

Дзед адвярнуўся і накрыўся кажухом з галавой.

Бліщчэлі ў небе ціхія зоркі. На вуліцы заліваўся гармонік, чуліся звонкія галасы і смех. Іван павярнуў назад у Асцюкі.

«Ноч светлая, — думаў ён па дарозе. — Калі малаціць, то не трэба ніякая «лятучая мыш»...

Звінела ў Палыкавічах вяселле...





Данута Бічэль нарадзілася ў 1938 годзе ў вёсцы Біскупцы Лідскага раёна Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і.

Скончыла Навагрудскае педвучылішча і цяпер вучыцца на II курсе гісторыка-філалагічнага факультэта Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы.

Першы верш Д. Бічэль быў надрукаваны ў мінулым годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва».

**Данута БІЧЭЛЬ**

# РАДЗІМА



Салома стрэх і чысты шоўк блакіту,
Хвайняк калючы б'ецца пад рукой,
Загон курамі зблытанага жыта...
Цябе я змалку ведала такой.

Шчэ шмыгаў мой кірпаты нос над міскай,
Прываблівеў нязведаны прастор,
А ўжо мне сіні Нёман стаў калыскай,
Стаў шалашом цяністы родны бор.

Услед за статкам, сярод буйных росаў,
Па межах палыновых, у журбе,
Зязюляй ранняй, перапёлкай босай,
Зусім маленькай зведала цябе.

Твае ля прызбы кветкі гадавала,
Праводзіла па Нёману плыты.
Па імені ж цябе не называла,
Бо я не знала, што такое ты.

І песні трактараў, і шэпт калосся,
Віры бурлівай нёманскай вады —
Усё ў дзяцінстве ў сэрца мне ўлілося,
А кроў мая была тваёй заўжды.

Ляцелі дні, мае дужэлі ногі,
Луналі сны над ложкам па начах,
Даўжэлі змераныя мной дарогі,
І ты штодзень расла ў маіх вачах.

Здаецца, ўсюды маладзік двурогі...
Чаму ж такі прывабны родны кут?
Мяне завуць нязнаныя дарогі...
Пайду, а сэрца застанецца тут.

Пад лёгкім ветрам палавее збожжа,
Над галавою жаўранё дрыжыць.
Хто вырас тут, той не любіць не можа,
Табой не жыць, табой не даражыць!

## ПЕСНЯ ЛЕСУ



У сінім лесе 'шчэ на прадвесні
Я ўчула песню, лясную песню.
Яе старая сасна спявала,
Мне песня сэрца зачаравала.
Яе пачатак, ціхуткі, кволы,
Над верасамі складалі пчолы,
А падхапілі лісты бярозы,
Лясныя травы, начныя росы,
Закукавала ў кустах зязюля,
І гэту песню ўжо ўсе пачулі.
Шумелі пушчы, звінелі хвалі,
Запелі з ветрам лугі і гоні...
Яна лунае ўсё далей, далей,
І толькі думка яе дагоніць.
Праз горы-долы, гасцінцам веснім
Ў жыццё пакрочу за гэтай песняй.

## У ЖНІВО



Як сонейка прыгрэе наймацней,
То так ужо з дзяцінства павялося,
Вядзе мяне у спелае калоссе
Бязладны говар неўгамонных жней.

У высі песня звонкая струменіць,
Пад песню скачуць жвавыя сярпы,
Схіляецца калоссе на калені,
Растуць тугія, цяжкія снапы.

Аж ускіпелі нівы! Ад сяла
Камбайн магутны плечы разгарнуў,
Стракочучы, жняярка праплыла,—
За кожны каласок вядуць вайну.

О, як прыемна ў полі натаміцца
І ў жніўнай буры з думкамі згубіцца!



Вера Вярба нарадзілася ў 1942 годзе на Віцебшчыне. Летась яна скончыла сярэднюю школу і цяпер вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Першыя вершы В. Вярбы з'явіліся ў друку ў 1958 годзе.

**Вера ВЯРБА**

## НАТАЛЛЯ



Наталля памірала...
Прыпоўзшы да бяроз,
Бяссільная, прыпала
Грудзьмі да чыстых рос.
Здавалася Наталлі,
Зямля пад ёй гудзе,
Нібы цягнік па рэйках
З Нямеччыны ідзе.
Тут ля сяла натрапіў
На міну эшалон,
Але паслалі каты
Тры кулі наўздагон.
Не вернешся з задання...
Ў вачах адна імгла.
Ад ворага ўцякла ты,
Ад смерці не змагла.
Заплакалі бярозы,
Схіліліся над ёй:
«Устань жа, дзень прыгожы
Прачнуўся над зямлёй.
Як толькі вып'е сонца
Сівы туман над кручай,
Табе залечыць раны
Яно цяплом гаючым...»
Зара зару змяняла
На золку у бары.
Журботна закувала

Зязюля на зары.
Наталлю пахавалі
На ўзгорку за сялом.
Шумяць над ёй бярозы,
Шумяць і помняць гром,
Як білі партызаны
Захопнікаў чужых,
Як помсцілі за раны,
За смерць сяброў сваіх.

* * *



Дарагія бясконца мясціны,
Ваш убор быў заўсёды такі:
Задуменная постаць рабіны,
Белы статак бяроз ля ракі.

Ўсё гаворыць тут роднаю мовай,
Ад вясенніх грымот да бароў,
Ад азёр і шумлівай дубровы
Да асенняй журбы журавоў.

Да якое ж крыніцы прыпасці,
У якія азёры глядзець,
Каб пра ваша сапраўднае шчасце
Свае шчырыя песні прапець?!

## ВОЧЫ



Кожны вечар бачу столькі
Розных позіркаў, вачэй.
Ды адны хвалююць толькі,
Толькі б іх сустрэць хутчэй.

Я за смехам і гаворкай,
Сярод жартаў, слоў чужых
Адчуваю з сумам горкім
Позірк задуменны іх.

І калі ні павярнуся —
Бачу ў тых вачах тугу,
І глядзець у іх баюся,
І не глянуць не магу.

Што зрабіла ім, не знаю...
Чым пакрыўдзіла я іх?..
За сябе адну кахаю,
А пакуты — за дваіх.



Міхась Стральцоў нарадзіўся ў 1937 годзе на Магілёўшчыне ў вёсцы Сычын Слаўгарадскага раёна. У 1954 годзе скончыў Новаельненскую сярэднюю школу і паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна, дзе і займаецца на V курсе аддзялення журналістыкі.

Пісаць пачаў ва ўніверсітэце.

«Суседка» — новае апавяданне маладога аўтара.

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

# СУСЕДКА

### Апавяданне

Мал. Ул. Рамейкі.

Той восенню я жыў у вёсцы. Быў верасень, стаялі цёплыя, ціхія, па-восеньску празрыстыя дні. Кволасць і знямога, здавалася, былі разліты ў паветры, яны адчуваліся ва ўсім: у слабым зіхаценні ўжо халаднаватага марыва, у самотным іржышчы, што млява сірацела на сонцы.

Цэлымі днямі на вуліцы рыпелі вазы — з поля звозілі авёс і грэчку. Ля калгаснага гумна гудзеў камбайн, і ў перапынках між работай дзяўчаты спявалі:

Ой, наступае
Восень халадная,
Ой, ды з бярозы
Лісток ападае.

Я чуў гэтую песню амаль кожны дзень, грузячы разам з хлопцамі на машыны высахлы за лета торф: мы прыехалі сюды з горада нарыхтоўваць паліва.

Начавалі і сталаваліся ў вёсцы, жылі па хатах. Мая гаспадыня была рухавая кабета, нягледзячы на свае шэсць дзесяткаў год. Кожную раніцу

я прачынаўся ад яе голасу. Тупаючы па хаце, старая будзіла сына, крыху дзікаватага хлопца:

— Мікіта, а-а, Мікіта!

Мікіта адварочваўся да сцяны і нешта мармытаў.

— Выхворваешся ты ў мяне, вылежваешся, — бубніла цётка Аўгіня.— А тады зноў за галубоў... Павыкідваю пустэчу гэтую...

— Не выкінеш. Не ты прынесла... — агрызаўся Мікіта сонным голасам.

— Ах, каб цябе, — не сунімалася старая. — Дваццаць гадоў мае, а дзяцініцца...

З галубамі Мікіта бавіў увесь час, калі ўдавалася быць дома. Ён выпускаў іх з самаробнай скрынкі на дах, клаўся пад плот на траву і, не адрываючыся, сачыў за імі. Яго спакойны твар мякчэў, поўныя губы кволіла ўсмешка, а ўважныя вочы глядзелі пільна з-пад доўгіх вейк. Калі я быў у гэты час непадалёку, Мікіта, не паварочваючы галавы, клікаў мяне:

— Хадзі, паглядзі, як галубы цалуюцца. Не бачыў мо'.

Я клаўся на траву побач з ім і глядзеў на забавы птушак. Белая галубка ціха і сумна брукавала, ля яе круціліся два галубы. Адзін — шызы, паважны — самавіта хадзіў, выпінаючы грудзі; другі — шчуплейшы, увесь час наскокваў на яго і адразу ж адбягаў.

Кожная новая атака ваяўнічага галубка па-дзіцячаму радавала Мікіту.

— Ата-та-та! Так яго...— выгукваў ён і пляскаў далонямі па зямлі.— Бач, прыгожы, халера, як гарадская дзяўчына!.. А скажы ты мне, чаму гэта вашы дзяўчаты прыгожыя, а нашы дык нязграбныя нейкія, га?

— Ну, што ты!— здзіўляўся.— Бо прыгледзеліся табе свае.

— Можа і твая праўда, — падумаўшы, згаджаўся Мікіта. — Вось Ганка. Яна яшчэ прыгажэйшая за гарадскіх.

— А хто яна, Ганка? Тут жыве?

— А ты хіба не бачыў? Яна ж да нас прыходзіць, маці памагае...

Нельга сказаць, каб мяне вельмі зацікавіла незнаёмая Ганка, але было дзіўна, што пра яе так гаварыў Мікіта.

— А яна вам радня якая, ці што?

Мікіта, перш чым адказаць, зірнуў на мяне і нямаведама чаго засмяяўся. Я здагадаўся, што Ганка яму ніякая не радня, і пра большае не хацеў дапытвацца. Але Мікіта раптам сам загаварыў:

— Ведаеш, падабаецца яна мне. А сказаць ёй сорамна неяк... Як ты думаеш, можа яна пакахаць мяне?.. Хаця ж ты яе не ведаеш...

Ганку я ўбачыў на другі дзень, пад вечар, калі прышоў з работы. Гаспадароў дома не было. Я ўспомніў, што Мікіта яшчэ ўчора збіраўся ў суседнюю вёску па махорку, а цётка павезла ў горад яблыкі.

У хаце, зморания цеплынёй, саладкаватым пахам памідораў, што ляжалі навалам на падваконнях, сонна гулі мухі. Ля печы стаялі недагледжаныя чыгункі з бульбай, у парозе валяўся на смецці венік. У цёткі Аўгіні было цяпер шмат работы, і ёй не было часу зважаць на такую дробязь, як парадак у хаце. «Сытаму ды здароваму ўсё добра»,— казала яна.

У той дзень мы нагрузілі многа машын, я адчуваў сябе крыху стомленым. Сеў за стол, закурыў і стаў глядзець у акно. За плотам стаяў маўклівы і задуменны сад. Кранутае жаўцізной лісце халодна блішчэла пад промнямі сонца, і буйныя гронкі пладоў былі заліты роўным святлом.



Ляпнулі веснічкі, я падаўся да акна. Нейкая дзяўчына, невысокая, без хусткі, ішла да ганку, крыху схіліўшы галаву ў задуменні ці па звычцы.

Адчыніўшы дзверы і ўбачыўшы мяне, яна спынілася і затрымала руку на клямцы.

— А я... мне здалося, што гэта Мікіта дома.

Я адразу адчуў сябе няёмка, быццам быў вінаваты, што Мікіты не было ў хаце, і хуценька сказаў:

— Вы да Мікіты?

Але яна не слухала мяне. Заўважыўшы ў парозе смецце, схапіла засланку і стала завіхацца з венікам. Тады я здагадаўся, што гэта Ганка. Я з цікавасцю паглядаў на яе. Кідаліся ў вочы чорныя яе валасы, што спадалі на шчокі, на лоб. Нос быў прамы, зграбны. Шчокі расчырваненіся: можа ад нязручнасці, а можа ад хвалявання.

Я чамусьці не стрымаўся і сказаў:

— Вядома, вы Ганка, і я ведаю вас.

Яна выпрасталася і паглядзела на мяне:

— Я таксама вас ведаю.

— Адкуль?

— Бачыла, мы ж суседзі.

Я змоўчаў. Ганка ўзяла засланку і выйшла з хаты.

— Мне яшчэ трэба бульбы накапаць, — сказала яна, вярнуўшыся. — А можа вы есці хочаце, дык я пашукаю чаго...

Яе шчырая прастата ўразіла мяне, няёмкасць адразу прайшла, і я загаварыў жартаўліва:

— Не, не трэба, я лепш пайду з вамі на агарод. Памагу, ды заадно пагляджу, на што вы здатныя. Можа цётка Аўгіня памыляецца наконт будучай нявесткі.

Ганка зірнула на мяне сваімі прамяністымі вачыма.

— Я памагаю цётцы Аўгіні... Яна просіць... Навошта ж вы так?

— Я больш не буду, — пасняшаўся апраўдацца я. — Пойдзем. Возьмем рыдлёўку і пойдзем.

Мы выйшлі з сянец, пералезлі цераз невысокі, абціснуты плот і апынуліся ў агародзе. Гэта быў усё той жа сад, дзе паміж яблынямі тырчалі пачарнелыя кусты бульбоўніку; у барознах трапляліся яблыкі. Пахла падапрэлым лісцем, прэсным асеннім халадком зямлі.

Мы прыняліся за справу: я рыдлёўкай выкопваў бульбу, а Ганка падбірала яе. Кошык хутка напаўняўся. Неяк няўдала страсянуўшы бульбяны куст, я сыпнуў зямлёй на Ганчыны ногі. Ганка засмяялася і, скачучы на адной назе, стала здымаць тапачку, але не ўтрымалася і хіснулася ўбок. Я хутчэй выставіў рукі, каб падтрымаць яе. А калі падняў вочы, то якраз перад сваім тварам убачыў засмяглыя Ганчыны вусны, і мне на момант здалося, што я адчуў іх дрыготкую цеплыню. Ганка адразу адхінулася і паволі стала вытрасаць пясок з тапачкі. Я падбіраў рассыпаную бульбу. Маўчалі.

— А вунь і цётка Аўгіня...— загаварыла першай Ганка.

Старая ішла не з вуліцы, а наўпрасткі праз поле. Яна ўбачыла нас, падышла бліжэй, торкнула руку пад хустку, папраўляючы валасы, і, заклапочаная, паскардзілася:

— Ах, каб цябе... Зацягалася зусім... А табе Мікалай памагаў? —

і яна неяк вымушана ўсміхнулася.— Дык хадзем, Ганначка, у хату: я тут селядцоў купіла, можа сваім занясеш.

— Ой, што вы, цётка Аўгіня! Не трэба нам. Я пайду.

— От, скажы ты. Не трэба ёй...— загаварыла старая, калі Ганка пайшла.— У яе цёткі шэсць чалавек, апрача Ганкі. Бацька з вайны галавы не прынёс, як і мой гаспадар, а потым маці памерла. Дык я вось і думаю... Не, не, ты пакінь бульбу ў сенцах: яе перамыць трэба... Дык я думаю: вось каб яны з Мікітам сышліся. І мне падмога якая, і хлопца ў рукі ўзяла б. Добрая дзеўка, ой, добрая!

— Не часта такую сустрэнеш,— услед за старой сказаў я.

— Ага, вось і ты кажаш. Падабаецца, бачу...

Мне сапраўды спадабалася Ганка, і здавалася тады, што толькі са мной яна трымалася так ласкава, шчыра, што толькі на мяне так давер-ліва глядзелі яе вочы.

— Охо-хо! — зноў уздыхала старая. — Такую дзеўку хоць каму — няшчасця не меў бы.

Мікіта прышоў, калі ўжо зусім сцямнела. Галодны, ён накінуўся на селядцы і ўсё бурчэў, што не зварылі бульбы. Я таксама прагаладаўся і еў са смакам.

— Пайшлі гуляць,— нарэшце ўстаў з-за стала Мікіта.— У Хведарчыхі дзяўчаты ўжо даўно сабраліся.

Я згадзіўся.

— Куды ты?— занепакоілася цётка Аўгіня.— Ля саду пабыў бы лепш, а то залезе ліхадзей які — усё голле паабломвае...

— Цэлы будзе твой сад,— адмахнуўся Мікіта і пацягнуў мяне з хаты.

— Бачыў тваю суседку,— сказаў я яму на вуліцы.

— Ну і як?

— Нічога сабе. Будзеш яе сёння праводзіць?

— Чаму ты пытаеш?..— усміхнуўся Мікіта.

Мы зайшлі ў хату, дзе сапраўды было многа дзяўчат. Нікога з іх я не ведаў, акрамя Ганкі, якая ветліва ўсміхнулася нам і зашаптала нешта сваёй суседцы. Тая, убачыўшы незнаёмага, паспешліва паправіла хустку, непрыкметна выпусціўшы на лоб узбітыя кудзеркі. Мы з Мікітам прайшлі да стала, за якім заўзята пыхкалі цыгаркамі хлопцы, і прыладзіліся там на лаве. Закурылі. У шызых палосах дыму гойдалася патрывожаная лямпа, як на хвалях.

— Мікіта, Мікалай!— гукнула Ганка.— Ідзіце сюды. І вы, хлопцы, таксама, будзем гуляць у фанты.

Прапанова ўсім спадабалася, заядлыя дымакуры падняліся з-за стала, ажывіліся дзяўчаты. Адразу стала шумна. Гаспадароў штосьці не было відаць, толькі нехта спаў на печы. Я пайшоў да Ганкі і сеў побач з ёю. Мікіта застаўся шаптацца з хлопцамі, а потым недзе знік разам з імі.

Пачалася насцярожаная, шумлівая гульня. Ганку выклікалі часцей за другіх, а я, чамусьці засмучоны, ні разу не назваў яе.

— Чаму вы невясёлыя? — спыталася ў мяне Ганка. — Глядзіце, прайграеце — потым не адкупіцеся.

Але Ганка была сама няўважлівай. У яе ўжо забралі брошку, а потым, смеючыся, яна дастала з валасоў грабеньчык.

— Хопіць! — выкрыкнуў нехта. — Давайце судзіць!





Яго падтрымалі. Двое хлопцаў адразу ж забралі фанты, падаліся ў парог і зашапталіся там. Потым адзін з іх вышаў на сярэдзіну хаты і, хаваючы рукі за спіной, спытаў:

— Што гэтаму фанту?

— «Лявоніху»! Няхай скача «Лявоніху»! — пачуліся галасы.

Хлопец паказаў грабеньчык, і Ганка, саромечыся, прайшлася ў танцы па хаце.

Потым судзілі два фанты разам, і Ганцы выпала цалавацца з нейкім хлопцам. Той падступаўся да яе, уговорваў, пазіраючы на прысутных, глядзіце, моў, я раблю сваю справу, усё залежыць не ад мяне. Але Ганка адварочвалася і штурхала занадта стараннага хлопца ў грудзі. Усе закрычалі, пачалі настойваць. Ганка раззлавалася, села на лаву і, прыціхшая, глядзела на гульню.

— Пара ўжо дамоў,—сказала яна абыякава, — надакучыла.

— Я пайду таксама.

— А я думала, што вы Мікіту чакаць будзеце...

Мы разам пакінулі хату.

Над вёскай ціха распасцёрлася месячная ноч. Густыя цені ляжалі на вуліцы. Дзесьці, відаць, на калгасным двары, моцна гаманілі. Заліўіста брахаў сабака.

— Харошая ноч,— сказаў я.

— Ага...

Мы неяк нясмела пайшлі побач, не размаўляючы. Потым я моўчкі ўзяў Ганчыну руку. Было прыемна перабіраць яе цёплыя, пакорлівыя пальцы. У гэтую хвіліну Ганка здавалася мне такой зразумелай, такой блізкай...

Мы спыніліся ля яе хаты. Я лёгка прыцягнуў Ганку за рукі, схіліўшыся, пацалаваў.

— Ой, што вы!— ускрыкнула яна.— Хіба... хіба так можна!

І яна, адступіўшы спалохана глядзела на мяне.

— Навошта вы так робіце? Мне было добра з вамі, а цяпер... Мікіта б так не зрабіў.

Здавалася, яшчэ крыху — і яна заплача.

«Мікіта,— думаў я,— Мікіта...»— І раптам нечаканая думка скаланула мяне ўсяго: «Яна кахае яго! Чаму я не здагадаўся?»

— Супакойцеся, Ганка, — ціха сказаў я. — Мне самому шкада, што здарылася так.

— Праўда?

Яна з нейкай радасцю і ўдзячнасцю глядзела на мяне.

— Я гавару праўду, Ганка.

— Ну і добра... — адказала яна, уздыхнуўшы. — Хто гэта там?

Па вуліцы нехта ішоў. Набліжаліся крокі. Паказалася доўгая постаць.

— Гэта Мікіта, — сказаў я.

Хлопец параўняўся з намі і хацеў прайсці міма.

— Мікіта, — паклікала Ганка, — хадзі сюды!

Ён спыніўся і пакорліва падышоў да нас. Мне ўжо нечага было заставацца далей. Я павярнуўся і паволі пайшоў па вуліцы.

А Ганка гаварыла з Мікітам:

— Ну, чаго ты, дурненькі? Хадзем да лавачкі, сядзем.

Я ішоў па вуліцы і не ведаў, радавацца мне ці засмучацца.



**Еўдакія ЛОСЬ**

## РАНІЦАЙ



Працавіты Камароўскі рынак
З раніцы зацвіў, зазеляneў.
Да трамвая, між ларкоў, адрынак
Дзень працоўны кліча і мяне.

На праезджай вуліцы дагнала
Песня маладая здаляка...
Пачынаў нябачны запявала
Дзесьці на барту грузавіка.

Сыпануўшы ў твар пясчаным шротам,
Знік з рамеснікамі грузавік.
Не спыніў за дальнім паваротам
Песню загарэлы будаўнік...

Рада я, што гэтым раннем чыстым
Мне з такім вось слаўным па шляху —
Запявалам здольным, галасістым,
Юнаком у сінім фартуху!

## СЛІВЫ ЗА СМЕЦЦЕ

**(Паводле балгарскай казкі)**



Адзін селянін ажаніць свайго сына
Задумаў з работніцай, добрай дзяўчынай...
Паўнюткія сліў нагрузіў ён калёсы,
Кабылку запрог і па сёлах павёз іх.
— Гэй, слівы за смецце, слівы за смецце! —
Едзе, крычыць, аж збягаюцца дзеці.

У вёсцы падгорнай дзяўчаты, кабеты
Спярша падзівіліся з воклічаў гэтых,
А потым па хатах разбегліся хутка, —
Давай вымятаць з-пад палацяў, з закуткаў!..
І вось да калёсаў з напоўненай тарай
Ідзе караван з небывалым таварам.
І сыплецца смецце з мяшкоў і анучак,
Расце каля воза пярэстая куча.
— Дзівак, — між сабой гаспадыні гавораць, —
Бярэ што не трэба — патрэбнае дорыць.
А дзядзька за смецце адмервае плату
То спрытнай кабеце, то жвавым дзяўчатам.
Глядзіць, як жанчынкі руплівыя ўюцца, —
І хітрыя дзядзькавы вочы смяюцца...
За ўсімі да возу з абменнаю слівай
Красуня адна падышла сарамліва.
— Чаго ж ты, — пытаецца дзядзька, — так мала
Смецця нягоднага ў хаце сабрала?
За жменю і сліў атрымаеш не многа. —
Глядзіць вінаватая ў вочы старога
Ды кажа: — І гэтую жменю суседка
Дала: я ёй вымела чыста паветку;
Свайго ж не было... — Селянін схамянуўся,
Да шляху знаёмага ён павярнуўся, —
Дадому дарога яго пачалася:
*Добрая сыну нявеста знайшлася!*



Барыс САЧАНКА

# ЗРУБ НА ПАЛЯНЕ

**Апавяданне**

Мал. К. Ціхановіча.

Толькі год не быў я ў родных мясцінах. А прыехаў — не мог дачакацца спадарожнай фурманкі. Падхапіў чамадан і адразу ж рушыў са станцыі.

На ўзлеску я разуўся.

Сэрца радавалася. Я зноў там, дзе прайшло-праляцела маё маленства. Здаецца, не такі ўжо вялікі час год, а як змянілася наваколле.

Дарогі і то не пазнаць. Гэта ўжо не тая глухая пуцявіна, парослая скрозь кволым разнатраўем, якая так і наравіла на кожным павароце шмыгнуць і схавацца ў камлях дрэў, а каляіністая, пакалупаная рубчатымі шынамі і тупымі гусеніцамі.

Не заўважаю і тоўстай асіны на абочыне. З яе дупла штогод такою парою на ўвесь лес чэкалі маладыя дзятлы...

Кіламетры праз чатыры нечакана забялелася вялікая, узгоркавая дзялянка. Чарада нізкіх, абкораных пнёў з кропелькамі смалы на зрэзах разбягалася перад вачыма. Я міжволі залюбаваўся, як ахвотна і ўпарта ўбіраецца ў сілу падлесак. Ён ажно рве зямлю: і на бары, і на чарналессі, і на імшарынах, і нават на нядаўнім высеку. Густы, кашлаты...

Гэтымі мясцінамі колькі разоў хадзіў я ў грыбы і ягады, бегаў сустракаць бацьку, калі ён працаваў у леспрамгасе. Не надаралася таго дня, каб у бацькавай торбачцы не знаходзіўся мне які-небудзь ласунак.

Нават калі яму не выпадала быць у магазіне, ён не хацеў крыўдзіць мяне: ад свайго полудня пакідаў акрайчык хлеба і брусочак сала.

— Гэта ж, спяшаўся я сёння ні свет ні зара на работу, — расказваў ён, усміхаючыся,— а насустрач мне заяц. Скача шарак, і вузялок у яго на кіёчку сюд-туд матляецца. Убачыў, што я іду, і да мяне: «Гэта Пятруську твайму, — кажа ён, як я вось табе, чалавечым голасам. — Хай пакаштуе хлопец нашага хлеба...»

«Зайцаў» хлеб, «зайцава» сала былі не такія, як дамашнія, а куды смачнейшыя.

І тут мяне агарнулі другія ўспаміны. Гэта калі мы неяк напаткалі незнаёмага чалавека. Ён сядзеў на пні, задумаўшыся.

Тады, помню, бралася на вечар, і сонца пасля дня, стомленае, падала за лес. У яго апошніх праменнях залаціліся верхавіны сосен; на траву ападала вільгаць і золкая прахалода. Адусюль краліся палахлівыя змрокі.

Што робіць тут гэты чалавек?

Крокі насцярожылі незнаёмага. Ён узняў галаву. Малады твар яго — шырокі лоб і шчаку — увівалі рубцы ад колішніх ран. Чалавек выйшаў на дарогу і прывітаўся ціхім «добры дзень».

— Вы тутэйшыя? — спытаў ён адразу ж у бацькі. — То добра. А ці не памятаеце вы, як вунь там, — ён паказаў рукою ў бок, дзе праглядалася праз дрэвы паляна, — жыў ляснік Платон Змітрык?

— Як не помніць? — паківаў галавою бацька. — У яго рукі адной не было... Сям'я вялікая, луш, мусіць, з восем... Помню...

— Ці чулі вы што-небудзь пра яго пасля?

— Не быў я тут, чалавеча. На фронце ўсе чатыры гады... А нашто табе ўсё гэта?

— Я яго сын...

— Як жа ж ты згубіўся ад сям'і?

Чалавек памаўчаў. Потым загаварыў нізкім голасам:

— Бацьку майго ў армію не ўзялі. Эвакуіравацца мы не паспелі. Засталіся тут, у лесе... Навокал было трывожна, але ворагаў мы яшчэ не бачылі. Днём і ноччу нас наведвалі чырвонаармейцы, якія прабіваліся за фронт. Заходзілі і ўзброеныя ў цывільным. Шмат расказвалі пра эсэсаўцаў, пра пажары на станцыі і ў вёсках. Падаспела жніво. У тое лета надзвычай урадзіла збажына. Выйшлі мы касіць неяк ранічкою. Помню, бацька пацёр у руцэ колас, узяў на зуб ячменнае зерне. Я памянташыў касу. І тут мы пачулі, як зафыркалі па дарозе матацыклы. Не паспелі мы агледзецца, як паляну з усіх бакоў акружылі фашысты. Валасатыя, закасаныя па локці рукі, бліскучая сталь штыкоў, звярыныя позіркі...

Бацька пачаў нешта тлумачыць тоўстаму афіцэру, але той не даў яму дагаварыць. З лютасцю стукнуў рукаяткай рэвальвера па галаве і пачаў таптаць, мясіць ботамі ляжачага. Я кінуўся да фашыста. Але не дабег. Прыклад прышоўся мне ў спіну, і я асунуўся ў разору.

У які момант мне скруцілі рукі, пераціснулі іх сырамятнымі лейцамі, што, як на тое ліха, віселі на плоце. Укінулі ў каляску матацыкла...

Я яшчэ бачыў, як з хаты выводзілі маіх братоў, сястрычку, як іх штурхалі ў кузаў грузавіка. Чуў, як галасіла маці... Што было далей, не ведаю... Матацыкл панёс мяне па дарозе. Запахла моцна паленым. Калі я павярнуў галаву, з паляны валіў чорнымі клубамі дым.





У камендатуры мяне сустрэлі нават ветліва. Худы афіцэр у наглянцаваных ботах, да якога мяне ўпіхнулі, нават накрычаў на карнікаў, што тыя звязалі мне рукі. Падсунуў мяккае крэсла, прапанаваў сігару.

— Я вас адразу ж выпускаю, — запішчаў ён хвілін праз колькі.— Скажыце толькі, дзе Аніс Верабейчык.

Выдаць старшыню сельсавета я не мог і маўчаў. Фашыст доўга чакаў, абяцаючы то грошы, то зямлю, то пасаду. Пасля выклікаў двух мардатых гітлераўцаў. Тыя добра ведалі, што ад іх патрабуецца. Не прайшло і мінуты, як я курчыўся на падлозе...

Тыдняў тры мяне вадзілі на допыт. Кожны раз, ледзь толькі я пераступаў парог, чулася адно і тое ж:

— Дзе Аніс Верабейчык?

Мяне білі, аблівалі вадой, ставілі на ногі. Затым, знясіленага, акрываўленага, зноў вялі ў смярдзючую камеру...

Праз месяц мяне адправілі ў Нямеччыну...

З чужыны я вярнуўся толькі пасля вайны. Дзён колькі дапытваўся па навакольных вёсках, што чуваць пра маіх бацькоў. Але ніхто нічога не ведаў.

...На паляну, дзе жылі Змітрыкі, я наведаўся толькі, калі падарослеў. Ад былой сядзібы лесніка засталося печышча ды без крука з пахіленай на бок сахою жураўель. Ён сумна ўглядаўся ў неба непадалёку ад яшчэ даволі моцнага падруба студні. Тонкія бярозкі, кучатыя хвойкі, тапырыстыя дубкі наступалі на паляну. Плёўся, кусціўся лапушысты сунічнік. Чырванеліся ў аксамітнай зяляніне ягады. Саладкаватая духмень ішла ад іх.

Паляна зарастала.

Усё гэта вельмі добра прыпомнілася мне цяпер. І як толькі засвяцілася паляна, я збочыў з дарогі. Мінуў парослы высокай папараццю і ягаднікам дубняк, абагнуў лужок з трухлявымі пнямі і спыніўся.

Пасярэдзіне паляны, непадалёку ад печышча, стаяў новенькі сасновы

зруб. На ім узвышаліся кроквы. Воддаль было ўкапана тоўстае дубовае шула. Другое такое ж ляжала побач, каля ямы. У самым лесе бялеў ярус начасаных жэрдак. Усюды валяліся трэскі, пацярушаныя пілавіннем. Дробналессе было старанна высечана. Яно сохла ў маленькіх лаўжах. І толькі журавель, усё яшчэ без крука, углядаўся ў неба, нібы нечага чакаў.

На паляне нікога з людзей не было. Не чулася паблізу і стуку сякеры. Толькі лес поўніўся рознагалосымі птушынымі спевамі. Спытаць, хто забудаваўся тут, ніяк не выпадала.

Доўга хадзіў я і любаваўся, з якой гаспадарскай клапатлівасцю бярэцца чалавек вярнуць жыццё запушчанага кутка...

# СОНЦА

Раніцаю мяне будзіць пяшчотны голас:

— Максімка, сыночак... Ці ж гожа мужчыне так позна спаць?

Я неахвотна расплюшчваю вочы.

— Прачнуўся ўжо... — радасна ўсміхаюцца тонкія, бледнаватыя вусны. — Малайчына...

Перамагаючы салодкую дрымоту, я борзда выскакваю з-пад клятчатай пасцілкі. Хата поўна святла.

Выбягаю на падворак.

Сонца толькі-толькі пачынае запальваць агні на шыбах суседскай хаты. Росная зямля абдае золкай прахалодай ногі, ліпне да ступні. На страсе шчабеча ластаўка. Кудахчуць і квокчуць куры.

Я адчыняю весніцы і крыкам выганяю на вуліцу свіней. І адразу ўздрыгваю, падаюся да шула.

Проста на мяне раўчуком, збіваючы да крыві аб каменне босыя ногі, бяжыць цыбаты Гараська Бусел. Старая, шмат дзе парваная і прапаленая ватоўка, расхлістана. Валасатая, рабрыстая грудзіна нічым не прыкрыта. Бельмаватыя вочы, з якіх так і б'е ва ўсе бакі неўтаймаваны жах, палахліва раз-по-раз азіраюцца назад, на сонца. Яно белым іскрыстым мячыкам выкатваецца з-за сінявы лесу. Рукі хапаюцца за астрыжаную галаву. Плечы прыгінаюцца ніжэй, а вусны шэпчуць:

— Сонца... Сонца... Сонца...

Я ведаю, куды так імчыць Гараська. На полі, за вёскаю, на стыку трох дарог трасецца абсмаленая з камля груша-дзічка. Адзін яе сук прыпадае ледзь не да самай зямлі. Непадалёку ад яго, на пагорку, сівеюць два вялізныя камяні. Гэта рэшткі старога ветрака, які спалілі ў вайну фашысты. Камяні не прыгодныя цяпер да сваёй ранейшай работы. Адзін, ніжні, ужо трэснуў пасярэдзіне, у другога адкалоўся ад боку даволі-такі ладны кавалак. Тут і спыняецца Гараська. Доўга хадзіць вакол, пільна ўглядаецца сабе пад ногі, нібы шукае штосьці згубленае. Вусны яго варушацца.





Аднойчы я падкраўся з боку пшанічнага кліна да грушы і падслухаў Гараську. Ён паўтараў:

— Сонца... Сонца...

Назад, у вёску, Гараська вяртаецца ў позняе сняданне. Звоняць ужо конікі да болю ў вушах. Весела ляскочуць скрозь па полі, адвозячы на працу калгаснікаў, запрэжаныя ў паркі коней калёсы. Мы гонім з пашы свіней. У руках Гараські заўсёды штонебудзь жывое: муха, божая кароўка, авадзень. Ён спявае:

А чаму ж ты, мушка, не ляціш?
А чаму ж ты, мушка, не бяжыш?
А таму я, сватка, не лячу,
А таму я, сватка, не бягу,
Што без крылляў я-а-а... Хі-хі...

Ён смяецца, рагоча. Мяне ахоплівае жах. Па целе скачуць халодныя мурашкі. І хаця ніколі нікога Гараська не зачапіў і пальцам, мы ўсёроўна баімся яго. Без жалю сцёбаем дубцамі свіней і бяжым, узрымаючы воблакі пылу, бяжым у вёску.

Старэйшыя расказваюць, што да вайны Гараська не быў такім. Наадварот, яго розуму і дапытлівасці здзіўляліся ўсе людзі. Ён нават маляваў, і адна яго карціна, дзе былі раніца і сонца, трапіла на абласную выстаўку.

А сталася гэтак з ім у той дзень, калі карнікі палілі нашу вёску. Усіх сагналі ў канюшню. Страчылі з кулямётаў у парасчыняныя вокны і дзверы, пакуль не змоўклі крыкі. Пасля аблілі сухія вуглы і саламяную страху бензінам і падпалілі...

Гараську Буслу ўсё ж удалося выскачыць з палаючай будыніны. Узмежкам, паўз высокае жыта, ён дабег аж у канец вёскі. І там, каля спаленага млына, спыніўся. Проста перад ім чырванелі напаленыя круглыя каменні ветрака... Здавалася, само сонца ўпала на зямлю.

Там яго і падабралі назаўтра партызаны. Кажуць, што ён адчайна адбіваўся і нема крычаў:

— Сонца... Сонца... Сонца...



Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

# БАЛАДА ПРА СМЯРОТНІКАЎ



Нас было там некалькі тысяч. Аплялі нас калючым дротам.
Баракі. Вежы. Пражэктары. Сотні пільных вачэй.
Справа — руіны горада. Злева — мох і балота.
У будучым — голад, праца, дым смяротных пячэй.
І хоць нельга было нас пабачыць нават вялікаму магу,
На вярсту вакол нашага лагера, пад шэрай коўдраю хмар,
Таблічкі стаялі ў балоце. Чорны надпіс:
«Увага!
Тут небяспека заразы! — Achtung! Seuchegefahr!»
Напэўна таму, што аднолькава чалавек памірае на свеце,
Тут разам чакалі смерці беларусы і латышы,
Татары і украінцы. Салдаты, жанчыны, дзеці.
Згаладнелыя, з ранамі на целе і на душы.
Блок першы — жанчыны з дзецьмі, блок трэці і пяты — салдаты.
Блок сёмы — таксама салдаты, блок восьмы — усе для пячэй.
Пабудка, «апель» і праца. Пабоі. Бурда праклятая.
«Працуйце! Працуйце! Працуйце! Хутчэй! Хутчэй! Хутчэй!»
Не мы, а яны заразныя, але ў блоках нас замыкаюць.
Для нас за восьмым баракам заўсёды шугае пажар.
На месцы, дзе мы змагаемся, на месцы, дзе сонца чакаем,
На месцы, дзе мы паміраем,— таблічка: «Seuchegefahr!»
Нашы душы і нашы рукі імі былі скалечаны...
Неяк з «бюро інфармацыі» вестку падаў дружок:
Пачулі размову турэмшчыкаў, што заўтра дакладна пад вечар
Яны на апошнюю «акцыю» першы пацягнуць блок.
Дзеці, надзея наша! Маткі, святыня наша!..



Ёсць загад...
І руку да скроні пустая нясе галава.
Для іх чалавек — машына, што пустую засвойвае кашу,
І працу дае за гэта, або... не можа даваць.
Але мы не маглі б пасля гэтага ў вочы зірнуць свабодзе,
Хоць зрабіліся быдлам галодным, хоць гонар амаль што згас.
Таму — найлепшага хлопчыка па крывавай матчынай згодзе
Мы выкралі з першага блока і цішком схавалі ў нас.
Схавалі ля нашай кухні, што на самым пляцы стаяла,
Асцярожна заклалі дзірку ў штабелі дроў сябры...
Хлопчык быў разумны-разумны. Размаўляў і рухаўся мала.
Цэлы дзень разглядаў уважна кавалкі сасновай кары.
«Апель» нястачу выявіў.
На пляцы ў чынным парадку
Рылы пяці кулямётаў глядзелі ў спіны людзей.
Як ты сцярпела, сэрца, убачыўшы постаць маткі,
Што паўз касцёр, паўз сына ціха на згубу ідзе?
Яна казала спакойна і маўчалі вязняў калоны:
«Не было ў мяне сына ніколі. Гэта памылка, паны».
Помніце, людзі, пра гэта, помніце аж да скону,
Помніце, як пра асколак, што ў лёгкіх сядзіць з вайны.
Мы хавалі яго тры месяцы: хавалі ў кухонных дровах,
У яме, за кубам у кухні. І цягнулі ўсё, што маглі:
Скурку апельсіна ад афіцэрскай сталовай,
Пайку пушнога хлеба, макуху калі-ні-калі.
Нельга было іначай, хоць кусалі ад голаду губы,
Гэта быў не звычайны дзіцёнак, што бегае і крычыць.
Ён сядзеў ціхутка, як мышка, расстаўляў сабе нейкія кубікі,
Ставіў іх, быццам на вату. А вочы, як прорва ўначы.
Немцы нам не паверылі. Яны шукалі, шукалі.
Шукалі таму, што палонныя сапсавалі ўвесь парад.
Голадам, жахам, пабоямі душу у нас забівалі,
Але мы людзьмі засталіся. Мы не выканалі загад.
У кар'еры рабілі вобыск. Стэк гуляў па галовах.
І ў роце нейкага хлопца ўдалося ім адшукаць
Жменьку звычайных каменьчыкаў, жоўтых і бледна-ружовых,
Якімі малыя дзеці звычайна любяць гуляць.
Хлопца і трох суседзяў атачылі асобай увагай.
Допыт цягнуўся да раніцы, але вынікаў не даваў:
«Я проста смактаў каменьчыкі, каб менш адчувалася смага.
Я не чуў, што хаваюць дзіцёнка. Зарукай — мая галава».
І яны прынялі заруку. І галовы чацвёркі ўпалі.
І комін за восьмым блокам гадзіну няўчасна дыміў,
Каб ведалі, чым канчаецца спроба звычайнага жалю,
Каб ведалі, што палонным забаронена быць людзьмі.
Нянавісць мы ў сэрцах захоўвалі, здзек і пакуты зносілі...
«Ламі нашы краты, нянавісць. Вырастай! Вырастай! Вырастай!»
Мы хацелі, каб выжыў дзіцёнак, каб неба пабачыў просінь,
Каб за ўсіх безнадзейна асуджаных святкаваў на зямлі
Першамай.
Што нам было да таго, што душы ботамі топчуць,
Што кожны дзень для раба — суцэльны, няспынны жах.
Для нас ён быў рэвалюцыяй, гэты маленькі хлопчык,

Будучыняй, што ўзрастала на тленных нашых касцях.
А як сталі гарматы радзімы на ўсходзе біць недалёка,
І мы зразумелі, што блізка, блізка апошняя кроў,
Мы ў сточнай трубе пад лагерам, у сточнай трубе глыбокай
Схавалі нашага сына пад аховаю двух сяброў.
І мы зразумелі тады, за што нас душылі газам,
Чаму хацелі планету ачысціць ад нашых мар.
Ім, вядома, трэба было берагчыся нашай заразы,
Трэба — ставіць вакол папярэджанні:
«Чалавечнасць! Seuchegefahr!»
Мы бручку гнілую елі,
бо хлеба ў нас не было.
Мы на дрот калючы глядзелі,
бо неба ў нас не было.
Гар уцягвалі ў лёгкія,—
паветра ў нас не было,
Але смерці мы не хацелі,
бо яшчэ існавала зло.
Ў час як знікнуць звады праклятыя,—
помніце, помніце нас.
У час вялікага свята,—
помніце, помніце нас.
Каб заўсёды была чалавечнасць,
каб шчасце сялілася ў хатах,
Каб давеку жыла рэспубліка,—
не забывайце нас.

## БАЯВЫЯ ВАЗЫ

Драч крычыць. Туманы, як мора,
За ракой на лугах ляглі.
Прагна слухаю.
З цемры чорнай
Далятае голас зямлі.
Непакорлівы. Рэзкі. Забыты.
Крык аб помсце. Пагроза. Прызыў...
Драч крычыць, быццам недзе ў жыце
Ледзьве чутна рыпяць вазы.
Скуль вядзешся, драчыная песня?
Можа з тых далёкіх часоў,
Калі сотняй вазоў, на прадвесні,
Йшоў Вашчыла граміць паноў.
Дзень палкі нараджаў бязмерныя.
Войска продкаў на ворага йшло.
Хлебнік — з дзідай, смаляр — з сякерай,
Каб на працу падобна было.



Пад зарнічным святлом мігатлівым
Праз шатры надрэчнай лазы
Бачу вілы, конскія грывы
І акутыя меддзю вазы.
Абадраныя едуць, босыя.
Ў рызе біскупскай кожны конь.
А на вочы звісае валоссе,
А ў вачах — пажараў агонь.
Што ж няма вам дагэтуль спакою?
Ціха.
Слухайце.
Хаты спяць.
Адпачніце.
Няхай над ракою
Баявыя вазы не рыпяць.
Іх няма, вашых злосных катаў.
Поўнай мерай заплочана ім
За курныя, галодныя хаты,
За мястэчак спаленых дым.
Мудры, моцны і працавіты,
Цвёрда ведае родны народ —
Сонца светлым устане над жытам,
Як прывыклі за сорак год.

## ВЯЧЭРНІЯ ВЕТРАЗІ

Яны абвісаюць, як спеў недапеты.
Пад кілем вада заціхае, звініць.
О, вецер, дыхні над вячэрняй планетай,
Рыбацкія мачты рукою крані.
Пагладзь спрацаваныя нашы далоні,
Ўчыні на паверхні вясёлы баль,
Каб зноў паляцелі грывастыя коні,
Блакітныя коні азёрных хваль.
Каб ветразь ружовы, напяты, як грудзі,
Прынёс нас да хаты над беражком,
Каб позняй парою ўсе добрыя людзі
Сядзелі над смажаным шчупаком.
Каб клікала нас адрына старая,
І мірна агеньчыкі ззялі ў дубах,
І ўстала з-пад мачты мая дарагая
І стому рукою абцёрла з ілба.



Сцэна з I акта п'есы А. Вольскага і П. Макэля «За лясамі дрымучымі», пастаўленай Беларускім тэатрам юнага гледача.
Фота А. Дзітлава.

Артур ВОЛЬСКІ, Пятрусь МАКАЛЬ

# ЗА ЛЯСАМІ ДРЫМУЧЫМІ

Драматычная паэма-казка ў 3-х дзеях, 6-ці карцінах

### ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Асілак Жадан.
Лявон.
Леваніха.
Галінка.
Гусляр
Алесь } сябры Жадана.
Адась }



Параска.
Бяглянка, яна ж Русалка.
Чарадзей, ён жа Смок.
Цівун.
Моўчан.
Першы скамарох.
Другі скамарох.
Каваль старэйшы.
Каваль малодшы.
Пугач, ён жа Мудрэц.
Сяляне, хлопцы, дзяўчаты, дружыннікі, русалкі, лясныя галасы.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Узнімаецца першая заслона. На палатне другой заслоны, аздобленай беларускім арнаментам,— цьмяныя, нібыта цені, сілуэты асілка Жадана і Смока, якія б'юцца паміж сабой.

Уваходзіць стары з гуслямі. Відаць, што ён стомлены доўгай дарогай.

Гусляр *(скідае світку, садзіцца, глядзіць у залу. Здзіўлена):*

Эге, вось дык прыгода!
І адкуль жа тут столькі народу?
Што ж, на свеце не будзе нам цесна.
Пазабавіць вас казкай ці песняй?..

*(Наладжвае гуслі. Спявае.)*

Вы заграйце, гуслі-самагуды,
Заспявайце, струны, як жывыя,
Хай раскажа наша песня люду
Пра часы далёкія, сівыя.
Загукайце, гуслі, нібы гусі,
Што ляцяць ад холаду у вырай,
Абудзіце далі Беларусі
Песняю чароўнаю і шчырай.
Промнямі кране яна пагоркі,
Туманамі ляжа на даліны,
Хай яе вясёлыя вавёркі
Панясуць з галіны на галіну.
У гаі задумныя бярозы
Адгукнуцца ёй далёкім рэхам,
То заззяюць слёзы,
Нібы росы,
То адкажуць людзі шчырым смехам.
Будуць тут і казачныя цуды,

Будуць і прыгоды баявыя.
Дык заграйце, гуслі-самагуды,
Заспявайце, струны, як жывыя!..

У залу:

Ну, а дзе тут праўда, дзе тут казка,—
Разумейце самі, калі ласка.

Узнімаецца другая заслона.
Ускраіна вёскі. Пахілая сялянская хаціна з заімшэлай саламянай страхою. На старой амаль высахлай бярозе над самай страхою ў гняздзе, што ўладкавана на баране, стаіць бусел. На падворку — драўляная саха, зламанае кола. Усё гаворыць аб тым, што гаспадарка ў заняпадзе. Вечарэе. Сонца садзіцца ў хмару. Стары Лявон на прызбе пляце лапці. Леваніха таўчэ ў ступе.

Леваніха *(спявае).*

Ападае лісце долу,
Лісце кружыцца наўкола.
Вецер жаласна галосіць.
Дзе ён тое лісце носіць,
Дзе прытуліць?
Ох,
Не лісточкі
Адарваны,
А сыночкі
Адабраны
У матулі.

Лявон.

Не спявай, старая, так гаротна,
На душы і без таго маркотна.
Усёадно не вернуцца сыны.
*(Цяжка ўздыхае.)*
Дзе цяпер пакутуюць яны?

Леваніха *(спявае).*

Ой, не блізка, не далёка,—
У палоне ў злога Смока.
Хто пасцельку ім пасцеле,
Хто палапіць да нядзелі
Ім кашулі?
Ох,
А сыночкі
Не прыбраны,
Цёмнай ночкай
Іх туманы
Прыгарнулі.

Лявон.

Эх, бяда мая, ліха!
Не пляцецца і лыка.
Рукі паслаблі,
Сталі, як граблі.
Ныюць ад знямогі
Здранцвелыя ногі.

*(Уваходзіць Гусляр, прыслухоўваецца.)*



Гусляр.

Добры вечар,
Лявон,
Леваніха!
Хай мінаюць вас гора і ліха.

Лявон.

Вечар добры,
Вандроўнік бяздомны!
Дзе блукаў ты, хадзіў ты куды?
Вось... Мяне ўжо сагнулі гады,
Ты ж, як бачу, ўсё гэткі ж — нястомны...

Гусляр.

Многа я схадзіў па свеце,
Нібы той няўцішны вецер,
З вёскі ў вёску, з хаты ў хату,—
Смеху — мала, слёз — багата.

Леваніха.

Чутка ёсць, што Чарадзей
Зноў палюе на людзей?

Гусляр.

Гэта праўда, а не чутка.
І сюды ён прыдзе хутка.

Леваніха.

О, Пяруне! Грымні з неба!
Што яшчэ паганцу трэба?

Гусляр.

Кажуць, ён дазнаўся ў зорак,
Што народзіцца ў аўторак
У адной сям'і хлапчук.
І сузор'е прадракае,
Быццам Смока смерць чакае
Ад ягоных дужых рук.
І таму надумаў злыдзень
Надвячоркам кожны тыдзень
Нішчыць хлопцаў — немаўлят.

Леваніха.

Ліхадзей! Губіцель! Кат!
Ён жа нашых звёў сыноў!
Мала ўсё яму — дык зноў...
*(Плача.)*
Ах, сыны мае, сыночкі —
Адарваныя лісточкі...

Гусляр *(спагадліва).*

Хлопцы ладныя былі.

Лявон *(уздыхае).*

А якія кавалі!
Каб былі яны пры хаце,
Ліха мы не зналі б з маці.

Гусляр.

Кавалі — на ўсю акругу.

Лявон.

Серп, нарог або кальчугу —
Усё рабілі для людзей.

Гусляр.

Вось таму іх Чарадзей
І схапіў, што ўсё маглі.

Леваніха *(выцірае прыполам слязу).*

Дзе ж тут праўда на зямлі?!

Гусляр.

Праўда недзе блізка ходзіць...

Лявон *(перапыняе).*

Ды ніхто вось не знаходзіць!..
Можа ты дасі параду,
Як хоць раз пабачыць радасць?

Гусляр *(з усмешкай).*

Чутка ёсць на Беларусі,
Што прыносіць шчасце бусел.

Леваніха.

Вось ён, бусел, на страсе,
Што ж ён шчасце не нясе?
Бач, гусляру, на муку
З ячмянём кару таўку.

За сцэнай чуецца аддалены шум. Бусел залопаў крыллямі, паляцеў. Леваніха, Гусляр насцярожана прыслухоўваюцца.

Леваніха.

Што за шум? Ці чуеш, дзед?

Лявон *(прыкладвае далонь да вуха, прыслухоўваецца).*

Чую. Вецер загудзеў.

Леваніха.

Ты зусім аглух, старэча,
І гаворыш недарэчы.
Нехта там крычыць-галосіць,
У людзей ратунку просіць.

Шум нарастае. Выразна чуюцца мужчынскія галасы: «Трымай! Лаві! Не ўцячэш, лайдачка!» Жаночы голас: «Ратуйце, людцы добрыя! Памажыце!»

Леваніха *(углядаецца).*

Гэта смокава дружына!
Вунь!.. А там — бяжыць жанчына...

Лявон.

Бачу... Бачу... Сапраўды...

Леваніха.

Пойдзем лепш адсюль, дзяды.
Пасядзім у хаце ціха,
Можа нас абыйдзе ліха.
*(Вядзе Лявона ў хату. Да Гусляра:)*
Ну, а ты чаго з гуслямі?

Гусляр.

Дзякуй вам. Ідзіце самі.
*(Нібыта да гусляў.)*



Доля ў нас ужо такая —
Ад нядолі не ўцякаем.
Што пачуем, што прыкмецім,
Панясем па белым свеце.

Лявон з Леваніхай хаваюцца ў хаце. Гусляр адыходзіць у цень пад бярозу. Шум і крыкі ўзмацняюцца.
На падворак убягае Бяглянка — маладая жанчына ў парванай сукенцы, з раскудлачанымі валасамі. На руках у яе малое ў пялюшках.

Бяглянка.

Людцы добрыя, ратуйце,
Хоць сыночка пашкадуйце!

Гусляр *(паказвае пад бярозу).*

Вось сюды кладзі, кабета,
А сама — хутчэй адгэтуль!
За гумно бяжы, туды,
Мо' пазбавішся бяды.
А твайго малога сына
Я схаваю, не пакіну.

Бяглянка *(да дзіцяці).*

Ох, нашто цябе, мой мілы,
Я ў аўторак нарадзіла!

Гусляр.

Чуеш, смокава дружына
Блізка... блізка ўжо зусім!..

*(Жанчына вагаецца. Але, чуючы крыкі блізкай пагоні, кладзе малога.)*

Бяглянка.

Лепш у возеры загіну,
А не дамся ў рукі ім!

*(Бяжыць.)*

Гусляр накрывае дзіця світкай, садзіцца і наладжвае гуслі. Урываецца смокава дружына на чале з Цівуном. Дружыннікі ў чорных кальчугах і шлемах, узброены крывымі шаблямі і дзідамі з конскімі хвастамі. Яны шукаюць Бяглянку, амаль не звяртаючы ўвагі на Гусляра. Цівун ідзе ў хату і адразу ж выходзіць. З'яўляецца стары ў чарадзейскім адзенні. Да Чарадзея падбягае Цівун.

Цівун.

Не знайшлі мы тут нікога,
Апрача таго старога.
*(Ківае ў бок гусляра.)*

Чарадзей праз плячо паказвае кіем на хату.

Цівун.

Быў я, пане, ў той халупе,
Ды знайшоў кару у ступе.

Чарадзей *(да дружыннікаў).*

Лайдакі! Разявы! У-ух!
Чую тут бяглянкі дух.
*(Ідзе да гусляра.)*
Што сядзіш, як пень, стары?
Дзе бяглянка, гавары?

Дружыннікі з усіх бакоў падступаюць да Гусляра.

Гусляр *(не спяшаючы, кранае гуслі, спявае)*.

Ой, ляцела птушка ад гора,
Ой, ляцела птушка за мора.
Дзе, гаротная, зараз —
Хто б ведаў?
За сабой не пакінула следу.
Ці віхуры ёй крылцы зламалі?
Ці халодныя хвалі.
Схавалі?..

Дружыннікі заслухаліся.
З таго боку, куды пабегла жанчына, з'яўляецца Моўчан. Ён непрыкметна для Гусляра нешта шэпча Цівуну. Той у сваю чаргу перадае гэта Чарадзею.

Чарадзей.

Што разявілі раты?
У пагоню!

Паказвае кірунак. Дружына на чале з Цівуном імгненна знікае. Услед за імі ідзе і Моўчан. Чарадзей пагрозна да Гусляра:

Ну, а ты —
Валацуга! Ходзіш тут,
Каламуціш чорны люд.
Не прыціхнеш, дык за гэта
Я звяду цябе са свету —
Гуслі ў вогнішчы спалю,
А з цябе сем скур злуплю!

*(Задыхаўшыся, убягае Цівун.)*

Цівун *(да Чарадзея, баязліва)*.

Не злавілі...

Чарадзей *(спалохана і ў той жа час з пагрозай)*.

Што?!.

Цівун.

Як на бяду,
Кінулася з берага ў ваду...

Чарадзей *(супакоена)*.

Са шчанём?.. Хэ-хэ!.. Такой бяды!..
Не вярнуцца ім ужо сюды...

Цівун *(задаволена)*.

Не вярнуцца... Так... канцы ўжо...

Чарадзей.

Мне
Той не грозен, хто ляжыць на дне.

*(Чарадзей і Цівун пайшлі.)*



Гусляр *(пачакаўшы трохі, іранічна)*.

Перш самога возьме трасца,
Чым мяне скруціць удасца.
Бач ты — зніме галаву!..

*(Смяецца.)*

Але вось — глядзі — жыву.

*(Падымае світку, нахіляецца да малога.)*

Ну, Рыгорка ці Мікітка,
Як пад дзедаваю світкай?
Хоць на ёй на латцы латка,
Але беднаму — як матка.
Ты, як бачу, малайчына, —
Толькі лыпаеш вачыма.
Ані крыку, ані піску,
Нібы знаў, што злыдні блізка.

*(З хаты выходзяць Лявон з Леваніхай.)*

Леваніха.

Ну, пранесла нячыстую сілу.
Каб іх, злыдняў, зямля не насіла.

Лявон.

Эй, гусляр, ты жывы яшчэ, браце?
Нам, відаць, спакайней было ў хаце.

Гусляр *(ідзе насустрач ім з дзіцем на руках)*.

Каб я з вамі схаваўся у хаце,
Вы не ўбачылі б, пэўна, дзіцяці.

Лявон *(прыкладае далонь да вуха)*.

Што? Дзіцяці?

Леваніха.

Якога дзіцяці?

Гусляр.

Падзівіцеся, бацька і маці.

*(Леваніха бярэ ў Гусляра малое, здзіўлена пераглядаецца з Лявонам.)*

Гусляр.

Наракалі вы на лёс —
Бусел сына вам прынёс.

Лявон.

Бусел?

Гусляр.

Бусел.

Леваніха *(кланяецца ў бок бярозы)*.

Дзякуй шчыра!

*(Да Гусляра.)*

Дзе ж ён сам?

Гусляр.

Падаўся ў вырай.

*(Усе разглядаюць малое.)*

Лявон *(задаволена)*.

А прыгожанькі які!..

Леваніха.

I ружовы, і важкі.

Лявон.

Я ж таксама, бач, не дробны.
Да мяне сынок падобны.

Леваніха.

Да цябе? А носік мой!

Гусляр.

Што й казаць, хлапец — герой.

Лявон.

Та-ак, герой — па ўсім відаць.

Гусляр.

Як жа хлопца будзем зваць?

Леваніха.

Радасць ён цяпер адна нам,
Назавем яго Жаданам.

Заслона.

## Карціна другая

На авансцэне, перад другой заслонай — Гусляр.

Гусляр.

Адлятаў у вырай бусел
І вясной вяртаўся зноў,
Далі роднай Беларусі
Абуджаліся ад сноў.
Ручаіны гаманілі,
І святлеў блакіт нябёс,
Быццам ён на дужым крыллі
Сонца з выраю прынёс.
Лета следам за вясною
Шапацела збажынаю.
А Лявон і Леваніха,
Як раней, кару таўклі
Ды жылі сабе паціху,
Як умелі, як маглі.
А сыночак? А дзіця?
Ім на шчасце, ўсім на дзіва
Не па днях, а па гадзінах
Падрастаў сынок адзіны,
Ўцеха іхняга жыцця.
І ўжо хутка ў бойцы мог
Ён адужаць чатырох.

*(Здалёк даносяцца дзявочыя галасы. Спачатку чуецца нарастаючая мелодыя, потым выразна далятаюць словы:)*

Купала, Купала,
Ту-ту-ту, ту-ту-ту!



Дзе ж ты зімку зімавала,
Дзе ж ты лета летавала?
Ту-ту!
«Зімавала я ў перайку,
Летавала ў зелейку»
Ту-ту-ту!

Гусляр.

Чуеце? Дзяўчаты заспявалі, —
Святкаваць збіраюцца Купалле.
Што ж, пайду да возера, пагляну,
Там спаткаю, пэўна, і Жадана.

Узнімаецца другая заслона.
Зорная ноч. Паляна на беразе возера. З усіх бакоў да абрывістага берага падступаюць дрэвы. Галіны пахілай вярбы апускаюцца ў ваду. На паляне сядзяць дзяўчаты, уюць вянкі, спяваюць. Адны пытаюцца, другія адказваюць:

— Што рабіла, Купалачка?
— Краскі рвала, Яначка.
— Нашто табе краскі, Купалачка?
— Вянкі віці, Яначка.
— А каму вянкі, Купалачка?
— Нашым дзеўкам, Яначка.
Яны замуж пойдуць, Яначка!

*(З'яўляецца Галінка.)*

Параска.

Ой, Галінка! Дзе ты прападала?

Галінка.

Да цямна ў гародзе зелле рвала,
А пакуль каровы падаіла,
Дык і ночка зоркі запаліла...

Дзяўчаты.

— Ну і гаспадар твой!
— Гэта ж страх!..
— Каб ён, злыдзень, да нядзелі спрах!..

Параска.

Нездарма пагудка ёсць, што Моўчан
Гадаваўся ў логавішчы воўчым...

Галінка.

Гну спіну ад ранку і да ранку,
Але што парадзіш... парабчанка!..

Параска.

Не салодка у чужой хаціне,
Ды куды падзецца сіраціне...

Дзяўчаты.

— А Жадан?
— Такі хлапец прыгожы!

Параска.

Без цябе ён дня пражыць не можа!..

*(Галінка сумелася, адвярнулася, пачала збіраць кветкі на вянок.)*

Дзяўчаты *(спяваюць).*

— А чаго, нібы малінка,
Заірдзелася Галінка?
— На Купалу рана-рана
Выглядала я Жадана.
Дзе ён ходзіць, дзе блукае?
— Кветку-папарацъ шукае.

Дзяўчына.

Ох, дзяўчаткі, ўсё вам смех ды гулі...

Параска.

Дык і што? На тое ж і Купала!..

Дзяўчына.

Так то так... Ды мы з матуляй чулі...

Параска.

Што?

Дзяўчына.

Як пеўнем курыца спявала!..
*(Усе насцярожваюцца.)*

Галасы.

— Будзе ліха!..
— Дрэнная прыкмета!..

Параска.

Што ж, цяпер нам плакаць цераз гэта?..

На паляну выходзяць хлопцы. З імі — Алесь і Адась. Тут жа і музыкі: адзін б'е ў вядро, другі іграе на дудзе, трэці — на жалейцы.

Хлопцы *(спяваюць, падскокваючы і прытупваючы).*

Ішлі дзяўчаткі мяжою
Ды пілі смалу дзяжою.
Ішлі хлопчыкі граніцаю
Ды пілі мёд шкляніцаю.
Хадзілі хлопчыкі борам
Ды гаварылі з чаборам:
— А куды дзяўчаты згінулі,
Ці нас зусім пакінулі?
Ішлі дзяўчатачкі лесам
І дамаўляліся з бесам·
— Каб нас хлопчыкі не ўбачылі,
Мы сцежкі перайначылі...

*(Галінка шукае паміж хлопцамі Жадана, але яго няма.)*

Параска.

Вы адкуль з'явіліся,
З месяца зваліліся?

Хлопцы.

Бесу выкруцілі рогі,
Паламалі чорту ногі.
Мы не зблізку, не здалёк —
З вёскі Ніжні Астравок.

Параска *(спявае).*

А мой любы, круглабокі...

Дзяўчаты *(падпяваюць, прытупваючы).*

То-то-то, ту-ту-ту!



Параска.

Гэткі тоўсты ды высокі,
Што пазнаю за вярсту.

Алесь *(спявае).*

А мая сяброначка
Тонка, бы вяровачка...

Хлопцы *(падхопліваюць).*

Ой, хавайся ад яе,
Як пятлёю абаўе.

Алесь *(падбягае да Параскі, смеючыся).*

Не, адгэтуль не ўцяку я,
Сам пайду ў пятлю такую!

Параска *(вырываецца з Алесевых абдымкаў).*

Ты, Алесь,
Да мяне не лезь,
Бо ўбачыць Адась —
Ён табе дасць!
*(Наперад выходзіць Адась.)*

Адась.

А я бачыў і так!..
*(Да Алеся.)*
Бараніся, лайдак!..

Адась і Алесь пачынаюць дужацца пад вясёлыя крыкі хлопцаў і дзяўчат.

Голас.

Эх, няма Жадана!..

Другі голас.

Ён бы іх
Да зямлі прыцісну ў абаіх!..

Галінка. Паглядзіце! На гары
Запалілі ўжо кастры!

Алесь *(папраўляючы кашулю).*

Ну, пайшлі!

Адась. Пайшлі!

Параска. Пара!

Алесь *(падміргнуўшы Галінцы).*

Нас чакаюць ля кастра...

Усе гуртам ідуць у левы бок.
З другога боку крадком выходзяць Цівун і Моўчан.

Цівун *(нездаволена).*

Што ж, вось так нам бегаць да світанку
За тваёй уласнай парабчанкай?
Захапіў бы сам красуню гэту...

Моўчан *(адмоўна ківае галавой).*

Што? Жадан зжыве мяне са свету...

Раптам, пачуўшы нешта, Цівун і Моўчан хаваюцца зноў. З'яўляецца Жадан. Ён падыходзіць да берага, задуменна глядзіць на возера. Потым звяртаецца да вярбы.

Ж а д а н.

Ты аб чым, вярба, шапочаш?
Ці сказаць мне штосьці хочаш?
Ці здаля кагосьці кліча
Гэты голас таямнічы?
Ці ў мяне пытаеш, можа,
Чым я гэтак устрывожан?
З кім, вярба, як не з табой,
Падзялюся я журбой?
Эх, гусляру! Эх, дзядуля!..
І нашто расказваў ён,
Як загінула матуля
Ды не далася ў палон.
У сваіх абдымках хвалі
Ад палону ўратавалі.
Дзе шукаць яе сляды?..
Не, не ўбачу іх сягоння...
Што ж, трава, ты іх тады
Не схавала ад пагоні!..

Садзіцца, схаваўшы твар у далоні.
З-за хмызнякоў зноў выглядае М о ў ч а н. Жэстам падзывае Ц і в у н а.

Ц і в у н.

Ха! Заснуў... Няхай паспіць...
Пэўна, кветку шчасця сніць.

*(Моўчан адказвае ціхім зларадным смехам.)*

Ц і в у н.

Сні сабе, брат, кветку, сні, —
Не парушым цішыні.
Я тым часам наяву
Кветку лепшую сарву.
Гэткіх Смок не бачыў зроду,—
Атрымаю ўзнагароду.

Раптам М о ў ч а н тузае Цівуна за рукаў і прыкладвае пальцы да вуснаў. Прыслухоўваецца. Чуецца плёскат вады. М о ў ч а н і Ц і в у н бягуць у той бок, куды пайшлі хлопцы і дзяўчаты. Даносяцца галасы русалак.

Х о р р у с а л а к.

А куды гэта сцежка вядзе,
Што праклаў маладзік на вадзе?
Мы ў купальскую ночку штогод
Пачынаем на ёй карагод.

Пад спеў хору на бераг выходзіць Р у с а л к а, у якой лёгка пазнаць Бяглянку.

Ты не бойся, хлапец малады,
З намі разам хадзі да вады.
Як прыгожа ў харомах на дне!
Ты такога не ўбачыш і ў сне.
Ад жыццёвых трывог і пакут
Мы збавенне знайшлі сабе тут.

Р у с а л к а ідзе да Ж а д а н а, прасціраючы наперад рукі.



Р у с а л к а.

У купальскую ночку
Я гукала сыночка,
Я шукала сыночка
У купальскую ноч.
Ды азёрныя хвалі
Голас мой заглушалі
І няспынна змывалі
Слёзы горкія з воч.

Х о р.

На гары
У бары
Галасілі вятры,
І лісты на вярбе
Шапацелі ў журбе.

Р у с а л к а.

Я на бераг выходжу,
А сынка не знаходжу,
Зорнай сцежкай выходжу
Я на бераг круты.
Дрэмле ціша лясная,
Я дзіўлюся — не знаю,
Толькі сэрцам пазнаю
Гэта ты ці не ты?..

Х о р.

Не расінка —
Слязінка
З галінкі
Упала.
Дзе слязінка растала ,
Там і возера стала.

У гэты момант у зарасніку папараці пачынае распускацца белая кветка.

Р у с а л к а.

Чуеш — звоняць пялёсткі,
Нібы струн адгалоскі.
Ціха звоняць пялёсткі
Каля самай вады.

Падыходзіць да кветкі, якая ўжо расцвіла і ззяе белым агнём. Зрывае яе і кладзе на калені Жадану.

Кветку-папараць сыну
Я на шчасце пакіну.
У цяжкую хвіліну
Зберажэ ад бяды.

Х о р.

Хваляў гоман
Знаёмы
Да падводных харомаў
Кліча нас,
Кліча нас.
Час дадому ўжо,
Час.

Р у с а л к а *(падыходзіць да вады, развітальна махае рукой Жадану).*

Станеш з кветкай на ўзгорку
Пад шчаслівую зорку,
Зразумееш гаворку
Дрэў і птушак усіх.
Кветка зззяць будзе ў змроку,
З ёй адолееш Смока
І адпомсціш, сынок мой,
За мяне і за іх,
За сябровак маіх.

*(Здалёк даносяцца галасы.)*

«Жада-а-ан! Жада-ан!»

Р у с а л к а знікае.

Ж а д а н *(прачнуўшыся, здзіўлена азіраецца).*

Наяву было гэта ці ў сне?

*(Заўважыў кветку.)*

Але скуль жа кветка у мяне?

*(Бярэ кветку, дзівіцца.)*

Што за цуд?
Я так далёка бачу...
Гэта чары кветкі, няйначай.
Вогнішча... Народу — не злічыць...
Скокі... Спевы... Музыка гучыць...
Хлопцы і дзяўчаты карагодзяць...
Што ж Галінка к ім не падыходзіць?
Адышлася, сумная, убок,
Моўчкі пазірае на вянок...
Бачыць сум твой болей не магу —
Да цябе, каханая, бягу!

*(Бяжыць.)*

Паварот круга.
Узгорак на беразе возера. На вяршыні ўзгорка — чучала, зробленае з саломы, лыкаў, канопляў і бярозавых галін. Яно мае выгляд жанчыны. Гэта ўвасабленне Купалы. Крыху ніжэй — вогнішча. Паляна абсаджана наўкол бярозкамі, вершалінкі якіх звязаны паміж сабой. Па краях — альтанкі з галін і трысця. Цераз агонь скача П а р а с к а, следам за Параскай — А л е с ь, які спрабуе злавіць яе. Але натыкаецца на А д а с я і знарок цалуе яго. Хлопцы і дзяўчаты смяюцца.

А д а с ь.

Бач, гарачы! Як імкне!..
Добра — трапіў да мяне,
А звярнуў бы трошкі ўлева,
Цалаваў бы носам дрэва.

А л е с ь *(жартаўліва).*

Дабрадзей... Зрабіў мне ласку!..
Цалаваў бы я Параску...

П а р а с к а *(спявае).*

Ой, пайшоў наш Алесь.
У лес...



Г р у п а д з я ў ч а т *(падхоплівае).*

Ледзь на дрэва не ўзлез.
Ледзь на дрэва не ўзлез.

Д р у г а я г р у п а д з я ў ч а т.

На гары ды валы у ярме,
А Алесю дзяўчаты на ўме.

Т р э ц я я г р у п а.

Ой, дарма, Алесь,
Ты стараешся,
Да дзяўчат да ўсіх
Заляцаешся.

У с е р а з а м.

Не круціся, як вецер у полі,
Не палюбім такога ніколі.

У час спеваў А л е с ь кідаецца ад адной групы да другой.
Выконваецца танец, накшталт «Юрачкі».
Л я в о н, Л е в а н і х а і Г у с л я р сядзяць убаку, назіраюць, як вясяліцца моладзь.
Недзе спявае певень.

Л я в о н *(прыслухоўваецца).*

Што? Каго там клічуць за раку?

*(Моладзь смяецца.)*

Л е в а н і х а.

Гэта ж певень!

А л е с ь.

Во!

*(Імітуе пеўня.)*

Ку-ка-ра-ку!

Г у с л я р.

Ці не рана?

А д а с ь.

Не, у самы раз.

П а р а с к а.

Што ж, і варажыць тады ўжо час.

*(Хапае Адася за руку, цягне яго да возера. За імі ідуць усе дзяўчаты і хлопцы, спяваючы.)*

Я пушчу вянок
На ваду.
З кім я шчасцейка
Ды знайду?
Ты плыві, вянок, —
Не кружы,
Хто мой суджаны,
Пакажы.
А як сыйдуцца
Два вянкі,
Сэрцы злучацца
На вякі.

Л е в а н і х а *(да Галінкі, якая адстала ад усіх).*

І навошта, дзеванька, тужыць...
Лепш ідзі з усімі варажыць.

Галінка *(сумна).*

Цётачка, чаго туды пайду?
З кім вянок пушчу я на ваду?

Гусляр.

Не турбуйся, ластаўка. Нідзе
Гэткі, як Жадан, не прападзе.

*(У гушчары паказваюцца Моўчан і Цівун.)*

Галінка *(спявае).*

Пайду я з тугі
У цёмныя лагі
Да сіняга гаю.
Свой смутак нясу,
Збіваю расу,
На шлях пазіраю.
Дзе любы мой, дзе?
Чаму не ідзе?
Я сэрцам гукаю...

*(Моўчан паказвае на Галінку, запытальна глядзіць на Цівуна).*

Цівун.

Сапраўды, дзяўчына — нібы кветка.
Зараз трапіцц, птушка, ў нашу клетку!
*(Да Моўчана).*
Дай сігнал, а сам паўзі ў кусты,
Каб ніхто не знаў, што з намі ты.

Моўчан складае далоні трубкай, крычыць пеўнем і, як вужака, паўзе ўбок.
Гусляр, Лявон, Леваніха падхопліваюцца.

Лявон *(здзіўлена).*

Што такое?

Леваніха.

Зноў спяваюць пеўні?

Гусляр.

Штосьці тут няладнае, напэўна!

На паляну ўрываюцца смокавы дружыннікі. Адштурхоўваюць старых, хапаюць Галінку.
На крыкі бягуць хлопцы на чале з Алесем і Адасем. Але дружыннікі, наставіўшы дзіды і мячы, адцясняюць іх назад.

Цівун *(пагражальна да натоўпу).*

Хто з месца кранецца,
Без галавы застанецца.

Адась.

Што стаім?!

Алесь.

Хапай ці кол ці камень!

Моўчан *(непрыкметна далучыўся да натоўпу).*

Супраць зброі з голымі рукамі?

Галасы.

— Бі іх!
— Бі!
— А божухна, што будзе!



Лявон. Дзе Жадан? Чаго стаіце, людзі!

*(Кідаецца наперарэз дружыннікам, якія вядуць Галінку.)*

Цівун. Стой! Куды! Назад, стары глушэц!
Чарадзей. Тут табе, сабака, і канец!

Сячэ старога шабляй. Стары падае.
Натоўп замірае. Чуецца толькі плач Леванiхі, якая схілілася над параненым Лявонам.
Двое дружыннікаў вядуць Галінку. Паяўляецца Чарадзей, задаволена праводзіць іх поглядам.

Гм... Прыемная дзяўчына!..
*(Да Цівуна.)*
Спраўна служыш! Малайчына!
*(Да натоўпу.)*
Ну, а вы... халопы... У-ух!..
Выб'ю з вас бунтарскі дух!

У натоўпе шум, прыглушаныя галасы: «Жадан! Жадан ідзе». Людзі расступаюцца, прапускаючы Жадана.

Жадан.

Дзе Галінка?

Лявон *(прыўзнімаецца з дапамогай Леваніхі).*

Ты спазніўся, сынку...

Жадан кідаецца да Лявона, потым памыкаецца даганяць Галінку. Упоперак дарогі становіцца Чарадзей. Падняты ім кій свеціцца зялёным агнём.

Чарадзей.

Не блазнуй! Забудзься на дзяўчыну!
Хочаш, дык прыму ў сваю дружыну.
Ну, хутчэй! Згаджайся, хлоп! А не —
Як раба прыцягнуць да мяне!

Замест адказу Жадан вырывае з карэннем малады дубок і замахваецца на Чарадзея. Чарадзей б'е кіем аб зямлю. Раздаецца гром, бліснула маланка, налятае вецер, зрываючы лісце з дрэў. На месцы, дзе стаяў Чарадзей, узнімаецца віхор. Праз момант усё сціхае.
Чарадзея няма. Шумна лопаючы крыллямі, над галовамі ляціць вялізны груган. Злосны рогат Чарадзея заціхае ў далечыні.
Цівун з дружыннікамі адыходзяць у лес.
Людзі абступаюць паміраючага Лявона. Жадан садзіцца побач з Леваніхай. Моўчкі бярэ руку старога. Параска нясе ваду ў конаўцы. Гусляр — зелле.

Лявон *(п'е ваду, ад лекаў адмаўляецца).*

Дзякуй вам... Не дапамогуць лекі...
Хутка развітаемся навекі...
Вось і ўсё... Канчаецца дарога...
Не, не трэба шкадаваць старога...
Што я на сваім вяку пабачыў?
Толькі слёзы, крыўду ды нястачы...
Маладыя сілы я патраціў,

Злыдням здабываючы багацце...
Хоць, маўкліва і пакорна жыў,
Ды не гэтак галаву злажыў...
Эх, калі б вярнуць былую сілу,
Іх саміх загнаў бы я ў магілу!..
*(Да Жадана.)*
Як жа мы хацелі разам з маці,
Каб была Галінка ў нашай хаце...
Марыў я люляць яшчэ і ўнука,
Ды прышла злавесніца-разлука...

Жадан *(устае).*
Бацька! Чуеш? Я ўвесь свет прайду,
А бярлогу смокаву знайду.
За цябе, за нашы ўсе пакуты
Я адпомшчу крывасмокам лютым.
*(Становіцца на калена, дастае з-за пазухі кветку.)*

Галасы ў натоўпе.
— Кветка шчасця!
— Кветка дапаможа!

Жадан.
Чуеш, бацька? Я табе клянуся!
*(Лявон, сабраўшы апошнія сілы, кладзе руку на плячо Жадана).*

Леваніха *(скрозь слёзы).*
З кім жа я на свеце застануся?

Лявон.
Хай ідзе... Бо веру — пераможа...

Заслона.

**Карціна трэцяя**

Гусляр *(перад заслонай).*
Гэтак свята стала трызнай...
У грудзях Жадана гнеў
Раптам полымем вялізным
Зашугаў, запалымнеў.
А любоў, нібыта крылы,
Што нясуць увысь арла,
Юнака з нястрымнай сілай
У дарогу павяла.
Колькі ўперадзе чакае
Небяспечных пуцявін, —
А нікога не гукае,
Хоча ўсё зрабіць адзін.
Малады яшчэ, гарачы...
Я, відаць, услед пайду.
Памагу.
Хлапец іначай
Можа трапіць у бяду.



Але дзе ж цяпер ён? Дзе?..
Во! І сам сюды ідзе.
*(Выходзіць Жадан.)*

Жадан *(сам сабе).*
Сэрца разрываецца на часткі.
Як Галінку вызваліць мне з пасткі?
Як хутчэй мне адшукаць дарогу,
Што вядзе у смокаву бярлогу?

Гусляр *(прыпыняючы Жадана).*
Ты, хлапчына, хоць бы прывітаўся!

Жадан.
Дзед Гусляр!..

Гусляр *(з дакорам).*
Усё ж адзін сабраўся?..

Жадан.
Не магу марудзіць ні хвіліны.
Зразумей... Адпомшчу ці загіну...

Гусляр.
Разумею. Толькі, браце, трохі
Пачакай... Што скажуць скамарохі.
Шмат яны схадзілі па зямлі
І ў палацы смокавым былі.
Як дабрацца — ў іх і запытайся,
Ну, а гінуць, хлопча, не спяшайся.
*(Ідуць.)*

Узнімаецца заслона.
Базарная плошча ў мястэчку. Вечарэе. Людзі пачынаюць разыходзіцца з кірмаша. Скамарохі ля ўваходу ў балаган падлічваюць грошы.

Першы скамарох.
Здабытак такі —
Адны васьмакі.
Нікчэмны даход.

Другі скамарох.
Бяднее народ.

Першы скамарох.
Ну, не будзем траціць час.
Паспрабуем яшчэ раз.

Другі скамарох *(устае, крычыць у складзеныя трубой далоні).*
Усім на здзіўленне —
Апошняе...

Першы скамарох раптам спыняе свайго таварыша. Цераз плошчу, расштурхоўваючы людзей, ідзе Цівун з дружыннікамі. Заўважыўшы Моўчана, адзывае яго ў бок.

Цівун.
Дык глядзі... Пільнуй! Не прамарудзь.

Моўчан.
Толькі...

Цівун *(перапыняе).*
Што?

Моўчан.

Няхай не дужа б'юць...
І навошта ўся гэта забава.
Лепш дружыне даручыў бы справу.

Цівун.

Сціхні! Дбаеш толькі аб сабе.
Нас тут мала — ўсіх ён пераб'е.
Будзе ўзнагарода. Не дрыжы.
Нам спярша адданасць дакажы.
*(Ідуць.)*

Па дарозе Цівун сцёбае сустрэчных бізуном.

Другі скамарох *(услед)*.

Скуру драць з людзей прывыклі...

Першы скамарох *(адмахнуўся)*.

Ат!.. Пачнем... Яны ўжо зніклі.

Другі скамарох *(прымае ранейшую паставу)*.

Усім на здзіўленне —
Апошняе прадстаўленне!
Да нас ідзіце,
Паглядзіце!
Хопіць смеху.
Усім на пацеху!

Каля балагана збіраюцца нешматлікія гледачы. Скамарохі тут жа пераапранаюцца. Да натоўпу далучаюцца Жадан і Гусляр.

Гусляр *(стрымліваючы Жадана, які адразу імкнецца да скамарохаў)*.

Стой!.. Куды? Цішэй, саколе,
Бо нічога і ніколі
Так не зробіш ты як след.

Жадан *(скараецца)*.

Хай па-твойму будзе, дзед...

Воддаль паказваецца Моўчан. Убачыў Жадана, хаваецца. Скамарохі пачынаюць прадстаўленне.

Першы скамарох *(па адзенню ён нечым нагадвае Цівуна)*.

Авей, авей!
Вох, вох, вох!
Ледзьве ўночы я не здох.
Быў у Смока на куцці.
Як пад'еў куцці —
Дык не магу сапці.

Голас з натоўпу:

Не хапіў бы лішкі,
Не трашчалі б кішкі!..

Першы скамарох.

Што мая кабета ні рабіла,
І гаршчок на пупе станавіла, —
Ды і тое не дапамагло
Яшчэ горш прылягло.



Парадзілі мне купервасу
Ды бурачнага квасу,
Моху,
Чартапалоху
І яшчэ нечага, забыўся, троху, —
Усё гэта зелле збаўтануць,
Ды праглынуць.
А зрабіў гэта —
Ледзь не развітаўся са светам.
Вось, каб знайшоўся знахарочак,
Ды палячыў мой жываточак,
Аддаў бы яму золата мяшочак!

*(Выходзіць другі скамарох, апрануты знахарам.)*

Другі скамарох.

Я — знахар, лячу усе хваробы.
Што крычыш? Парвеш сабе вантробы.

Першы скамарох.

Ды такое здарэнне —
Нястраўнасць, бурчэнне.
Рэзачка, успушыла,
Як Антонаву казу.
Хутка, мусіць, папаўзу.

Другі скамарох.

Зразумела! Карацей!
Ну, кладзіся, багацей!..

Першы скамарох *(кладзецца на зямлю)*.

Ох, каб толькі памагло!..
Ох, каб толькі адлягло!..

Другі скамарох *(убок)*.

Дам табе такія лекі,
Што запомняцца навекі!..

*(Пачынае малаціць яго палкай, прыгаворваючы.)*

Пацей,
Багацей!
Пацей!
Багацей!

Першы скамарох *(усхапіўся, другі ўцякае)*.

А каб цябе ліха!
Напацеў, налапацеў,
Сам да чорта паляцеў.
Калі б знаў, што гэткі здзек,
Галаву яму б адсек!..

Другі скамарох *(выходзіць у сваім звычайным адзенні)*.

Сыпце, людцы, хто што мае,
Гэта шапка ўсё прымае.

*(Некаторыя з гледачоў кідаюць у скамарохаву шапку медзякі, большасць праходзіць так.)*

Першы скамарох *(патрос медзякамі)*.

Хоць, як коні, успацелі,
Ды не дужа ўзбагацелі.

Гусляр *(падыходзіць да скамарохаў)*.
Добры дзень!
Першы скамарох *(весела)*.
Здароў, гусляр,
Дум і песень уладар!
Другі скамарох.
А-а, дзень добры!
Гусляр.
Як жывеце?
Першы скамарох.
Эт, бадзяемся па свеце.
Другі скамарох.
Ходзім ціха —
За намі ліха,
Ходзім скора —
За намі гора.
Першы скамарох *(да Гусляра)*.
Ну, а ты што не з'яўляўся?
Гусляр.
З тым вунь хлопцам затрымаўся.
*(Да Жадана.)*
Гэй, Жадан, хадзі сюды!
*(Жадан падыходзіць.)*
Першы скамарох *(пляскае яго далоняй па плячы)*.
Ну й асілак!
Другі скамарох.
Сапраўды!
Першы скамарох *(нешта ўспомніў)*.
Во! Ты б выгнуў нам дугу...
Другі скамарох.
Для шатра.. .
Жадан.
З чаго?..
*(Другі скамарох падае Жадану тоўсты жалезны прут.)*
Жадан *(бярэ прут, прымерваецца)*. Магу...
*(Выгінае, кладзе на зямлю. Скамарохі ў захапленні.)*
Першы скамарох.
Ну, а што яшчэ ты можаш?
*(Жадан паціскае плячыма)*.
Другі скамарох.
Слухай! Ці не дапаможаш
Балаган сабраць хутчэй?..
Жадан *(нічога не адказваючы, падыходзіць да балагана)*.
Як бы ўзяцца тут ямчэй?
*(Прыладжваецца. Нешта трашчыць.)*
Першы скамарох *(занепакоена)*.
На шматкі парве палатку!..



Гусляр *(смяецца)*. Ціха! Будзе ўсё ў парадку.
*(Жадан напінаецца, складзены балаган апынуўся ў яго на плячах.)*
Другі скамарох.
Пачакай! Куды панёс?
Жадан.
Пакладу яго на воз.
*(Ідзе і адразу вяртаецца.)*
Першы скамарох.
Ты не зломак, бачу, ў працы!..
Нам да ночы б тут цягацца.
Другі скамарох.
Сіла!.. Вось што значыць — дужы!..
Першы скамарох.
Чым табе аддзячыць, дружа?
Жадан.
Ды навошта...
Гусляр *(да першага скамароха)*.
Вось што, браце.
Знаем ваша мы багацце.
Аддзячце не грошам,
А словам харошым.
Другі скамарох *(смяецца)*.
Што да слова,
Дык цэлая торба гатова.
Жадан.
Вы парайце, як дабрацца
Да праклятага палаца...
Першы скамарох *(насцярожана)*.
Як? У смокаву бярлогу?
Другі скамарох.
Небяспечная дарога.
Першы скамарох *(да Жадана)*.
Што ж вядзе цябе туды?
Жадан.
Помста.
Другі скамарох *(з павагай)*.
Вось як!
Першы скамарох.
Што ж, тады...
Сёе-тое нам вядома.
Другі скамарох.
Ды глядзі — маўчы... Нікому...
Першы скамарох.
Пойдзеш ты на ўсход з мястэчка.
Шлях табе перасячэ
У густых чаротах рэчка,
Што цячэ і не цячэ.
Другі скамарох.
Дык шыбуй паўз бераг проста
І ад рэчкі — ні на крок.

А як дойдзеш да пагоста,
Перапраўся на той бок.
Першы скамарох.
Ад кургана ўверх бяры,
Бо ніжэй — адны віры.
Другі скамарох.
А далей без адпачынку
Напрасткі па лузе шпар.
Першы скамарох.
Так і знойдзеш ты сцяжынку
Ў зачараваны гушчар.
Другі скамарох.
Там, дзе з лісцяў ткуць карункі
Чарадзейныя вятры,
Ты пабачыш тры кірункі
У дрымучым гушчары.
Першы скамарох.
Дык запомні. Сцежкаю налева
Не хадзі.
Другі скамарох.
Хоць будуць вабіць спевы...
Першы скамарох.
Напрасткі гасцінцам пойдзеш —
Нічагусенькі не знойдзеш.
Другі скамарох.
А за дубам, ля крыніцы,
Павярні ў гушчар, направа.
Першы скамарох.
Калі здолееш прабіцца —
І хвала табе і слава.
Жадан.
Дзякуй вам за добры ваш наказ.
А цяпер і развітацца час.
Гусляр *(абдымаючы Жадана).*
У мяне на сэрцы так трывожна...
Будзь жа, мой саколе, асцярожны.
Першы скамарох.
Помні ўсё, што мы казалі, хлопец.
Жадан.
Ды нічога. Дзякуй. Сілы хопіць.
Гусляр.
Сілы сапраўды ў цябе стае.
Ды глядзі, дарма не траць яе.

Гусляр і абодва скамарохі, развітаўшыся з Жаданам, ідуць.
Жадан махае рукой пакуль яны не знікаюць. Тым часам усё больш цямнее.
Жадан дастае з-за пазухі кветку, глядзіць.

Жадан.
Любая! Цябе я зноўку бачу...
Ты адна... Зусім адна... і плачаш...



Ля дзвярэй маўклівы вартавы
Выцягнуўся, быццам нежывы...
Абмінуўшы варту, маладзік
У акенца вузкае пранік.
Ты праз слёзы на яго зірні, —
Вось ён... нам міргае з вышыні.
Ты спытай яго... Пачуеш, можа,
Як імкнуся да цябе няспынна...
Ён і мне, як сябар, дапаможа
Адшукаць у цемрадзі сцяжыну.

У час маналога паступова — спачатку цьмяна, а потым усё выразней — вырысоўваецца тое, аб чым гаворыць Жадан.
У глыбіні сцэны ўзнікае куток пакоя ў Смокавым палацы. На сценах, на падлозе — стракатыя дываны. Столь упрыгожана ўсходнім арнаментам. Па кутах — высечаныя з дрэва драконы. У пакоі — паўзмрок. Праз вузкае, як байніца, акно льецца зеленаватае святло маладзіка. Яно азарае твар і постаць Галінкі.

Галінка *(спявае).*
Як пазбыцца смутку мне
І тугі.
Дзе мой любы, суджаны,
Дарагі?
Засцяць слёзы вочайкі
Туманом.
Ходзіць ясны месячык
За акном.
Ходзіць ясны месячык
Ля варот,
Водзіць срэбных зорачак
Карагод.
Ты скажы мне, месячык,
Адкажы,
Дзе мой любы, суджаны,
Падкажы.
*(Нячутна ўваходзіць Чарадзей. Слухае.)*
У лясы дрымучыя
Зазірні,
Можа, ўбачыш любага
З вышыні.
Над палямі-гонямі
Праплыві
І пакліч каханага,
Пазаві.

Чарадзей махае кіем. Пакой азараецца мяккім чароўным святлом розных адценняў.
Галінка падхапілася, стаіць у насцярожанай паставе.

Чарадзей *(стараючыся быць ласкавым).*
Не палохайся, птушка мая.
Не крану сваю кнігаўку я...
Ёсць таксама душа і ў мяне.
Не крану цябе, кнігаўка, не...

*(Набліжаецца да Галінкі. Яна адступае да акна.)*

Не цурайся!.. Чаго ты бяжыш?..
Як лісток на асіне, дрыжыш...
Я сагрэю цябе... прыгарну...
Як царэўну, цябе апрану...
У ядвабы-шаўкі прыбяру...
Што захочаш — усё падару...
Скажаш — зоркі з нябёс прынясу,
Запляту па адной у касу...
Скажаш — месяц
Сваёю рукой
Прышпілю да кароны тваёй...
І куды ты ні ступіш —
зямлю
Срэбрам-золатам я засцялю.
Будзем разам у зàмку маім.
Уладарыць над светам усім!..
Што маўчыш, мая птушка? Хадзі...
Ці не верыш?.. Тады — паглядзі!

Тройчы пляскае ў далоні.
Паяўляюцца служкі. Кідаюць да ног Галінкі аксаміты, ядвабы, атлас, залатую і срэбраную парчу. Апошні нясе карону, якая зззяе каштоўнымі каменнямі ўсіх колераў.
Чарадзей бярэ карону, хоча надзець яе на галаву Галінцы.

Галінка *(адхілілася)*.

Не... не трэба... Да скону
Не надзену карону!
Лепш пусціце на волю з палону...

Чарадзей.

Што ты?... Што?.. Аб якім ты палоне?..
Можаш стаць уладарніцай сёння
І багаццяў маіх і харома...
Калі будзеш не ўпартай, вядома.

Галінка.

Не, багаццяў мне вашых не трэба... не трэба!..
Хай і месяц і зоркі ўпрыгожваюць неба.
А карона... навошта дзяўчынцы вясковай,
Лепш надзену на косы вянок васільковы.
І за ўсе аксаміты, атласы, шаўкі
Мне мілей мурагі на лугах ля ракі.
Не сцяліце вы золата, срэбра пад ногі,
Даражэй мне — у полі сцяжыны-дарогі,
Што да любага клічуць, гукаюць дадому...
Дык навошта мне вашы багацці, харомы?..

Чарадзей *(раззлаваўся, дае служкам знак забраць усё прынесенае. Да Галінкі)*:

Ах, ты гэтак!.. Што ж, дурніца!..
Я прымушу пакарыцца!..



*(Хапае Галінку за руку, рэзкім рухам кідае дзяўчыну на падлогу.)*

Галінка.

О, Жадан!..

Чарадзей.

Што Жадан? Не пачуе Жадан!
Я яго груганам
На з'ядзенне аддам!

Жадан *(у гневе)*.

Ах, пачвара! Ах, паганец! Стой!!!
*(Змяніўшы тон.)*
Любая! Я чую! Я з табой!

У той жа момант відовішча знікае. Жадан утрапёна азіраецца па баках, не разумее, дзе ён знаходзіцца. Перад ім тая ж базарная плошча. Чуецца немы крык: «Гвалт! Ратуйце! Забіваюць! Гіну!» На плошчу выбягае чалавек, следам за ім дружыннікі.

Дружыннікі *(даганяюць уцекача, збіваюць з ног)*.
Будзеш помніць смокаву дружыну!

Жадан *(схамянуўся, хавае кветку за пазуху, кідаецца на дапамогу)*.
Недавяркі! Прэч ад чалавека!
Жыць не могуць без крыві і здзекаў.

*(Дружыннікі бягуць, не ўступаючы ў бойку з Жаданам.)*

Жадан *(падняў збітага, здзіўлена)*:

Моўчан?

Моўчан.

Я... ды паўжывы...
Ледзь не страціў галавы...
Падаспеў ты акурат...
Дзякуй, дружа... Дзякуй, брат...
*(Мацае галаву, паказвае на далонь.)*
Бачыш, кроў вось на ілбе...

Жадан *(вядзе Моўчана да лаўкі)*.

І за што яны цябе?

Моўчан.

Ды за тое ж... за Галінку...
Як шкада мне сірацінку!..
*(Прытворна плача.)*
Думаў я, каб памагчы
Ёй як-небудзь уцячы...

Жадан *(недаверліва)*.

Ты? Галінцы?

Моўчан.

Эх, браток,
Нібы вымер мой куток...
Стала хата, як бярлога.
Не падмецена падлога,
Не падоены каровы
І сняданак не гатовы.

Ж а д а н.

Ах, дык вось...

М о ў ч а н.

Хацеў быў, браце,
Я цябе прыняць, як зяця.

Ж а д а н.

Ты?

М о ў ч а н.

Яна ж мне — як дачка...
Але вось... недачакаў...
А пасаг!..

Ж а д а н. *(сам сабе).*

Не разбяру я:
Ці ён шчыра, ці хітрue?
Але ж кроў... І ўвесь пабіты..

М о ў ч а н.

Ох, палегчала нібыта...
*(Раптам ажывіўся.)*
Слухай! Дружа, браце мой...
Ты вазьмі мяне з сабой...

Ж а д а н.

А куды?

М о ў ч а н.

Ды ёсць, брат, чутка:
Пойдзеш ты ў вандроўку хутка.

Ж а д а н.

Дзе ж ты чуў?

М о ў ч а н.

А між людзьмі...
Не пакінь мяне... вазьмі...
За пакуты, за абразы
Будзем помсціць Смоку разам.

Ж а д а н *(задумаўся. Выпрабавальна глядзіць на Моўчана).*

Разам, кажаш?

М о ў ч а н *(узрадавана падхапіўся).*

Разам!

Ж а д а н.

Не...
Спадарожнік —
Лішні мне.

М о ў ч а н *(расчаравана садзіцца на лаўку, раптам хапаецца за бок).*

Ой! Пад ныркамі схапіла...
Ой! Цярпець не маю сілы.

Ж а д а н *(разгублена).*

Што рабіць?

М о ў ч а н *(пакутліва).*

Вады... Вады.

Ж а д а н *(укладвае Моўчана на лаўцы, скідае світку, згортвае яе, кладзе ў галовах).*

Галаву кладзі сюды...
Супакойся...



М о ў ч а н.

Не магу...

Ж а д а н.

Я да студні пабягу...
*(Бяжыць.)*

М о ў ч а н адразу падхопліваецца, паспешліва азіраецца, шарыць па кішэнях жаданавай світкі. Нічога не знаходзіць.

М о ў ч а н *(у адчаі).*

Кветка... Кветка! Дзе ж яна? Няма.
І няўжо цярплю я ўсё дарма?!
Ён ідзе ўжо... Страшна!..
*(Авалодаўшы сабой.)*
Хай ідзе...
*(Зноў кладзецца, стогне.)*
Ой, няма цярпення, ўсё гудзе.
Ажно чэрці скачуць прад вачыма.

*(Паяўляецца Жадан з вядром у руцэ.)*

Ж а д а н *(поіць Моўчана з вядра).*

На вось... Пі... Палегчае, магчыма.

М о ў ч а н *(як быццам ачуняўшы).*

О, мой дружа! О, збавіцель мой!
Я цяпер — усюды за табой!

*(Жадан нічога не адказвае, паціскае плячыма.)*

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна чацвёртая

На авансцэне Г у с л я р, побач — А л е с ь, узброены рагацінай, і А д а с ь, узброены доўбняй.

А л е с ь.

Ну й дарога... Купіны, карчы...

А д а с ь.

А гушчар... І ўдзень, як уначы.

Г у с л я р.

Мы ўтраіх... А як жа аднаму?!

А д а с ь.

Чым цяпер дапамагчы яму?

Алесь.

І куды прапаў ён, не ўяўляю.
Быццам праваліўся праз зямлю.

Адась.

Абышлі і лес і хмызнякі,
Хоць на след натрапілі б які.

Гусляр.

След... Ды тут усё зачаравана...

Алесь.

Мо ў жывых даўно няма Жадана?

Гусляр.

Не, саколе! Я ў Жадана веру.
Ні закляццю смокаву, ні зверу
Не зламаць яго... Жывы Жадан.

Недзе непадалёк чуецца песня, якую спяваюць два мужчынскія галасы. Сумная мелодыя не адпавядае іранічнаму зместу.

Песня.

Дзе трушком, а дзе падскокам
Мы спяшаемся да Смока.
О, шаноўны пане Смок,
Каб табе —
Халера ў бок!

Алесь (*углядаецца*).

Хто там валачэцца?

Гусляр (*таксама ўглядаецца, узрадавана*).

Скамарохі!..
Гэй, куды вы? Пачакайце трохі.

На авансцэну, ледзь перастаўляючы ногі, выходзяць абодва скамарохі. Па ўсім відаць, што ідуць яны без усялякай ахвоты.

Скамарохі (*спяваюць*).

Мы імчымся
Па загаду,
Ажно пыл курыцца ззаду.
О, шаноўны пане Смок,
Каб табе —
Халера ў бок!

(*Скамарохі вітаюцца з Гусляром і з астатнімі.*)

Гусляр.

І чаго ён вас паклікаў?

Першы скамарох (*безнадзейна махнуў рукой*).

Захацеў, відаць, забаў...

Другі скамарох.

Нават спешна чаравікі
Скараходныя прыслаў.

Адась (*здзіўлена*).

Ды на вас жа лапці з лыкаў!..

Першы скамарох (*хітравата падміргвае*).

А куды спяшацца, хлопча?!.

Другі скамарох (*шматзначна*).

Шкода, бачыш, чаравікаў,
І таму мы лапці топчам.



Першы скамарох (*да другога, нерашуча*).

Што ж, дык пойдзем?..

Гусляр (*нешта ўцяміўшы*).

Пачакайце.
Просьба ёсць да вас адна:
Там — Галінка. Перадайце,
Каб трымалася яна.
Падбадзёрце, памажыце.

(*Скамарохі ўзрадаваны.*)

Першы скамарох.

Добра.

Другі скамарох.

Зробім!

Гусляр.

Ну, бяжыце!

Першы скамарох (*да другога*).

Годзе клыпаць! Шлях вялікі —
Адзявайма чаравікі!

Абодва скамарохі дастаюць з клуначкаў чаравікі-скараходы, хуценька адзяваюць іх і імгненна знікаюць. Удалечыні заціхае шум ветру.

Гусляр.

Бачыце, усё ідзе на лад.

Алесь.

Так то так... Ды дзе Жадан блукае?

Гусляр.

Вось што... Зараз песняй загукаю,
Можа ён пачуе акурат.

(*Іграе на гуслях, спявае. Яму адгукаецца рэха.*)

Гэй, Жадане, Жадане!
Гэй, саколе, саколе!
Дзе цяпер ты блукаеш?
Дзе сцяжынку шукаеш?
Гэй, Жадане, Жадане!
Гэй, саколе, саколе!
Калі спіш, дык прачніся
І сябрам адгукніся.

Алесь і Адась (*падхопліваюць*).

Гэй, Жадане, Жадане!..

(*Усе ідуць.*)

Узнімаецца заслона.

Сцяной стаіць непраходны дрымучы лес. Кашлатыя яліны параслі зялёным мохам. Направа — вялізны разгалісты дуб. Між яго карэнняў струменіцца крыніца. З левага боку чуецца прывабная мелодыя. Выходзіць Жадан. Відаць, што ён стомлены цяжкай дарогай. Следам за ім на адлегласці ледзь цягнецца Моўчан.

Жадан (*спыняецца. Да Моўчана, які адразу прысеў*).

І чаго ты цягнешся за мной?

Моўчан *(з пафасам).*

Мы ідзём дарогаю адной.

Жадан.

Вось жа спадарожнік, сапраўды,—
Ледзь жывога выцягнуў з вады...

Моўчан.

Ты — найлепшы ў свеце чалавек.
І табе я ўдзячны буду век.
Што ні загадай, я ўсё...

Жадан.

Ды годзе...

*(Глядзіць угару.)*

Ноч ужо, напэўна, на зыходзе.

Моўчан *(украдліва).*

Не пашкодзіць, дружа, адпачыць...

*(Мелодыя ў лесе мацнее.)*

Жадан *(заслухаўшыся, сам сабе).*

Што гэта за музыка гучыць?

Лясныя галасы.

Гэй, хлапчына,
Павярні.
Пад ялінай
Адпачні.
У лясной зялёнай цішы
Голляў гоман закалыша,
І заснеш ты,
Нібы дома,
І дарэшты
Пройдзе стома...

Моўчан.

Як цудоўна! Што за спевы!
Адпачні, паспі пад дрэвам.
Бачыш, вунь яліну тую...

*(Двухсэнсова.)*

Я тым часам павартую.

Жадан, зачараваны мелодыяй, паволі ідзе на галасы. Дрэвы з левага боку працягваюць насустрач галіны-рукі, гатовыя прыняць яго ў свае абдымкі.
У гэты момант з другога боку, як рэха, далятае голас Гусляра:

Гэй, Жадане, Жадане!
Гэй, саколе, саколе!

Жадан *(схамянуўся, падаўся назад).*

Дзед Гусляр! У сне ці сапраўды?

Моўчан *(занепакоена).*

Трызніш ты... Адкуль жа тут Гусляр?

Жадан.

Мог бы тут заснуць я назаўжды...
Дамавінай стаў бы мне гушчар.



Змоўкніце, чароўныя напевы!
Больш ні кроку не ступлю налева.

*(Мелодыя сціхае).*

Жадан *(у роздуме).*

Як жа мне ў кірунках разабрацца?

Моўчан.

Вось гасцінец... Можа да палаца...

Жадан *(жэстам спыняе яго. Сам сабе).*

Па гасцінцы не пайду,
Бо нічога не знайду.

*(Успамінае).*

Трэба ўзяць управа трохі...
Так казалі скамарохі.

Рашуча ідзе ў правы бок. За ім, крыху воддаль, неадступна, як цень, цягнецца Моўчан.
Жадан спыняецца перад дубам, дзівіцца на яго.

Жадан.

Ну і дуб... які высокі.
Шапку ўзняў аж за аблокі.

Моўчан.

Бачыш, вунь цурчыць крыніца.
Ці не хочаш ты напіцца,
Дружа мой?..

Жадан.

Глыток вады
Не пашкодзіць, сапраўды.

*(Ідзе да крыніцы.)*

Дай, крыніца,
Мне напіцца
Чыстай срэбранай вадзіцы!

*(Раптам ногі Жадана пагрузаюць у багну, ён хоча падацца назад, але не можа вырвацца.)*

Ну і здрадная трава —
Ды пад ёй жа тут дрыгва!

Моўчан *(зларадна. Сам сабе).*

Трапіў! З гэтае дрыгвы
Ты не вылезеш жывы...

*(Апамятаўся.)*

Але што я? Ў багне гэткай
Ён загіне разам з кветкай...

Жадан *(намагаючыся выбрацца).*

Цісне, нібы абцугі.
Не магу скрануць нагі.

Моўчан *(з дакорам).*

Ты мяне не слухаў, дружа,
Сам абраў такі кірунак.

*(Падняў сухую галіну, тыркае ў дрыгву.)*

О, ды тут глыбока дужа!
Дзе збавенне? Дзе ратунак?

Спрабуе працягнуць галіну Жадану. У гэты момант зверху раздаецца таямнічы голас. Моўчан адразу адскоквае ўбок, шукае, дзе б схавацца. На адным з сукоў з'яўляецца Пугач. Вялікія вочы свецяцца жоўтым агнём.

Пугач.

У-у-гу! Ку-гу-у!
Я сяджу на ланцугу
І сцяжыну сцерагу.
А хто пойдзе па сцяжыне,
Той загіне!
Той загіне!

Жадан.

Што за голас? Хто такі?
Ці не ажылі сукі?..

Пугач.

Я мудрэц, я пугач,
Знаю тысячу ўдач,
Знаю столькі ж няўдач...

Жадан.

Калі мудрую маеш ты, птах, галаву,
Падкажы, як прайсці мне праз гэту дрыгву.

Пугач.

Не спяшайся, чалавек!
Я сяджу тут цэлы век,—
Не адзін такі храбрэц
Тут знайшоў сабе канец.
Бачыш: там бялее штосьці —
Гэта косці
На пагосце...

Жадан *(нецярпліва)*.

Не ўтрымае нічога...
Дзе, паказывай, дарога!

Пугач.

Падарожнік, прабач,—
Хоць крычы ты, хоць плач,
А сабе ты адзнач:
Любіць кемных пугач.

Жадан.

Што ж я мушу зрабіць,
Каб табе дагадзіць?

Пугач.

Адгадаеш тры загадкі —
Пройдзеш багну і без кладкі.
А не зможаш даць адказу,
Тут табе і смерць адразу.

Жадан.

Годзе, кінь наводзіць страх,
Задавай загадкі, птах!

Пугач.

Дык адказвай, калі знаеш!
Што нікуды не схаваеш?



*(Жадан задумаўся.)*

Спахмурнеў, нібыта цень?..

Жадан.

Сонца яснага прамень!
Бо яго не ўзяць рукою,
Не замкнуць яго ў пакоі.
У цямніцы не схаваць,
Ланцугамі не скаваць.

Пугач.

У-у! Кальнула нешта ў грудзі...
Адгадаў... Скажы тады,
Што рабіць варона будзе,
Як міне ёй тры гады?
Вось падумаеш цяпер ты!

Жадан.

Будзе жыць яна чацвёрты,
Калі часам уначы
Не падловяць пугачы...

Пугач.

У-гу-гу! І ў гэты раз
Мудры ты знайшоў адказ.
Ды з апошняю загадкай
Справа так не пойдзе гладка —
Уляціш ты, хлопча, ў нерат...
Чым, скажы, ідзеш уперад?

Жадан.

Чым? *(Зноў спрабуе вырвацца.)* Нагамі.

Пугач.

У-гу! Ку-га!
І твая прышла чарга!

*(Ногі Жадана яшчэ глыбей грузнуць у багне.)*

Жадан.

Я іду наперад тварам!

Пугач.

Зноў не так!..
А багна цягне...
Тым, хто ўграз у гэтай багне,
Чэрці пяткі мыюць варам.

Жадан *(сам сабе)*.

І няўжо я тут загіну,
Не пабачыўшы Галіну?!.

*(Дастае з-за пазухі кветку. Моўчан прагна глядзіць на яе, высунуўшыся з сваёй схованкі.)*

О, Галінка! Сірацінка!
Адарваная былінка.
У трывозе, у журбе
Думкай я лячу к табе!

*(Спахапіўся.)*

Думкай?..

*(Хавае кветку ў кішэню світкі. Да Пугача.)*

Птах! Схавай свой нерат!
Думкай я іду наперад!

Моўчан *(сам сабе)*.

У кішэні — так лягчэй!
Хоць бы выбраўся хутчэй...

Пугач.

Ты, хлапчына,—
Малайчына.
Адгадаў.
У-гу, ку-гу!
Больш спрачацца не магу.

*(Багна адпускае Жадана.)*

Ты хацеў, хлапец, напіцца —
Дасць табе вады крыніца.

Жадан.

Так, напіцца проста прагну.

Моўчан *(здаля)*.

Не ўваліся зноў у багну!..

Пугач *(рагоча)*.

Дзе тут багна, дзе дрыгва?
Гэта ж траўка-мурава.
Дык ідзі па мурагу.
У-гу, ку-гу!

*(Вочы Пугача гаснуць, ён змаўкае. Жадан, асцярожна ступаючы, ідзе да крыніцы.)*

Жадан *(здзіўлена)*.

Вось дык дзіва! Суха стала!
А дрыгвы, як не бывала!

*(Нахіляецца да крыніцы, п'е.)*

Эх, і слаўная крыніца!
Не вадзіца, а жывіца!

Моўчан *(таксама ідзе да вады)*.

Дык і я пап'ю, мой мілы,
Мо' вада прыбавіць сілы...

Жадан *(глядзіць на дуб. Здзіўлена)*.

Дзе ты там, ку-гу, ку-га?
Ні яго, ні ланцуга...

З-за дуба паяўляецца чалавек у мантыі вучонага з вялікімі акулярамі на носе, цераз плячо перакінут ланцуг.

Моўчан *(зноў хаваецца)*.

Прэч! А то яшчэ пазнае...

Жадан *(да Мудраца)*.

Ты адкуль узяўся тут?!

Мудрэц.

О, юнак, ніхто не знае,
Колькі зведаў я пакут.



Прыкаваны за нагу,
Вось на гэтым ланцугу
Я сядзеў бы з веку ў век
Пад густым зялёным дахам...

Жадан *(перапыняе)*.

Хто ж ты — птах ці чалавек?

Мудрэц.

Каб не ты — застаўся б птахам.

Жадан.

Як жа так? Не разумею...

Мудрэц.

Дык паслухай, дабрадзею.
Мудрацом паміж вучоных
Шмат гадоў лічыўся я.
У краінах незлічоных
Зналі ўсе маё імя.
І нікому я не гнуўся...

Жадан.

Як жа тут ты апынуўся?

Мудрэц.

Смок мяне зачараваў
І да дрэва прыкаваў.

Жадан.

Ды за што цябе ён гэтак?

Мудрэц.

Не раскрыў яму сакрэту
Незвычайнага металу,
Што і ўноч і ўдзень памалу
Адліваў таемна сам я
І ад здрадных воч хаваў.
Смок баяўся, каб часамі
Меч хто-небудзь не скаваў,
Бо тады яму — канец!

Жадан *(узбуджана)*.

Слухай...

Мудрэц.

Слухаю, хлапец.

Жадан.

Ці згадзіўся б памагчы
Ты мне той метал здабыць?
Смоку голаў адсячы
Я пакляўся...

Мудрэц *(падумаўшы)*.

Так і быць!
Быў з яго ланцуг мне скут,
На якім сядзеў я тут.
За збавенне, за ратунак —
Вось табе мой падарунак.
На... Бяры яго... Бяры!..

*(Жадан бярэ ланцуг. Разглядае.)*
Кузню знойдзеш на гары.
*(Паказвае кірунак.)*

Жадан.
Шчыра дзякую, Мудрэц!

Мудрэц.
Будзь здароў! Ідзі, храбрэц!
Я ж падамся ў родны край...

Жадан *(паказвае на непраходную сцяну лесу.)*
Як прабіцца тут, парай.

Мудрэц.
Тры разы па дубу ўдар —
І расступіцца гушчар.
Ну, а там —
Глядзі ўжо сам.
Калі трапіш у бяду,
Дык гукні — і я прыду.

Апошні раз паціскае Жадану руку і ідзе.
Як толькі знікае Мудрэц, Моўчан пакідае сваю схованку.

Моўчан.
Ты на веру не бяры —
Набрахаў, відаць, стары.
Раскусіў я, што за птушка:
Гэта ж, браце, смокаў служка!

Жадан тройчы б'е ланцугом па дубу. Дрэва аддаецца глухім гудам. У бары адгукаецца працяглае рэха. Сцяна лесу расступаецца. Адкрываецца паляна. На пагорку — закураная старая кузня, бярвенчатыя сцены якой глыбока аселі ў зямлю. Шырокія, як вароты, дзверы зачынены.

Жадан *(да Моўчана).*
Ну, ці бачыш, недарэка?
Што ж ты ганьбіў чалавека?!

Моўчан *(зноў з пафасам).*
Дружа мой! Паслухай брата:
Ты даверлівы занадта.
*(Перасцерагальна.)*
Гэта ж зроблена знарок,
Трэба нам звярнуць убок.

Жадан *(адмахнуўся).*
Кінь ты!..
*(Узнімаецца на пагорак.)*
Хто ж працуе тут?
*(Аглядаецца.)*
Гэткі дзікі, змрочны кут...

Рашуча накіроўваецца да кузні. Занепакоены, Моўчан здаля сочыць за падзеямі.

Адгукніся, хто там ёсць!



З рэзкім рыпеннем у абодва бакі павольна адчыняюцца дзверы. Відаць нутро кузні. У горане палае вуголле. Адзін каваль раздзімае горан. Другі каваль, з чорнай барадой, кранутай сівізной, нешта куе. Абодва кавалі раздзетыя да пояса. Калі дзверы расчыніліся насцеж, старэйшы каваль падыходзіць да парога, не пераступаючы яго.

Старэйшы каваль.
Ты адкуль і хто ты, госць?

Моўчан *(сам сабе).*
Кавалі!.. Яшчэ жывыя...
Каб груган ім вочы выеў!..
*(З надзеяй.)*
Не пазнаюць... Не... Нічога...
Прамінула часу многа...

На ўсякі выпадак трымаецца ўбаку, каб быць не надта заўважным.

Жадан.
Я — Жадан. Прышоў здалёк,
З вёскі Ніжні Астравок.

Старэйшы каваль *(узрушана).*
З Астраўка, гаворыш?

Жадан.
Так.

Старэйшы каваль *(кліча малодшага каваля).*
Брат! Глядзі — прышоў зямляк!

Малодшы каваль *(усхвалявана).*
Колькі год, як Чарадзей
Тут схаваў нас ад людзей!
Аж не верыцца ніяк —
Чалавек... Жывы... Зямляк...

*(Працягвае рукі да Жадана. Жадан кідаецца яму насустрач.)*

Старэйшы каваль *(спыняючы Жадана).*
Супыніся! Стой, Жадан!
Бо парог зачараван.
Пераступіш — і ніколі,
Як і мы, не ўбачыш волі.
Хто назад ступіць пасмее,
Той уміг акамянее.

*(Жадан спыніўся перад самым парогам.)*

Малодшы каваль *(засмучана).*
Эх, Жадане! Эх, зямляча!
Толькі раны разбярэдзіў...
Недзе маці горка плача,
І сумуе бацька недзе...

Старэйшы каваль.
Вось што я скажу, браток:
Лепш вяртайся ў Астравок,
Бо загінеш без пары
Ты ў заклятым гушчары.

Ж а д а н.

Дзякуй за перасцярогі,
Ды назад — няма дарогі.
Нават хай на кожным кроку
Смерць мяне пільнуе ў змроку, —

Не спынюся я, пайду,
Смока лютага знайду.
Стануць горы — горы зрушу,
А яму адпомсціць мушу.
Дзе ні днюю, ні начую,
Я адно і тое ж чую —
Словы гнеўныя Лявона,
Што казаў ён перад сконам...

М а л о д ш ы к а в а л ь.

Гэта ж бацька наш — Лявон!

С т а р э й ш ы к а в а л ь.

Ён памёр?

Ж а д а н.

Загінуў ён...

М а л о д ш ы к а в а л ь.

Як?

Ж а д а н.

Пад шабляй Цівуна.

С т а р э й ш ы к а в а л ь.

А матуля?

М а л о д ш ы к а в а л ь.

Што яна?..

Ж а д а н.

А яна —
Цяпер адна.

М а л о д ш ы к а в а л ь.

Эх, які пакутны лёс!..
Утрываць не ў сілах слёз...

С т а р э й ш ы к а в а л ь.

Небаракі... Бедакі...

Ж а д а н.

Дык і мне ж яны — бацькі:
Падабралі
Сіраціну,
Гадавалі
Нібы сына...

М а л о д ш ы к а в а л ь.

Браце, любы! Я з табой
У любы гатовы бой..

С т а р э й ш ы к а в а л ь.

Як табе дапамагчы
Смоку голаў адсячы?

Ж а д а н.

Вось што... Слухайце, браткі.
Маю я метал такі, —
Калі меч з яго скаваць



І як след загартаваць...
Сцеражыся, Смок, тады!

С т а р э й ш ы к а в а л ь.

Дык давай яго сюды!

*(Жадан кідае ланцуг цераз парог. Кавалі паднімаюць яго.)*

С т а р э й ш ы к а в а л ь.

О, брат, з гэтага металу
Меч скуем мы небывалы.

М а л о д ш ы к а в а л ь.

Хоць каменні ім сячы —
Ні зубрынкі на мячы!
Меч, браток, на славу будзе.

С т а р э й ш ы к а в а л ь.

Ну, няма чаго марудзіць.
Мы пачнем...

*(Да Жадана.)*

А ты вадзіцы
Прынясі вунь з той крыніцы.

*(Паказвае на два вялікія цэбры, што стаяць ля ўваходу.)*

Ж а д а н.

Зараз!

*(Бярэ цэбры, ідзе да крыніцы пад дубам, набірае ваду.)*

М о ў ч а н *(азіраючыся ў бок кузні, падыходзіць да Жадана).*

Я... дапамагу.

*(Спрабуе падняць цэбар.)*

Нават зрушыць не магу!..

Ж а д а н *(смяецца.)*

Эх, няўцяпа!.. Паглядзі...

*(Скідае світку, кладзе на зямлю, лёгка паднімае абодва цэбры.)*

Як не можаш, дык сядзі!

Ж а д а н нясе ваду да кузні. У кузні ідзе напружаная работа: раздаецца звон металу, суладна стукаюць па кавадлах молаты.

К а в а л і *(у такт рабоце).*

Бі, браток,
Малаток!
Бі ямчэй
Ды званчэй!
Раз — удар!
Два — удар!
Разгарайся.
Ў горне жар!
Разгарайся
Ярчэй!
Разгарайся
Гарачэй!
Смоку смерць
Скуём хутчэй!

Жадан ставіць цэбры на парог. Сам загледзеўся і заслухаўся. Тым часам Моўчан хапае жаданаву світку, дрыжачымі рукамі дастае кветку. Кветка ў руках Моўчана адразу згортвае пялёсткі і цямнее.

Моўчан.

Дачакаўся... Кветка! Вось яна!

*(З гонарам.)*

Я пляваў цяпер на Цівуна!

Старэйшы каваль. *(падыходзіць да парога, каб узяць цэбар з вадой).*

Загартуем зараз меч...

*(Раптам убачыў унізе Моўчана.)*

Хто там?

Моўчан *(сам сабе).*

Ну, адгэтуль прэч!

Жадан азірнуўся: Моўчан ужо знікае ў гушчары.

Жадан *(усё зразумеў).*

Кветка... Кветка! І чаму
Я даверыўся яму!

Кідаецца наўздагон.
У гушчары раздаецца крык пеўня. У той жа час з-за кустоў выбягаюць дружыннікі, накідваюцца на Жадана. Следам выходзіць Моўчан. Цівун назірае з-за куста.

Цівун *(здалёк камандуе).*

Па нагах яго сячы,
Каб не здолеў уцячы!

Моўчан.

Справа! Злева! — Насядай!
Перадышкі не давай!

Жадан.

Ах, падлюга!

Моўчан *(зларадна смяецца).*

Што ты, зяць?..

Жадан на момант вызваляецца ад дружыннікаў. Моўчан спалохана адбягае.

Гэй, вязаць яго! Вязаць!

Кавалі спрабуюць падаць Жадану меч. Але дружыннікі накідваюць яму на ногі пятлю. Жадан падае. Барацьба працягваецца. Меч, бразнуўшы аб парог, са звонам падае на зямлю. Жадан цягнецца да яго рукой.

Моўчан *(да аднаго з дружыннікаў).*

Што глядзіш? Адцягвай меч!
Бо галовы здыме з плеч.

Дружыннік хапаецца за рукаятку меча, але падняць яго не можа. Малодшы каваль узнімае молат.

Малодшы каваль.

Брат! Іду!

*(Кідаецца за парог.)*



Старэйшы каваль.

Ты што? Здурнеў!

Малодшы каваль застывае з узнятым угору молатам. Дружыннік, які спрабаваў падняць меч, сячэ каваля шабляй па плячы. Шабля ламаецца напалам.

Старэйшы каваль.

Позна... Ўсё... Акамянеў...

*(Дружыннікі абкручваюць Жадана вяроўкай.)*

Цівун *(пераможна).*

Ты ў палац хацеў прабрацца...
Што ж, пацягнем да палаца!

Моўчан *(з іроніяй).*

Сніў і марыў аб нявесце,
Каб Галінку ў дом прывесці.
Дык цябе ў бары дрымучым
Мы з асінаю абручым!

Жадан *(таксама іранічна).*

Вельмі ўдзячны, «любы» цесць,
За тваю такую чэсць.
Але ты занадта рана
Абручыць схацеў Жадана.

Цівун.

Эт, дарма марнуем час —
Не ўцячэ цяпер ад нас!..

*(Адзывае Моўчана на авансцэну.)*

Моўчан *(да Цівуна).*

Столькі страху нацярпеўся...

Цівун *(нецярпліва).*

Годзе!.. Дбаеш аб сабе ўсё...
Кветку зараз жа давай!

Моўчан.

Кветку?

*(Вымае кветку з-за пазухі і зноў хавае.)*

Трошкі пачакай...
Я не бачу ўзнагароду...

Цівун.

Будзеш мець... не пройдзе году...

Моўчан.

Ці не так, як за дзяўчыну?

Цівун.

Ах, яшчэ ты строіш кпіны?!

*(Хапаецца за шаблю. Грозна наступае на Моўчана.)*

Даставай! Без слоў!.. А то...

*(Замахваецца шабляй.)*

Моўчан *(спалохана курчыцца).*

Я ж — нічога... Я ж — нішто...

*(Падае Цівуну кветку.)*

Цівун.

Ну, давай адгэтуль... Ходу!
*(Смяецца.)*
І чакай узнагароду.
*(Да дружыннікаў.)*
Пабягу да Чарадзея.
Далажу яму. А вы...
Не ўпільнуеце зладзея —
Быць усім без галавы!
*(Ідзе.)*

Моўчан.

Служыш верна, як сабака,
І такая вось падзяка.
*(Ідзе следам за Цівуном.)*
Пачакай, зладзюга, трошку —
Дам табе яшчэ падножку!
*(Знікае.)*

Дружыннікі спрабуюць весці Жадана. Ён напінаецца, сабраўшы ўсе сілы,— вяроўкі рвуцца. Дружыннікі зноў накідваюцца на яго. Разгараецца новая бойка.
З лесу выбягаюць Алесь і Адась.

Алесь *(з рагацінай наперавес)*.

Бі іх, вылюдкаў! Гані!

Адась *(размахвае доўбняй)*.

Пакаштуеце даўбні...
*(Жадан вызваліўся ад часткі дружыннікаў, завалодвае мечам.)*

Жадан.

Ну, ратуйся хто як можа,
Бо ніхто не дапаможа!

Дружыннікі бягуць у лес. Некалькі засталося ляжаць. Аднаго Алесь і Адась узялі ў палон. Алесь вяжа яму рукі кавалкам вяроўкі, якой быў скручаны Жадан.

Жадан *(вітаючыся з Алесем і Адасем)*.

Як вы ў гэтым гушчары
Апынуліся, сябры?

Алесь.

Нас Гусляр прывёў сюды.

Жадан.

Дзе ж ён?..

Гусляр *(выходзіць з гушчара)*.

З вамі, як заўжды.
*(Кладзе руку на плячо Жадана.)*
Эх, Жадане! Мой ты дружа!
І разумны ты і дужы,
Але смокавых дружын
Не адолееш адзін.



Адась.

Ты пайшоў і мы ў дарогу:
Да цябе, на дапамогу.

Жадан.

Дзякуй, хлопцы... Каб не вы,
Мо' не выбраўся б жывы.

Алесь.

У крыўдзе мы былі вялікай,
Што з сабой нас не паклікаў.

Гусляр.

Ведай, брат: сябры нідзе
Не пакінуць у бядзе.

Жадан.

Праўду кажаш. Да палаца
Будзем разам прабівацца.

Алесь.

Але як?

Каваль *(з кузні)*.

Браты! Я знаю:
Там сцяжына ёсць лясная.
Над лагчынаю яліна
Лапы звесіла свае.
Пачынаецца сцяжына
Да палаца ад яе.
Толькі трэба ведаць слова,
Каб адкрыць вароты моста...

Жадан.

Слова? Гэта вельмі проста.
Нам яго палонны скажа.

Адась.

А інакш — пад шабляй ляжа...

Палонны.

Пашкадуйце!.. Усё скажу...
Нават сцежку пакажу...

Жадан *(да Каваля)*.

Ну, бывай.

Каваль.

Бывай, Жадане.
Як без вас мне сумна стане...
Колькі летаў, колькі зім
Буду я адзін зусім.

Жадан.

Не тужы...

Гусляр.

Павер Жадану —
Брат твой будзе ўратаваны.
Галаву знясем пачвары —
Страцяць сілу злыя чары.
Ажыве твой брат адразу —
На радзіму пойдзем разам.

А д а с ь.

Ну, пайшлі шукаць сцяжыну.

Ж а д а н.

Пачакай. Адну хвіліну.
Мы павінны да палаца
Незаўважнымі дабрацца.
Нам, сябры, падумаць варта...

А л е с ь.

Вось, як мы абыйдзем варту!

Зрывае з галавы палоннага шлем, адзявае на сябе. Прымае ваяўнічую паставу.

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Карціна пятая

Г у с л я р *(на авансцэне грае на гуслях).*

Хмары чорныя збіраюцца,
Каб навек святло схаваць,
Але промні прабіваюцца,
І нічым іх не скаваць.
Бачу я над вершалінамі
У дрымотным гушчары
За кашлатымі ялінамі
Водбліск ранішняй зары.
Узнімайся вышай, сонейка,
Ззяй, нястомнае, ўгары.
Хатам, нівам і сасоннікам
Дзень шчаслівы падары!
Адчыні скляпенні змрочныя,
У цямніцы зазірні,
Шчодра кветкамі святочнымі
Край наш родны апрані!
Усё больш прасветы ў хмарах,
Сінь нябёсаў мне відна.

*(Паўза.)*

Але што з Галінкай зараз?
Як трымаецца яна?

*(Ідзе.)*



Адкрываецца заслона. Пакой у смокавым палацы. Толькі-толькі пачынае днець.
Г а л і н к а ля акна.

Г а л і н к а.

Вось і золак. Гаснуць зоркі.
Запаўзае ў норы цень.
Хутка дальнія пагоркі
Залаты кране прамень.
Рада сонечнаму ранку
Ў лесе птушка-берасцянка.
Ветра свежага павеў
Падхапіў яе напеў...
Травы свецяцца ў расе...
Ранак! Што ён прынясе?..

*(Уваходзіць Чарадзей.)*

Ч а р а д з е й *(стараючыся надаць голасу адценне спагады).*

Так і прастаяла ля акна
Са сваёй самотай да відна...
Знай жа, я самоты не люблю...
Зараз я цябе развесялю!

Г а л і н к а *(насцярожылася, не ведаючы, што яе чакае, пакутна ўздыхае).*

Ох!

Ч а р а д з е й *(трацячы цярплівасць).*

Абрыдлі ахі, вохі!

*(У бок дзвярэй.)*

Варта! Дзе там скамарохі?

*(Вартавыя ўштурхоўваюць скамарохаў.)*

Г а л і н к а *(узрадавалася, убачыўшы знаёмых).*

О, дзядзькі!

*(Кідаецца да іх.)*

П е р ш ы  с к а м а р о х.

Не плач, дачушка.

Ч а р а д з е й *(адхіляе Галінку ад скамароха).*

Так, навошта слёзы, птушка!..

*(Да першага скамароха.)*

Ты, старэча, маеш розум.
Дык падумай, будзь цвярозым.

*(У гэты момант уваходзіць Цівун.)*

Ч а р а д з е й *(да Цівуна, нездаволена).*

Што прынесла цябе не ў час?

Ц і в у н.

Вестка добрая ёсць для вас.

Ч а р а д з е й.

Вестка?.. Ну, гавары хутчэй!

Ц і в у н.

Тут замнога чужых вушэй...

Чарадзей і Цівун адыходзяць убок. Цівун нешта шэпча Чарадзею на вуха, той, відаць, задаволены.

Першы скамарох *(да Галінкі, пакуль не бачыць Чарадзей).*

Не палохайся нічога,
Хутка прыдзе дапамога...

Чарадзей *(да скамароха).*

Што ты ўводзіш ёй у вушы?
Замаўчаць навек прымушу!
Бачыш?.. Вольнічаць прывык.
Скарачу табе язык,
Бо занадта стаў вялікі.

Першы скамарох.

Што вы, пане... Як маглі...

Чарадзей *(не хоча слухаць).*

Для чаго я вас паклікаў?
Каб вы мне дапамаглі.

Першы скамарох.

Мы?.. Табе дапамагчы?

Другі скамарох *(у запале).*

Лепш памерці!

Першы скамарох *(засцерагальна).*

Памаўчы!..

Цівун адразу хапаецца за шаблю, гатовы расправіцца са скамарохамі. У час размовы непрыкметна з-за полага ля ўваходу паказваецца Моўчан. Ён жэстамі паказвае Чарадзею на грудзі Цівуна.

Чарадзей *(да Цівуна).*

Стой! Не трэба гарачыцца.
'Шчэ паспеем разлічыцца.
Бачу — верны ты служака,
Будзе добрая падзяка.
*(Пляскае Цівуна далоняй у грудзі. Насцярожыўся.)*
Што ў цябе там?

Цівун *(спалохана).*

Ды нічога...
Луста... хлеба... на дарогу...

Чарадзей.

Луста? Хлеба?
Пакажы!
*(Цівун спрабуе нешта гаварыць, але ад страху ў яго заняло дух.)*
Ну, хутчэй! І не дрыжы!

Цівун дрыжачымі рукамі дастае кветку. Яна, счарнелая, са згорнутымі пялёсткамі, падае на падлогу. Чарадзей адразу падхоплівае яе.

Другі скамарох.

Кветка... ў Смока... У палацы...

Першы скамарох *(сам сабе).*

Як магло такое стацца?!

Чарадзей.

А-а, Жаданава знаходка!..
Вось чаго ўзяла дрыготка.



Ашуканец! Здраднік! У-ух!
Я з цябе дастану дух!
*(Цівун падае перад Чарадзеем на калені.)*

Цівун.

О, магутны Чарадзею!
Не хлусіў ні ў чым, ні́дзе я...
Спакусіўся толькі раз...
Дык прашу, малю я вас...

Чарадзей.

Што скуголіш? Кінь выццё!

Цівун.

Не губіце мне жыццё!..

Чарадзей.

Дараваць злачынства? Здраду?
*(Вырывае ў Цівуна бізун. Да дружыннікаў.)*
Гэй! Узяць!
На плаху гада!
*(Дружыннікі хапаюць Цівуна, валакуць у дзверы.)*

Чарадзей *(падзывае Моўчана).*

Заслужыў! Трымай бізун!
Ты ў мяне цяпер цівун!

Моўчан *(прымае бізун, становіцца на калені).*

Ды за гэткі гонар я
Рад старацца утрая...

Галінка *(толькі цяпер убачыла Моўчана).*

Вось які ты... Гаспадар...
Як людзям глядзеў у твар?!.

Чарадзей *(да ўсіх).*

Падзівіцеся з акна,
Як караюць Цівуна!

Скамарохі і Галінка падпарадкуюцца, глядзяць у акно. Знадворку чуецца немы крык. Галінка збялела, адхілілася ад акна, закрыла твар рукамі.

Галінка.

О, як страшна!

Другі скамарох.

Нібы ў пекле...

Моўчан *(са зларадна́й усмешкай).*

Вось і рукі ўжо адсеклі.

Першы скамарох *(супакойвае Галінку).*

Не палохайся, дачка,
Калі рэжа воўк ваўка.

Чарадзей.

Воўк ваўка?
А што ты скажаш,
Калі сам на плаху ляжаш?
Вас абодвух смерць такая

Пад маім акном чакае,
Калі сёння да цямна
Згоду мне не дасць яна.
Чуеш?

Першы скамарох.

Чую.

Чарадзей.

Ды глядзіце!..
Перш за ўсё — развесяліце,
Каб не кнігаўкай самотнай
Да мяне яна прышла,
А зязюляй бестурботнай
Ля мяне яна была...

*(Да Моўчана).*

Ты ж, Цівун, гукні дружыну
Ды ідзі збіраць даніну!

*(Моўчан ідзе.)*

*(Зноў да скамарохаў.)*

Што павесілі насы?
Ці прапалі галасы?
Пачынайце!

*(Адыходзіць убок.)*

Першы скамарох *(пакорліва).*

Слухаемся вас...

*(Да другога.)*

Як мага цягнуць нам трэба час.

Скамарохі пачынаюць прадстаўленне.
Другі скамарох садзіцца на падлогу, трымаецца за галаву.

Першы скамарох.

Сэнкер-Вэнкер!
Што баліць?
Ці не трэба падлячыць?

Другі скамарох.

Галава ажно трашчыць.

Першы скамарох.

Баліць табе галава —
Пабрыць яе дагала,
Тройчы паленам ударыць,
Гарачай вадою прыпарыць.

*(Робіць жэст у бок Смока, які адвярнуўся.)*

От і галава будзе здарова.
Яшчэ што баліць?

Другі скамарох.

Зубы.

Першы скамарох.

Разбіць табе і губы.

*(Зноў жэст у бок Смока.)*



Крові лішку
Не пусціць,
Яловую шышку
Ў рот забіць.
От і зубы будуць здаровы...
Яшчэ што баліць?

*(Галінка, зразумеўшы красамоўныя жэсты скамароха, упершыню заўсміхалася.)*

Чарадзей *(адчуўшы падвох, перапыняе прадстаўленне. Злосна).*

Зразумелі мой загад?!

*(Пайшоў. Абарочваецца. Пагрозна.)*

Я прыду!

*(Знікае.)*

Другі скамарох.

Каціся, гад!

Галінка.

Што рабіць цяпер мне? Што парадзіць?
Лепш загінуць, чым каханню здрадзіць!

Першы скамарох.

Не тужы... Жадан ідзе сюды...

Другі скамарох.

Хутка ўсе мы вырвемся з бяды.

Галінка.

О, Жадане! О саколе мілы!
Хай табе ў шляху не здрадзяць сілы.
Хай табе, мой любы, ўсе дарогі
Дыванамі сцелюцца пад ногі.
Хай табе магутныя вятры
Просеку праб'юць у гушчары!
Не спазніся! Бо турэмшчык люты
Хутка ўсіх нас кіне на пакуты.

Першы скамарох.

Чарадзею ў нас —
Адзін адказ...

Другі скамарох.

Згоды не пачуе ён ад нас...

Галінка.

А калі ратунак не паспее,
Не мінуць вам кары Чарадзея...
Як жа быць мне?

Першы скамарох.

Будзь такой, як ёсць.
Кожны з нас на свеце —
толькі госць.
Хіба можа стацца цуд такі,
Каб пражыць узапар два вякі?

Другі скамарох *(горача).*

І аб нас не турбуйся, не...

Галінка.

О, як страшна, як жахліва мне!

*(Уваходзіць Чарадзей. Пагрозна глядзіць у бок скамарохаў, ледзь стрымліваючы гнеў.)*

Чарадзей *(да Галінкі, зноў стараючыся быць лагодным).*

Страшна? Ды падумай лепш сама:
Страху тут ніякага няма.
Ці ж магла, дзяўчо, раней ты марыць,
Што ў палацы будзеш гаспадарыць;
Што твае нядаўнія падружкі
Будуць дагаджаць табе, як служкі;
Што жыццё і смерць, любоў і страх
Будзеш ты ў сваіх трымаць руках.
Чарадзейка слаўная мая!..
Усё табе скарыцца... Нават я...
Буду і прыветны і лагодны...
Дык скажы мне, кнігаўка, ці згодна?

Галінка.

Не пытай: дарэмна траціш час.
Я табе дала ўжо свой адказ.

Чарадзей *(даючы волю гневу, да скамарохаў).*

Здраднікі! Я вашы чуў размовы.
Зараз паздымаю з вас галовы!
*(Да першага скамароха.)*
Што?.. Маўчыш?!
*(Да другога скамароха.)*
І ты цяпер прыціх?
*(Да варты.)*
Гэй! Узяць! На плаху абаіх!
*(Дружыннікі хапаюць скамарохаў.)*
*(Да Галінкі.)*
Самі, бач, спяшаюцца памерці...

Галінка *(Да Чарадзея).*

Ды за што?!
Яны не вінаваты!

Чарадзей.

Гм... Калі б разумнаю была ты...
Дык жылі б яны да самай смерці.
Нас з табою —
Птушкаю маёю —
Забаўлялі б з вечара да рана...
Ну, яшчэ не позна...
А Жадана
Лепш забудзь: дарэмная надзея.
Ён ужо ў палоне ў Чарадзея.

Галінка.

У палоне?

Першы скамарох.

Не, не можа быць!



Чарадзей.

Што ж, магу я ласку вам зрабіць.
Раз ужо вам гэтак пажадана,
Пакажу я вашага Жадана.

Тройчы пляскае ў далоні. Служка нясе куфэрак, упрыгожаны каштоўнымі каменнямі, ставіць яго перад Чарадзеем.

Чарадзей *(дастае з куфэрка кветку, працягвае Галінцы).*

На, глядзі. Яна пакажа,
Як Жадан... на плаху ляжа.

Кветка ў руках Галінкі адразу ажывае, раскрывае пялёсткі, свеціцца. Чарадзей адхінаецца, засланяе вочы далоняй.

Галінка *(глядзіць у кветку).*

Ой, дзядзькі!..

Першы скамарох.

Чаго ты плачаш?
Раскажы хутчэй, што бачыш!

Другі скамарох.

Не марудзь жа, гавары!..

Галінка.

Вось ідзе ён па двары...

Першы скамарох.

Хто?

Галінка.

Жадан... Закуты рукі...
Два дружыннікі, як крукі,
Неадступна ўслед ідуць...
І Гусляр!.. яго таксама...
Вось... Ужо ля самай брамы...
Паднімаюцца сюды...

Першы скамарох.

Што ты кажаш?..

Другі скамарох *(заглядае ў кветку).*

Сапраўды...

Першы скамарох *(таксама падышоў да Галінкі).*

Так. Ужо каля ўваходу.

Чарадзей *(пераможна).*

Ну, цяпер дасі мне згоду?

Вырывае ў Галінкі кветку, кідае ў куфэрак.
Галінка маўчыць.
Двое дружыннікаў уводзяць у пакой Жадана і Гусляра.
На руках у Жадана — кайданы.
Галінка кідаецца Жадану на грудзі.

Галінка.

Любы мой!
Цяпер нас не разлучаць!
Я з табой — і больш не знаю страху.

Чарадзей (*гнеўна*).

Зараз кат сякерай вас абручыць.
(*Да дружыннікаў.*)
Гэй! Узяць! Адвесці ўсіх на плаху!
(*Дружыннікі не кранаюцца з месца.*)

Жадан.

Не спяшайся гэтак, Чарадзей...
(*Падымае рукі, штучныя кайданы рвуцца і са звонам падаюць на падлогу.*)
Мы прышлі адпомсціць за людзей!

Чарадзей (*да дружыннікаў, крычыць*).

Ці майго не чулі вы загаду?
Што такое? Ашуканства? Здрада?
(*Дружыннікі — гэта пераапранутыя Алесь і Адась — падаюць Жадану меч, шчыт і шлем.*)

Адась.

Ну, цяпер трымайся, ліхадзей!

Гусляр.

Не прадбачыў гэтакіх падзей?!

Жадан, узняўшы меч, ідзе на Чарадзея. Чарадзей адступае да самай сцяны. Дываны расхінаюцца, прапусціўшы яго, і зноў сыходзяцца. У пакоі робіцца амаль цёмна.

Жадан.

Не, табе так лёгка не ўцячы.
Ну, цудоўны меч, сячы!

Рассякае дываны. У той жа час адтуль высоўваецца пачварная галава Смока, якая агульнымі рысамі нагадвае аблічча Чарадзея. У ілбе асляпляльна свеціцца адзінае вока. З рота шугае полымя.
Жадан уступае ў бойку са страшыдлам.
Алесь і Адась абараняюць уваход ад дружыннікаў. Скамарохі, узброіўшыся хто чым, дапамагаюць ім.

Гусляр (*да Жадана*).

Сцеражыся смокава агню!

Жадан (*рашуча кідаецца наперад*).

Зараз у зямлю яго ўганю!

Смок, злаўчыўшыся, выбівае ў Жадана шчыт. Алесь і Адась пасяваюць закрыць яго сваімі шчытамі. Галінка кідаецца, каб падняць Жаданаў шчыт, і натыкаецца на куфэрак.

Галінка.

Кветка шчасця! Кветка дапаможа!

Адчыняе куфэрак, дастае кветку, прымацоўвае яе да шчыта.
Гусляр падае шчыт Жадану.

Гусляр.

На, Жадан! Цяпер мы пераможам!

Пакой напаўняецца ясным белым зззяннем кветкі. Смокава вока гасне. Асляплены Смок адварочвае галаву ад Жаданавага шчыта. У той жа момант Жадан ссякае Смоку галаву. Смок б'ецца ў перадсмяротнай агоніі, паступова заціхае.



Жадан (*выцірае з ілба пот*).

Вось і ўсё...

Алесь.

Канец цяжкому бою...

Адась.

Так, усё...

Галінка, радасная, з працягнутымі рукамі ідзе да Жадана.
У гэты момант Смок заварушыўся, пырснуў полымем на Галінку.
Яна падае мёртвая.

Жадан (*кідаецца да Галінкі*).

Галінка! Што з табою?
(*Нахіляецца да яе.*)
Як шукаў, як рваўся да цябе...
Сэрца захлынаецца ў жальбе...
Шчокі пабялелі, як ад сцюжы...
(*Бярэ Галінку на рукі, асцярожна цалуе.*)
Вось які мой першы пацалунак...
І няўжо...

Гусляр.

Не трэба... Слухай, дружа:
Веру я, што знойдзецца ратунак.

Заслона.

## Карціна шостая

Жытнёвы палетак упіраецца ў абрывісты бераг возера. З аднаго боку віднеецца ўскраіна вёскі. На палетку жнеі. Сярод іх — Леваніха і Параска.

Жнеі (*спяваюць. Запявае Параска*).

Сонейка каля елі —
Мы яшчэ нічога не елі,
Сонейка каля дубу —
Я палуднаваць буду,
Сонейка на заходзе —
Працаваці нам годзе.
Сонейка за бярозку —
Я сцяжынкаю ў вёску.
Сонейка заходзіць —
Свой свайго знаходзіць.
А я ў хату увайду
Ды свайго не знайду.
Бо мой любы да сонейка
Сеў на добрага коніка,
Паскакаў у раздолле
За шырокае поле.

*(З'яўляецца Моўчан. У руках у яго бізун.)*

М о ў ч а н *(да жней).*

Вось чаму марудна гэтак
Дажынаеце палетак!
Праспявалі цэлы дзень.
Вашы песні — гэта дрэнь.
Я такога не сцярплю,
Скуры з вас усіх злуплю!

Г а л а с ы.

— Ну й цівун!
— Люцей старога!

М о ў ч а н.

Што такое?

Г а л а с ы.

— Так...
— Нічога...

М о ў ч а н.

Час даўно ўжо здаць даніну...
Абібокі! Лайдакі!
Вы ж удзячны быць павінны,
Што цівун у вас такі.

П а р а с к а.

Мы і ўдзячны!..

Л е в а н і х а.

Бачыць неба —
Ты пакінеш нас без хлеба.

М о ў ч а н.

Што?!.

*(Падбягае да Леваніхі, замахваецца бізуном. Параска выходзіць наперад, засланяе Леваніху.)*

П а р а с к а.

Раз'юшыўся Цівун!
Апусці ты свой бізун!

М о ў ч а н *(замілавана пазірае на Параску, ляскае бізуном сабе па халяве).*

Ну, цішэй, красуня, ціха!..
Трэба ўладу паважаць.
Менш спявалі б з Леваніхай,
Дык хутчэй бы сталі жаць!..

*(Зусім лагодна.)*

Я цябе... цябе, Параска,
Запрашаю, калі ласка...
Да мяне... у мой пакой...
Будзеш ты ў мяне дачкой...
І ніколі, і ні ў чым...



П а р а с к а *(перапыняе).*

Хопіць! Вось яшчэ айчым!

*(З пагардай адвярнулася.)*

Г а л а с ы.

— Ну й Параска!
— Ну й дзяўчына!
— Збіла пых яго ваўчыны!

М о ў ч а н.

Што? Маўчаць!

Г а л а с ы.

— Маўчым!
— Маўчым!
— Сапраўды, нібы айчым...

П а р а с к а, Л е в а н і х а, ж н е і зноў бяруцца за работу. М о ў ч а н ходзіць наўкол, як наглядчык. Раптам спыняецца, пачуўшы далёкія галасы. Углядаецца.

М о ў ч а н *(занепакоены).*

Хто гэта?.. Здаецца — не дружына...
А яна даўно прысці павінна...

*(Усе спыняюць работу.)*

П а р а с к а.

Паглядзіце! Там ідзе Жадан!

М о ў ч а н *(спалохана).*

Што вярзеш ты?

*(Сам сабе.)*

У вачах туман...

Г а л а с ы.

— Праўда!
— Ён!
— А на руках — дзяўчына...

М о ў ч а н *(у адчаі).*

Дзе мая падзелася дружына?!

Спрабуе знікнуць, але ж н е і не пускаюць яго. Да натоўпу далучаюцца м у ж ч ы н ы-к а с ц ы.

З'яўляецца Ж а д а н з Г а л і н к а й на руках, А л е с ь, А д а с ь. Г у с л я р, к а в а л і, с к а м а р о х і.

Усе радасна кідаюцца насустрач, але, убачыўшы мёртвую Галінку, застылі ў маўчанні.

П а р а с к а.

Што з Галінкай?

Ж а д а н *(у роспачы).*

Смока перамог,
А яе... Галінку... не ўбярог...

Г а л а с ы *(прыглушана)*:

— Смок забіты!..
— Сканаў Чарадзей!..

Параска (*над Галінкай*).

Што з табою зрабіў ліхадзей?!.

Моўчан (*зноў спрабуе вырвацца*).

Быць не можа! Ўсё гэта мана!

Алесь.

А, ты тут!

Адась.

Ужо — за цівуна!..

(*Жанчыны выштурхоўваюць Моўчана наперад.*)

Моўчан (*супраціўляецца*).

Бунт! Паўстанне!

Галасы.

— Не крычы!
— Адкрычаўся — і маўчы!
— Не ўцячэш!
— На месцы тут
Над табой мы справім суд!

Моўчан.

Гэй, дружына!

Алесь.

Ад дружыны
Знікнуць хутка і ўспаміны!

Алесь і Адась, наставіўшы шаблі, пагрозна насоўваюцца на Моўчана. Той у жаху адступае. Людзі моўчкі расступаюцца, пакідаючы сцежку да возера.

Моўчан (*ужо ля самага абрыву*).

Не губіце!.. Пашкадуйце!..

Узмахнуў рукамі, нібы хапаючыся за паветра. Падае з абрыву. Даносіцца прыглушаны крык:

«Ой, ратуйце!.. Ой, ратуйце!..»

Усе зноў вяртаюцца да Жадана і Галінкі, абступіўшы іх шчыльным кальцом.

Жадан.

Колькі гора і пакут!..
О, Мудрэц! Каб ты быў тут...

Галасы.

— Гляньце! Хто гэта ідзе?

Рассоўваючы натоўп, выходзіць Мудрэц. Усе здзіўлена глядзяць на яго.

Мудрэц (*да Жадана*).

Я пачуў, што ты ў бядзе
І прышоў — былы Пугач...

(*Жадан намыкаецца расказаць яму, што адбылося.*)

Не, не трэба... Не тлумач...
Знаю ўсё...
Вядома мне —
Тут крыніца ёсць на дне



І калі жывой вадой,
Што цячэ ў крыніцы той,
Твар дзяўчыне акрапіць,
Потым даць яшчэ папіць,
Ажыве ураз яна.

Галасы.

— Як дастаць ваду са дна?..

Жадан, нічога не гаворачы, кідаецца да берага, скідае світку. У гэты момант раздаецца шум вады.

Голас Русалкі.

Не спяшайся, сынок,
Да пагібелі — крок!
Хто ў крыніцу нырне,
Застанецца на дне!..

Русалка выходзіць на бераг. У руках у яе конаўка з лілеевых лісцяў. Яна падыходзіць да Галінкі, пырскае ёй вадою ў твар. Галінка заварушылася. Русалка дае ёй тры глыткі.

Русалка.

Зараз вернецца жыццё...

(*Адыходзіць да вады, развітальна працягвае рукі да Жадана.*)

Мне ж — навек у забыццё.
Больш не выйду я з вады,
Апушчуся назаўжды,
Бо сягоння — не ў Купалле —
Я пасмела выйсці з хваляў.

(*Ужо каля самага берага.*)

Дык бывайце!.. Дык бывайце!..
Не гукайце!..
Не чакайце...

(*Павольна апускаецца з абрыву. Да Жадана.*)

Кветку-папараць хавай!..
Сын! Бывай!..

Жадан.

Бывай!..

Усе разам (*упаўголаса*).

Бывай!..

(*Маўчанне.*)

Галінка зусім акрыяла. Жадан абдымае яе.
Да іх падбягае Параска, падыходзіць Леваніха.

Леваніха (*радасна*).

Ты, Галінка, нібы ружа!

Гусляр (*да Жадана*).

Шчасце блізка ўжо, мой дружа!

Параска.

Як я рада бачыць зноўку
Сваю любую сяброўку!



**Брыгада токараў Андрэя Хацько на Магілёўскім заводзе пад'ёмна-транспартнага абсталявання спаборнічае за званне калектыву камуністычнай працы. Члены гэтай брыгады дружныя не толькі на вытворчасці, але і ў вучобе, і ў гадзіны адпачынку. Яны разам ходзяць у кіно, наведваюць тэатр. Усёй брыгадай прышлі яны і ў абласны краязнаўчы музей. Чацвёра з брыгады:** (злева направа) **Уладзімір Хобатаў, Андрэй Хацько, Ніна Клюцава і Лідзія Літоўчанка спыніліся каля стэнда, дзе выстаўлены ўзоры прадукцыі, што выпускае прамысловасць Магілёўшчыны.**

Фота А. Дзітлава.



**Ул. Стальмашонак. «Маладыя будаўнікі Мінска».** (З выстаўкі, прысвечанай 40-годдзю КПБ і БССР).




**Майстар лыжнага спорту Рыта Ачкіна імкнецца скарыстаць апошнія хвіліны адыходзячай зімы.** (Чытай карэспандэнцыю аб яе поспехах на стар. 157.)

Фота В. Гундорына.



# ПАД ЗНАКАМ ВЯЛІКАГА ЯДНАННЯ

Светлай, радаснай была першая нядзеля сакавіка. У гэты дзень сотні тысяч выбаршчыкаў Савецкай Беларусі прагаласавалі за самых дастойных сыноў і дачок беларускага народа — пасланцоў у Вярхоўны Савет рэспублікі і мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных. Васемнаццацігадовы юнак ці дзяўчына, якія ўпершыню ў сваім жыцці выконвалі пачэсны грамадзянскі абавязак, рабочы, калгаснік, настаўнік, бабулька — верная вартаўніца дамашняга парадку, — усе яны былі ў гэты дзень удзельнікамі вялікай усенароднай урачыстасці.

Народны блок камуністаў і беспартыйных зноў перамог. Выбары 1-га сакавіка яшчэ раз пацвердзілі сілу савецкай сацыялістычнай дэмакратыі. Працоўныя Савецкай Беларусі наслалі ў вышэйшы заканадаўчы орган рэспублікі і ў мясцовыя Саветы самых лепшых, самых дастойных прадстаўнікоў, гатовых самаадданa служыць народу. А сярод іх слаўныя выхаванцы Ленінскага камсамола. На нашым здымку — дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі рэзьбанарэзчыца Мінскага мотавелазавода камсамолка Ніна Маркевіч.

Выбары 1-га сакавіка, якія прайшлі пад знакам яднання партыі і народа, з'явіліся канкрэтным выяўленнем запісанага ў рэзалюцыі XXI з'езда КПСС палажэння аб далейшым павышэнні ролі Саветаў як масавых арганізацый працоўных. Выбраныя Саветы дэпутатаў працоўных акажуць велізарную і дзейсную дапамогу нашай партыі ў здзяйсненні яе велічных планаў разгорнутага камуністычнага будаўніцтва ў краіне.

За сямігодку, за перамогу ідэй камунізма аддалі 1-га сакавіка свае галасы мільёны савецкіх грамадзян.

Г а л і н к а.

Аж не верыцца, Параска:
Гэта ўсё, нібыта казка!

*(Людзі абдымаюць адзін аднаго.)*

Ж а д а н *(да Леваніхі).*

Дні гаротныя мінулі,
Да цябе прышлі сыны.
Сустракай жа іх, матуля...

Л е в а н і х а.

Што ты кажаш?

Ж а д а н *(паказвае на кавалёў).*

Вось яны!

Л е в а н і х а *(прыглядаецца, пазнае).*

Ах, сыны мае, сыночкі!
Адарваныя лісточкі!

*(Кавалі абдымаюцца з Леваніхай. Яна гладзіць іх па галовах, як малых.)*

С т а р э й ш ы.

Маці!

М а л о д ш ы.

Мама!

Л е в а н і х а.

Як жа лёс
Зноў дахаты вас прынёс?..

С т а р э й ш ы.

Вырваў нас Жадан з-за кратаў.

М а л о д ш ы.

Рад я быць ягоным братам!

Ж а д а н.

Рад і я ўсім сэрцам, мама,
Ім за брата быць таксама!

А д а с ь *(стаіць убаку, пазірае на Параску, якая гутарыць з Галінкай. З крыўдай).*

А мяне ты што — не бачыш?

П а р а с к а *(да Галінкі, весела).*

Ой, прабач... Яшчэ заплача...

*(Падыходзіць да Адася. Цалуюцца.)*

А л е с ь *(смеючыся).*

Гэта ж проста, як абраза.
Ваявалі ўсе мы разам
Супраць смокавых дружын,
А цалуецца — адзін...

Д з я ў ч а т ы *(карагодам абкружаюць Алеся).*

Сам, Алесь, ты вінаваты!
Ці ж мы кепскія дзяўчаты?
Ці ў нас мала пекнаты?
Што ж не сватаешся ты?

А л е с ь *(вырываецца).*

І харошыя вы,
І прыгожыя вы.



Ды баюся —
Ажанюся
І ў палоне апынуся!..

Г у с л я р *(выходзіць наперад).*

Скончылася гора-ліхалецце,
Чарадзея больш няма на свеце.

*(Да людзей.)*

І палеткі, і лясы. і паша —
Гэта ўсё цяпер багацце ваша!
Хай жа збожжа залатыя рэкі
Пацякуць у вашыя засекі!

Ж н е і надзяваюць на Жадана і Галінку, якія стаяць побач, жытнёвыя вянкі. Спяваюць, ведучы карагод са снапамі ў руках.

Засцілайце і сталы і лавы,
Госць у нас сягоння небывалы.

*Прыпеў:*

Плён нясём,
Плён
Ды з усіх старон.

А наш вяночак з буйнога жыта,
А наш вяночак ядвабам віты.

*(Прыпеў.)*

Выгналі Смока з чорнай бярлогі,
Дажалі жыта аж да дарогі.

*(Прыпеў.)*

Дажалі жыта, выгналі ліса,
А ў нас весялосці поўная міса.

*(Прыпеў.)*

А ў нашым возеры — сінія воды,
Ходзіць Жадан наш, як ваявода.

*(Прыпеў.)*

Белыя ў небе плывуць аблокі,
А наша Галінка ўзялася ў бокі.

*(Прыпеў.)*

Эх, у гародчыку чырвоны кветкі.
Хай у вас будуць добрыя дзеткі.

*(Прыпеў.)*

Над палеткам пралятае бусел. Усе глядзяць угору.

П а р а с к а.

І чаго ён так клякоча?

Г а л і н к а.

Мо' сказаць нам штосьці хоча?

Гусляр.

Нездарма ён тут лятае —
З перамогай нас вітае.

Жадан *(махае буслу)*.

Прылятай да нас на свята —
Будзем жыць цяпер багата.

Павольна апускаецца другая заслона.
На авансцэне застаецца Гусляр.

Гусляр *(да гледачоў)*.

Вы куды?
Адну хвілінку.
Гэй, сюды!
Жадан! Галінка!

З аднаго боку выходзіць Жадан, з другога — Галінка. У Жадана ў руцэ кубак, у Галінкі — два. Адзін кубак яна падае Гусляру.

Гусляр.

Хто паслухаў у ахвоту,
Той сапраўдны маладзец,
Мне ж за гэткую работу
Мёду добрага карэц!

*(Усе трое ўзнімаюць кубкі.)*

Заслона.

Барыс СТРАЛЬЦОЎ

# НАД НЁМАНАМ НОВЫЯ ЗОРЫ

**Нарыс**

Хата Цімоха Туміловіча — на водшыбе ад вёскі, на невысокай пясчанай выдме. Лепшага месца і не выбераш. Унізе — прыгажун Нёман, крута выгнуўшыся, імкліва нясе свае воды пад сталёвыя фермы маста. А тут — затокі, лазнякі, віры, любімыя мясціны рыбакоў. А луг які — мора зялёнае! Не цяпер, канешне, а ўлетку. Цяпер завея гуляе ў лазняках, заносіць, ахутвае іх грабяністымі сумётамі.

Старому Цімоху добра відаць, што робіцца на Нёмане і на дарозе, якая бяжыць цераз мост з Узды ў Магільнае. Вунь хлопцы з пешнямі выйшлі на затоку, палонкі дзяўбуць, донніцы ставіць рыхтуюцца. «Стаўце, стаўце, — смокча люльку і ўсміхаецца ў вусы стары. — Толькі не там дзеўбяце. У вірах цяпер акуні сядзяць».

Цімох пазірае ў акно, а шаршатка ў яго руках хутка бегае паміж вочкамі нерата. Заўзяты рыбак снасці рыхтуе.

На дарозе, далёка за Нёманам, узніклі дзве чорныя кропкі. Яны вынырнулі з-за сасняку і нібы застылі на круцізне ўзгорка. «Грузавікі», — думае Цімох Туміловіч і ўсё пазірае на дарогу. А машыны набліжаюцца. Ужо відаць, што не сельпоўцы гэта з таварамі для крамы, а нейкія госці. У кузавах поўна людзей. Што ж, няхай едуць... Не першы раз у калгас імя Сталіна прыязджаюць экскурсанты. Гаспадарку паглядзяць, а потым і да Туміловіча завітаюць або ў праўленне яго паклічуць. Раскажа ён пра былыя паходы...

Яшчэ хутчэй заснавала шаршатка, спрытней захадзілі рукі, і чарадой паплылі думкі-ўспаміны...

Пачало змяркацца. Цімох пацягнуўся было да выключальніка, але перадумаў. Устаў з зэдліка, накінуў на шыю шалік, апрануў дублены кажушок, насунуў на галаву вушанку і выйшаў на вуліцу.

Мароз сцюдзёна дыхнуў у твар, перахапіў дыханне і лёг на каўнер пушыстымі іскрынкамі. «Рып-рып, туп-туп» — парыпваюць на хрусткім снезе падшытыя валёнкі.

Спыніўся Цімох, паглядзеў на раку. Бач ты! І мароз, здаецца, прыціснуў, а не сунімаецца Нёман. На самай строме, між сумётаў, глуха ўсхліпваюць цяжкія хвалі і б'ецца аб ледзяныя выступы пеністая вада.

— Ты куды гэта сабраўся, Цімох?

Азірнуўся. Ды гэта-ж Сцяпан Туміловіч!

— Так... Прагуляцца надумаўся.

— А я гляджу, ты ідзеш. Ну, думаю, зноў цябе да гасцей паклікалі. Будзеш расказваць, як мы белых панкоў разам частавалі ў грамадзянскую.

— Хіба госці якія прыехалі? — прытворна здзівіўся Цімох.

— Прыехалі аднекуль здалёк, — жвава загаварыў Сцяпан. — І марозу не баяцца. Як злезлі ля фермы, дык і зараз там. Давай сходзім, пацікавімся...

Доўга ішлі моўчкі. Нарэшце Цімох не вытрымаў, загаварыў:

— Кажуць, камсамольцы камуністычнай ферму аб'явілі, жыць рашылі па-камуністычнаму. Якія з іх там яшчэ камуністы — з дзяўчанят гэтых...

— Э, не кажы! — адгукнуўся Сцяпан. — З імі ж Зося Бондар, а яна камуністка. Зося на сходзе так і сказала: мы з дзяўчатамі парашылі даказаць, што і сёння можна праявіць подзвіг. Чуеш? Подзвіг!

— Хэ, подзвіг... — нехаця азваўся Цімох. — Які там ля кароў подзвіг. Вось мы некалі, у восемнаццатым ды дваццатым...

Махнуў рукой і змоўк. Відаць, крыўдна стала старому, што людзей больш зацікавіла блазнота, як называў ён дзяўчат, а не яны, змагары часоў грамадзянскай вайны. Хіба гэта не ён, Цімох, быў членам рэўкома, Савецкую ўладу ўсталёўваў? Хіба не ён уцёк з-пад расстрэлу ад белапалякаў? А хто, як не Цімох Туміловіч, завёў немцаў у лес, у балота, патапіў у багне іх машыны і матацыклы, за што і празвалі яго на Уздзеншчыне магільнянскім Сусаніным. А тут — каровіны хвасты!..

Вось і ферма... Шчыльны квадрат кароўнікаў апяразаны заінелым праслам. Побач з варотамі стаяць машыны, а людзей не відно. Напэўна, усе ў кароўніку, жывёлу глядзяць.

Прыглушаны смех і звонкія жаночыя галасы чуліся з другога канца кароўніка. Значыць, яны там, у чырвоным кутку, — і госці і гаспадары. Дружбакі пераглянуліся: маўляў, вось табе і абмен вопытам — рагочуць!.. Ля ўваходу ў чырвоны куток спыніліся. З-за дзвярэй даносіўся смяшлівы жаночы голас:

— Ну і размалявалі! У бутэльку чалавека пасадзілі і яшчэ корак у руку далі. Гэта на закуску, ці што? А нос які чырвоны!

Другі голас — мужчыны адразу пазналі па ім Зосю Бондар — тлумачыў:

— Ёсць у нас яшчэ такія аматары выпіць. Вось іх і размалявалі!..

Сцяпан Туміловіч нясмела пацягнуў за ручку дзвярэй. Яны ціха адчыніліся, і мужчыны заглянулі ў пакой. Госці стаялі каля сатырычнай насценнай газеты і разглядалі карыкатуры. Зося Бондар гаварыла далей:

— Нашы даяркі аб'явілі вайну ўсяму, што нам перашкаджае добра працаваць і культурна жыць...

Тут Люба Пякарская, агляннуўшыся, заўважыла ўвайшоўшых.

— Глядзіце, Цімох Ільіч і Сцяпан Міхайлавіч прыйшлі! — і, звяртаючыся да гасцей, растлумачыла: — Гэта той самы «Сусанін», пра якога вы пыталі, таварышы...

Усе адышліся ад насценнай газеты і абступілі старых. Да іх пацягнуліся дзесяткі рук.

— Ды гэта не я, а вось ён. Цімох, — збянтэжана прагаварыў Сцяпан Туміловіч.

Цімох жа расчулена паціскаў працягнутыя рукі і нешта мармытаў сабе пад нос. Ён часта міргаў вейкамі, і нельга было зразумець: сівер ці ўвага людская выціснулі слязу з вачэй.

— А мы ўжо збіраліся да вас, дзядзька Цімох, — шчабятала старому на вуха Ала Туміловіч.

— Навошта я каму спатрэбіўся? — пакрывіў душою Цімох. — У вас свае справы, у нас свае. Аджыў я ўжо сваё...

— А не кажыце, — не супакойвалася дзяўчына. — Мы ж хочам жыць і працаваць па-камуністычнаму. А вы нам дапаможаце. Раскажаце, як Савецкую ўладу ўстанаўлялі, як з ворагам змагаліся. Нам гэта вельмі важна. Паглядзіце, вось мы і ў план свой запісалі...

— Ну, што ж, калі так... — здаўся Цімох.

Госці з цікавасцю прыслухоўваліся да гэтай гаворкі. Ім таксама хацелася б паслухаць пра гэта. Але спачатку трэба пацікавіцца тым, дзеля чаго сюды прыехалі.

— Дык раскажыце ж вы нам дзяўчаткі, як гэта вы збіраецеся жыць і працаваць па-камуністычнаму, — раздаецца з іх гурту нейчы усхваляваны голас. — Гэта, канешне, працаваць сумленна, **культурны адпачынак** наладзіць. А далей? І як у вас усё гэта пачалося?

Дзяўчаты не таіліся і расказалі ўсё, як было.

Камсамольцы, што працавалі на жывёлагадоўчай ферме калгаса імя Сталіна, абмяркоўвалі сямігадовы план, марылі пра будучае, спрабавалі ўявіць сабе, якім стане іх калгас праз сем гадоў. Учарашняя дзесяцікласніца Ала Туміловіч нечакана прапанавала:

— Ад нас усё залежыць. Давайце з сённяшняга дня будзем працаваць па-камуністычнаму. Бяруся ў 1959 годзе надаіць ад кожнай каровы па чатыры тысячы кілаграмаў малака.

Усе на хвіліну змоўклі. Ці не занадта хапіла Ала? Праўда, у тэзісах свайго даклада Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў гаварыў, што ў бліжэйшыя гады пастаўлена задача — падвоіць вытворчасць мяса і малака, дагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі. Усё гэта зразумела, і задача гэтая пад сілу. А ўсё ж, можа...

Групкамсорг Вера Вайніловіч нясмела выказала сваю думку:

— Гаворыш ты, Ала, правільна. Трэба ўзяць абавязацельства ўсім даяркам нашай фермы — атрымаць па чатыры тысячы кілаграмаў малака ад кожнай каровы. Вось толькі наконт працы па-камуністычнаму...



**Старэйшая даярка калгаса імя Сталіна, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Зося Антонаўна Бондар гутарыць з камсамолкай Зінай Аўсянік.**

Фота М. Мінковіча.

— Само слова якое высокае! — уздыхнула Валя Насевіч.

— Яго трэба спачатку заслужыць, — дадала Зіна Аўсянік.

Зося Бондар слухала дзяўчат, пераводзіла позіркі з адной на другую, і вочы яе гарэлі маладым бляскам. Паслухаўшы ўсіх, яна сказала:

— Даражэнькія вы мае, такую вялікую справу задумалі і сумняваецеся!.. Правільна, высокае званне заслужыць трэба. Дык давайце і заслужым яго.

Даяркі ажывіліся, загаманілі. Рашылі параіцца са старшынёй, з парторгам.

— Не будзем адкладваць, пойдзем цяпер у праўленне, — паднялася з лаўкі Ала Туміловіч. — Раскажам, пра што мы думаем.

Старшыня калгаса Мікалай Адамавіч Пармон хадзіў па пакою і ўзбуджана церабіў рукой непаслухмяны віхор.

— Дык кажаце, па чатыры тысячы. Малайчыны! І я тут прыкідваў, думаў — можам за пяць гадоў справіцца з заданнем па малаку! Гэта вельмі добра, што вы рашылі змагацца за званне фермы камуністычнай працы.

— Мікалай Адамавіч, — перапыніла яго Люба Пякарская. —

А як вы ўяўляеце жыццё пры камунізме?

Старшыня разгубіўся ад такога нечаканага пытання.

— Ну, кожнаму па патрэбе...

— Ды не! Я аб працы, — усміхнулася Люба. — Мне здаецца, што ўсюды яна будзе механізавана. Націснуў кнопку, і ў стойла па транспарцёру сілас едзе, націснуў другую — сена. А ў нас нават падвеснай дарогі яшчэ няма.

Мікалай Адамавіч не чакаў такога пераходу. Спачатку ён тузануў той жа непаслухмяны віхор, паглядзеў на Любу і, нарэшце, зразумеўшы, куды тая гне, засмяяўся.

— Вунь ты пра што! Будзе падвесная дарога. Аўтапаілкі ж ужо зманціравалі. Хутка будзеце і кармы развозіць у ваганетках. А там думаем і электрадаільныя апараты купіць. На такую справу праўленне грошай не пашкадуе.

— Толькі трэба хутчэй, — заўважыла Валя Насевіч. — Не думайце, што падвесная дарога — толькі палёгка даяркам. Гэта ж — і эканомія працадзён.

Вочы Любы Пякарскай бліснулі:

— І я ж думала наконт эканоміі! Навошта нам на ферме і ўчотчык і возчык малака? Кожнаму налічваецца па працадню. Хіба не можа адвозіць малако ўчотчык, я, напрыклад? Можа. Палічыце, колькі працадзён сэканомім. Трыста!

Старшыня ад задавальнення толькі паціраў рукі.

— Цяпер жа і вырашым. Будзеш весці ўлік і адвозіць малако.

Люба ў знак згоды кіўнула галавой.

Доўга гутарылі даяркі з старшынёй. Ля дзвярэй старшынёвага кабінета тоўпіліся калгаснікі. То адзін, то другі прачыняў дзверы і пытаў:

— Яшчэ занятыя, таварыш старшыня?

Пармон махаў рукою:

— Пачакайце трошкі...

Наведвальнікі плячыма паціскалі.

— За што гэта старшыня даярак так дапякае? І Зося тут. Не



**Закончыла дойку і камсамолка Вера Вайніловіч.**

паглядзеў нават, што з ордэнам жанчына...

А размова працягвалася. Зіна Аўсянік даводзіла:

— Мы і кукурузу будзем вырошчваць.

— Не ўправіцеся, — пакруціў галавой Пармон. — За двума зайцамі гоніцеся.

— А вы паслухайце, — Зіна аж прытупнула нагою. — Свайго звяна стварыць не будзем. Проста прымацуйце нас да кукурузаводаў. Мы падоім кароў, прыбярэм у кароўніках, а там да наступнай дойкі яшчэ шмат часу застанецца...

— Добра, — згадзіўся Мікалай Адамавіч. — Памяркуем на праўленні, а вы бярыцеся за справу. Ні пуху вам, як кажуць, ні пяра!..

У калідоры было шумна. Усе расступіліся, прапускаючы даярак. Нешта не бачна, каб ім там выгаварвалі! Вясёлыя ўсе, усміхаюцца. А тут Зося яшчэ на гадзіннік глянула ды каманду падала:

— Ну, камуна, хутчэй. Час на дойку!



— Камуна? Якая камуна? — зашапталіся людзі.

— Не камуна, а ферма камуністычнай працы, — растлумачыў старшыня, вышаўшы з пакоя.

І палящела новая вестка па вёсцы. Моладзь адразу паверыла даяркам. Старыя сумняваліся. Цяпер многія калгаснікі заглядалі на ферму нібыта проста пагутарыць, жывёлу паглядзець. Раз ферма камуністычнай працы, дык, відаць, нейкія асаблівыя змены ёсць. Не, нічога асаблівага. Толькі вось падвесную дарогу пачалі будаваць. Ды яшчэ ў кароўніку жоўтым пяском дол пасыпалі, фанерныя дошчачкі да стойлаў папрыбівалі і сталі запісваць, колькі якая карова за дзень малака дала.

Але гаворка пра даярак не сціхала. Заглянуў на ферму і Цімох Туміловіч. Зазірнуў і з таго часу стаў частым госцем у даярак. Прыдзе, раскажа што-небудзь пра першыя камуны на Уздзеншчыне або проста так пасядзіць, памаўчыць, а то параду якую дасць.

— Брудна нешта сёння, — кінуў ён аднойчы, здароўкаючыся з

**Валя Насевіч клапатліва даглядае сваіх гадаванцаў.**



загадчыкам фермы Дзесюкевічам. — Гной з праходаў не прыбралі.

— Не паспелі, — згадзіўся Дзесюкевіч і сказаў адной з даярак: — Вольга, вазьмі лапату ды адграбі гной.

— Мне за гэта працадня не запішуць, — адказала дзяўчына.

Дзесюкевіч не прыдаў значэння гэтым словам, а Цімох аж кратануў ад нечаканасці. Але не сказаў нічога, моўчкі ўзяў лапату і пачаў ачышчаць праход. Вера Вайніловіч заўважыла, што стары корпаецца ля стойлаў, і ўзяла з рук лапату.

— Адпачывайце, дзядзька, самі справімся.

А Цімох упікнуў:

— Не пужайся, я працадня не папрашу.

— Якога працадня?

— Ат, што з вамі, блазнота!..

Вера зразумела, што Цімоха нехта пакрыўдзіў. Можа тут, на ферме?.. Пачала распытваць. Стары спачатку адмоўчваўся, потым не вытрымаў:

— Калі вы хочаце, каб вам за кожны ківок пальцам налічвалі працадні, дык якая ж гэта камуністычная праца?

Дасталося тады Вользе. Камсамольская група тэрмінова сабралася на пяціхвілінку.

— Можа табе плаціць яшчэ за тое, што на ферму ходзіш? — злосна бліснула вачыма заўсёды спакойная Ала Туміловіч.

— Таварышы, даруйце, — са слязьмі на вачах прасілася Вольга. — Я пагарачылася... Больш гэтага не будзе...

Вользе даравалі. Але гэты выпадак паказаў, што калектыў не пацерпіць нават малейшага парушэння працоўнай дысцыпліны.

Заканчваецца дойка. Даяркі заносяць у сшыткі вынікі дня. Зося Бондар справілася хутчэй за другіх і цяпер прыкідвае, колькі надаіла за месяц. Выходзіла, што не меней, як па 250 кілаграмаў на карову. А многія ж каровы яшчэ не пацяліліся. У наступным месяцы будзе надоена ўдвая. Нядрэнна!

— А ў цябе колькі за месяц будзе? — звярнулася Зося да Алы Туміловіч.

— Кілаграмаў па дзвесце пяцьдзесят.

— А ў мяне меней — 230, — уздыхнула Вера Вайніловіч.

— Добра, добра, — радавалася старэйшая жывёлаводка і падала каманду. — Па хатах!

Потым схамянулася:

— Не, дзяўчаткі, сёння ж рэпетыцыя гуртка. Ідзіце. Я падзяжуру тут. Мая чарга. Не бойцеся, усё будзе ў парадку.

Ала Туміловіч і Люба Пякарская ішлі дадому разам. Не ішлі, а беглі. Што ім, фізкультурніцам, праскочыць нейкую вярсту. А трэба спяшацца. Яшчэ можна паспець пераапрануцца. Не пойдзеш жа ў клуб у ватоўцы! А сёння якраз рэпетыцыя, хлопцы папрыходзяць...

Назаўтра старшыня калгаса сустрэў дзяўчат вясёлым смехам:

— Дык як гэта вы яго адолелі! І хлопец жа такі здаравенны!..

Ала і Люба пераглянуліся: «Ужо ведае».

— Мы не самі, а хлопцаў падгаварылі. А то сядзяць, слухаюць брыдоту...

Учора вечарам у клуб прышоў дзяцюк «пад мухай». Выламваўся, лаяўся, да дзяўчат чапляўся. Хлопцы толькі пасмейваліся з яго. А калі Люба з Алай прысаромілі хлопцаў, дык тыя хутка выправадзілі п'янага на двор. А сёння і карыкатуру намалявалі на яго ў сатырычнай насценнай газеце. Цяпер сорамна чалавеку з хаты пakaзацца.

— Малайчыны! — заходзіўся ад смеху старшыня. — Так і трэба іх. — Потым запытаў: — Дык вам характарыстыкі? Завочна вучыцца жадаеце? Добра. Ты куды надумалася, Ала?

— У Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут.

— А ты, Люба?

— У сельскагаспадарчую акадэмію...

— А астатнія вашы?

— Валя Насевіч таксама ў інстытут хоча. Вера Вайніловіч і Зіна Аўсянік рыхтуюцца ў заатэхнікум, — адказала Ала.

— Свае заатэхнікі будуць, — заключыў старшыня і дадаў: — Завочнікам будзем даваць водпуск з захаваннем сярэдняга заработку. Не ўсім, зразумела, а тым, хто будзе паспяхова вучыцца і пераходзіць з курса на курс. Гультаі паблажкі не дачакаюцца.

— Сярод нас гультаёў няма, — пакрыўдзілася Люба.

— Ды я не пра вас кажу. Вы ж камуністычныя працаўнікі!

— Чуеш, як нас называюць! — натхнёна прагаварыла Люба, вышаўшы з праўлення. — Камуністычныя працаўнікі! Аж боязна. Вялікая адказнасць на нас ускладзена...

... Сяброўкі спыніліся. Адсюль, як на далоні, быў відзён заснежаны Нёман, зарэчны луг і ружовая палоска зары паміж небасхілам і калматым снежным воблакам. Была бадзёрачая зімовая раніца. Лёгкае ранішняе святло залаціла твары дзяўчат.

— Як прыгожа! — вырвалася ў Любы.

— Так, вельмі прыгожа, — згадзілася Ала.

Дзяўчаты думалі цяпер аб сваёй зары, што занялася і ўспыхнула на самым парозе іх самастойнага жыцця.

— Колькі яшчэ трэба зрабіць, каб стаць сапраўднымі будаўнікамі камуністычнай будучыні! Тут усё, не толькі работа і вучоба, а і гонар, і каханне, і дружба, і сям'я, і подзвіг...

— Справімся, Ала! — Люба абняла сяброўку. — Мы ж разам, адной сям'ёй.

Мароз мацнеў. Зара на небасхіле разгаралася ўсё ярчэй і ярчэй.

Васіль ДАНІЛЕВІЧ

# НАРАЧАНКА

### Нарыс

З вечара падзьмуў халодны вецер. Чыстая, як люстэрка, гладзь возера захвалявалася. Пад рэзкімі парывамі ветру яна пацямнела. Нарач зрабілася, як мора. Пайшоў дождж, не відаць стала працілеглага берага. Воднай пpасторы, здаецца, няма ні канца, ні краю. Яна хвалюецца, гудзе і рэхам аддаецца ў бары па-над берагамі.

Калі прыслухоўваешся да гэтага гулу, міжволі ўспамінаюцца гістарычныя падзеі, якія прынеслі надазёрнаму краю незабыўную славу. Гэта тут некалі рыбакі паднялі паўстанне супраць пілсудчыкаў. Адсюль, з Занарачча, партызанскія злучэнні ў гады мінулай вайны наносілі магутныя ўдары нямецка-фашысцкім захопнікам. Ці не аб гэтым апавядае, хвалюючыся, возера Нарач?..

Раніцай промні сонца ласкава асвятлілі помнік, што стаіць на высокім пагорку. Затым упалі на возера. Абмытае дажджом, усё наваколле заіскрылася, заззяла. Ад берага пабегла ў далячынь па сіняму возеру-мору залатая дарога, сатканая з яркіх сонечных праменняў.

Пачалі збірацца ўдзельнікі традыцыйнага народнага Свята песні. Яго ўпершыню пачалі святкаваць у 1952 годзе, калі спякотным летнім днём сюды, да возера, з'ехаліся працоўныя некалькіх раёнаў Маладзечаншчыны. З'ехаліся, каб ушанаваць светлую памяць сыноў і дачок беларускага народа, якія загінулі смерцю храбрых у жорсткай барацьбе з ворагам. Тады ўпершыню і прагучалі над Нараччу песні аб іх гераізме, аб мірнай працы, аб шчасці жыць і тварыць на карысць савецкай Айчыны. Аўтарамі гэтых песень былі мясцовыя жыхары. З той пары кожны раз, калі прыходзіць першы ліпеньскі выхадны дзень, сюды ідуць і едуць тысячы людзей з усіх куткоў Беларусі, Прыбалтыкі і іншых рэспублік...

І на гэты раз свята абяцала быць светлым і радасным. Пакаты бераг ужо расцвіў яркімі ўборамі ўдзельнікаў шматтысячнага зводнага хору. А да возера ўсё падыходзілі і пад'язджалі новыя і новыя людзі.

Воддаль з групай таварышаў стаяў першы сакратар Мядзельскага райкома партыі Пётр Іванавіч Лук'янаў. Міма іх, нібы рака, цёк стракаты людскі натоўп. Райкомаўцы ціха перагаворваліся паміж сабою:

— Першамайцы!
— «Шлях Ільіча»...
— «Улада Саветаў»!..
— «Шлях да камунізма»...

І раптам, нібы ластаўка, узвілася частушка:

Нарачанскія дзяўчаты
Любяць добра паспяваць,
Калі ж песень нам не хопіць —
Самі будзем састаўляць!

Сакратар райкома сказаў:

— Валя Радкевіч, з Лук'янавіч...

Дзяўчына нізка пакланілася і, бліснуўшы іскрыстай усмешкай, урачыста прамовіла:

— Са святам вас, таварышы!

— І цябе, і тваіх сяброў узаемна, — адказалі ёй.

Пётр Іванавіч кінуў у бок дзяўчыны:

— Цудоўны чалавек і добры работнік. Сельскім клубам загадвае. У яе — прызванне да гэтага...

Прыехалі госці з Прыбалтыкі, а таксама беларускія літаратары. З імі — грэчаскі паэт Алексіс Парніс, аўтар славутай паэмы пра Белаяніса.

І свята над Нараччу пачалося. Велічна гучаў Гімн Беларускай ССР. Заўзята спаборнічалі шматлікія калектывы мастацкай самадзейнасці. Вечарам ля вялізнага вогнішча моладзь слухала апавяданні ўдзельнікаў паўстання і партызанскай барацьбы.

На другі дзень свята мы зноў сустрэліся з Валяй. Спрабавалі завязаць гутарку аб яе рабоце, але яна замахала рукамі:

— Не цяпер, не цяпер! Прыязджайце да нас, у Лук'янавічы!

І вось — Лук'янавічы. У клубе Валянціны няма. Яна з камсамольцамі працавала на таку. Чысцілі збожжа.

Але клуб быў адчынены. Ад чыстай падлогі пахла сасной. На сталах акуратна раскладзеныя свежыя газеты і часопісы. Тут жа стаяў патэфон, ляжалі пласцінкі. На сценах — маляўнічыя плакаты.

Усюды відзён след гаспадарскай рукі.

Валянціна Радкевіч прышла ў Лук'янавічы дзевяць год таму назад. Старшыня Мядзельскага сельсавета прывёў бялявую дзяўчыну ў звычайную вясковую хату і, акінуўшы позіркам каморку, сказаў ёй:

— Гэта, Валя, хата-чытальня. Прымай маёмасць і — разгортвайся!

А той і «маёмасці» ўсяго — паламаны патэфон, некалькі дзесяткаў кніжак у куце ды смецце, якога, відаць, даўнавата не выносілі з хаты. Глядзела Валя на ўсё гэта, і не ведала, што рабіць. Лёгка сказаць — «разгортвайся»! Можа старшыня параіць, як гэта зрабіць?

— Разумееш, — сказаў тады старшыня, — трэба, каб народ сюды ішоў...

Купілі гармонік, знайшлі гарманіста. У першы ж вечар сабраліся ў хату-чытальню ледзь не ўсе лук'янаўскія хлопцы і дзяўчаты. Адны танцавалі, другія тапталіся ля дзвярэй — чакалі сваёй чаргі. У самы разгар вечарынкі паклікала да сябе Валянціну гаспадыня і грозна спытала:

— Гэта што ж, па-твойму, культасвета? Не, галубка, так не пойдзе! Гуляйце сабе свае гулі дзе-небудзь, а тут... тут — хата, а не танцавальная пляцоўка!

Тады моладзь пачала хадзіць па сялу з гармонікам. Але і гэта не ўсім спадабалася. Дасціпныя жартавалі:

— Валя Радкевіч па начах дэманстрацыі наладжвае!

Дзяўчына — у Мядзель, да мастацкага кіраўніка раённага Дома культуры.

— Соф'я Наумаўна! Нічога ў мяне не атрымліваецца. Не здольная я, ці што? Дапамажыце, калі ласка!

Шчырасць дзяўчыны кранула Соф'ю Наумаўну. «Хвалюешся, — падумала яна, — значыць, справа пойдзе». Але сказала другое:

— Нельга ж пасаваць перад цяжкасцямі! Ёсць у мяне добрая рэч — невялікая п'еска «Гром з яснага неба». Вазьмі яе... — А потым, памаўчаўшы, дадала: — Паедзем да вас разам!



Неўзабаве ў Лук'янавічах адбыўся першы спектакль. У звычайным свірне знялі з завесаў вароты, паклалі іх на козлы — атрымалася сцэна. Замест заслоны павесілі даматканыя посцілкі. Пляцоўка перад свірнам ператварылася ў залу.

У спектаклі высмейваліся нядбайныя калгаснікі. Гледачы былі ў захапленні.

— Ты глядзі, ці ж не такія нашы лайдакі!

Удача акрыліла. Валянціна адшукала тую крынічку, якая струменіла светлымі людскімі думкамі і жаданнямі. Але разам з тым адчула, што ў яе не хапае ведаў і вопыту, каб накіраваць жывыя сілы гэтай крыніцы на службу калектыву, роднаму калгасу. І яна едзе на спецыяльныя курсы ў Маладзечна, а затым — у Мінскі бібліятэчны тэхнікум.

Валянціна Радкевіч, маючы ўжо некаторы вопыт і падвучыўшыся, захапілася адной мэтай — карэнным чынам перабудоўваць культурна-асветную работу, наблізіцца да жыцця. З дырэктарам школы Іванам Іванавічам Кайко яна арганізавала лектарскую групу. Настаўнікі, аграномы, медработнікі пайшлі ў брыгады. Як сакратар камсамольскай арганізацыі, яна расказвала моладзі, што мастацкая самадзейнасць — не забава, а сіла, якая ачышчае людзей, натхняе іх на добрыя справы. Яна ўгаварыла камсамольцаў запісацца ў гуртні.

Потым бегла да старшыні сельсавета:

— Дакуль мы будзем цярпець такі непарадак?

— Які? — здзіўляўся той.

— А такі, што калгаснікі не маюць клуба, удзельнікі самадзейнасці — сцэны, чытачы — бібліятэкі!

— Ці ведаеш ты, чаго патрабуеш?

— Ведаю...

— Пачакай. Ураджаі, надоі, працадні, — вось што цяпер галоўнае. Разумееш ты, дзівачка?

— А хто гаварыў, што без культуры ўсяго гэтага не ўзнімеш? Не адракайцеся ад сваіх слоў!

— Гаварыць то я гаварыў, але... Ну добра, падумаю.

На другі дзень Валянціна гутарыла са старшынёй калгаса:

— Я да вас наконт клуба.

— Зноў! Дык патрэбны ж сродкі, і немалыя! А дзе ты іх возьмеш, калі зараз...

— А вы не хвалюйцеся, — стала на сваім дзяўчына. — Вы, старшыня, парайцеся з праўленцамі, з сельсаветам. І, можа, пагодзіцеся на тым: частку — сельсавет, а частку — калгас...

У Лук'янавічах сёння узвышаецца прыгожы клуб. Працуе самадзейны калектыў. Дзейнічае бібліятэка, у якой звыш трох тысяч кніг.

За апошнія гады калгас «Пераможац» непазнавальна змяніўся. Ураджайнасць збожжавых павысілася ледзь не ў чатыры разы, прадуктыўнасць малочнага статку ўзрасла ўтрая, даходы павялічыліся з 25 тысяч да паўтара мільёна рублёў. Заможным стала жыццё колішніх беднякоў і батракоў.

Старшыня калгаса трыццаціпяцічнік Георгі Францавіч Граскоп зазначае, што ва ўздыме арцельнай гаспадаркі шмат зрабілі актывісты, якія аб'яднаны вакол сельскага клуба. Здаецца, дзіўна, але гэта так. Камсамольцы, аматары самадзейнасці павялі рашучую барацьбу з адсталымі настроямі ў свядомасці людзей энергічна і настойліва.

Аднойчы, напрыклад, драматычны калектыў клуба паказаў п'есу «Хворая». Назаўтра ж да Валянціны прыбегла калгасніца Манько і накінулася:

— Гэта ж хто табе даў права, дзеўка, выстаўляць на пасмешышча сумленных людзей?

— Не разумею... Вы аб чым, Ганна Усцінаўна?

— Не прыкідвайся... Я пытаю: каго ўчора прадстаўлялі на сцэне твае артысты? Ну, каго?

Загадчыца клуба здагадалася, у чым справа.

— Калі ласка, скажу, — загаварыла яна. — Гутарка ішла пра

адну калгасніцу, якая і ўдзень і ўначы песціла сваіх парасят, а калі давалі ёй нарад на работу ў калгас, гаварыла адно: «Я хворая»...

— Во, во! А цяпер усе тыкаюць пальцам: Манько — адсталы элемент!

— А вы, цётка Ганна, кіньце «хварэць» ды на работу ідзіце,— перастануць...

— Пачакай, я на цябе ўправу знайду!

Ніякай «управы» калгасніца, канешне, не шукала, але «хваробу» яе як рукой зняло.

У «Пераможцы» — шэсць вёсак-брыгад. І як бы далёка ні знаходзіліся яны ад цэнтра — Лук'янавічаў, ні адна з іх не выпадае з поля зроку клубных работнікаў. Тут не забываюць і пра тых, хто ўлетку працуе на далёкіх палявых загонах.

...Была гарачая пара касьбы. Шэсцьдзесят касцоў працавалі за дваццаць пяць кіламетраў ад цэнтра калгаса. Калі настаў вечар, яны сыходзіліся да буданоў і заводзілі размовы аб жыцці-быцці.

— Цікава, што робіцца зараз у нашым клубе? — уздыхалі маладыя.

У гэты час два яркія промні, пранізаўшы цемру, заскакалі па зялёнай сцяне лесу, што блізка падступаў да луга.

Машына, падскокваючы на купінах, пад'язджала да буданоў.

— Валя!

— Лёгкая на ўспамін!

— Малайчына!

Хутка экран кінаперасоўкі, умацаваны на кустах, бліснуў серабрыстым святлом. Над зямлёй паплыла натхнёная песня. Касцы глядзелі новы кінафільм.

А яшчэ любяць у «Пераможцы» кнігу. Яна пранікла тут, як кажуць, у кожную хату. Чытаюць і стары, і малы. Сувязь з бібліятэкай калгаснікі трымаюць праз кнігаАошаў. Дружыць з чытачамі і сама загадчыца клуба. Яе можна часта бачыць на вёсцы з пакункамі кніжак.

— Светланосцу, прывітанне! — радасна сустракае Валянціну калгасны каваль Іван Андрэевіч Роўда.

У гэтага чалавека зайздросная прага да кнігі. Ён прачытвае кожны новы раман, які паступае ў бібліятэку.

Чарняўская, пенсіянерка, таксама любіць чытаць.

— Прывыкла вось і чытаю, — гаворыць Аляксандра Васільеўна.— Потым расказваю пра ўсё дзецям. Прыходзіць, ведаеце, да мяне цэлы гурт хлопчыкаў і дзяўчынак — і ў кожнага безліч пытанняў.

...Валянціна Радкевіч прыйшла ў клуб разам з сябрамі-камсамольцамі. Зняла паліто зацярушанае мяккім. Папэравіла бялявыя валасы, якія выбіваліся з-пад яркай хусткі. Усё тыя ж сінія, пад колер Нарачы, вочы, усё тая ж іскрыстая ўсмешка.

— Як сказалі мне, так я чамусьці і падумала, што гэта вы прыехалі... — і, паглядзеўшы на расчырванелых ад марозу хлапцоў і дзяўчат, дадала: — Да вясны вось рыхтуемся, будзе яна, напэўна, гарачай, як ніколі... Першая вясна слаўнага сямігоддзя!

Яна задумалася. З вуліцы данеслася шырокая мелодыя песні.

— А памятаеце свята на Нарачы? — спытала раптам Валянціна. — Колькі людзей збіраецца там! Народ услаўляе жыццё. Шчыра, ярка, урачыста! Святы гэтыя — вялікая школа для нас, работнікаў культурнай нівы. А работа, якую мы вядзём, гэта ж дзейсная дапамога людзям у іх барацьбе за сямігадовы план!

...З Лук'янавіч мы выехалі позна вечарам. Дарога бегла ўзлессем. Па баках мільгалі ветлівыя агеньчыкі калгасных хат. Лёгка і хораша было на душы. Гэта, відаць, ад сустрэчы з такімі неспакойнымі людзьмі, як камсамолка Валянціна Радкевіч і яе сябры, якія разам з усімі працаўнікамі вёскі змагаюцца за светлае чалавечае шчасце.

# Гары, камсамольскі аганёк!

## ЭНТУЗІЯСТЫ

Сямігодка... Гэтае слова стала родным і блізкім кожнаму савецкаму чалавеку. Сябры нашы вымаўляюць яго з радасцю і захапленнем, ворагі — са страхам і нянавісцю...

Сямігодка... Яшчэ і яшчэ раз вымаўляючы гэтае слова, удумваешся ў яго глыбокі сэнс. А ён заключаецца ў тым, што наша краіна ўступіла ў новы перыяд свайго развіцця — перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства.

Камунізм сваім магутным поступам ідзе па савецкай зямлі. Ён — у велічы нашых планаў і спраў, у нашым імкненні жыць і працаваць так, каб быць дастойнымі сынамі і дочкамі свайго вялікага часу.

Жывыя рысы камунізма мы сустракаем у нашым сённяшнім жыцці на кожным кроку. Вось чаму мы так ахвотна працуем, так настойліва шукаем новага, так патрабавальна ставімся да сябе: нам хочацца кожнай сваёю справай з дня ў дзень набліжаць цудоўную будучыню.

...Першае, што кідаецца ў вочы, калі заходзіш у механічны цэх Мінскага радыёзавода, гэта чырвонае палотнішча на ўвесь пралёт, на ім палымнеюць словы закліку:

«Юнакі і дзяўчаты! Вучыцеся жыць і працаваць па-камуністычнаму, будзьце актыўнымі і нястомнымі будаўнікамі камунізма!»

Не маленькая групка, не брыгада, а ўвесь гэты мнагалюдны калектыў цэха змагаецца за тое, каб заваяваць пачэснае права называцца цэхам камуністычнай працы.

— Мы рашылі, — расказвае начальнік цэха Аляксей Мікалаевіч Мамантаў, — кожны дзень перавыконваць зменныя заданні, выраблядь прадукцыю толькі выдатнай якасці, зусім ліквідаваць брак у рабоце. Гэта, як кажуць, наша першая запаведзь...

Радыёзаводцы з гонарам выконваюць яе. Сёння ў цэху няма ніводнага рабочага, які не спраўляўся б з вытворчым заданнем. І што вельмі важна, людзі пачалі да сваёй справы падыходзіць творча.

Узяць хаця б наладчыкаў. Раней часта бывала так — да канца змены яшчэ з паўгадзіны, а іх ужо няма. Тым, хто заступаў у другую змену, амаль кожны раз даводзіла-

**Мінскі радыёзавод. На занятках школы камуністычнай працы. Токар І. Зеляшчонак** (справа) **навучае маладых рэвальвершчыкаў Анатоля Бабкова і Антона Дудко.**

Фота С. Чырэшкіна.





**Маладых рабочых Мінскага радыёзавода часта можна сустрэць у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.**

ся траціць гадзіну, а то і больш на пераналадку аўтаматаў.

— А цяпер, — гаворыць наладчык Аляксей Туманаў, — для кожнага з нас стала законам таварыская ўзаемадапамога. Ні адзін наладчык не пойдзе з работы, пакуль не дапаможа свайму таварышу прывесці ў парадак абсталяванне. Гэта значна зменшыла прастоі, павысіла прадукцыйнасць працы.

А колькі зроблена за апошні час па механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці, па ўкараненню новай тэхнікі і передавой тэхналогіі! Сіламі наватараў выраблена паўаўтаматычная лінія для вырабу гаек. Гэта аблегчыла працу, у шэсць разоў павысіла яе прадукцыйнасць. Слесар Канстанцін Жоўтак і канструктар Барыс Гальдштэйн зрабілі аўтамат для навіўкі спружын, адгінання і адрэзкі вушак. Раней на гэтых апэрацыях было занята два станкі.

Можна прывесці шмат прыкладаў творчай актыўнасці маладых энтузіястаў. Дзесяткі каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў укаранілі яны ў вытворчасць. Іх дэвізам стала — шукаць, тварыць, удасканальваць, укараняць усё новае, перадавое.

У цэху 8 камуністаў, 33 камсамольцы. Шліфоўшчык камуніст Уладзімір Кашэль, токар камсамолец Віталі Лазараў, майстар камуніст Леў Блецька, наладчык Аляксей Туманаў, свідравальшчыца камсамолка Марыя Ларыёнава, токар камсамолка Ніна Казлоўская — увесь калектыў цэха працуе ў гэтыя дні, як адна вялікая, згуртаваная сям'я.

Вялікі Ленін завяшчаў: каб будаваць, трэба ведаць, трэба вучыцца. Радыёзаводцы і дагэтуль вучыліся ў вячэрніх і завочных інстытутах і тэхнікумах, школах рабочай моладзі, на курсах і ў гуртках. Але было многа і такіх юнакоў і дзяўчат, якія нідзе не вучыліся. А прагнасць да ведаў у моладзі вялікая. Як хутчэй задаволіць яе?

Аднойчы ў невялікім пакойчыку начальніка цэха сабраліся цэхавыя актывісты: сакратар партыйнай арганізацыі Р. Аксельрод, старшыня цэхкома В. Свірыд, камсорг Павел Малыгін, члены цэхавага камсамольскага бюро, камуністы.

— Наконт таго, што вучобу трэба арганізаваць, ні ў кога пярэчанняў няма, — сказаў начальнік цэха Мамантаў, — але як яе наладзіць?

— Створым школу па авалоданню сумежнымі прафесіямі, — прапанаваў Павел Малыгін.

**Заўсёды трымаць абсталяванне цэха ў парадку — такі закон працы ў наладчыка аўтаматаў Міхася Шлапэка.**





— Такая школа, безумоўна, справа добрая, але ж мы змагаемся за права насіць званне цэха камуністычнай працы, — заўважыў парторг Р. Аксельрод. — Вось чаму, на маю думку, акрамя павышэння тэхнічных ведаў, кожны член нашага калектыву павінен расці духоўна, павышаць сваю культуру.

Усебакова абмеркаваўшы кожную прапанову, прышлі да думкі — стварыць у цэху школу, даць ёй назву «Школа камуністычнай працы».

Ужо два месяцы, як існуе гэтая своеасаблівая форма вучобы. Школу па сваёй ахвоце наведваюць рабочыя, наладчыкі, майстры. У ёй няма спецыяльна абсталяваных класаў, платных выкладчыкаў. Тэхнолагі, канструктары, наватары вытворчасці непасрэдна ў цэху, ля станкоў, дзеляцца вопытам, расказваюць аб перадавых метадах працы, знаёмяць моладзь з дасягненнямі айчыннай і зарубежнай радыётэхнікі. Тут жа адбываюцца практычныя заняткі. Токары вучацца працаваць на фрэзерных, фрэзероўшчыкі — на такарных станках.

Два разы ў месяц слухачы «Школы камуністычнай працы» наведваюць лекцыі на агульнапалітычныя тэмы — аб велічных планах сямігодкі, аб самай дэмакратычнай у свеце Савецкай Канстытуцыі, аб міжнародным становішчы. Не абмінаецца і эстэтычнае выхаванне. Для рабочых, майстроў, інжынераў і служачых наладжваюцца лекцыі-канцэрты.

А вечары адпачынку, калектыўныя паходы ў тэатр і кіно, на канцэрты!.. Па ініцыятыве камсамольцаў многія з юнакоў і дзяўчат пабывалі ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, у доміку першага з'езда РСДРП, мастацкім музеі.

— З таго часу, як пачала працаваць школа камуністычнай працы, — расказвае сакратар цэхавай камсамольскай арганізацыі Павел Малыгін, — павысіліся вытворчыя паказчыкі. Зусім зніклі спазненні і прагулы, а таксама брак у рабоце.

Калектыў механічнага цэха змагаецца за ганаровае званне калектыву камуністычнай працы не адзін на заводзе. Рабочыя эксперыментальнага і тэлевізарнага цэхаў, дзве брыгады ў зборачным, тры ў дрэваапрацоўчым цэху ўключыліся ў спаборніцтва і працуюць па-новаму. Маладыя радыёзаводцы з натхненнем змагаюцца за ажыццяўленне велічных планаў сямігодкі.

**Я. ДУБРОВІН.**

## БЛІЗКА НАША МЭТА

Цяжка знайсці словы, якія б поўна выказалі тое захапленне, якое адчулі мы, рабочыя, знаёмячыся з гістарычнымі рашэннямі нечарговага XXI з'езда КПСС — з'езда будаўнікоў камунізма. Вялікая ўвага аддаецца ў сямігоддзі пытанням падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спецыялістаў, сувязі навучання студэнтаў з вытворчасцю.

Чалавек камуністычнага грамадства павінен быць усебакова развітым, шмат ведаць і ўмець прымяняць свае веды на практыцы. Вось чаму праца і вучоба павінны быць поруч. Я пераканаўся на ўласным вопыце, як шмат дапамагае вытворчая праца ў авалодванні тэарэтычнымі ведамі.

На Віцебскі завод імя Камінтэрна я прышоў у 1956 годзе, тады, калі партыя і ўрад сур'ёзна паставілі пытанне аб політэхнізацыі школы. Да гэтага я працаваў у Днепрапятроўску электрыкам і вучыўся ў вячэрняй школе. Некаторыя з маіх таварышаў, атрымаўшы атэстаты сталасці, на гэтым спынілі сваю вучобу. Мяне ж не пакідала мара аб вышэйшай адукацыі. Мне падабалася мая спецыяльнасць электрыка, і таму

хацелася авалодаць ёю ў дасканаласці.

У 1956 годзе я паступіў на першы курс Ленінградскага завочнага політэхнічнага інстытута на электраэнергетычны факультэт. Першы год асаблівых цяжкасцей не адчуваў, бо даводзілася мець справу больш з агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі. Далей, думаў я, пойдзе яшчэ лягчэй: будуць жа выкладацца прадметы, якія непасрэдна звязаны з маёй працай. Але радасць была заўчаснай. На першым жа экзамене я пераканаўся ў тым, што не хапае тэарэтычных ведаў, што не ва ўсіх выпадках лёгка тэарэтычна растлумачыць тое, што вядома з практыкі. Прышлося шмат папрацаваць. Дапамагалі таварышы па калектыву — канструктары, інжынеры завода...

Зараз я ўжо займаюся на трэцім курсе інстытута. І пры сустрэчы са сваімі сябрамі, якія займаюцца ў політэхнічных ВНУ на стацыянары, я заўсёды бачу перавагі завочнага навучання. Па-першае, непасрэдная сувязь тэорыі з практыкай дапамагае лепш і высокапрадукцыйна працаваць. Падругое, з галавой увaходзіш у рабочы калектыў, прывыкаеш жыць яго думкамі і інтарэсамі. І трэцяе, што мне здаецца асабліва важна, — спалучэнне вучобы і працы развівае творчую думку ў кожнага, дае вялікі прастор для самастойнай тэхнічнай творчасці, выхоўвае будучага канструктара-стваральніка.

Мне асабіста вучоба дапамагла стаць рацыяналізатарам. Той, хто добра ўзброен тэарэтычна і авалодаў сваёй прафесіяй, лепш бачыць недахопы ў тэхналагічных працэсах і магчымасці іх знішчэння.

Упершыню я рашыў паспрабаваць свае рацыяналізатарскія здольнасці на ўдасканаленні спецыяльнага станка-аўтамата для медыцынскай прамысловасці, які апрацоўвае канюлі. Наш завод першым у Саюзе пачаў збіраць такія станкі. Я вырашыў змяніць электрасхему: замест двух ланцугоў электрычнага току зрабіў адзін. Гэтым было дасягнута значнае зніжэнне працаёмкасці, атрымана эканомія матэрыялаў і дэталей. Праўда, эканамічны эфект ад прапановы атрымаўся невялікі — усяго 395 рублёў умоўна-гадавой эканоміі. Але я радаваўся таму, што першая мая спроба прымяніць набытыя ў інстытуце веды ў рацыяналізатарскай рабоце закончылася паспяхова. Я яшчэ з большым захапленнем пачаў вывучаць магчымасці ўдасканалення тэхнікі. Зацікавіў мяне наразны паўаўтамат. Вельмі не спадабалася некампактнае размяшчэнне электраапаратуры на ім: частка — на накрыўцы панелі, другая — на самой панелі. Прапанаваў я змяніць адліўку тумбы станка, а апаратуру перанесці на спецыяльны пункт і пакінуць на панелі. Такім чынам, палепшыўся знешні выгляд паўаўтамата, адпала патрэба ў накрыўцы, якая важыла 5—6 кілаграмаў...

Змяніў нядаўна размяшчэнне электраапаратуры на самой панелі. Гэтыя ўдасканаленні далі магчымасць эканоміць на кожным станку па два метры электрапроваду. Гэта—толькі пачатак, толькі першыя крокі.

Мы ведаем, якія вялікія задачы стаяць перад намі, станкабудаўнікамі, у будучым сямігоддзі. Вялікія ленінскія запаветы: працаваць, вучыцца і жыць па-камуністычнаму, глыбока запалі ў нашы сэрцы. Партыя акрыліла маладое пакаленне светлымі ідэямі камунізма. На нашым заводзе шырока разгарнулася спаборніцтва за стварэнне брыгад камуністычнай працы. Кожнае слова, кожная лічба нашых абавязацельстваў строга прадуманы. Мы рашылі штомесячна выконваць вытворчы план не менш чым на 200 працэнтаў. Эканоміць кожны месяц па 25 метраў правaду і 200 грамаў волава. Будзем змагацца за ўзорныя паводзіны ў быце кожнага камсамольца.

Зараз усе нашы імкненні накіраваны на выкананне нашых абавязацельстваў. Дасягнуты ўжо некаторыя поспехі. Выпрацоўка кожнага з членаў брыгады дасягае ў змену 300—350 працэнтаў. Матэрыялы эканомім за кошт рацыянальнай і эканомнай укладкі праваду, нарэзкі яго. Старанна працуе ў нашай брыгадзе ўся моладзь. І брыгадзір Алег Раманоўскі, і электрамантажнік Фёдар Лапаухаў—актыўныя рацыяналізатары прадпрыемства.

Кожны ў нас сістэматычна павышае агульнаадукацыйны, палітычны і тэхнічны ўзровень. Уладзімір Бялецкі займаецца на трэцім курсе вячэрняга аддзялення Віцебскага станкаінструментальнага тэхнікума, Алег Раманоўскі — у вячэрнім універсітэце марксізма-ленінізма, Фёдар Лапаухаў, Яўгені Паслаўскі і Генадзі Ульянаў наведваюць гурткі тэхмінімуму.

Мы жывём у пару разгорнутага наступу за пабудову камунізма. Будзем працаваць і вучыцца так, каб хутчэй наблізіць светлую будучыню чалавецтва.

**Р. РОЗЕНБЕРГ,**
**электрамантажнік Віцебскага завода імя Камінтэрна.**





**Новая машына Мінскага аўтазавода — самазвал «МАЗ—503».**
Фота Г. Бегуна. (БЕЛТА.)

## ПЕРШЫЯ МАШЫНЫ СЯМІГОДКІ

Гэты самазвал, выпушчаны Мінскім аўтазаводам, яшчэ не разглядзелі як след мінчане, а ён пабываў ужо ў гасцях у масквічоў. У дні, калі ў сталіцы нашай Радзімы праходзіў XXI з'езд партыі, мінскія аўтамабілебудаўнікі выправілі ў першы дальні выпрабавальны рэйс новыя машыны, серыйная вытворчасць якіх будзе наладжана ў гэтай сямігодцы. Сярод групы аўтазаводцаў, якія сабраліся, каб пажадаць вадзіцелям шчаслівай дарогі, быў і Генадзі Валянтовіч.

Генадзі вырас на заводзе, і таму для яго тут усё такое роднае, такое блізкае. У дні вайны Гена застаўся сіратой. Дзіцячы дом, дзе ён выхоўваўся, паслаў яго на аўтазавод. Хутка юнак набыў спецыяльнасць столяра. Надышоў час прызыву, і Генадзі стаў радавым Савецкай Арміі. Там, у арміі, ён авалодаў майстэрствам слясарнай справы.

Дэмабілізаваўшыся, Генадзі прышоў на роднае прадпрыемства і пачаў працаваць у цэху доследнай вытворчасці. Зараз амаль усё новае, што стварае завод, не мінае рук Генадзя Валянтовіча і членаў яго брыгады. А хлопцы ў брыгадзе як на падбор — усе кемлівыя, ініцыятыўныя, энергічныя, цікаўныя.

Як высокае давер'е ўсяго калектыву аўтазаводцаў прынялі камсамольцы з брыгады Генадзя Валянтовіча новы пачэсны заказ. Мінуў які месяц, і новыя прыгажуны-самазвалы пакінулі вароты цэха.

«МАЗ-500» і «МАЗ—503». Так назвалі новыя машыны. Першая з іх — бартавы грузавік, другая — самазвал. Паглядзіце на здымак. Нават сваім знешнім выглядам самазвал адрозніваецца ад «зуброў» («МАЗ-205»), да якіх прызвычаілася ўжо наша вока. Галоўная ж перавага новай мадэлі — у яе новым змесце. На самазвале ўстаноўлен матор у 160—180 конскіх сіл. Гэта дазволіла павялічыць грузапад'ёмнасць яго да 8 тон. Вага машыны пры гэтым зменшылася прыкладна на паўтоны. Меншая металаёмістасць, большая прадукцыйнасць у эксплуатацыі і вялікая зручнасць у кіраванні — такія асноўныя перавагі новага самазвала.

Рухавік знаходзіцца пад кабінай вадзіцеля, а гэта дало магчымасць зрабіць даўжэйшым кузаў. Кабіну можна перакуліць наперад, і тады адкрыецца доступ да рухавіка з усіх бакоў. Да пяці звычайных скорасцей дададзены яшчэ дзве на заднім мосце.

Канструктары на чале з маладым інжынерам Л. Гелілесам шмат папрацавалі над тым, каб аблегчыць працу вадзіцеля, стварыць яму найбольшыя зручнасці. Гідраўлічны ўзмацняльнік робіць лягчэйшым рулявое кіраванне, а пнеўмагідраўлічная сістэма тармазоў — зручная і надзейная. Уключэнне каробкі перадач знаходзіцца на рулявой калонцы, як у легкавым аўтамабілі. Кабіна цэльнаметалічная на тры месцы. За спінкамі сядзенняў ёсць спальнае месца для адпачынку напарніка, што вельмі неабходна пры дальніх рэйсах. Адным словам, прадугледжана ўсё, каб вадзіцель адчуваў сябе, як дома.

Мінскія аўтазаводцы пачалі сямігодку выдатнай перамогай. Шчодры ўклад у гэтую перамогу зроблен моладдзю прадпрыемства, якая заўсёды імкнецца быць першай у кожнай новай справе.

**У. МІХАЛЮК.**

## НА ДОШЦЫ ГОНАРУ

Жывёлаводы саўгаса імя 10-годдзя БССР на Любаншчыне дружна ўключыліся ў спаборніцтва за датэрміновае выкананне планаў сямігодкі. Самыя высокія сацыялістычныя абавязацельствы ўзялі камсамольцы, занятыя ў жывёлагадоўлі. Яны паказваюць узор стараннасці ў працы. Алеся Драздзецкая і Марыя Трухановіч, якіх вы бачыце на гэтым здымку, за мінулы год атрымалі больш, як па



**Алеся Драздзецкая і Марыя Трухановіч.**
Тэкст і фота А. Верамейчыка.

4800 літраў малака ад кожнай каровы, значна перавыканаўшы планавае заданне па надою. Сёлета камсамолкі змагаюцца за тое, каб надаіць па 5000 літраў малака.

Імёны Алесі Драздзецкай і Марыі Трухановіч, як лепшых жывёлаводаў, занесены на раённую Дошку гонару.



## ЦУДОЎНЫ ПАДАРУНАК

Трактар, які камсамольцы РТС падаравалі летась вучням Залескай школы Брэсцкай вобласці, быў хоць і стары, але добра адрамантаваны і дагледжаны. Разам з трактарам яны перадалі маладым сябрам камплект прычапных механізмаў: двухкорпусны плуг, бароны, культыватар — цэлае багацце!

Абрадаваліся вучні цудоўнаму падарунку. Камсамольцы з старэйшых класаў за некалькі дзён пабудавалі для трактара сапраўдны гараж. У школе пачаліся заняткі трактарнага гуртка. Запісаліся ў яго ўсе вучні VIII—X класаў. Кіраваў гуртком выкладчык практыкуму па машыназнаўству Аляксей Андрэевіч Авяцюк, памочнікам

**Камсамольцы Жэня Паўлючык і Еўдакія Краўчук на практычных занятках.**
Фота Ф. Чаховіча.



яго быў дзевяцікласнік Жэня Паўлючык. Жэня добра ведаў трактар: усё лета дапамагаў трактарысту Пятру Петукевічу, не раз замяняў яго за рулём.

Зараз амаль усе старшакласнікі школы добра вывучылі трактар і ўмеюць самастойна працаваць на ім. У школе створана вучнёўская вытворчая брыгада. Вясной на сваім трактары школьнікі збіраюцца апрацаваць 20 гектараў зямлі.

**М. ГЕРЧЫК.**

## ТАК ПАЧАЛАСЯ ДРУЖБА

— Пропуск!

Хаваючы пад густымі брывамі хітраватую ўсмешку, вахцёр рашуча загарадзіў дарогу групцы школьнікаў, якія зайшлі ў прахадную маторарамонтнага завода.

— Хто такія? Па якой справе?

— А вы хіба нас не пазналі?— спытаў Мікола Раманюк, падаючы пропуск. — Мы ж свае, заводскія, з атрада Валасюка.

Вахцёр уважліва прагледзеў пропуск і саступіў убок:

— Ну, калі свае, праходзьце.

Хтосьці з рабочых ужо сказаў электразваршчыку Мікалаю Валасюку, што на завод прыйшлі яго вучні, і ён заспяшаўся да іх, выціраючы на хаду рукі. Школьнікі накіраваліся ў цэх.

Некалькі гадоў назад пасябравалі камсамольцы Кобрынскага маторарамонтнага завода і вучні 1-й школы. Пачалася гэтая дружба з кароткіх экскурсій на завод, якія праводзіла школа, каб замацаваць веды па фізіцы і хіміі. Потым камсамольцы дапамаглі вучням абсталяваць школьныя майстэрні, падаравалі некалькі станкоў, набораў слясарных інструментаў. І ўсё ж заводскія камсамольцы ў школе і школьнікі на заводзе былі яшчэ даволі рэдкімі гасцямі.

Пасля VIII пленума ЦК ВЛКСМ камітэт камсамола завода накіраваў на работу важатымі піянерскіх



Мікалай Валасюк абмяркоўвае з піянерамі Гэляй Бондаравай, Жорам Семенюком, Міколам Раманюком і Галяй Панасюк план экскурсіі ў Брэсцкую крэпасць.

Фота Ф. Чаховіча.

атрадаў групу лепшых камсамольцаў — рабочых вытворчасці. Сярод іх быў электразваршчык Мікалай Валасюк.

Піянеры з VII «Б» класа засталіся вельмі задаволеныя сваім новым важатым. Ён быў майстрам на ўсе рукі, добрым спартсменам, вясёлым выдумшчыкам. Колькі гульняў, збораў паходаў, экскурсій правёў Мікалай з піянерамі! Колькі гадзін правёў з імі ў цэхах завода, расказваючы аб разумных машынах, аб працы сваіх таварышаў! Піянерскае жыццё ў атрадзе адразу змянілася.

І ўсё ж Мікалай быў незадаволены. Яму хацелася, каб яго юныя сябры сталі на заводзе «сваімі», каб па-сапраўднаму палюбілі прадпрыемства. Ён разумеў, што аднымі экскурсіямі гэтага не дасягнеш.

Тады Мікалай пайшоў у камітэт камсамола.

— Давайце арганізуем піянерскі атрад пры заводзе, — прапанаваў ён.

Прапанова спадабалася. У заводскім клубе піянерам адвялі пакой, і атрад VII «Б» класа перайшоў на завод.

З дапамогай камсамольцаў школьнікі прыбралі свой пакой, зрабілі горку для горна, атраднага флажка і барабана, намалявалі лозунгі і плакаты. Неўзабаве атрад выступіў перад рабочымі з канцэртам самадзейнасці, дапамог камсамольцам упарадкаваць заводскую тэрыторыю. Піянеры стварылі сваю атрадную бібліятэку. Маладыя рабочыя ахвотна карыстаюцца ёю. Часта пасля змены заходзяць яны ў піянерскі пакой — «на аганёк».

Хутка пры заводзе будзе створаны яшчэ адзін піянерскі атрад.

**Г. МІХАЙЛАЎ.**

# СПРАВЫ КАМСАМОЛЬСКІЯ

## Савет атэістаў пры райкоме

Увосень мінулага года пры Воранаўскім райкоме камсамола быў створаны савет атэістаў, які аб'яднаў лепшыя лектарскія сілы раёна. У яго склад уваходзяць 24 настаўнікі і ўрачы. Бюро савета ўзначальвае загадчык навучальнай часткі Воранаўскай сярэдняй школы выкладчык гісторыі Фёдар Рыгоравіч Кавалёў. Бюро плануе работу па атэістычнай прапагандзе, абагульняе і вывучае вопыт лепшых лектараў, рыхтуе прапагандыстаў.

Цяпер у барацьбе з рэлігійным дурманам, у прапагандзе марксісцкіх навукова-атэістычных ведаў прымае ўдзел увесь камсамольскі актыў, усе настаўнікі, асабліва выкладчыкі хіміі, фізікі і гісторыі.

Адной з яркіх форм атэістычнай прапаганды, якую праводзяць актывісты савета, з'яўляюцца вечары пытанняў і адказаў.

Як жа яны праводзяцца?

Загадзя ў вёсках і на хутарах камсамольцы паведамляюць моладзі аб тэме вечара і вывешваюць спецыяльныя скрынкі для пытанняў. За чатыры-пяць дзён да пачатку вечара бюро савета атэістаў, пазнаёміўшыся з пытаннямі, выдзяляе для правядзення вечара брыгаду ў 4—5 чалавек.

Вечары праходзяць, як правіла, вельмі цікава. Іх наведвае не толькі моладзь, але прыходзяць і пажылыя калгаснікі. У адрозненне ад лекцый, на такіх вечарах тэму вызначаюць самі слухачы, а не лектар. У абмеркаванні прымае ўдзел уся аўдыторыя, таму што размова вядзецца ў форме простай і даступнай гутаркі.

Захапляючай формай атэістычнай прапаганды, асабліва сярод моладзі, з'яўляюцца канферэнцыі чытачоў. Юнакі і дзяўчаты добра ведаюць і любяць кнігу Э. Войніч «Авадзень». У ёй трапна выкрываецца рэакцыйнасць і прадажнасць каталіцызма. Канферэнцыі чытачоў па гэтай кнізе праходзяць з вялікім поспехам.

Савет атэістаў цікавіцца і школай. У вёсцы часам яшчэ сустракаюцца вучні, якія пад уплывам бацькоў наведваюць касцёл, выконваюць рэлігійныя абрады. Калі актывісты глыбей зацікавіліся прычынамі гэтага, то выявілася, што ў школах, асабліва на ўроках хіміі і фізікі, настаўнікі вельмі мала ўдзяляюць увагі выкрыццю рэлігійных забабонаў.

Савет атэістаў правёў семінар настаўнікаў. На гэтым семінары адзін з актыўных і энергічных арганізатараў навукова-атэістычнай прапаганды ў раёне выкладчык фізікі Паліцкішскай школы Міхаіл Пятровіч Шахлевіч зрабіў даклад з дэманстрацыяй доследаў. Потым у школах праводзіліся такія ж вечары. Школьнікі вельмі зацікавіліся гэтымі доследамі і потым самі іх паўтаралі.

На семінар збіраліся і выклад-

чыкі гісторыі. На парадку дня стаяла зноў тое ж пытанне: атэістычнае выхаванне школьнікаў. Праводзіў семінар старэйшы настаўнік Блажанаўскай школы Павел Іванавіч Чэпік.

У барацьбе з рэлігійным дурманам актыўны ўдзел прымаюць не толькі настаўнікі, а і ўвесь камсамольскі актыў.

**Камсамольская агітмашына**

Звычайны грузавік пераабсталяваны ў аўтобус на 16 месц. На аўтобусе надпіс: «Агітмашына Брэсцкага абкома камсамола».

Агітбрыгада бярэ з сабою вузкаплёначны кінаапарат, праігрывацель, магнітафон і пласцінкі і накіроўваецца ў Дзвінскі раён. У калгасах былі праведзены вечары на тэмы: «Баявы шлях камсамола», «Маральны воблік маладога савецкага чалавека», «Каханне і дружба», «Аб міжнародным становішчы» і інш.

Усюды дэманстраваўся кіначасопіс «Першы Усебеларускі фестываль моладзі», а таксама праводзіліся канцэрты.

Калгаснікі, моладзь радасна сустракаюць агітмашыну абкома камсамола. Яны ведаюць, што з яе прыездам у клубе можна будзе добра правесці час.

Як правіла, людзей збіраецца шмат. Многія з іх стараюцца чымнебудзь дапамагчы агітбрыгадзе. Так, да прыезду агітмашыны ў вёску Радастава камсамольцы пабудавалі імправізаваную сцэну, падрыхтавалі лаўкі.

Агітмашына пабывала за кароткі час у Жабінкаўскім, Лагішынскім, Антопальскім, Целяханскім, Пінскім, Іванаўскім, Драгічынскім і іншых раёнах вобласці.

У бліжэйшы час агітмашына выедзе ў раёны з абноўленай праграмай, у якой вялікае месца зойме вусны часопіс «Зямля і неба».

**«Тэлевізар»**

Шырокую вядомасць на Капыльшчыне атрымаў мясцовы «тэлевізар», зроблены актывістамі Цімкавіцкага сельскага клуба. Гэты «тэлевізар» вельмі просты і зрабіць яго няцяжка. Ім можна карыстацца ў кожным сельскім клубе ці хаце-чытальні. Ён складаецца з квадратнай рамы, якая падобна на экран сапраўднага тэлевізара, але толькі большая за яго ў 2,5 раза. У экране рухаецца замацаваная з адваротнага боку рамы на роліках стужка (для гэтага, як правіла, ужываюць звычайныя шпалеры). На экране з'яўляюцца кадры, якія перасоўваюцца за кулісамі. Такі «тэлевізар» ставіцца на стале. Дыктар праз мікрафон і ўзмацняльнік, якія знаходзяцца ў кінабудцы, расказвае змест чарговага кадра на экране.

Вось адна з праграм «тэлевізара».

Спачатку расказваецца аб працоўных справах перадавых людзей калгаса, паказваюцца іх партрэты. Потым тэматыка змяняецца. На экране — садоўнік. Ён спіць на рабоце. Пад агульны смех прысутных дыктар чытае востры верш, у якім высмейваецца гэты гора-чалавек.

У вострых карыкатурах і сатырычных вершах «тэлевізар» Цімкавіцкага сельскага клуба выкрывае ўсіх тых, хто парушае працоўную дысцыпліну, нядбайна адносіцца да калгаснага дабра, дрэнна сябе паводзіць.

Праграмы «тэлевізійных» перадач абнаўляюцца кожны месяц, а іншы раз і часцей. Яны складаюцца з 10—15 кадраў, прысвечаных адпаведнай тэме. Перадачы робяцца, як правіла, на мясцовым матэрыяле.

У рэдкалегіі 5 чалавек. Яны ўважліва сочаць за своечасовым рэагаваннем на крытыку «тэлевізара».



**Вусны часопіс «У свет навукі, розуму і праўды»**

У Ашмянскім раёне сярод разнастайных форм і метадаў навукова-атэістычнай прапаганды асаблівай папулярнасцю карыстаецца вусны ілюстраваны часопіс пад назвай «У свет навукі, розуму і праўды», арганізаваны райкомам партыі, райкомам камсамола і аддзяленнем Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў.

З першай часткі часопіса можна даведацца, як жыццё выкрывае «святыя пісанні», чаму адбываюцца зацьменні Сонца і Месяца, чаму лётаюць штучныя спадарожнікі Зямлі, колькі можа пражыць чалавек і г. д. У другой частцы часопіса — «цуды»: «чараўнічы агонь» «запальванне вады», «нязгасны ахвярнік», «боскія словы», «ператварэнне вады ў віно», «ператварэнне вады ў кроў» і г. д. У трэцяй частцы — узнікненне жыцця на зямлі, гісторыя паходжання чалавека, разнастайнасць і адзінства жывой прыроды».

У правядзенні кожнага раздзела часопіса ўдзельнічаюць лектары, яны ж адказваюць і на ўсе пытанні слухачоў. Праграма вечара пачынаецца кароткім уступным словам вядучага. Потым лектар, аналізуючы асобныя палажэнні так званых «святых кніг», паказвае, што супярэчнасці, якія ёсць у іх, абвяргаюць факт існавання Хрыста. Лектар аналізуе асобныя палажэнні біблії. У заключэнне даецца кароткая характарыстыка эпохі, ва ўмовах якой узнік міф аб Хрысце, ускрываюцца прычыны ўзнікнення міфа і падкрэсліваецца, што адзіна правільны адказ на пытанне ўзнікнення і развіцця чалавечага грамадства можа даць сучасная навука — марксізм-ленінізм.

На канкрэтных прыкладах з мясцовага жыцця лектары раскрываюць шкоднасць знахарства, шаптух, падрабязна спыняюцца на шкоднасці рэлігійных забабонаў. Тут жа слухачы знаёмяцца па наглядных дапаможніках з рухам Зямлі вакол Сонца і рухам Месяца вакол Зямлі.

У трэцім раздзеле часопіса — дэманстрацыя вучэбнага кінафільма аб узнікненні жыцця на Зямлі.

Вусны ілюстраваны часопіс «У свет навукі, розуму і праўды» паказваўся, у першую чаргу, у тых вёсках, дзе ёсць касцёлы і цэрквы.

# ЧАЦВЁРТЫ З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

З часу III з'езда пісьменнікаў БССР у 1954 годзе мінула чатыры гады. За гэты перыяд беларуская савецкая літаратура дасягнула новых значных поспехаў у галіне прозы, паэзіі, драматургіі і кінадраматургіі, крытыкі і літаратуразнаўства. Пісьменніцкая арганізацыя вырасла і колькасна: 48 здольных маладых празаікаў, паэтаў, драматургаў, крытыкаў прынята ў Саюз пісьменнікаў БССР. У адлюстраванні кіпучага, шматграннага жыцця народа, яго гераічных подзвігаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і на фронце мірнага будаўніцтва наша літаратура ўзбагацілася новымі творамі, якія з цікавасцю і хваляваннем сустрэла ўся грамадскасць.



**З дакладам выступае старшыня праўлення СП БССР П. У. Броўка.**
Фота А. Дзітлава.

Для абмеркавання далейшых творчых задач, пастаўленых перад савецкай літаратурай партыяй і народам, 12 лютага г. г. і сабраўся IV з'езд пісьменнікаў Беларусі.

— Мы сабраліся ў знамянальны час, калі савецкі народ уступае ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства, — сказаў ва ўступнай прамове народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва. — Працоўныя нашай краіны, натхнёныя гістарычнымі рашэннямі XXI з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, захопленыя велічнымі перспектывамі, якія выказаны ў дакладзе М. С. Хрушчова, прыступілі да выканання грандыёзных задач... Нам, беларускім пісьменнікам, трэба падумаць аб тым, як узняць узровень нашай літаратуры да ўзроўню велічных спраў савецкага народа, да ўзроўню запатрабаванняў перадавога нашага чытача — будаўніка камуністычнага грамадства.

З дакладам «На шляху служэння народу» выступіў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Пятрусь Броўка.



**Самыя маладыя дэлегаты з'езда:** (злева направа) **Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч** (Орша), **Ніл Гілевіч, Еўдакія Лось, Барыс Спрынчан** (Гомель), **Васіль Быкаў** (Гродна), **Уладзіслаў Нядзведскі.**
Фота У. Крука.



**Госці з братніх рэспублік сярод беларускіх пісьменнікаў у перапынку з'езда:** (злева направа) **Каналі Бярдыеў** (Туркменія), **Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Мікола Нагнібяда** (Украіна) **і Анатоль Вялюгін.**
Фота А. Дзітлава.

Прааналізаваўшы творчыя здабыткі беларускіх пісьменнікаў, а таксама тыя адмоўныя з'явы, якія мелі месца за апошні час у літаратуры, Пятрусь Броўка спыніўся на пытаннях вучобы і майстэрства.

— Марксісцка-ленінская вучоба, — кажа Пятрусь Броўка, — якая павінна даць пісьменніку сапраўднае разуменне жыцця, неабходнае яму загартаванне, як барацьбіту за пабудову новага жыцця, глыбокае вывучэнне таго, чым жыве сёння наш чалавек, што натхняе яго на гераічныя подзвігі, упартая праца над аваладаннем, над удасканаленнем свайго майстэрства — усё разам можа прывесці да поспеху. Пісьменнікам, і асабліва маладым, якія толькі ўступаюць на літаратурны шлях, трэба цвёрда памятаць пра гэта... Кожнаму з нас вядома, што асновай літаратурнага твора з'яўляецца мова, без уважлівага стаўлення да якой нельга стварыць добрага твора. Працэс развіцця мовы ідзе бесперапынна, і старраннае вывучэнне яе вельмі неабходна. Прыклад таго, як узбагачалі свой слоўнікавы запас нашы класікі, нашы лепшыя пісьменнікі Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, як дбайна ставіцца да слова Кандрат Крапіва, Пятро Глебка і іншыя — павучальны для нас. Нельга стварыць добрага твора заштампаванымі, сцёртымі словамі, нельга стварыць добры твор і аджылымі, мёртвымі, архаічнымі словамі, ажывіць якія пры ўсіх намаганнях пісьменніка немагчыма.

Пасля даклада разгарнуліся спрэчкі, у час якіх пісьменнікі розных пакаленняў гаварылі аб надзённых пытаннях літаратурнага жыцця. З вялікай прамовай на з'ездзе выступіў кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі тав. К. Т. Мазураў. Шмат увагі К. Т. Мазураў аддаў у сваёй прамове пытанням выхавання маладых пісьменнікаў.

— Прыемна, што за апошні час рады беларускіх пісьменнікаў значна папоўніліся, — сказаў прамоўца, — і толькі ў 1958 годзе Дзяржвыдавецтва БССР выпусціла 24 першыя кнігі маладых і пачынаючых пісьменнікаў. Але вялікі прыток у нашу літаратуру моладзі патрабуе ад Саюза пісьменнікаў узмацнення клопатаў аб яе выхаванні. ...Работа з пачынаючымі і маладымі — справа творчая, яна патрабуе індывідуальнага падыходу і такту. Нельга шматлікімі камісіямі, пасяджэннямі і нарадамі замяніць жывую работу, калі трэба сесці з пачынаючым пісьменнікам за стол і разабраць разам з ім яго твор, паказаць недахопы, дапамагчы добрай парадай.

З'езд працаваў тры дні.

Госці з братніх рэспублік выступілі з прывітаннямі і прынялі ўдзел у абмеркаванні даклада: Валянцін Катаеў, Уладзімір Піменаў (Масква), Арсен Астроўскі (Ленінград), Юры Збанацкі (Кіеў), Геворк Эмін (Ерэван), Адольф Талцыс (Рыга), Тэафіліс Цільвіціс (Вільнюс), Каналі Бярдыеў (Ашхабад), Мікалай Раманенка (Кішынёў).

На апошнім пасяджэнні быў абраны новы склад праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, рэвізійная камісія і дэлегаты на III Усесаюзны з'езд пісьменнікаў.

З вялікім натхненнем з'езд паслаў прывітанне Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

# *Навука і тэхніка*

М. ХАРКОЎСКІ

# НА ВАРЦЕ ЖЫЦЦЯ

Вялікі і цяжкі шлях прайшоў Васіль Раманавіч Брайцаў, пакуль стаў вядомым хірургам, — шлях ад глухой беларускай вёскі да сталіцы нашай Радзімы Масквы.

80 год таму назад у сям'і селяніна вёскі Забялышына Клімавіцкага павету на Магілёўшчыне Рамана Брайцава нарадзілася сёмае па ліку дзіця — сын Васіль.

Раман Брайцаў вельмі любіў дзяцей, і з'яўленне яшчэ аднаго сына ён сустрэў з радасцю. Праўда, такую вялікую сям'ю трэба было пракарміць, абуць, адзець, але «залатыя рукі» не раз выручалі Рамана з цяжкага становішча. Ён мог рабіць усё, што патрэбна ў гаспадарцы: вазы, калёсы, бочкі, плесці лапці, класці печы. Усё гэта было немалой падмогай; купляць жа не трэба. Раман часта задумваўся над прычынамі, якія выклікалі галечу сялянскую. Яго дапытлівы розум шукаў адказу: што зрабіць, каб яго любімыя сыны выбіліся ў людзі?

Але толькі свайго меншага сына Васіля здолеў паслаць Раман у царкоўна-прыхадскую школу. Гэта была адзіная навучальная ўстанова ў вёсцы. Хлопчык хутка навучыўся чытаць па-славянску, распяваць псалтыр на клірасе ды на ўроках «закону божага» адказваць без запінкі, што бог стварыў усё жывое за шэсць дзён...

Выдатныя здольнасці Васіля прымусілі Рамана задумацца над яго далейшым лёсам. Хлопец прагнуў сапраўднай вучобы, сапраўдных ведаў. На сямейнай нарадзе доўга думалі-меркавалі і вырашылі адправіць Васіля ў павятовае вучылішча ў Рослаўль. Хлопчык і там вучыўся добра. Ён закончыў вучылішча з атэстатам выдатніка і яго вабіла вучыцца далей. Але каб паехаць з вёскі, трэба было мець, як тады гаварылі, «вызваленне ад грамадства». Пасля вялікіх турбот юнак атрымаў яго і паступіў у Смаленскую гімназію адразу ў пяты клас. Гімназію ён закончыў з залатым медалем. Сям'я радавалася поспехам свайго малодшага карміцеля, бо галава дому Раман памёр незадоўга перад тым, як Васіль скончыў гімназію.

Толькі на душы юнака было сумна. Перад ім стаяла пытанне: што рабіць далей? Хадзіць за сахой?.. Ці, можа, лапці плесці?.. Не, чаго б тое ні каштавала, трэба дамагчыся пастаўленай мэты. Васіль Брайцаў паступае на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта.

Цяжка было вучыцца: трэба плаціць за навучанне, кватэру, харчаванне... Ды ці мала іншых выдаткаў. А дзе ўзяць сродкі? Калі вучыўся ў гімназіі, трохі дапамагалі браты. Зараз жа яны і самі ледзь канцы з канцамі зводзілі...

Васіль пайшоў выпрабаваным шляхам многіх студэнтаў таго часу: стаў даваць прыватныя ўрокі. Гэта была цяжкая і бязрадасная работа — удзёўбваць панскім сынкам навукі, да якіх яны не мелі ні ахвоты, ні здольнасцей. Нягледзячы на тое, што прыватныя ўрокі займалі ў Васіля многа часу і энергіі, ва ўніверсітэце ён быў заўсёды выдатнікам.

У той час некаторыя купцы і прамыслоўцы — адны дзеля славы, другія з сапраўднага жадання дапамагчы здольным студэнтам — устанавілі свае стыпендыі пры вышэйшых навучальных установах. Выдатныя здольнасці Васіля Брайцава звярнулі на сябе ўвагу, і яму далі стыпендыю купца Барышнікава. Прыватныя ўрокі можна было кінуць — сродкі на інтэрнат і харчаванне былі забяспечаны.

У 1906 годзе Брайцаў заканчвае ўніверсітэт і атрымлівае ступень «выдатнага лекара». Настойлівасць і працавітасць, здольнасць і любоў да навуковай работы Васіля Раманавіча былі належным чынам ацэнены кіраўніком шпітальнай хірургічнай клінікі Маскоўскага ўніверсітэта прафесарам П. І. Дзьяканавым. Маладога ўрача пакінулі пры клініцы для праходжання ардынатуры. Праз год Васіль Раманавіч абараняе доктарскую дысертацыю, якая атрымала ў той час высокую ацэнку Маскоўскага хірургічнага таварыства.

Паспяховая абарона доктарскай дысертацыі дала Васілю Раманавічу магчымасць стаць асістэнтам клінікі шпітальнай хірургіі, якою кіраваў тады прафесар А. В. Мартынаў. Гэта быў адзін з цікавейшых, але і адзін з самых цяжкіх перыядаў жыцця нашага земляка. Справа ў тым, што клініка мела ў той час абмежаваную колькасць штатных вакансій. Каб атрымаць штатную пасаду, трэба было чакаць вызвалення гэтай пасады па якіх-небудзь прычынах, а тым часам працаваць бясплатна. Жаданне прымяніць свае веды на практыцы і весці даследчыя работы пад кіраўніцтвам вядомага прафесара было такім вялікім, што В. Р. Брайцаў згадзіўся і на такія ўмовы. Працаваў ён дзевяць месяцаў у год, а на астатнія, канікулярныя летнія месяцы выязджаў у бальніцы суседніх земстваў, дзе замяшчаў урачоў, якія ішлі ў адпачынак. Работа ў бальніцах глухіх гарадоў давала вялікае задавальненне маладому вучонаму. Працуючы ў павятовых бальніцах, Васіль Раманавіч не толькі аказвае хірургічную дапамогу насельніцтву, але і займаецца арганізацыяй хірургічнай службы ва ўмовах земскай медыцыны. Увесь свой вопыт, нагляданні і практычныя прапановы па арганізацыі хірургічнай службы ён адлюстроўваў у напісаных у той час артыкулах.





**В. Р. Брайцаў у сваім кабінеце.**
Фота аўтара.

Так працягвалася некалькі год. Сусветная вайна перанесла ўвагу маладога вучонага на хірургію ваенную. Ён кіруе адным з буйнейшых маскоўскіх хірургічных шпіталяў, вывучае пытанні хірургіі агнястрэльных раненняў сасудаў і перыферычнай нервовай сістэмы. Манаграфіі, прысвечаныя ваеннапалявой хірургіі, характарызуюць аўтара як аднаго з піянераў сасудзістай хірургіі.

Але толькі пасля рэвалюцыі

творчыя здольнасці Васіля Раманавіча Брайцава атрымалі найбольшыя магчымасці для свайго развіцця. Яго выбіраюць загадчыкам кафедры аператыўнай хірургіі Вышэйшай медыцынскай школы, а неўзабаве ён становіцца навуковым кіраўніком хірургічнага аддзялення Цэнтральнай клінічнай бальніцы імя М. А. Сямашкі, дзе працуе і да гэтага часу.

Тры тысячы ўрачоў-курсантаў за гэтыя гады вучыліся ў Васіля Раманавіча. Асабліва напружана працавала клініка ў час Вялікай Айчыннай вайны, калі ў бальніцы размяшчаўся хірургічны шпіталь на 750 ложкаў і ў ім кожны год пад кіраўніцтвам В. Р. Брайцава атрымоўвалі спецыяльнасць і павышалі сваю кваліфікацыю 350 урачоў-хірургаў.

Вялікай заслугай Васіля Раманавіча як педагога з'яўляецца стварэнне ў клініцы надзвычай багатага і разнастайнага патолагаанатамічнага музея.

За перыяд шматгадовай працоўнай дзейнасці В. Р. Брайцавым узнімаліся самыя складаныя і маладаследаваныя пытанні. Кола гэтых пытанняў, дыяпазон яго хірургічнай дзейнасці вельмі рознабаковыя. Васіль Раманавіч зарэкамендаваў сябе бліскучым даследчыкам захворванняў кішэчніка.

Яшчэ да рэвалюцыі ўвагу маладога вучонага прыцягнула такая хвароба, як апендыцыт. Багатая клінічная практыка дала Васілю Раманавічу матэрыял для абагульненняў і вывадаў, што складаюць змест манаграфіі «Востры апендыцыт», якая атрымала ўсеагульнае прызнанне ў савецкіх хірургаў.

Вялікае значэнне надае В. Р. Брайцаў пытанням касцявой паталогіі, лёгачнай хірургіі і ставіць перад работнікамі клінікі пытанне аб неабходнасці паглыбленага вывучэння захворванняў лёгкіх, плеўры і міжсцення. За дзесяць год, што прайшлі з таго часу, калі была праведзена першая аперацыя на лёгкім, у клініцы іх зроблена звыш трохсот. Адначасова клініка працуе над асваеннем хірургіі сэрца і сасудаў.

Больш паўвека вядзе Васіль Раманавіч сваю педагагічную дзейнасць. Цяпер ён кіруе адной з асноўных кафедр Цэнтральнага інстытута ўдасканалення ўрачоў, вучыць сваіх вучняў быць не толькі спецыялістамі сваёй справы, але і бескарыслівымі, сумленнымі грамадзянамі нашай вялікай Радзімы. Выхадзец з гушчы народа, Васіль Раманавіч мэтай свайго жыцця ставіць служэнне народу.

Камуністычная партыя і савецкі ўрад высока ацанілі заслугі Васіля Раманавіча Брайцава ў справе развіцця аховы здароўя. Ён узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і чатырма медалямі.

У 1945 годзе Васіль Раманавіч выбіраецца правадзейным членам Акадэміі медыцынскіх навук і ў тым жа годзе ўдастойваецца высокага звання заслужанага дзеяча навукі РСФСР. Васіль Раманавіч актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Ён — ганаровы член Усесаюзнага і Беларускага таварыстваў хірургаў, а таксама член Міжнароднага таварыства хірургаў.

Нягледзячы на свой узрост, Васіль Раманавіч працягвае працаваць з энергіяй, вартай пераймання. Кожны дзень устае ў 7 гадзін раніцы. А палове дзевятай пачынаецца яго працоўны дзень у клініцы. Працуе шэсць гадзін. Пасля абеду — кароткі сон. Вечарам — разнастайны адпачынак і ўдзел у працы хірургічнага таварыства. Вечарам жа піша вучоны свае навуковыя працы, якіх ужо, дарэчы сказаць, звыш ста. Спаць лажыцца ў 11 гадзін, рэдка калі ў 12. Не курыць. Адчувае сябе цудоўна. Нічым не хварэе. Жыццерадасны, заўсёды ветлівы з усімі.

Нястомная энергія, настойлівасць, імкненне да ведаў і любоў да свайго народа памаглі В. Р. Брайцаву стаць адным з буйнейшых вучоных нашай краіны.

Уладзімір ДУБОЎКА

# САВЕЦКІЯ АЛМАЗЫ

Людзі спрадвеку цікавіліся алмазамі. У даўнія часы гэты надзвычайна каштоўны мінерал-самацвет служыў багатым людзям як упрыгожанне. Пасля шліфоўкі алмаз атрымоўвае новае імя — дыямент. Для яго ўведзена нават адмысловая адзінка вагі — карат (адзін карат — 0,2 грама).

Дыямент велічынёй з наш лясны арэх у залежнасці ад яго хараства, расцэньваўся ў дзесяткі і нават сотні тысяч рублёў золатам.

Высокая цана на алмазы тлумачылася і тым, што іх было надзвычайна цяжка знайсці.

Упершыню алмазы былі знойдзены ў Індыі.

З цягам часу іх адшукалі і ў Афрыцы. Параўнаўча нядаўна алмазы знойдзены ў Паўднёвай Амерыцы, у Бразіліі.

Нягледзячы на павелічэнне здабычы алмазаў, цэны на іх не зніжаліся. Справа ў тым, што алмазы зараз вельмі шырока скарыстоўваюцца ў розных вытворчых працэсах. Рэзанне многіх звышцвёрдых металаў, бурэнне скважын у цвёрдых горных пародах адбываецца толькі з дапамогай алмазаў. Вось што сказаў аб значэнні гэтага каштоўнага мінералу адзін з вядомых амерыканскіх спецыялістаў: «Калі б ЗША страцілі ў адзін дзень тэхнічныя алмазы, іх прамысловы патэнцыял праз вельмі кароткі тэрмін зменшыўся б напалову».

А вайсковыя амерыканскія спецыялісты сцвярджаюць: без алмазаў выраб вайсковай зброі адбываўся б у 6—12 разоў павольней, чым цяпер.

Калі ўявіць сабе гэта ўсё, будзе зусім зразумела, якой перашкодай для развіцця нашай савецкай тэхнікі і вытворчасці з'яўлялася адсутнасць сваіх айчынных алмазаў.

Нам трэба было купляць іх за мяжою на золата.

Вось чаму нашы геолагі, нашы даследчыкі няспынна шукалі на абшарах савецкай зямлі гэты каштоўны мінерал-самацвет.

Шукаць алмазы, уласна кажучы, пачыналі ў старой, царскай Расіі. Але гэта былі толькі спробы. Па-сапраўднаму пошукі алмазаў разгарнуліся толькі ў наш, савецкі час.

Савецкая навука абагуліла і сістэматызавала ўсе веды аб паходжанні алмазаў, аб ужо вядомых на свеце месцанараджэннях гэтых самацветаў. І што ж аказалася?

Прыблізна сто мільёнаў гадоў таму назад, калі наша зямля мела зусім іншы выгляд, на паверхню яе ў некаторых мясцінах выходзіла лава. Гэтая лава мела асобыя якасці, бо яна вырывалася з глыбіні 100—150 кіламетраў, пад вялікім ціскам — да 50 тысяч атмасфер. Струмень гэтай лавы так і застываў у выглядзе невялікіх трубак. Мелі яны асаблівы, уласцівы толькі ім адным, ко-

лер — шэра-блакітны, блакітны, зеленавата-сіні.

Вось гэтыя трубкі і атрымалі назву кімберлітавых, а маса, якая іх напаўняе, — кімберліту.

Доследы паказалі, што алмазы і бываюць толькі ў гэтых кімберлітавых трубках.

Калі ж іх знаходзілі без трубак, дык гэта тлумачылася дзейнасцю паводак, якія размывалі некаторую частку кімберлітаў і адносілі іх, а разам з імі і алмазы, на вялікую адлегласць.

Атрымаўшы гэтыя звесткі, трэба было даведацца: ці ёсць у нас, у Савецкім Саюзе, такія кімберлітавыя трубкі. На дапамогу даследчыкам прышлі нашы савецкія лётчыкі. Фатаграфуючы з паветра недасяжныя для чалавека, неабжытыя тэрыторыі, яны атрымалі здымкі той часткі Якуцкай АССР, дзе рэдка калі ступала нага чалавека.

Вывучаючы гэтыя фотаздымкі, нашы вучоныя ўстанавілі, што на тэрыторыі Якуціі, дзе яна мяжуе з Краснаярскім краем, і знаходзяцца кімберлітавыя трубкі.

Засталося здабыць іх, вывучыць іх якасці.

Тут і пачаліся галоўныя цяжкасці.

Не абавязкова бываць самому ў сібірскай тайзе або тундры, каб пераканацца ў тым, з якімі вялікімі цяжкасцямі там даводзіцца сустракацца чалавеку на кожным кроку.

Перш за ўсё — кароткае і сцюдзёнае лета. Не паспее даехаць экспедыцыя да месца — пачынаецца восень, неўзабаве за ёй наступае зіма. Зімой пошукі немагчымыя. Улетку — ні дарог, ні добрых пераходаў, ні кладак... А навокал — балоты, багны, незлічоныя хмары рознага гнусу (мошкі, камары, авадні, макрэц)...

І вось у гэты гушчар прышла моладзь, выхаванцы Ленінградскага, Свярдлоўскага, Львоўскага і іншых універсітэтаў. Яны прабілі шляхі праз тайгу, адшукалі кімберлітавыя трубкі.

Так, дзякуючы аб'яднаным намаганням савецкіх вучоных і смелых даследчыкаў-геолагаў, былі знойдзены савецкія алмазы.

Разведка алмазных залежаў прадаўжаецца. Напэўна ж Сібір аб'явіцца ўладарніцай самых вялікіх у свеце алмазных багаццяў. Савецкая Якуція ператворыцца ў новы цэнтр здабычы алмазаў — адзін з буйнейшых у свеце.

**Леанід БУЛАТ**

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ДРУК

### У пошуках новага

Вам, вядома, даводзілася бачыць «нутро» тэлевізара або радыёпрыёмніка. Першае, што кідаецца ў вочы, гэта безліч самых разнастайных дэталей: супраціўленні, кандэнсатары, катушкі індуктыўнасці, кантактныя калодачкі... Усё гэта злучана паміж сабою дзесяткамі правадоў, выгнутых у розныя формы. Варта сапсавацца хоць адной дэталі, і нармальная работа прыёмніка парушаецца.

Ну, як тут не злавацца, калі ў майстэрні вы даведваецеся, што прычына няспраўнасці заключалася ў нейкім маленькім супраціўленні, якое згарэла?

— Дробны рамонт, — гаворыць радыёмайстар. Бярэ ў рукі паяльнік, выпайвае сапсутае супраціўленне, замяняе яго новым, і радыёпрыёмнік зноў працуе. Каб ліквідаваць гэтую няспраўнасць, спатрэбілася ўсяго некалькі мінут.

Вядома, бываюць розныя няспраўнасці. Але вернемся да таго, што мы прыкмецілі — прасцейшая дэталь нашага прыёмніка была прыпаяна пры дапамозе паяльніка. Колькі ж часу



спатрэбіцца для таго, каб спаяць усю схему?

Скажам для прыкладу, што маленькі радыёпрыёмнік «Масквіч» мае ў сваім мантажы больш за 150 паек, тэлевізар КВН-49 — каля 600, а ў складанай радыёапаратуры іх налічваецца дзесяткі тысяч.

На мантаж радыёапаратуры ручным спосабам ідзе вельмі многа часу.

Давайце зойдзем у мантажны цэх радыёзавода і пазнаёмімся бліжэй з працай мантажніка.

Са зборачнага цэха на стол мантажніка паступае металічная аснова будучага радыёапарата. На ёй ужо ўстаноўлены буйныя дэталі і вузлы, але няма электрычнай схемы. Рабочы-мантажнік мае інструмент: электрычны паяльнік, пінцэт, маленькія кусачкі, вузкія доўгія пласкагубцы, набор розных правадоў і дробных дэталей. Кожную дэталь трэба апрацаваць: абрэзаць канцы на зададзеную даўжыню і загнуць іх, затым умацаваць, падвесці злучаныя правады (раней падрыхтаваныя), потым абпаяць усе месцы злучэнняў і пафарбаваць пайку спецыяльным лакам. У працэсе працы неабходна пастаянна звяртацца да мантажнай схемы, каб не дапусціць памылкі. Што і казаць, справа даволі марудная.

Для паскарэння шырока прымяняецца паточны метад, калі кожны рабочы робіць установку некалькіх дэталей і невялікую колькасць паек. Радыёапарат рухаецца па канвееру, пераходзячы з рук у рукі, і паступова «абрастае» дэталямі.

Паточны метад мантажных работ мае вялікую перавагу: значна павялічваецца прадукцыйнасць працы, паляпшаецца якасць, змяншаецца брак. Аднак і ён не вырашае асноўнай праблемы — механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці радыёапаратуры.

Цікава адзначыць, што за нейкія паўсотні год радыётэхніка атрымала такое каласальнае развіццё, якога не мела ні адна другая галіна навукі і тэхнікі.

Але да самага апошняга часу электрычны мантаж рабіўся ўручную, пры дапамозе электрычнага паяльніка.

Як жа выйсці з такога становішча, ліквідаваць разрыў паміж механізаванай вытворчасцю дэталей радыёапаратуры і ручным мантажом?

Патрэбны новыя метады вытворчасці.

І гэтыя метады знойдзены.

У сучасны момант пачынае шырока прымяняцца цікавы спосаб вырабу радыёапаратуры, які атрымаў назву **метаду друкаваных схем.** У ім закладзены каштоўныя магчымасці, якія дазваляюць вырашыць такія важныя пытанні, як павышэнне тэрміну службы, значнае памяншэнне памераў, рэзкае зніжэнне кошту радыёапаратуры і, галоўнае, пераход на аўтаматызаваную вытворчасць. Друкаваныя схемы ўпэўнена прабіваюць сабе шлях. Практычна выкарыстаныя ў цэлым шэрагу прыстасаванняў, яны выдатна зарэкамендавалі сябе ў эксплуатацыі.

### Як гэта робіцца

Калі на якім-небудзь ізалятары нанесці токаправоднай фарбай вузкую палоску, яна будзе выконваць ролю правадніка электрычнага току. На пласцінку з пластмасы, керамікі, шкла або іншага матэрыялу можна нанесці токаправоднай фарбаю цэлую схему. Атрымліваецца мантаж без медных правадоў.

Ізаляцыйную пласцінку, аснову друкаванай схемы, называюць платай. Токаправодная фарба або паста мае ў сваім саставе срэбра ці яго вокіслы, вязкае рэчыва і тонказдробненае шкло, што адыгрывае ролю флюсу. Калі малюнак схемы нанесены, плату змяшчаюць у спецыяльную печ. Пры пэўнай тэмпературы шкло плавіцца, рэчыва, якое звязвае, выгарае і плёнка срэбра вельмі моцна злучаецца з асновай.

Малюнак схемы можна наносіць па-рознаму: з дапамогай пэндзліка, распырскваннем фарбы цераз трафарэт, накатам гумавага валіка або друкаваннем на станках, якія прымяняюцца ў паліграфічнай прамысловасці. Адсюль і бяруць сваю назву друкаваныя схемы.

Пры неабходнасці можна злучаць платы, накладваючы іх адну на другую, і друкаваная схема радыёапарата можа быць сабрана, быццам кніга. Электрычныя злучэнні праз скразныя адтуліны робяцца пры дапамозе пагружэння ў расплаўленае волава. Для захавання асобных участкаў схемы ад уздзеяння высокай тэмпературы ўжываюцца розныя ахоўныя пакрыцці. Злучэнні можна рабіць таксама электразваркай або механічным спосабам, напрыклад, заклёпкамі і інш.

Друкаванне пры дапамозе токаправодных фарбаў — адзін з першых

ужытых у тэхніцы вытворчасці друкаваных схем.

Цікава адзначыць, што практычнае прымяненне срэбраных пакрыццяў матэрыялаў пры дапамозе фарбаў і паст прапанавана савецкім інжынерам Фройманам А. І. яшчэ ў 1934 годзе. Патэнт на вынаходніцтва быў зарэгістраваны ў міжнародным бюро.

Другі шырока распаўсюджаны метад вырабу друкаваных схем — траўленне металу. На ізаляцыйную пласцінку наносіцца тонкі пласт медзі. Спецыяльнай кіслотатрывалай фарбай робіцца малюнак схемы, пасля чаго плата апускаецца ў травільны раствор і ўсё тое, што не было пакрыта фарбай, растварaецца. Застаецца металічны малюнак схемы. З яго здымаецца ахоўная фарба, і мантаж гатовы.

Малюнак можа рабіцца праз трафарэт, друкарскай машынай або фотамеханічным спосабам, які заключаецца ў наступным. Плата пакрываецца асобым святлоадчувальным слоем. З чарцяжа схемы фатаграфуецца негатыў. Плата з накладзеным на ёй негатывам засвятляецца магутнай крыніцай святла і апускаецца ў «праяўляючае» рэчыва. Тыя месцы, якія падвергліся дзеянню святла, застаюцца, а астатнія раствараюцца.

Фотамеханічны спосаб вельмі дакладны і таму асабліва зручны для вырабу складаных схем.

Вельмі падобным да вышэйапісанага з'яўляецца метад вырабу друкаванага мантажу з прымяненнем фальгі — тонкіх металічных лістоў, накштат «срэбраных» паперак, у якія загортваюцца цукеркі. Фальга наклейваецца спецыяльным клеем на плату. Малюнак схемы і траўленне робяцца адным з ужо вядомых спосабаў. Трэба сказаць, што гэты метад найбольш перспектыўны. Злучальныя правады з фальгі валодаюць цудоўнымі якасцямі. Яны трывалыя, добра вытрымліваюць дэфармацыі, займаюць значна менш месца, чым звычайныя круглыя правады, даюць вялікі выйгрыш ў вазе. Праваднік з фальгі прапускае больш электрычны ток і лепш аддае цяпло. Усё гэта важна пры вырабе звышмініятурнай радыёапаратуры.

Існуе не менш двух дзесяткаў розных спосабаў вырабу друкаванай радыёапаратуры. Кожны з іх мае свае асаблівасці, перавагі і недахопы, але мы разгледзелі коратка найбольш распаўсюджаныя ў сучасны момант.

## Машыны замяняюць мантажнікаў

Хто з вас не ведае аб прымяненні машын-аўтаматаў, «разумных машын» у самых разнастайных вытворчых працэсах?! Навейшыя такарныя, фрэзерныя і іншыя станкі з асобнымі праграмнымі прыстасаваннямі апрацоўваюць дэталі самых складаных форм з выключнай дакладнасцю. Для пераходу на выраб другой дэталі трэба змяніць парадак работы станка, задаць іншую праграму. Самыя складаныя хімічныя, фізічныя, механічныя і іншыя працэсы ў сучасны момант выконваюцца машынамі-аўтаматамі з электроннымі прыстасаваннямі.

А ці нельга прымусіць машыны рабіць мантаж радыёапаратуры?

Асаблівая каштоўнасць друкаваных схем заключаецца ў тым, што ствараюцца магчымасці поўнасцю аўтаматызаваць вытворчасць іх і пакінуць прымяненне ручной працы для завяршаючых аперацый. Такімі аперацыямі ў вырабе радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, напрыклад, з'яўляецца ўстаноўка радыёлямп, гучнагаварыцеляў, тэлевізійных трубак і г. д., якія не могуць быць зроблены друкаваным спосабам.

Што ж датычыць спецыяльных схем і розных электронных прыбораў, дык прымяненне ручной працы можа абмежавацца толькі ўстаноўкай радыёлямп.

Першая спроба механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці радыёапаратуры была зроблена ў Англіі ў 1943 г. Сканструяваная машына выпускала кожныя 20 секунд мініятурны чатырохлямпавы радыёпрыёмнік з батарэйным сілкаваннем. Машына рабіла ўвесь прыёмнік, за выключэннем лямп, электралітычных кандэнсатараў, гучнагаварыцеляў і скрынкі.

Цяпер аўтаматычная зборка робіцца не адной машынай, а цэлым комплексам, які ўключае машыну для падрыхтоўкі дэталей, сістэму падачы і машыну для ўкладкі дэталей.

Калі ўсе дэталі ўстаноўлены, плата з друкаваным мантажом і дэталямі аўтаматычна апускаецца ў прыпой і адбываецца адначасовая пайка ўсіх злучэнняў.

Адна з падобных укладачных машын можа, напрыклад, збіраць 32 платы па 50 дэталей у кожнай за адну гадзіну работы. 256 плат за — 8-гадзінную рабочую змену.



Поўнае кіраванне аўтаматызаванай сістэмай ажыццяўляецца электроннымі прыборамі.

Пры змяненні праграмы машына змяняе парадак работы. Для таго, каб перайсці на выраб новай апаратуры, дастаткова ўстанавіць новы камплект прыстасаванняў падачы дэталей і плат, змяніць праграмныя перфараваныя карткі другімі, і машына адразу ж пачынае вытворчасць радыёапаратуры другога віду.

На ўсё гэта патрабуецца час, які вызначаецца мінутамі.

Аўтаматызацыя дае велізарны выйгрыш у прадукцыйнасці працы. У Англіі ёсць машына «Dynastert», якая робіць аўтаматычную зборку блокаў друкаваных схем. Прадукцыйнасць машыны за адзін рабочы дзень роўная прадукцыйнасці **цэлай брыгады** высокакваліфікаваных зборшчыц за тыдзень.

Аўтаматызацыя зборкі радыёапаратуры павышае якасць і надзейнасць, забяспечвае большую дакладнасць і аднароднасць, змяншае брак, аблягчае тэхнічны кантроль, робіць больш таннай вытворчасць, а тым самым зніжае і цану на гатовую прадукцыю.

## Друкаваная радыёапаратура ў сучасным і будучым

Метадам друку вырабляюцца не толькі мантажныя злучэнні — «друкаваныя правады», але і найбольш шматлікія дэталі радыёапаратуры: супраціўленні, кандэнсатары, індуктыўнасці. Гатовая плата ўтрымлівае значную колькасць гэтых дэталей.

У друкаванай радыёапаратуры шырока выкарыстоўваюцца спецыяльныя радыёлямпы — так званыя звышмініятурныя. Такую назву яны носяць невыпадкова: самыя «вялікія» з іх маюць шкляны балон менш 1 см у дыяметры.

Злучэнне друкаваных схем і звышмініятурных радыёлямп дазваляе стварыць радыёпрыборы вельмі маленькіх памераў з вялікім каэфіцыентам узмацнення. Пераносная радыёстанцыя, сабраная на пяці лямпах разам з крыніцай сілкавання, мае аб'ём каля 800 $см^3$ — невялікая скрыначка з памерамі $20\times10\times4$ см. Такая радыёстанцыя важыць каля 1,4 кг і дазваляе ажыццяўляць радыётэлефонную сувязь на адлегласці да 2 км і больш. Такія мініятурныя радыёстанцыі могуць з поспехам прымяняцца пры правядзенні розных сельскагаспадарчых работ, на вялікіх будаўнічых аб'ектах і г. д.

Друкаваныя схемы шырока прымяняюцца ў вырабе мініятурных слыхавых апаратаў для людзей са слаба развітым слыхам, у радыё і тэлебачанні, у спецыяльнай апаратуры, у тым ліку і электронных лічыльных машынах.

Новы метад вырабу радыёапаратуры атрымлівае ўсё большае і большае развіццё ў нашай краіне. Ужо некалькі год прымяняюцца друкаваныя схемы ў тэлевізарах айчыннай вытворчасці: «Старт», «Рэкорд», «Знамя» і інш.

Пакуль яшчэ эканамічна не выгадна ўсю схему тэлевізара выконваць друкаваным спосабам, таму друкаваныя схемы ў тэлевізарах устанаўліваюцца ў выглядзе асобных блокаў.

Друкаваныя схемы прымяняюцца ў спецыяльнай апаратуры розных тэхнічных прылад. А трэці штучны спадарожнік Зямлі? Яго не выпадкова называюць маленькім навукова-даследчым інстытутам. У шматлікіх прыборах, устаноўленых на спадарожніку, шырока выкарыстаны і друкаваныя схемы.

Мініятурныя радыёпрыборы і апараты, створаныя друкаваным спосабам, маюць вялікую будучыню.

У наш час, калі чалавецтва стаіць на парозе заваявання касмічнай прасторы, радыёэлектронныя прыборы і апараты будуць адыгрываць усё большую ролю. Яны дазволяць таксама сабраць і прааналізаваць усе дадзеныя ўмоў міжпланетнага палёту, перш чым адправіць касмічны карабель з людзьмі. Ясна, што друкаваныя схемы, дзякуючы сваёй мініятурнасці, механічнай трываласці і цеплаўстойлівасці, стануць асновай усёй радыёапаратуры. Радыёлямпы, тэрмін службы якіх вылічваецца ў дзве-тры тысячы гадзін, уступяць месца паўправаднікам. Ужо цяперашнія крышталічныя трыёды могуць працаваць да ста тысяч гадзін — каля 12 год. Гэта дазволіць стварыць радыёапаратуру незвычайнай даўгавечнасці. Ракеты з аўтаматычным кіраваннем у шматгадовых палётах будуць даследаваць касмічную прастору. Сотні і тысячы розных навукова-даследчых станцый, размешчаных ў самых цяжкадаступных месцах зямнога шара, без удзе-

лу чалавека збяруць навуковы матэрыял велізарнай каштоўнасці. Удасканаленыя сонечныя батарэі (тыя, што былі ўстаноўлены на трэцім савецкім спадарожніку) стануць невычэрпнай крыніцай электрычнай энергіі для радыёапаратуры будучага.

Друкаваны мантаж знойдзе шырокае прымяненне і ў розных электрычных машынах. Ужо цяпер вядуцца работы па стварэнню электрарухавікоў з абмоткамі, выкананымі друкаваным спосабам. Такі электрарухавік будзе не толькі меншы па памерах, але і па вазе. Пры ізаляцыі са шклавалакна ён зможа працаваць пры такіх рабочых тэмпературах, якія ў некалькі разоў пераўзыходзяць цяперашнія. (Рабочая тэмпература сучаснага электрарухавіка вагаецца ў межах + 100°С, а з прымяненнем друкаваных абмотак +300—400° і нават больш.)

Радыёапаратура на друкаваных схемах трывала ўвойдзе ў быт. Будуць створаны партатыўныя радыёпрыёмнікі, якія лёгка змяшчаюцца ў кішэні, пераносныя тэлевізары памерам у маленькі чамаданчык, але з праектуючым прыстасаваннем, якое дазваляе атрымліваць адлюстраванне вялікіх памераў на экране, нібы ў кіно, дзесяткі разнастайных прыбораў, якія стваралі б бяспеку руху транспарту і пешаходаў, аблягчалі працу і вучобу, стваралі выключныя зручнасці.

Вось мы адправіліся ў загарадную прагулку, у турысцкі паход. Дома засталіся родныя, блізкія. Вядома, прыемна было б пагаварыць з імі ў часе адпачынку ля вогнішча, падзяліцца цікавымі ўражаннямі. Радыётэлефон. мініятурны апарат памерам не больш за партабак або звычайны компас, які да таго ж можа і надзявацца на руку, дазволіць зрабіць гэта вельмі хутка. Вы ўстанаўліваеце невялікую высоўную антэнку, уключаеце апарат і пасылаеце выклік. Не бяда, што ваш мініятурны перадатчык мае радыус дзеяння ўсяго якіх-небудзь паўтара-два дзесяткі кіламетраў. Гэтага дастаткова, каб выклікаць бліжэйшую перагаворную станцыю. Дзяжурны радыётэлефаніст адказвае вам. Вы называеце патрэбны нумар тэлефона і праз некалькі секунд вядзеце размову са сваімі дамашнімі. Ад вас да перагаворнай станцыі сувязь ідзе па радыё, а далей — па тэлефоне. Пакуль ішла размова, вашы таварышы ўжо настроілі паходны тэлевізар. Праграма абяцае быць вельмі цікавай, і, нягледзячы на стомленасць, усе з прыемнасцю глядзяць перадачу да канца.

Бытавая радыёапаратура будучага — гэта даўгавечныя, трывалыя, зручныя і вельмі танныя канструкцыі. Нават калі што-небудзь сапсуецца, давядзецца толькі вызначыць, які блок выйшаў са строю, дастаць яго і замяніць новым, таму што любы радыёпрыбор будзе складацца з некалькіх стандартных блокаў. Аўтаматычная вытворчасць забяспечыць дастатковую колькасць іх. Каштаваць жа яны будуць зусім не многа.

Мы не заглядваем у далёкае будучае і абмяжоўваемся перыядам 10 — 20 год. Да таго часу многія з нашых чытачоў стануць самі сталымі інжынерамі і канструктарамі, кваліфікаванымі спецыялістамі ў галіне радыётэхнікі.

У гістарычных рашэннях XXI з'езда нашай партыі аўтаматызацыі і ўдасканаленню вытворчасці, у тым ліку і вытворчасці радыёапаратуры, удзелена вялікая ўвага.

Задачы гэтыя, безумоўна, будуць вырашаны паспяхова.

# РАСКРЫВАЮЧЫ ТАЯМНІЦЫ

У той час калі Ваня Кананюк разам з сябрамі з палескай вёскі Маркавічы яшчэ ганяў кароў на пашу, другі ўраджэнец глыбінь Палесся — Міхаіл Міхайлавіч Паўлючэнка займаў ужо віднае месца сярод беларускіх хімікаў. Тады Беларусь яшчэ ніхто не называў краем машынабудавання.

Але ішлі гады. Хлопчык з Маркавіч на выдатна скончыў дзесяцігодку. Срэбраны медаль быў не толькі ўзнагародай за стараннe, але і сведчаннем прыхільнасці ІванаКананюка да навукі. Юнак прыехаў у Мінск, каб паступіць ва ўніверсітэт. І калі справа дайшла да лекцый па фізічнай хіміі,





шляхі двух землякоў сустрэліся — дысцыпліну гэтую выкладаў М. М. Паўлючэнка.

Фізічная хімія больш за ўсё і зацікавіла Івана Кананюка.

— Якія шляхі вядуць да павышэння трываласці металаў?..— пытаў у сваіх студэнтаў прафесар Паўлючэнка.

Кананюк ведаў: трываласць металаў залежыць у прыватнасці ад знаходжання ў іх серы. Але яму невядома была таямніца пранікнення серы хаця б у жалеза. А гэтую таямніцу трэба было раскрыць. Тэмай дыпломнай работы Кананюка і былі даследаванні ў гэтай галіне.

Зусім нядаўна Мінскі аўтамабільны завод звярнуўся да ўніверсітэта з просьбай вывучыць пытанне аб павышэнні трываласці сталей. Універсітэт прыняў гэтую прапанову. Тэма ўключана ў план работы лабараторыі, якой кіруе член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР М. М. Паўлючэнка. Даследаванні вядзе малодшы навуковы супрацоўнік Іван Фёдаравіч Кананюк.

Так двое палешукоў,— вядомы вучоны і яго сталы вучань — праседжваючы доўгія гадзіны ля апаратаў і наглядаючы за паводзінамі мечаных атамаў, раскрываюць новую старонку ў развіцці тэхнікі.

На здымку: **М. М. Паўлючэнка** (справа) **і І. Ф. Кананюк у лабараторыі.**

Фота і тэкст **А. Дзітлава.**

## На атэістычныя тэмы

Мікола ЦІМОШАК

# ІХ БОГ

Калі ў сектантаў пытаешся, чаму яны так трымаюцца рэлігіі, яны пакрыўджана адказваюць: «А што дрэннае мы робім? Удзельнікі сект не п'юць, не кураць, не лаюцца, змагаюцца за моцную сям'ю...»

Трэба быць зусім неадукаваным чалавекам, каб паверыць, быццам рэлігійныя секты заклапочаны тым, каб «сеяць добрае насенне» любві і згоды паміж людзьмі. Усе прыгожыя словы сектантаў аб іх барацьбе «за чысціню душы» чалавека разлічаны на тое, каб прывабіць людзей у свае секты. Аб тым, што сапраўды ўяўляе сабой дзейнасць сектантаў, які «іх бог», лепш за ўсё расказваюць самі былыя ўдзельнікі сект, якія парвалі з рэлігіяй.

### Марна патрачаныя гады

Іван Рыгоравіч Тышко, мужчына сярэдніх гадоў, працуе кладаўшчыком у Гарадзішчанскай бальніцы. Гэты, цяпер вясёлы і таварыскі чалавек, некалі лічыў за грэх нават усмешку, быў сапраўдным фанатыкам-баптыстам.

Мы папрасілі Івана Рыгоравіча расказаць аб тым, як ён трапіў у секту, чым займаўся ў ёй і што дапамагло яму вызваліцца з путаў рэлігіі.

З ранняга дзяцінства бацькі бралі Івана ў дом малітвы. Хлопчыку было сумна і цяжка ў гэтым доме, але ён павінен быў слухаць бацькоў і выконваць усё тое, што яны загадвалі: станавіцца на калені, слухаць прапаведнікаў, шаптаць незразумелыя словы малітвы...

Ішлі гады, а з імі расла і цікаўнасць хлопчыка. Усё яму хацелася ведаць: адкуль узяліся людзі, дрэвы, чаму бываюць дзень і ноч, на чым «вісяць» зоркі... Гэтыя пытанні ён задаваў бацькам і прапаведнікам. «Усё ад бога» — адказвалі яму і ў пацверджанне чыталі доўгія і туманныя біблейскія казанні. Але часцей за ўсё замест тлумачэння яму ўнушалі страх перад «усявышнім», які бачыць кожны грэх чалавека і сурова карае за яго. Страх перад богам і перад грахом паклаў адбітак на дзіцячы характар. Хлопчыку не дазвалялася быць у асяроддзі няверуючых, гуляць з дзецьмі, чытаць «бязбожныя» кніжкі.



— Даўно я заўважыў, што ў бібліі ёсць выказванні, якія супярэчаць адно другому, — гаворыць Іван Рыгоравіч. — Аднак у страху саграшыць і прагневаць бога я адганяў гэтыя думкі прэч. Прыналежнасць да секты стала прычынай таго, што прышлося рана кінуць вучобу. А я ж добра вучыўся і мог стаць адукаваным чалавекам.

Недавер'е да рэлігійнага вучэння расло з кожным годам. Прызнацца ў гэтым я баяўся нават сабе самому. Усё мацней цягнула да кніг, да мастацкай літаратуры. І зноў жа такі — чытаць іх я ніяк не мог адважыцца: гэта ж забаранялася законамі секты! Мае погляды на рэлігію змяніліся ў гады Айчыннай вайны. У той час, калі ўвесь савецкі народ узняўся на барацьбу з фашысцкай навалай, я павінен быў ухіляцца ад прызыву ў армію: «маральны» кодэкс секты забараняе ўсім яе ўдзельнікам браць у рукі зброю... Гэтак «выратавальнікі» маёй душы давялі мяне да злачынства. За ўхіленне ад воінскага абавязку я быў прыцягнуты да судовай адказнасці. І вось толькі на лаве падсудных я па-сапраўднаму зразумеў, што такое сектанцтва і якую шкоду прыносіць яно чалавеку.

Пасля адбыцця пакарання я пачаў шмат чытаць. Кнігі адкрылі новы, цудоўны свет ведаў. Дні і ночы навылёт я абдумваў пражытае. Было вельмі горка ад таго, што лепшыя гады пражыты ў такой цемры. А за гэтыя гады можна было зрабіць шмат карыснага...

Цяпер я жыву, як і ўсе добрыя людзі: навучыўся радавацца і смяяцца. І неяк крыўдна за тое, што столькі часу быў сляпым.

— А скажыце, калі ласка, каго вы лічыце вінаватым у сваіх памылках? — спыталіся мы ў яго. — І якім шляхам лепш, на вашу думку, весці атэістычную работу, каб вырваць моладзь з-пад уплыву сектантаў?

— З рэлігіяй звязана ўсё самае змрочнае ў маім жыцці... Ды страчанага не вернеш. Вядома, ва ўсім гэтым часткова вінаваты мае бацькі... Але іх нельга дакараць, таму што яны зрабілі гэта несвядома, яны ж самі былі людзі цёмныя... На мой погляд, атэісты павінны адносіцца да сектантаў, як выратавальнікі да тапельцаў. Гэта неймаверна цяжкая работа, якая патрабуе вялікага цярпення, вялікага такту. Але затое кожны, каму дапамогуць вызваліцца ад рэлігійных путаў, будзе ўсё жыццё ўдзячны за гэта...

### За дымам пропаведзяў

У гісторыі руху сектантаў ёсць нямала выпадкаў, калі пад маскаю рэлігійных прапаведнікаў дзейнічалі спрытныя авантурысты і прайдзісветы. На Брэстчыне добра ведаюць авантурыста Івана Мурашку, які яшчэ ў трыццатых гадах стварыў рэлігійнае аб'яднанне «мурашкаўцаў». Уведзеныя ў зман, паўтысячы сем'яў прадалі ўсю сваю маёмасць і аддалі грошы Івану Мурашку. Ён купіў пад Сарнамі ўчастак памешчыцкай зямлі і заснаваў так званы «Сіён». У «Сіёне» Мурашка назначыў сабе 12 вучняў-апосталаў. Пры багаслужэнні «святы айцец Сіёна» выконваў варварскія абрады. Ён абцугамі адцягваў чалавеку скуру на целе і адрэзваў яе брытвай. Скура разыходзілася і ўтваралася кружок. За адзін раз на целе рабілася сем такіх «пячатак». Таму мурашкаўцаў часамі называлі «сяміпячатнікамі». Кроў з ран выціскалася ў бутэлькі, разбаўлялася віном і выкарыстоўвалася для прычасця.

Па словах Мурашкі, у яго «Сіён» павінен быў «сысці» сам Ісус Хрыстос, каб пакорлівых і спакутаваных узяць на неба, а над «грэшнікамі» ўчыніць «страшны суд». Але калі наблізіўся той дзень, у які павінен быў, па словах Мурашкі, сысці Хрыстос, Мурашка захапіў з сабой усе сродкі «Сіёна», набытыя працай соцень людзей, і ўцёк за мяжу. Абрабаваныя людзі ўсё жыццё будуць праклінаць гэтага «святога» ашуканца.

Паслядоўнікі Мурашкі засталіся ў Іванаўскім, Івацэвіцкім, Антопальскім, Пінскім, Высокаўскім раёнах. Цяпер яны са скуры вылазяць, каб адрадзіць пачварную секту «мурашкаўцаў».

Ужо ў пасляваенны час з горада Горкага ў Пінск прыехалі муж і жонка Катанавы з дачкой Жэняй. Іван Катанаў па спецыяльнасці фельчар, жонка — медсястра. Цяжка меркаваць, што гэта былі за медыцынскія работнікі, але ў Пінску яны сталі вядомыя, як служкі рэлігійнага культу. Катанаў стаў прасвітарам Кнубаўскай абшчыны адвентыстаў сёмага дня. Ён з такой стараннасцю гаварыў пропаведзі, што веруючыя і сапраўды палічылі яго блізкім хаўруснікам самога бога. Веруючых ён пераконваў, што быць прагным, скупым, зайздроснікам — гэта грэх, за які бог жорстка карае. Сектанты слухалі свайго настаўніка і, не скупячыся, ахвяравалі ў карысць бога. Але Катанаў не любіў дзяліцца з богам выручкай і цішком перакладваў яе ў сваю кішэню.

Сярод удзельнікаў секты знайшліся людзі, якія здолелі разгледзець у асобе свайго прасвітара ашуканца і прайдзісвета. Неўзабаве ўся абшчына даведалася аб тым, што служка божы не чысты на руку. У секце пачаліся сваркі, грызня. Зробленая рэвізія пацвердзіла факт раскрадання Катанавым і яго блізкімі сродкаў абшчыны.

Такіх прыкладаў можна прывесці многа, але і гэтых дастаткова, каб убачыць, як спрытныя авантурысты выкарыстоўваюць рэлігію ў сваіх мэтах.

### З дома малітвы ў бальніцу

Павучальная гісторыя і дачкі Катанава — Жэні. Дзяўчына скончыла Пінскую фельчарска-акушэрскую школу і адначасова музычнае вучылішча. Светлыя гарызонты адкрываліся перад ёю. Але сляпая прыхільнасць да рэлігіі павяла яе на самую змрочную сцежку — у дом малітвы. У той жа Кнубаўскай абшчыне, у якой яе бацька быў прасвітарам, Жэня кіравала хорам і іграла на фісгармоніі. Ад Кнубава да Пінска — восем кіламетраў. Таму Жэні часта даводзілася начаваць пасля багаслужэння ў доме Андрэя Германовіча. Сын Германовіча Мікалай і дарослая дачка таксама былі ў гэтай абшчыне.

Хутка ў секце Жэню пачалі абвінавачваць у тым, што яна жыве з Мікалаем Германовічам. Дзяўчыну называлі вялікай грэшніцай і ўсяляк здзекаваліся з яе. Ганьба і страх перад богам давялі дзяўчыну да хваробы. Спатрэбіўся працяглы час, каб вылечыць яе.

Выпадак з Жэняй — не адзінкавая з'ява сярод сектантаў. Толькі ў мінулым годзе ў бальніцы пабывала 7 юнакоў і дзяўчат з Пінскага раёна, якіх рэлігійны фанатызм давёў да хваробы.

На тэрыторыі Брэсцкай вобласці ёсць розныя секты. У кожнай з іх — свая вера, свой бог. І секты гэтыя не ладзяць паміж сабою. Прапаведнікі не грэбуюць нічым, каб пашырыць уплыў сваёй секты. Калі не дапамагаюць пропаведзі, пускаецца ў ход запалохванне, подкуп. Таму часта бывае так, што веруючыя пераходзяць з адной секты ў другую.

Некаторыя з сект, як, напрыклад, пяцідзесятнікі, іегавісты, смародзінаўцы, «сіяністы», ці мурашкаўцы, не спыняюцца нават перад варварствам: яны калечаць сваіх аднаверцаў фізічна. Цяжка расказаць аб тых жахах, якія адбываюцца пры іх багаслужэнні. Асабліва вылучаюцца ў гэтых адносінах пяцідзесятнікі. Яны моляцца да экстазу, лічачы, што толькі калі чалавек страціць над сабой уладу і пачне дзейнічаць ужо бессвядома — яго пачуе бог. Не дзіўна, што ў такіх умовах многія з пяцідзесятнікаў даходзяць да вар'яцтва.

У Гарадзішчанскай бальніцы лячыўся Пятро Б. — малады рабочы фанернага завода. Ён хадзіў на багаслужэнне да пяцідзесятнікаў. У маі мінулага года яго прывезлі ў бальніцу. Ён імкліва ўвайшоў у кабінет дзяжурнага ўрача, упаў на калені і тройчы ўдарыў чалом. Потым утрапёна пачаў клікаць Ісака і Аўраама, каб выратавалі яго душу. Выгляд у яго быў страшны: ліхаманкава гарэлі вочы, твар перакрывіўся ад болю і галюцынацый. «Я на тым свеце! Вы ўсе мёртвыя!» — гаварыў Пятро. Ён зусім не разумеў, дзе ён і што з ім адбываецца.



На наступны дзень у бальніцу прыйшоў яго бацька, сектант-фанатык. Ён доўга прасіўся да сына, каб малітвамі «выгнаць нячысты дух».

Стан Пятра быў такі цяжкі, што над ім навісла пагроза смерці, але ўрачы выратавалі юнаку жыццё і вылечылі ад хваробы.

У сваіх «маленнях да экстазу» пяцідзесятнікі даходзяць да страшэнных дзікасцей.

У Ганцавічах з адным рабочым-чыгуначнікам (з этычных меркаванняў не будзем называць яго прозвішча) здарылася вось якая жахлівая гісторыя. Аднойчы ў час «зносін з богам» прапаведнік секты сказаў, што ў цемнаце веруючыя павінны «пазнаць» таго, хто каго зловіць, гэта значыць, каму каго «бог пашле». Цікаўнасць штурхнула гэтага рабочага ў поцемках адарваць кавалак спадніцы, каб па ім даведацца, каго ж яму «паслаў бог». Аказалася, што воляй боскай чалавеку гэтаму была паслана яго родная маці. Пасля гэтага выпадку рабочы назаўсёды парваў не толькі з сектай пяцідзесятнікаў, але і наогул з рэлігіяй.

### «Духоўныя браты і сёстры»

Пінчане Ганна Фядосаўна Ясінехта і яе муж Апанас Сцяпанавіч Кузьмічук называюць сябе «братам і сястрой па духу» (яны ўдзельнікі адной секты). Але гэта зусім не перашкаджае ім ушчынаць дома шумныя сваркі і нават бойкі. І вось аднойчы жонка вырашыла выкарыстаць сваё становішча прарочыцы ў секце, каб жорстка наздзекавацца пры багаслужэнні з духоўнага брата — свайго мужа. Папярэдне прамармытаўшы нешта незразумелае (так пяцідзесятнікі «звязваюцца» з богам), Ганна Фядосаўна сказала прысутным, быццам дух адкрыў ёй, што яе муж — вялікі грэшнік і яго трэба ачысціць ад грахоў. Яна дала мужу ў левую руку запаленую свечку, у правую — брудны дзяркач, сама ўзяла анучу, якой мыюць падлогу, і залажыла яе мужу за каўнер. Пасля гэтага стала гаварыць словы «святога духа»:

> «Сэрца чорнае тваё, як гэтая чорная анучa! Як дзеркачом вымятаецца смецце, так няхай вымятаецца грэх з сэрца твайго!..»

Скончыўшы гаварыць, яна выняла з-за каўняра анучу і пачала церці ёю мужаў твар, а потым дзеркачом выбівала «грахі» з яго цела...

У жніўні мінулага года на кватэры Пятра Іванавіча Палхоўскага на вуліцы Ліцейнай, 92/2 у Пінску сектанты сабраліся на абрад хлебапраламлення. Выконваць абрад павінен быў дзяк секты Сцяпан Антановіч. Але перад гэтым выступіў прапаведнік Васіль Галушка і сказаў, што Антановіч не дастойны выконваць абрад, бо яго жонка Агапа — блудніца, а таму што ён з ёю жыве, значыць і ён «нячысты». Пачулася некалькі галасоў: «Выконвай хлебапраламленне!» Сын лідэра секты Івана Іванавіча Палхоўскага Лявон падтрымаў пратэст Галушкі. Тады ў спрэчку ўступіў Лявонаў бацька. Ён пачаў апошнімі словамі лаяць сына. «Ты сам грэшнік, — крычаў ён. — Ты выступаеш за разбурэнне справы божай, а сам гарэлку п'еш, распустаю займаешся!» «Дык ад каго ж я ўсяму гэтаму навучыўся, калі не ад цябе!» — не сцярпеў Лявон.

Так у спрэчцы паступова выявілася, якія «святыя» ўсе гэтыя сектанты.

У сектах вельмі часта здзекуюцца з пачуццяў людзей, асаблі-

ва маладых. Уступіць у шлюб могуць толькі браты і сёстры па духу, гэта значыць, тыя, хто знаходзіцца ў адной секце. Выйсці замуж за няверуючага ці чалавека іншай веры забараняецца асновамі любой секты. Гэта прыводзіць да таго, што пераважная большасць дзяўчат-сектантак не можа выйсці замуж, таму што хлопцаў у сектах значна менш, чым іх.

У ліпені мінулага года ляхавіцкія сектанты праводзілі цырымонію вянчання сваіх аднаверцаў. Павянчаць маладых павінен быў Мікалай Курыловіч. Каб надаць абраду ўрачыстасць, секта пажадала зрабіць яго на вуліцы каля дома малітвы. Даведаўшыся аб гэтым, сюды сабралася да паўтысячы цікаўных. Маладыя і маладая, сумныя і панурыя, стаялі перад шматлікім натоўпам, які гудзеў у нецярплівым чаканні шлюбнай цырымоніі. Нарэшце Курыловіч прыступіў да выканання сваіх абавязкаў. Але, на здзіўленне ўсіх, з вуснаў яго пасыпаліся абразы ў адрас маладых. Ён публічна вінаваціў жаніха і нявесту ў тым, што яны «зграшылі да шлюбу». Таму на іх дзіця падае гнеў божы і яно абавязкова памрэ...

Курыловіч адмовіўся благаславіць маладых.

— Калі ж хто-небудзь іншы не пабаіцца зрабіць гэта, то ён будзе пакараны богам.

Усе, хто прысутнічаў на гэтым «вянчанні», былі абураны здзекамі з гэтых маладых людзей.

## Аб чым гаварылі прапаведнікі

Аднойчы я хадзіў у суботу па вячэрняму Пінску. Весела свяціліся вокны ў гарадскім Доме культуры, у клубах запалкавай фабрыкі і фанернага завода. Усюды веселілася моладзь. Танцы змяняліся песнямі і гульнямі. Трэба аддаць справядлівасць пінчанам: яны навучыліся цікава праводзіць маладзёжныя вечары...

Некалькі дзесяткаў чалавек накіравалася ў гэты вечар у адзін з дамоў на Мопраўскай вуліцы. Вокны яго не свяціліся вясёлымі агеньчыкамі, таму будынак, нягледзячы на белую афарбоўку, здаваўся сляпым і змрочным. Уласна, гэта цалкам адпавядае яго прызначэнню — гэта ж дом малітвы евангельскіх хрысціян-баптыстаў.

Пасля 10 гадзін сектанты, закончыўшы багаслужэнне, сталі разыходзіцца. Маладая светлавалосая дзяўчына ў блакітным паліто і гумавых боціках спынілася на рагу вуліцы побач з сівым старым у стаўбунаватай шапцы. Дзяўчына расказвала старому, як яна спрабуе выклікаць цікавасць да рэлігіі ў сваёй знаёмай па рабоце. Стары павучальным голасам раіў дзейнічаць асцярожна. На развітанне маладая сектантка пахвалілася, што цяпер у яе добрая работа — дырэктар электрастанцыі перавёў яе ў лабараторыю. Стары не прамінуў заўважыць, што гэта здарылася з «божай дапамогай», і яны разышліся.

Я дагнаў дзяўчыну:

— Прабачце, мне б хацелася з вамі пагаварыць...

— Калі ласка. Хрыстос трынаццаць дзён прапаведваў «слова божае» і нам завяшчаў рабіць так,— адказала яна.— Толькі, калі ў вас сапраўдны інтарэс ёсць, а не так...

— Скажыце, а што такое «слова божае»? Ці чулі вы яго?— запытаўся я.

— Як жа вы жывяцё на свеце і не ведаеце, што такое «слова божае»? — здзівілася яна. Потым доўга, з усіх сіл старалася растлумачыць мне тое, чаго сама не разумела. І нарэшце, заблыталася.

Калі размова пра бога стала складвацца не ў яе карысць, дзяўчына прапанавала мне прысці на наступны дзень у дом малітвы, каб пачуць «слова божае» ад прапаведнікаў.

І вось, выкарыстаўшы запрашэнне сектанткі, я апынуўся ў змрочным доме з зачыненымі аканіцамі.

Аб чым жа гаварылі тут прапаведнікі? На гэтае пытанне сапраўды адказаць цяжка, таму, што ўсе пропаведзі доўгія, няпэўныя, маюць у сабе мноства супярэчлівых палажэнняў.



Так адзін прапаведнік даводзіў, што Хрыстос возьме ў рай толькі тых, хто чысты ад грахоў. Другі ж сцвярджаў: «Бог любога слухае і дапамагае, ёсць у яго грэх ці не. Бог дае ўсім, хто просіць у яго». І тут жа гаварылася, што самае галоўнае для чалавека — гэта ачысціць сябе ад грахоў і дасягнуць дасканаласці. У чым заключаецца гэтая «дасканаласць» — невядома. Узнікае пытанне, як жа можна імкнуцца дасягнуць таго, аб чым не маеш ўяўлення?

Памятаю, было і такое выказванне: бог даў нам вочы, вушы і розум, каб чуць і бачыць усё вакол і радавацца яго велічы і прыгажосці.

Але ці ж не рэлігія, ці ж не прапаведнікі ўсяляк імкнуцца ізаляваць веруючых ад знешняга свету, ад усяго прыгожага і раднаснага, што ў ім ёсць? Ці ж не яны, запалохваючы «божым гневам», забараняюць чытаць літаратуру, якая ў процівагу біблейскім легендам дае сапраўднае, навуковае тлумачэнне свету і грамадскага развіцця?

Слова «любоў» у час малення паўтаралася безліч разоў. Але як яно тлумачылася, відаць хаця б з пропаведзі, сказанай Васілём Дзям'янавічам Бойкам. «Жонкі,— гаварыў ён,— будзьце паслухмянымі мужам сваім, як богу. Бо, як бог глава царквы, так муж — глава сям'і. Мужы, любіце жонак сваіх, як Хрыстос царкву». Калі муж б'е жонку за непаслушэнства, дык хай яна наракае на сябе — значыць, яна не ўведала «слова божага». Вось як сектанты разумеюць любоў! Значыць, муж можа біць жонку, колькі яму пажадаецца, прыкрываючыся тым, што яна «не ўведала слова божага».

У супярэчлівых выказваннях біблії можна знайсці і апраўданне, і асуджэнне любога ўчынку. «Бог стварыў усіх людзей ад адной крыві на ўсёй зямлі, — гаварыў прапаведнік,— таму ўсе людзі — браты. Яны павінны жыць у вечным міры і дружбе». Але хто ж, як не сектанты, выхоўваюць нянавісць і пагарду да няверуючых або людзей іншай веры? Ці ж не яны пагардліва абзываюць «антыхрыстамі» і «грэшнікамі» ўсіх тых, хто не падзяляе іх сляпой веры ў бога, усіх, хто сваімі рукамі перабудоўвае свет, стварае матэрыяльныя багацці, набліжае светлую будучыню чалавецтва — камунізм.

Веруючыя складаюць нязначную частку насельніцтва нашай краіны, і, зразумела, яны не могуць уплываць на грамадскае жыццё. Але клопаты дзяржавы аб кожным чалавеку абавязваюць нас дапамагчы людзям пазбавіцца ад рэлігійнага дурману — праклятай спадчыны старога свету.

# Давайце пагаворым...

*„Якім вы ўяўляеце воблік маладога чалавека праз дзесяць год?“*

## У ЧАЛАВЕКА ЎСЁ ПАВІННА БЫЦЬ ПРЫГОЖЫМ

Выдатны савецкі паэт Мікалай Ціханаў пісаў:

Я узнал, как велик человек.
Не во сне я живу, — наяву.
Я живу в удивительный век,
В человеческой сказке живу.

І сапраўды, наш век — дзівосны, сапраўдная чалавечая казка. Тое, пра што марылі людзі на працягу тысячагоддзяў, сёння становіцца явай. Штучныя спадарожнікі Зямлі, касмічныя ракеты, расшчэплены атам,— усё гэта спраўджаныя мары чалавека. З маланкавай хуткасцю рухаецца да дасканаласці чалавечая думка. І валодаючы нават вялікай фантазіяй, цяжка ўявіць, якіх новых перамог і дасягненняў даб'ецца чалавек хаця б, скажам, праз 50 год. Ясна толькі адно, што ён здзейсніць усе свае запаветныя мары. Цудоўным будзе гэты час. Цудоўным і дасканалым стане сам чалавек.

Сіла розуму, духоўнае багацце, маральная чысціня і фізічная прыгажосць складаюць вартасць чалавека. Высокая камуністычная мараль, калектывізм, аддана<br>сць грамадскім інтарэсам, гуманізм, палітычная прынцыповасць з'яўляюцца адметнымі асаблівасцямі савецкага чалавека. Савецкія людзі прывыклі высока цаніць у чалавеку яго маральную сілу і прыгажосць.

Звычайна гавораць пра ўнутранае і знешняе хараство чалавека. Пад знешнім хараством мы разумеем фізічную прывабнасць яго твару і ўсёй паставы, а пад унутранай — дасканаласць яго маральных якасцей.

«У чалавека ўсё павінна быць прыгожа: і твар, і адзенне, і думкі»,— пісаў А. П. Чэхаў. І гэта, бадай, самае правільнае разуменне прыгажосці чалавека.

Калі я думаю аб людзях камуністычнай будучыні, мне перш за ўсё ўяўляюцца людзі вялікай культуры і высокай адукацыі. Чым вышэй веды чалавека, тым прыгажэйшым становіцца яго ўнутраны свет, яго духоўныя запатрабаванні.

Вывучаць і засвойваць культурныя багацці мінулага, пакінутыя нам у спадчыну лепшымі прадстаўнікамі чалавецтва,— абавязак кожнага маладога чалавека.

І не хацелася б сустрэць у будучым такіх маладых людзей, як інжынер В. Здольны спецыяліст, які на выдатна скончыў інстытут, абыякава праходзіць міма цудоўных палотнаў Левітана і Шышкіна, Рэпіна і Врубеля, Куінджы і Саўрасава. І не таму, што ён не разумее прыгажосці гэтых твораў. Не, малады інжынер цвёрда перакананы, што не гэтым трэба займацца ў наш век, у век касмічных палётаў і штучных спадарожнікаў. Няма неабходнасці даказваць, як глыбока памыляецца інжынер В. Ён свядома робіць перад сабою злачынства, збядняючы свой духоўны, унутраны свет, збядняючы сваю фантазію, скоўваючы свае пачуцці.

Творы літаратуры і жывапісу, музыкі і тэатра, кіно і скульптуры павінны быць пастаяннай, штодзённай патрэбай чалавека, бо яны акрыляюць і ўзвышаюць яго.

«Жыць і працаваць па-камуністычнаму», — такі лозунг тых, хто спаборнічае за званне брыгад камуністычнай працы. У гэтых брыгадах, на мой погляд, павінны фармавацца ўсе выдатныя рысы чалавека будучыні, чалавека камуністычнага грамадства. Удзельнікі брыгад камуністычнай працы павінны паказваць прыклад маральнай чысціні і высакароднасці. З кожным днём іх становіцца ўсё больш і больш.

Ужо цяпер цэлымі калектывамі рабочыя аб'яўляюць вайну п'янству і курэнню. Моладзь на камсамольскіх сходах выступае супраць курэння. Чалавек будучага не будзе свядома атручваць свой арганізм, яму не трэба будзе «для весялосці» ўжываць спіртныя напіткі. Яго



духоўныя запатрабаванні стануць багацейшымі і больш разнастайнымі.

Зменіцца і знешняе аблічча чалавека. Нажаль, некаторыя нашы маладыя людзі не заўсёды ўдзяляюць дастатковую ўвагу фізкультуры. Як часта сустракаюцца сярод моладзі сутулыя юнакі і дзяўчаты са слаба развітай мускулатурай! А ўсе ж ведаюць, якую ролю адыгрывае фізкультура ў развіцці людзей.

Чалавек будучыні ўяўляецца мне прыгожым і стройным, з гордай паставай. Знікнуць паходкі з прышаркваннем, якія наглядаюцца ў некаторых малойчыкаў з мудрагелістымі чубамі. Чалавек будзе трымацца проста і натуральна, не скавана, але і не развалiста. Ён будзе насіць прыгожае, да твару адзенне.

Нашто некаторыя юнакі і дзяўчаты хаваюць пад недарэчнымі «грыўкамі» такую прыгожую частку твару, як лоб? Нашто псуюць сваю галаву мудрагелістымі і безгустоўнымі «збудаваннямі»? Прычоска павінна толькі адцяняць прыгажосць чалавечага твару.

І яшчэ мне хочацца сказаць аб моўнай культуры — слоўніку і манеры размаўляць. Шмат яшчэ сярод нашай моладзі аматараў вульгарнага слоўца. Словы яны не вымаўляюць, а неяк цэдзяць скрозь зубы. А што можа быць прыгажэй за выразную, густую мову, дзе словам цесна, а думкам прасторна!

Адукаваны, гарманічна развіты, здольны будаваць, марыць, любіць, прыгожа апрануты, з ясным тварам і дапытлівым позіркам — такім мне ўяўляецца малады чалавек у бліжэйшым будучым.

**І. ДАБРАЛЮБАЎ.**

## НАЙВЫШЭЙШАЯ РАДАСЦЬ — У ПРАЦЫ

Гутарка аб маральным і грамадзянскім вобліку маладога чалавека будучыні асабліва хвалюе нас, сённяшніх студэнтаў, заўтрашніх выхавацеляў савецкіх дзяцей. Мы разумеем, што ад нашай працы будзе залежаць многае. Вельмі важна не толькі добра ведаць агульныя нормы камуністычнай маралі, але і яскрава ўяўляць жывы воблік чалавека, якога трэба выхоўваць. Таму я лічу, што рэдакцыя «Маладосці» вельмі правільна зрабіла, звярнуўшыся да чытачоў з пытаннем: якім яны ўяўляюць воблік маладога чалавека праз дзесяць год?

Можна гаварыць пра многія якасці, якія будуць уласцівы жыхарам будучыні. Аднак у першую чаргу, на мой погляд, трэба спыніцца на галоўным—на адносінах чалавека да працы, бо ад гэтага ў вялікай ступені залежыць усё астатняе. Вядома, што пры камунізме праца будзе не толькі абавязкам, але і найвялікшай радасцю і асалодай кожнага члена грамадства. Каб дасягнуць гэтага, шмат яшчэ спатрэбіцца намаганняў усёй нашай грамадскасці і асабліва той яе часткі, якая мае непасрэднае дачыненне да выхавання моладзі.

Вельмі прыемна, што зараз у нашай краіне такое вялікае значэнне надаецца працоўнаму выхаванню юнацтва. Не сакрэт жа, што ў нас здараюцца яшчэ выпадкі, калі, дзякуючы празмерным «клопатам» бацькоў, дзеці вырастаюць белаbecause ручкамі і гультаямі. Не прывучыўшыся да працы з маленства, такія маладыя людзі не могуць знайсці сабе занятку, усякую працу яны лічаць за зняваг у і таму вымушаны жыць на бацькавай шыі.

Да нас у камітэт камсамола ўніверсітэта нядаўна прышла маці аднаго былога студэнта юрыдычнага факультэта. У яе два сыны. Адзін займаецца ў аспірантуры ўніверсітэта, ён здольны і добры чалавек; другі — гультай. Яго выключылі з універсітэта за дрэнную вучобу. Цяпер ён нідзе не працуе, жыве на ўтрыманні маці, хоць яму ўжо 27 год. Днём спіць, ночча гуляе. Прыходзіць дадому п'яны. Калі маці пачынае яго сароміць, дык у адказ чуе лаянку, зняважлівыя словы...

Ці толькі бацькі вінаваты, што ў іх такі сын? Думаецца, што не толькі яны. Значную віну павінны ўзяць на сябе і мы, студэнты. Нас жа многа, цэлая вялікая сям'я. І мы не здолелі перавыхаваць аднаго чалавека, які быў членам гэтай сям'і. І гэта, мне думаецца, таму, што мы часамі вельмі кепска ведаем сваіх таварышаў, мала цікавімся іх жыццём, іх паводзінамі за сценамі ўніверсітэта.

Клопаты аб той вялікай справе, якую нам неўзабаве даручыць дзяржава, аб выхаванні дзяцей — нашай будучыні — вымагаюць ад нас, студэнтаў, быць выключна патрабавальнымі, уважлівымі і чулымі адзін да другога.

**Дзіна ШЧАРБІНСКАЯ,**
**студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

**Дзмітры БАЛЬШОЎ**

# ХТО РАСКАЛВАЕ МАЛАДЗЁЖНЫ РУХ

У радзе капіталістычных краін існуюць партыі, якія называюць сябе сацыялістычнымі, але іх ідэалогія, іх практыка і палітычная дзейнасць нічога агульнага з навуковым сацыялізмам не маюць. Якое ж сапраўднае аблічча ўсіх гэтых сацыял-дэмакратычных, права-сацыялістычных партый? Чые інтарэсы яны абараняюць? На службе ў каго знаходзяцца? Нарэшце, якія іх адносіны да маладзёжнага руху?

За доўгія гады барацьбы супраць рабочага класа буржуазія добра ўсвядоміла, што аднымі рэпрэсіямі захаваць сваё панаванне надзвычай цяжка. Таму яна выкарыстоўвае разнастайныя каварныя і хітрыя метады. Валодаючы незлічонымі багаццямі, буржуазія падкармлівае так званую рабочую арыстакратыю, якая і стварае сацыяльную базу апартунізма і сацыял-рэфармізма. Яна ж выкарыстоўвае найменш устойлівых рабочых, асабліва тых, хто некалі быў звязаны з дробнай буржуазіяй і над кім яшчэ маюць уладу дробнаўласніцкія традыцыі. Буржуазія разбэшчвае гэтыя сацыяльныя праслойкі сваёй прапагандай, імкнецца стварыць у рабочых ілюзію шчаслівага жыцця пад уладай капітала. Права-сацыялістычная ідэалогія вельмі небяспечная, бо яна спрабуе апрануцца ў «сацыялістычную» вопратку. Лідэры правых сацыялістаў добра ведаюць, што настаў той час, калі ўсё больш і больш працоўных імкнецца да сацыялізма, і таму яны бессаромна заяўляюць пра сваю адданасць сацыялізму, хоць на справе выступаюць супраць яго.

Сутнасць выказванняў правых сацыялістаў розных краін адна. Наперакор марксізму-ленінізму, яны сцвярджаюць, быццам нельга навукова абгрунтаваць сацыялізм. Правыя сацыялісты адмаўляюць абвастрэнне капіталістычных супярэчнасцей і тэорыю класавай барацьбы. Яны прапаведуюць «гармонію» класавых інтарэсаў, заклікаюць адмовіцца ад дыктатуры пралетарыята, бо, маўляў, капіталізм паступова і сам перарасце ў сацыялізм.

Правыя сацыялісты не прызнаюць навуковага сацыялізма. Сацыялізм, на іх думку, гэта праяўленне жыццёвага імкнення да справядлівасці і свабоды. Аднак за гэтымі высакапарнымі словамі хаваецца нешта іншае: прыватная ўласнасць, эксплуатацыя, забарона барацьбы за правы працоўных. Свабода, па думцы лідэраў правых сацыялістаў, можа быць толькі для тых, хто валодае ўласнасцю. Патрабавання аб ліквідацыі прыватнай уласнасці не існуе і ў праграмных дакументах права-сацыялістычных партый. Цяпер лідэры правых сацыялістаў разам з ідэолагамі буйнага капітала, у першую чаргу амерыканскага, узмоцнена прапаведуюць тэорыю «народнага капіталізма». Паводле яе, капіталізм цяпер вельмі змяніўся, стаў «народным» і паступова перарастае ў сацыялізм. Таму змагацца супраць яго не трэба.



Правыя сацыялісты адмаўляюць і класавую барацьбу. Французскі сацыяліст Андрэ Філіп у сваёй кнізе спрабуе даказаць, што цяпер няма барацьбы класаў, а існуе гармонія класавых інтарэсаў, што сацыялізм не з'яўляецца адлюстраваннем інтарэсаў данага сацыяльнага класа. А праграма аўстрыйскай сацыялістычнай партыі гаворыць, што цяпер няма непрымірымага антаганізму паміж рабочымі і буржуазіяй. На самай жа справе, капіталіст, а не рабочы валодае прыладамі і сродкамі вытворчасці.

Ідэолагі правых сацыялістаў нападаюць на прынцыпы дыктатуры пралетарыята. Яны заяўляюць, што дыктатура не можа прывесці да дэмакратыі. Але пра якую дэмакратыю можа ісці гаворка, калі існуюць эксплуататары і эксплуатуемыя. Прычым першых значна менш, чым другіх. Такім чынам, і тут правыя сацыялісты выступаюць у інтарэсах кучкі маёмасных класаў.

Цяпер, калі асабліва абвастрыўся і паглыбіўся агульны крызіс капіталізма, выключнае значэнне набывае адзінства дзеянняў рабочага класа ў барацьбе за мір і сацыяльны прагрэс. Але правыя сацыялісты сваімі дзеяннямі імкнуцца раскалоць адзінства рабочага класа, яны цягнуць за сабой заведзеных у зман працоўных, адрываюць іх ад удзелу ў агульнапралетарскай барацьбе. Дапамагчы рабочым-сацыялістам знайсці адзіна правільны марксісцкі шлях да сацыялізма з'яўляецца таму адной з задач, якую вырашаюць камуністычныя партыі капіталістычных краін.

Права-сацыялістычныя лідэры ўсяляк імкнуцца пашыраць свой уплыў на моладзь, палітычна разбэсціць яе, раскалоць маладзёжны рух. Яно і зразумела: моладзь больш за ўсіх эксплуатуецца ў капіталістычным грамадстве, яна найбольш актыўна выступае супраць прыгнёту. Пад непасрэдным кіраўніцтвам сацыялістычнага інтэрнацыянала зараз працуе права-сацыялістычная арганізацыя моладзі — Міжнародны саюз маладых сацыялістаў (МСМС). Сацыяльнай базай гэтага саюза з'яўляецца разбэшчаная падачкамі імперыялістаў вярхушка рабочага класа, дробная буржуазія і буржуазная інтэлігенцыя. Аднак і сярод маладых сацыялістаў ёсць яшчэ многа радавых рабочых, ашуканых права-сацыялістычнымі лозунгамі.

Амаль ва ўсіх краінах, дзе ёсць права-сацыялістычныя партыі, у кантакце з маладзёжна-сацыялістычнымі арганізацыямі працуюць аб'яднанні студэнтаў-сацыялістаў. Пад непасрэдным кіраўніцтвам маладзёжных сацыялістычных арганізацый працуюць разнастайныя дзіцячыя арганізацыі. У праграмных дакументах правых арганізацый звычайна гаворыцца аб барацьбе моладзі за мір, дэмакратыю і сацыялізм. Але гэта толькі словы. Кіраўніцтва права-сацыялістычных арганізацый усяляк перашкаджае моладзі супрацоўнічаць з камуністычнымі і другімі прагрэсіўнымі масавымі арганізацыямі, выхоўвае яе ў духу нянавісці да камунізма, да Савецкага Саюза, да краін народнай дэмакратыі. Паказальны ў гэтых адносінах зварот «Заклік да пільнасці», прыняты пазалетась на з'ездзе сацыялістычнай моладзі Францыі.

У гэтым звароце з'езд выказвае трывогу з повада актывізацыі крайніх правых груп у Францыі і заклікае «ўсіх актывістаў і маладых дэмакратаў» да пільнасці. Можа сацыялістаў усхваляваў замах на рэспубліку? Не. Іх турбуе другое. Актывізацыя рэакцыйных сіл «створыць у краіне перадрэвалюцыйную абстаноўку, якая

можа быць выкарыстана камуністычнай партыяй для ўстанаўлення рэжыму народнай дэмакратыі». Аказваецца, французскія сацыялісты баяцца... сацыялізма.

Супрацоўніцтву паміж моладдзю ўсяляк перашкаджае і праўленне заходне-германскай арганізацыі «Сацыялістычная моладзь». Яно прыняло рашэнне, у якім маладым сацыялістам забараняецца падтрымліваць сувязь з моладдзю ГДР.

Такую ж палітыку вядзе і саюз сацыял-дэмакратычнай моладзі Даніі, які прымыкае да сацыял-дэмакратычнай партыі Даніі. Саюз вядзе адкрытую барацьбу супраць кампартыі і камсамола Даніі, супраць Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі і Савецкага Саюза. Уся палітыка гэтага саюза зводзіцца да падтрымкі правячага класа Даніі. Кіраўніцтва саюза з захапленнем вітала далучэнне Даніі да Паўночна-Атлантычнага пакта. У той жа час яно зусім не клапоціцца аб палепшанні жыцця дацкай моладзі.

Палітыку адмаўлення ад супрацоўніцтва з прагрэсіўнымі арганізацыямі праводзіць і Міжнародны саюз маладых сацыялістаў. Выканком МСМС яшчэ ў 1956 годзе прыняў рэзалюцыю, у якой адвяргаецца супрацоўніцтва з Сусветнай федэрацыяй дэмакратычнай моладзі (СФДМ). У справаздачным дакладзе Генеральнага сакратарыята V кангрэсу МСМС было нямала варожых паклёпаў на камунізм, Савецкі Саюз і краіны народнай дэмакратыі.

Па прыкладу сваіх старэйшых кіраўнікоў, правячыя колы маладзёжных сацыялістычных арганізацый спрабуюць заблытаць моладзь пры дапамозе самай бессаромнай дэмагогіі. З аднаго боку, у статуце МСМС гаворыцца, што саюз змагаецца за перамогу прынцыпаў сацыялізма, заснаваных на ідэалах свабоды і поўнай дэмакратыі, з другога боку, выстаўляецца патрабаванне «палітычнага супрацоўніцтва», з тым, каб разбурыць старыя паняцці аб нацыянальным суверэнітэце. Першае патрэбна кіраўнікам для таго, каб абдурыць моладзь, захапіць яе ідэяй барацьбы за сацыялізм, другое — выяўляе сапраўднае аблічча саюза, яго супрацоўніцтва з буржуазіяй.

Імкнучыся прыцягнуць на свой бок моладзь каланіяльных краін, МСМС час-ад-часу выступае з лозунгамі аб «шкоднасці каланіялізма», «аб праве нацый на самавызначэнне». Але на справе кіраўніцтва сацыялістычных маладзёжных арганізацый займае па каланіяльнаму пытанню апартуністычную пазіцыю. Замест таго, каб павесці моладзь на барацьбу з каланіялізмам, МСМС заяўляе, што «ўрады краін, якія валодаюць калоніямі, павінны вызначыць з прадстаўнікамі руху каланіяльных краін **прыймальныя для абодвух бакоў мэты.** (Падкрэслена намі. — **Д. Б.**), абмеркаваць пытанне аб прадастаўленні незалежнасці або аб тых кроках, якія трэба прадпрыняць для забеспячэння незалежнасці».

У гэтай вытрымцы з дакумента яскрава адлюстравалася лакейская роля МСМС. З аднаго боку, саюз баіцца «пакрыўдзіць» каланізатараў — сваіх сапраўдных гаспадароў, з другога боку, ён не можа адштурхнуць ад сябе моладзь калоній, бо тады яго база стане вельмі вузкай. Але дамагчыся таго, каб і ваўкі былі сытыя, і авечкі цэлыя, немагчыма. Відавочна, што такая палітыка нічога агульнага з сапраўдным сацыялізмам не мае. Шырокія колы моладзі з кожным днём усё больш і больш пачынаюць разумець сапраўдную сутнасць права-сацыялістычнай ідэалогіі. Шляхі кіраўнікоў і моладзі ўсё болей разыходзяцца. Ды яно і зразумела, калі паглядзець, як жыве моладзь у капіталістычных краінах, як права-сацыялістычныя арганізацыі абараняюць яе інтарэсы.

Па ініцыятыве сацыялістычнай партыі Аўстрыі ў 1945 годзе была створана маладзёжная арганізацыя «Сацыялістычная партыя Аўстрыі — сацыялістычная моладзь».



У яе праграме было запісана, што сацыялістычная моладзь будзе «выступаць за эканамічныя і палітычныя патрабаванні ўсёй рабочай і вучнёўскай моладзі горада і вёскі». Далей у праграме гаварылася аб тым, што арганізацыя мае на мэце «фарміраваць светапогляд моладзі, знаёміць яе з навуковым сацыялізмам і з задачамі сацыялістычнай партыі.

Такая праграма, безумоўна, прыцягнула да сябе шмат моладзі, якая імкнецца да сацыялізма. Між тым, кіраўніцтва арганізацыі на працягу вось ужо трынаццаці год адцягвае моладзь у бок ад барацьбы за сацыялізм. Кіраўнікі сацыялістычнай моладзі выхоўваюць сваіх членаў у духу нянавісці да камунізма, Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі.

Зараз аўстрыйскія сацыялісты называюць сваю дзяржаву «дзяржавай працвітання». Але ад гэтай назвы капіталізм не змяніўся. Колькасць мільянераў у Аўстрыі за 1953—1954 год павялічылася на адну трэць. Павышэнне прадукцыйнасці працы прывяло да рэзкага павышэння даходаў капіталістаў і вельмі нязначнага палепшання жыцця рабочых. Ды і гэтае палепшанне было вырвана ў капіталістаў у выніку жорсткай барацьбы. І ўсё ж жыццё аўстрыйскага маладога рабочага застаецца цяжкім. Маладыя людзі атрымліваюць за сваю працу меншую зарплату, чым старэйшыя рабочыя. Дзяўчаты за аднолькавую працу атрымліваюць менш за хлопцаў. Дапамога па беспрацоўю моладзі да 18 год не выдаецца. Многія капіталісты па свайму жаданню павялічваюць рабочы дзень маладых рабочых, скарачаюць адпачынкі, зніжаюць заработную плату. На радзе прадпрыемстваў нафтавай і машынабудаўнічай прамысловасці маладым рабочым за звыштэрміновую работу выплачваецца толькі 50 працэнтаў іх заработнай платы. У часопісе «Югенд форан» паведамлялася аб тым, што ў адным з пансіёнаў Ціроля дзве дзяўчыны працавалі па загаду гаспадара ад 103 да 112 гадзін кожны тыдзень. За зіму яны не мелі ні аднаго дня адпачынку, жылі ў халодным памяшканні, спалі не распранаючыся.

Не менш цяжкае жыццё маладых сялян і сельскагаспадарчых рабочых. Тысячы маладых сялян кожны год ідуць у гарады ў пошуках працы. Сельскагаспадарчыя рабочыя атрымліваюць значна меншую заработную плату, чым прамысловыя, хоць працаваць ім даводзіцца ад цямна да цямна.

Большасць юнакоў і дзяўчат пасля заканчэння школы жадаюць стаць кваліфікаванымі рабочымі. Аднак аўстрыйскі ўрад не мае дастатковай колькасці навучальных устаноў, якія б задавальнялі патрэбы моладзі. Так, значная частка моладзі на ўсё жыццё застаецца некваліфікаванай рабочай сілай. Не лепшае становішча з навучаннем моладзі ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Не талент і здольнасці вучня, а грошы яго бацькоў рашаюць пытанне, будзе малады чалавек вучыцца ці не. Студэнты абавязаны плаціць не толькі за вучобу, але і за інтэрнат, за дапаможнікі, кансультацыі, практыку, абарону дыпломных работ і г. д. У сярэднім за адзін семестр кожны студэнт абавязаны выплачваць суму, якая перавышае заробак аднаго рабочага. Закончыўшы вучобу, студэнты не заўсёды могуць атрымаць работу. У выніку такога цяжкага становішча з году ў год скарачаецца колькасць студэнтаў.

Наступленне на эканамічныя правы моладзі ў Аўстрыі ідзе адначасова з ідэалагічным абалваньваннем маладых людзей. Для таго каб аслабіць класавае адзінства працоўнай моладзі, перашкодзіць усё больш шырокаму пранікненню ў яе асяроддзе ідэй навуковага сацыялізма, буржуазія і яе паслугачы імкнуцца разбэсціць падрастаючае пакаленне. Краіна наваднявецца парнаграфічнай і бульварнай літаратурай і фільмамі, у якіх услаўляюцца забойствы, грабяжы, гвалтоўніцтва. Не дзіва, што многія злачынствы маладых людзей з'яўляюцца дакладнай копіяй

злачынстваў, паказаных у гангстэрскіх фільмах.

Свабодная аўстрыйская моладзь пры падтрымцы Дэмакратычнага саюза аўстрыйскіх жанчын і камуністычнай партыі Аўстрыі патрабуе прыняць закон аб абароне правоў моладзі і забароне ўвозу, а таксама выдання кніг і фільмаў, шкодных для выхавання.

Амаль такое ж становішча і ў Швецыі. Буйныя магнаты імкнуцца накіраваць моладзь па шляху, які ім выгадны, стараюцца аслабіць у працоўнай моладзі пачуццё класавай самасвядомасці, выклікаць няўпэўненасць у сваіх сілах, прывіць эгаістычныя, індывідуалістычныя настроі.

Шыла ў мяшку не ўтоіш, — гаворыць вядомая прыказка. Нельга ўтаіць і здрадніцкую дзейнасць лідэраў права-сацыялістычных партый. Сярод радавых членаў маладзёжных сацыялістычных арганізацый расце апазіцыя апартуністычнаму кіраўніцтву. Пад ціскам гэтай апазіцыі кіраўніцтва вымушана часам выступаць з заявамі, якія ідуць наперакор імперыялістычным планам. У адной з рэзалюцый кангрэсу МСМС выказваўся пратэст супраць амерыканскіх планаў прыцягнення франкісцкай Іспаніі да ўдзелу ў праектах «абароны» Захаду. У другой рэзалюцыі кангрэсу асуджалася вытворчасць узбраення масавага знішчэння людзей.

Наперакор рашэнням кіраўніцтва, маладыя сацыялісты ўсё часцей выступаюць за сумесную з камуністамі барацьбу ў абарону правоў і патрэб моладзі. Маладыя сацыялісты Мюльгейма (ФРГ) на адным са сходаў прынялі рэзалюцыю, якая патрабавала пакончыць з расколам рабочага класа і моладзі і сумесна змагацца за мір паміж народамі. Арганізацыя «Сакалоў» г. Кёльна заклікае заходнегерманскую моладзь да аб'яднання сіл рабочага руху ў барацьбе за адзінства Германіі. Большасць працоўнай моладзі і студэнты выступаюць супраць размяшчэння на тэрыторыі ФРГ атамнай зброі і падтрымліваюць план Рапацкага.

Цяпер сярод моладзі ФРГ расце рух супраць фашызацыі дзяржаўнага апарату. Многія прадстаўнікі моладзі асуджаюць забарону кампартыі Германіі, Саюза свабоднай нямецкай моладзі і другіх дэмакратычных арганізацый. У той час, як кіраўніцтва маладзёжнай арганізацыі «Прафсаюзная моладзь» спрабуе адцягнуць юнакоў і дзяўчат ад палітычнай барацьбы, у мясцовых арганізацыях усё мацней гучаць галасы супраць мілітарызацыі Заходняй Германіі, за адмену закону аб усеагульным вайсковым абавязку. Пасля VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў намнога вырасла колькасць членаў сацыялістычных арганізацый, якая наперакор кіраўніцтву выступае за сувязь з савецкімі маладзёжнымі арганізацыямі.

Усё гэта сведчыць аб тым, што, нягледзячы на раскольніцкія дзеянні кіраўніцтва сацыялістычных арганізацый, моладзь імкнецца да адзінства ў барацьбе за сацыялізм, мір і дэмакратыю.

# *У свеце мастацтва*

## ДЗЯКУЙ, СЯБРЫ!

— Нам, прадстаўнікам чэхаславацкага народа, хацелася б, каб выстаўка вам спадабалася і каб мы мелі магчымасць перадаць у сябе дома, у Чэхаславакіі, сардэчнае дзякуй нашым пісьменнікам, мастакам і паліграфістам за іх добрую работу не толькі ад масквічоў, але і ад мінчан!



**Большую частку наведвальнікаў выстаўкі складала моладзь. Група школьнікаў:** (злева направа): **Тамара Мацюш, Святлана Аленская, Валянціна Каткова і Марыя Цвінтарная.**



**Ля стэндаў з кнігамі па мастацтву.**

З такімі словамі звярнулася Ітка Пармава, рэдактар выдавецтва «Свет Савету», да ўсіх, хто прышоў на адкрыццё выстаўкі чэхаславацкай кнігі ў Мінску.

Гэта было ў сярэдзіне студзеня. У Мінск выстаўка прыбыла пасля паказу ў Маскве. Сінія афішы, якія паведамлялі мінчанам аб выстаўцы, штодзень збіралі ў Акруговы Дом афіцэраў сотні наведвальнікаў. Чэхаславакія, радзіма еўрапейскага кнігадрукавання, прапанавала ўвазе наведвальнікаў мноства цудоўных выданняў. Зборы твораў У. І. Леніна, К. Готвальда, чэшскія і славацкія пісьменнікі, кнігі па гісторыі мастацтва. Горкі і Шолахаў, дзіцячыя «раскладанкі», кнігі пра спорт і прыроду, пераклады лепшых твораў беларускіх пісьменнікаў... Немагчыма пералічыць хаця б невялікую частку экспанатаў выстаўкі.

На ўводных стэндах — гонар славян, узоры помнікаў старажытнай культуры, выдадзеных больш за 1 000 год таму назад так званых «Кіеўскіх лісткоў». Сярод кніг, што ляжалі на палічках у канцы выстаўкі,



**Дырэктар выстаўкі Само Фалцян — аўтар кнігі «Славакі ў партызанскіх баях у Савецкім Саюзе» — адчуваў сябе сярод мінчан, як сярод найлепшых сяброў.**

уважлівы позірк знаходзіў вокладку кнігі аб дзеяннях славакаў у беларускіх партызанскіх атрадах. Яе напісаў Само Фалцян — радавы баец брыгады «Дзядзі Колі», якая дзейнічала пад Мінскам. Аўтар кнігі быў тут жа, ён — адзін з арганізатараў і дырэктар выстаўкі.

Паказ чэхаславацкай кнігі супаў з экспанаванай у Доме афіцэраў выстаўкай беларускага народнага мастацтва. Чэхаславацкія сябры наведалі яе.

— Гэта выдатная сустрэча культур двух народаў, — зазначыў мастак Машак Здэнак з Браціславы. — Вашы вышыўкі і работы народных ткачоў зрабілі б у нас не меншае ўражанне, чым чэшскія і славацкія кнігі на беларусаў. Трэба рэгулярна абменьвацца такімі выстаўкамі...

На круглым століку тры маленькія флажкі: Савецкага Саюза, Чэхаславацкай Рэспублікі і БССР. Побач кніга водгукаў наведвальнікаў. Яна запоўнена запісамі на беларускай і рускай мовах. Вось адзін з запісаў:

«Кніга — сябар чалавека. Гэта аднолькава добра гучыць на ўсіх мовах. Але кнігі сяброў, якімі з'яўляюцца чэхі і славакі ў адносінах да беларусаў і ўсіх іншых савецкіх народаў, яшчэ даражэйшыя і каштоўнейшыя.

Выстаўка чэхаславацкай кнігі ў Мінску — гэта новы выдатны ўклад у непарушную, змацаваную крывёю нашых лепшых сыноў савецка-чэхаславацкую дружбу.

Радасна яшчэ і тое, што яе кіраўніком з'яўляецца былы партызан, усім нам вядомы пісьменнік Само Фалцян. Мы, былыя беларускія партызаны, што змагаліся разам з баявымі чэхаславацкімі сябрамі, хочам ад усяго сэрца сказаць вялікае вам дзякуй, нашы чэхаславацкія сябры!

А. Хацкевіч, Ф. Хацкевіч».

Як бачым, арганізатары выстаўкі не памыліліся ў сваіх спадзяваннях: яны парадавалі нас сваёю выстаўкай і павезлі з Мінска самае сардэчнае беларускае дзякуй.

**Яшчэ адзін запіс у кнізе водгукаў!** Злева направа: **адзін з арганізатараў выстаўкі мастак Машак Здэнак, яго савецкія калегі масквіч Аляксандр Фядзяеў і мінчанін Валянцін Ціхановіч.**





# НА МАГІЛЁЎСКАЙ СЦЭНЕ

Магілёўскі абласны драматычны тэатр паказаў адзін за другім тры новыя спектаклі. Юбілейны год ён закончыў пастаноўкай п'есы І. Мележа «Дні нашага нараджэння», якая расказвае аб векапомных днях Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года на Беларусі. Адкрыццю гістарычнага XXI з'езда нашай партыі тэатр прысвяціў спектакль «Вецер у твар», які з'яўляецца інсцэніроўкай аднайменнага рамана ўкраінскага пісьменніка М. Рудэнкі. Гэта спектакль пра людзей перадавой лініі фронта індустрыі — сталявараў. Стварыць праўдзівыя вобразы рабочых акцёрам дапамагла дружба з калектывам Магілёўскага металургічнага завода. Рыхтуючыся да пастаноўкі спектакля, артысты наведалі цэхі прадпрыемства. Гэта ўзбагаціла іх цікавымі назіраннямі, творчымі знаходкамі.



**Адзін з галоўных персанажаў казкі «Два клёны» — вясёлы, кемлівы хлопчык Іванушка (артыстка В. Суднікава).**



**Сцэна са спектакля «Дні нашага нараджэння»: Валя — артыстка В. Кабатнікава, Федасюк — заслужаны артыст БССР С. Бульчык і Мяснікоў — народны артыст РСФСР Н. Радзіёнаў.**

Нямала папрацаваў над стварэннем вобраза хлопчыка і самы юны выканаўца — вучань адной з магілёўскіх школ Сярожа Абабурка. Ён паспяхо-



**Рабочы момант у ходзе падрыхтоўкі спектакля «Вецер у твар» — артыст А. Руданоў, які выконвае ролю Віктара Сотніка, рэжысёр-пастаноўшчык заслужаны дзеяч мастацтва А. Вярхоўскі і школьнік Сярожа Абабурка, які іграе ролю Алега, сына Віктара Сотніка.**

ва справіўся з задачай, зрабіўшы гэта не ў шкоду вучобе. Рыхтуючы роль, Сярожа не прапусціў ніводнага ўрока ў школе.

І, нарэшце, трэцяя работа тэатра — пастаноўка п'есы-казкі Я. Шварца «Два клёны». Гэта — першы спектакль, які стварылі магіляўчане для дзяцей. Пра поспех пастаноўкі лепш за ўсё гаворыць бурная рэакцыя глядзельнай залы — выбухі смеху і дружныя воплескі юных гледачоў.

Новыя спектаклі Магілёўскага тэатра сведчаць аб тым, што яго калектыў паспяхова працуе над тэмамі, якія сёння больш за ўсё хвалююць гледача.

## УКРАІНСКІЯ АРТЫСТЫ Ў МІНСКУ

Узаемны абмен творчымі калектывамі паміж братнімі рэспублікамі стаў надзённай справай. Нядаўна нашу сталіцу наведалі госці з Украіны — артысты Кіеўскага тэатра юнага гледача. Цёпла сустрэлі сваіх братоў па мастацтву беларускія артысты.

На адкрыцці гастроляў дырэктар Беларускага дзяржаўнага тэатра юнага гледача У. Стэльмах сказаў: «Няхай гэтая сустрэча будзе не апошняй, няхай з кожным годам расце і мацнее наша дружба».

Галоўны рэжысёр Кіеўскага тэатра народны артыст УССР А. Саламарскі шчыра падзякаваў за радасную сустрэчу і запрасіў беларускіх сяброў у Кіеў.

Украінскія артысты паказалі два спектаклі: «Сустрэча з юнацтвам» А. Арбузава і «Самбрэра» С. Міхалкова.

Асабліва цёпла прынялі юныя гледачы Мінска дзіцячую камедыю «Самбрэра». Гэта вясёлы спектакль, поўны прыгод і рамантыкі, і ў той жа час ён выклікае сур'ёзны роздум аб вялікіх, надзённых пытаннях нашага жыцця, вучыць цаніць дружбу, быць верным сяброўскаму абавязку.

Па-майстэрску выконвае ў гэтым спектаклі ролю галоўнага героя Шуры Тычынкіна актрыса О. Пуць. Яна стварыла цікавы вобраз вясёлага і вынаходлівага хлопчыка, вернага таварыша.

Запамінальным атрымаўся вобраз рыжага Андрыяна ў выкананні А. Асінскай. Гэта — адна з самых яркіх удач спектакля.

У той час, калі кіяўляне дэманстравалі свае творчыя дасягненні ў Мінску, артысты Беларускага тэатра юнага гледача пабывалі ў Кіеве і паказалі ўкраінскаму юнаму гледачу свае лепшыя спектаклі.

**Сцэна са спектакля Кіеўскага тэатра юнага гледача «Самбрэра» па п'есе С. Міхалкова.**



# Бібліяграфія

## ШЧАСЦЕ ПРАМЫХ ДАРОГ

Радасна, калі аб новай кнізе пісьменніка можна сказаць, што яна лепшая за папярэднія. Менавіта гэта хочацца сказаць, прачытаўшы зборнік апавяданняў Міколы Лупсякова «У вераб'іную ноч».* Больш вострым стаў мастакоўскі зрок пісьменніка, больш актыўнай — яго цікавасць да таго новага, што ўзнікае ў жыцці. У адрозненне ад зборніка «Паядынак», — кнігі стракатай, у якой разам з некалькімі выдатнымі апавяданнямі былі надрукаваны творы проста слабыя — новая кніга робіць уражанне цэласнай і больш роўнай па майстэрству. Можна запярэчыць, што для зборніка апавяданняў цэласнасць зусім не абавязкова. Але мы гаворым не пра нарматыўныя патрабаванні да кнігі, а пра асаблівасць яе. Асаблівасць гэтая самым непасрэдным чынам звязана з галоўным напрамкам, цэнтральнай тэмай у творчасці Міколы Лупсякова, якая акрэслілася ў апошнія гады. Выкрыццё ўласніцтва, — той злой сілы, якая прыніжае і калечыць чалавека, і сцвярджэнне сумленнай грамадскай працы як адзінага надзейнага шляху да шчасця — гэтая тэма праходзіць праз усе творы яго новага зборніка.

Адкрывае кнігу апавяданне «Новы пляцень». Як кожны сапраўдны мастацкі твор, яно здаецца перанесеным на паперу кавалкам жывога жыцця. У цэнтры яго стаіць каларытная фігура — бядняк Язэп, пануры, злосны на ўвесь свет, амаль здзічэлы ад нястач і беднасці. Ён ужо і не спрабуе змагацца з жыццём — працуе нехаця, ураджай на яго палосцы заўсёды самы дрэнны. Злосць Язэп спаганяе на суседзях — сварыцца і б'ецца з імі.

Уся багатая вёска ненавідзіць Язэпа. Але ёсць нешта прывабнае ў гэтым чалавеку — стойкасць, з якой ён галадае, пухне, але не ідзе ні да кога з багацеяў, той пратэст — недарэчны, бескарысны, але ўсё ж такі пратэст, які відаць у яго паводзінах. Язэпу супрацьпастаўлена сям'я хлопчыка Нікадзімкі, ад імя якога вядзецца апавяданне. На першы погляд, гэта строгая, працавітая, вялікая сям'я, дзе ўсе стаяць адзін за аднаго і старанна захоўваюць закон падначалення старэйшаму. Але калі мы даходзім да таго месца апавядання, дзе галава сям'і дзед Ануфрэй стаіць перад абабранай некім яблыняй, і бачым, як твар яго «то бялеў, то наліваўся кроўю», калі мы чуем, як Ануфрэй кажа: «Гэты самы зладзюга, бандзюк гэты — Язэп — во хто абабраў яблыню! Пойдзем з вобыскам і, калі знойдзем, тады ў калы!» — нам ужо зразумела, наколькі сурова тут помсцяць за самы нязначны замах на іхнюю ўласнасць.

Апошняя сцэнка апавядання — сцэна жорсткай расправы з Язэпам — па сіле і яркасці без перабольшання стаіць на ўзроўні лепшых узораў нашай беларускай прозы. На абодвух берагах раз'юшанага, вірлівага Дняпра — голыя і паўголыя людзі, якія аж заходзяцца ад рогату, акунаючы звязанага лейцамі Язэпа ў раку. Язэп не просіць літасці, не абяцае «выправіцца» і тоне са сціснутымі кулакамі. І толькі хлопчык, адзіны ў раз'юшаным натоўпе, хто разумее, якая адбылася жудасная несправядлівасць, плача, упаўшы на зямлю, і клянецца адпомсціць «і дзеду Ануфрэю, і ўсёй багатай вёсцы». Магчыма, няма сэнсу спрачацца, якое апавяданне з'яўляецца лепшым творам Міколы Лупсякова — «Грабскі хутар» ці «Новы пляцень», але перавага апошняга ў тым,

* Мікола Лупсякоў. «У вераб'іную ноч». Апавяданні. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1958.

што ідэя яго больш арганічна, без усялякага націску, вырастае з жыццёвага матэрыялу; і зроблена гэтае апавяданне больш эканомна, без ніводнага лішняга радка.

Вялікая адлегласць аддзяляе герояў апавядання «Торба з салам» ад герояў «Новага плятня». Гэта не толькі адлегласць паміж далёкім дарэвалюцыйным часам і нашымі днямі, — гэта невымерная розніца ў ладзе жыцця і свядомасці людзей. Не аб панаванні прыватнаўласніцкай псіхалогіі гаворым мы цяпер, а толькі аб яе перажытках. Але як учэпіста трымаюць яны часам душу чалавека! Вось пра гэта і расказваецца ў апавяданні «Торба з салам».

На кароткі час звёў лёс двух рыбакоў, двух вельмі розных людзей — нелюдзімага эгаіста Тамаша з Рыгорам Мікітчыкавым, простым калгасным хлопцам. Тамаш — скнара, яго хцівасць вынікае з таго, што ён жыве «без гурту, без людзей». Пісьменнік паказвае немінучасць маральнага калецтва чалавека, ахопленага ўласніцкімі імкненнямі. Усяго адну ноч перачавалі на беразе рэчкі Тамаш з Рыгорам, але за гэтую ноч Тамаш, шмат перадумаўшы і перапакутаваўшы, стаў іншым чалавекам.

Не дакорамі і не ўгаворамі, а толькі воблікам сваім, сваёю натураю, у якой яскрава выявіліся якасці новага, грамадскага чалавека, вольнага ад прыватнаўласніцкіх імкненняў, Рыгор пераканаў Тамаша. Пераканаў яго тым, што дыхае больш вольна і жыве лепш, шырэй, пауней.

Выразна акрэслены характары ў апавяданні, натуральны сюжэтны рух у ім: дзеянне лёгка зьмяняецца роздумам, унутраны маналог — лаканічным дыялагам, аўтарская характарыстыка — апісаннем прыроды.

Новым чалавекам, чалавекам нашага свету ў поўным сэнсе гэтага слова з'яўляецца герой апавядання М. Лупсякова «На вірах». Дзед Ахрэм, таксама, як і Тамаш, бóльшую частку свайго жыцця праводзіць на Дняпры. Работа ў яго вельмі патрэбная людзям — ён бакеншчык, гаспадар ракі. Ахрэм добра разумее, якая важная і адказная яго пасада. І чалавек ён зусім іншы, чым Тамаш,— яму да ўсяго ёсць справа. Ён не можа прайсці міма, калі глушаць рыбу або пускаюць жывёлу на калгасныя сенажаці, ён, як асабістую радасць, прымае пабудову завода і электрастанцыі, ён марыць аб тым, што, можа, і на яго бакенах загарыцца электрычнасць. Каб выканаць свой абавязак, Ахрэм рызыкуе жыццём. І па ўсім адчуваецца, як любіць аўтар гэтага свайго героя. Наогул, пісьменнік не прымушае чытача ламаць галаву над тым, што ён любіць і што ненавідзіць, — яго сімпатыі і антыпатыі вельмі відавочныя.

У апавяданні «На вірах» бадай найбольш адчувальна і тонка перададзена атмасфера Прыдняпроўя, роднага пісьменніку краю. Зрэшты, цяжка вырашыць, у якім з апавяданняў Лупсякова лепшыя апісанні прыроды, бо яны заўсёды ў яго добрыя. Многія яго апавяданні як бы вырастаюць, разгортваюцца з пейзажных запеваў, як ліст з пупышкі.

Нельга сказаць, што Лупсякоў «уводзіць» пейзаж у свае апавяданні, трэба гаварыць аб злітнасці пісьменніка з роднай прыродай. Пісьменнік не стамляецца славіць яе — зімовую і летнюю, восеньскую і веснавую, ранішнюю і вячэрнюю — і робіць гэта з любоўю, умела, перадаючы пры гэтым настрой чалавека. Дарэчы, дзеянне амаль усіх апавяданняў Лупсякова адбываецца пад адкрытым небам, а героі яго — людзі, якія глыбока ведаюць і разумеюць прыроду. І ёсць герой, агульны для ўсіх твораў зборніка — Дняпро. Ён — адна з прычын уражання цэласнасці, якое пакідае кніга.

Не ўсе апавяданні ў кнізе знаходзяцца на адным мастацкім узроўні. Ёсць сярод іх і такія, у якіх мастацкія вобразы толькі ілюструюць ідэю. У апавяданні «Драбяза», напрыклад, вобразнасць адслойваецца лёгка, і ідэю сфармуляваць вельмі проста: недастаткова толькі грэбліва адхіляцца ад уласніцтва, трэба змагацца з ім. Як жа апавяданне сканструявана? Хлопцу Мішку падабаецца дзяўчына Галя з вельмі працавітай сям'і. Але штосьці, чаго ён і сам добра не разумее, замінае яго пачуццю. Толькі калі ён бачыць, як бацька дзяўчыны Юльян зразае маладзенькую бярозку, якую тры гады назад ён пасадзіў разам з іншымі вучнямі, Мішка зразумеў, што замінае яму хцівасць Галінага бацькі, які дбае толькі аб тым, каб як мага болей зацягнуць у свой двор. І цяпер «уся тая драбязлівая нікчэмнасць, якую раней толькі адчуваў ён, усё больш... рабілася бачнай яму». Але навошта было Мішку чакаць іменна гэтага выпадку, калі ён ведае Юльяна і Галю ўсё жыццё і бачыць іх кожны дзень?

Мішка не стаў пісаць Галі. Праз некалькі год, вяртаючыся пасля інстытута ў калгас, ён даведваецца, што дзяўчына доўга сумавала, а потым выйшла замуж, стала добрай працаўніцай і актывісткай. Мішка глянуў на тую самую бярозку, якую калісьці зрэзаў Юльян. Яна не загінула, а выпусціла новы парастак. І толькі цяпер Мішка зразумеў сваю памылку.



Нацягнутасць, ілюстрацыйнасць задумы — тут відавочныя.

Слабыя, малазмястоўныя апавяданні «На плытах», «Праз гады», «У вераб'іную ноч». Агульным загалоўкам «Дняпроўскія замалёўкі» пісьменнік як бы просіць прабачэння за слабасць і незавершанасць некаторых апавяданняў.

М. Лупсякова вельмі цікавіць моладзь. Ён піша пра яе часта. Цікавыя вобразы юнакоў створаны ў апавяданнях «Торба з салам», «Сустрэча», «Летнім вечарам» і інш. Не ўсе з іх вызначаюцца глыбінёй, часам пісьменнік надзяляе сваіх герояў занадта дарослымі думкамі і роздумам, але ўвогуле гэта вельмі цікавая плынь у творчасці М. Лупсякова. «Маладзёжнай» з'яўляецца і яго аповесць «Пабіраха». Гэта твор аб тым, які ўплыў зрабіла на людзей перабудова сельскай гаспадаркі, перабудова жыцця вёскі ў апошнія гады. Аповесць цікавая перш за ўсё таму, што ў ёй створаны арыгінальныя і глыбокія характары. Ганна, па мянушцы Пабіраха, дачка ўдавы, якая жыве бядней за ўсіх у вёсцы — гэта, бадай, самая любімая Лупсяковым гераіня. Яна выклікае спагаду і сімпатыю ўжо з першых радкоў, калі ў вялікай не па росту сукенцы і старых лодачках ідзе радасна ўзрушаная на вячорку. Душэўная чысціня, даверлівасць, бясхітраснасць, руплівасць у працы — вось якім багаццем валодае Пабіраха. Паступова гэта становіцца зразумела ўсім. Ганне давяраюць кіраваць людзьмі. І як па-свойму яна гэта робіць! Хутка Ганна ўсведамляе, што гэта ж не яна Пабіраха, а тыя, хто кінуў калгас ў цяжкія гады і шукаў лёгкага хлеба. Перамогуць і шчасце знойдуць тыя, хто не абыходзіць цяжкіх шляхоў, — сцвярджае вобразам Ганны пісьменнік.

У аповесці зноў паявілася вера Лупсякова ў сілу ўздзеяння людзей адзін на аднаго не ўгаворамі, а душэўнымі якасцямі. Аповесць чытаецца з вялікай цікавасцю і з'яўляецца значным дасягненнем пісьменніка. Яна прасякнута аптымізмам і праслаўляе лепшыя чалавечыя якасці.

Надзённасць тэматыкі, пранікненне ў псіхалогію чалавека працы, тонкае адчуванне роднай прыроды, сакавітая, трапная мова, — вось тыя якасці, за якія палюбіць чытач кніжку «У вераб'іную ноч».

**Ю. КАНЭ.**

# У ПОШУКАХ СВАЙГО ГОЛАСУ

З вялікай прыемнасцю бяру ў рукі і перагортваю першы зборнік вершаў Еўдакіі Лось «Сакавік».* Мастацкае афармленне кніжкі і сама назва ствараюць цёплы, вясновы настрой. Прачытваю старонку за старонкай і бачу, што лепшыя вершы маладой паэтэсы радуюць сваёю непасрэднасцю, навізною светаадчування, юнацкім задорам і ўсхваляванасцю. Уся кніга прасякнута пачуццём вялікай прагі да жыцця, жаданнем глыбока пранікнуць ва ўнутраны свет нашага сучасніка, імкненнем маладой паэтэсы адгукнуцца на пачуцці людзей, іх думы і перажыванні.

Праграмным у кнізе з'яўляецца верш «Мая любоў». Перад паэтэсай жыццё паўстае такім, якім яно было некалі і якім стала сёння. Аб мінулым сказана коратка і выразна:

Не чыноўнымі продкі былі —
З веку корпаліся на ніве.
А дарунак быў ад зямлі —
Мазалі на руках па сліве...

Мільёны працоўных, скончыўшы з цяжкім мінулым, сталі на светлы шлях сацыялістычнага жыцця. І аб гэтым радасным і светлым жыцці аўтар гаворыць усхвалявана:

Бачу — сонца маё ўстае,
Бачу — ранак дыміцца росны,
Бачу — топкі гарадь мае,
Бачу — шоўк зіхаціць у кроснах.
Мне так хораша жыць і тварыць,
Мне падорана шчасная доля...
Мне б зямлю толькі гэту любіць,
Не зазнаўшы сардэчнага болю...

Пачуццё вялікай любві да свайго народа, да свайго любімага краю, да сацыялістычнай Радзімы прадыктавала паэтэсе прачулыя, цёплыя радкі:

* Еўдакія Лось. «Сакавік». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1958.

Дай перамерзнуць у сцюжах тваіх,
Дай перамокнуць у сотнях
дажджоў,
Дай перасмягнуць у тысячах спёк,
Мая дарагая радзіма!
Толькі не мерзні у сцюжах сама,
Толькі не ведай гарачай слязы,
Толькі не смягні ў спякотах сухіх,
Мая дарагая радзіма!

Замілаванне прыгажосцю роднай зямлі ўласціва і вершу «Цвеціна». З памяці доўга не знікаюць каларытныя, надзвычай паэтычныя радкі:

Цвеціна — на ўзлессі хаты,
Па кашу баравікі...
Нібы макаў цвет дзяўчаты,
А хлапцы нібы дубкі.
Хараства на свеце многа,
Ну, а тут хоць адбаўляй.
Нездарма вялі дарогі
Ўсіх сватоў у гэты край...

Прыгожай і прывабнай намалявана вёска Цвеціна, дзе жывуць вясёлыя і працавітыя людзі, багатыя сваім душэўным скарбам, трапныя на слова, на дасціпную прымаўку:

Ты страчаў дзяўчыну-краску,
Хлопца — плечы з паўсцяны?
Не пытайся, скуль, будзь ласкаў:
Ясна ж — з Цвеціны яны.

З непасрэднай любасцю стварае Е. Лось малюнкі роднай прыроды. Гэтая любасць сапраўды нейкая сонечная, светлая.

Над Звонню — звон, ля Звоні —
сінь:
Званочкі ладзяць карагоды...
Пад Звонню шапку ў грэчку кінь —
І шапка ўраз прапахне мёдам.
У Звоні любяць пчолаў гул,
Званок на танку сямігодкі,
Падковак стук аб гулкі груд
І крыгазвон у дні паводкі.

Як станоўчую рысу, трэба адзначыць імкненне маладой паэтэсы да творчага засваення здабыткаў фальклору. Зварот да паэтычнай творчасці народа надзвычай узбагачае лексіку верша, надае яму метафарычнасць, своеасаблівую музычнасць. Уважліва і беражліва выкарыстоўваючы песенны лад, трэба ўмець асэнсоўваць яго ў духу сучаснасці. У некаторых жа вершах Еўдакіі Лось заўважаецца празмернае захапленне вонкавай формай народнай творчасці. Гэта часта прыводзіць да стылізацыі пад народнае альбо да простага перайманьніцтва. Прыкладам можа служыць верш «Мядуначка»:

Прышлі жнейкі жаць,
Жыта дажынаць, —
Мядуначка...
Шалясцяць снапы,
Ідуць да капы, —
Мядуначка...
Не мачы касу,
Жнейка, аб расу, —
Мядуначка...

Зусім інакш гучыць верш «Чабарок». Працэс пераасэнсавання ў ім больш глыбокі. Народная метафарычнасць тут узята толькі як першааснова, як запеў. Канва верша запоўнена сваімі, уласнымі ўзорамі і малюнкамі, арыгінальнымі ўласнымі штрышкамі.

Следуючы танальнасці народнай паэзіі, Еўдакія Лось часам забывае пра багацце яе зместу. Таму многія вершы паэтэсы вельмі неглыбокія па думцы:

Ружа белая,
Нясмелая,
Прыгажуня чыстацелая...
Ах, не рвіце
Ружу белую,
Ружу белую,
Нясмелую...

Што ў такім вершы знойдзе наш сучаснік значнага і хвалюючага? Нічога. Старамодны верш аб «нясмелай ружы» ды яшчэ «чыстацелай» не кране людзей, якія ведаюць сапраўдную паэзію — паэзію працы, паэзію высокіх мар і здзяйсненняў.

Глыбокай, значнай думкі не знаходзім мы і ў такіх вершах, як «Трыялет», «Азерца за зялёнай лугавінай». Альбомам патыхае ад такіх, напрыклад, радкоў:

Чакаю я твайго ліста —
Прыносяць ліст не твой, другога...
Няма запалу маладога:
Чакаю я твайго ліста.
Зірну на лістаносца строга;
Спытаю, а ці ўсё дастаў...
Чакаю я твайго ліста —
Прыносяць ліст не твой, другога.

Можа нават не варта было і змяшчаць у зборніку такія выпадковыя вершы, бо паэтычнае слова толькі тады набывае сапраўдную сілу, калі яно ўдзельнічае ў вырашэнні сапраўды вялікіх ідэйна-мастацкіх задач. У гэтым сэнсе Еўдакія Лось толькі ў некаторых сваіх творах, як, напрыклад: «Мой райком», «Слова камуністкі», «Абеліск на Круглай плошчы», «Кастрычніцкі роздум» і інш., дасягае значнага ахопу падзей і з'яў нашага жыцця. Тут грамадскія матывы больш цесна пераплятаюцца з перажываннямі лірычнага героя.

Цікавы па сваёй задуме раздзел зборніка пад назвай «Сябры міру», прысвечаны братнім сувязям народаў дэмакратычных краін. Але і тут паэтэсу сустрэла няўдача. І гэта таму,



што добрая задума хоць і прысутнічае ў вершах, але вельмі бракуе ім майстэрства, той паэтычнай «плоці і крыві», без якіх паэзія застаецца халоднай, безжыццёвай.

У зборніку «Сакавік» мы сустракаем і вершы, прысвечаныя светламу юнацтву, геаічным справам нашых сучаснікаў, дружбе, каханню. Але шмат добрых намераў аўтару не ўдалося давесці да канца, бо не хапіла вопытнасці, майстэрства. Адчуваецца недасканаласць і шурпатасць метафары, нявопытнасць у выкарыстанні мастацкай дэталі. Еўдакія Лось яшчэ не навучылася распазнаваць гучання паэтычнага слова ў сказе, не адчувае яго месца ў страфе. Ёсць і проста паспешлівая неахайнасць, звычайныя недапрацоўкі.

У невялічкім зборнічку мы знойдзем спробы паэтэсы працаваць амаль ва ўсіх паэтычных жанрах, нават і ў найбольш складаных, як трыялет, санет, балада. Ёсць пры гэтым і пэўныя ўдачы. Спашлемся хаця б на санет «Родная мова». Выразны і глыбокі яго змест. Прыгожа і мнагазначна гучыць кожны радок. Але нельга прайсці міма такіх слоў, як «нягаснучая», «нягінучая», граматычная форма якіх не ўласціва нашай мове. Санет гэты напоўнен грамадзянскім дыханнем, чаго не скажаш пра санет «Нашто ты мне, калі я не люблю». Чыста суб'ектыўныя перажыванні аўтара аддаюць тут нейкай даўнасцю.

У многіх вершах паэтэса кідаецца ў занадта складаныя філасафічныя разважанні, хоць яны ёй яшчэ не пад сілу. Адсюль—уяўная «глыбіня» думкі, над якою чытачу даводзіцца доўга ламаць галаву:

Я над сонцам ляжу, бо яно пада
мной дзесьці зараз,
І пакуль я не сплю, даляраючы
сэрца радку, —
Сонца топіцца: ходзіць ды грэе
праменнем і лашчыць
Смуглатварае нашай планеты
другую шчаку...

Ад гэтай «глыбокадумнасці» толькі адзін крок да позы, заўсёды вельмі шкоднай для паэта. Такое ж пазіраванне адчуваецца і ў вершы «Адкрыццё». Аўтар, прыглядаючыся да багацця талентаў сваіх сяброў, кажа:

Прачытаеш верш адзін —
зайздросна:
Гэткая ў ім думкі глыбіня.
А другі — нібыта ранак росны:
Зіхаціць, іскрыцца чысціня...

І вось паўстае пытанне, які ж верш прыняць за ідэал? Доўга не думаючы, паэтэса адказвае ўпэўнена і рашуча:

Чысты аркуш падхапіла хутка
І рашыла быць сама сабой...

Па сутнасці ж гэта не зусім так, Еўдакія Лось вучыцца ў паэтаў старэйшых і маладых, але не заўсёды творча. Некрытычным перайманнем іх творчасці можна вытлумачыць з'яўленне такіх радкоў:

«Светлавалосае, сінявокае
Дзяцінства прайшло даўно...»

«Юнацтва з тугімі косамі
За родны вяло парог...»

«Дзяцінства з цудоўнай кніжкаю
Ля рэчкі страчала штодня...»
і г. д.

Некалькі слоў аб «пачуцці меры». Кідаецца ў вочы шматслоўнасць, частае паўтарэнне адных і тых жа мастацкіх прыёмаў, што робіць вершы аднастайнымі. У параўнальна невялікім зборніку больш дзесятка вершаў пабудавана на паўторах і паралічэннях:

Чую — лезе травінка на свет.
Чую — пчолка пралеску будзіць,
Чую — звон ад калосся плыве,
Чую яблык бухае ў грудзі...

Не трэба вялікага майстэрства, каб рабіць такія паралічэнні бясконца. Некаторыя вершы ў зборніку пабудаваны цалкам на такіх паўторах, як, напрыклад, «Залатыя чыстыя пэрлы», «Роздум», «Не шкада» і інш. Часта паўтараецца ў вершах адна і тая ж дэталь: «дзяўчына з косамі жытнёвымі», «светлавалосая дзяўчына», «з вачамі сінімі і васільковымі», «прыгожы ясны твар», «малады яснавокі», «бровы выразныя» і інш. Ёсць у зборніку слабыя вершы, пабудаваныя на глухіх і невыразных рыфмах: «бялявaю — слаўныя», «хораша — хорамам», «ніц — камуніст», «мой — са мной». Сустракаецца шмат недасканалых, шурпатых радкоў: «Пакуль месяца **бляск бачу я»**, «Бо іншых няма ў нас **да шчасця хадоў»**, «Граюць **струны яго песень многа»**, «Ці ў **чырвань кіне кроў»**, «Пад **небам цёплым паравым»**, «Як мільгае **быстры стан прамы»**, «Нам з табой бы ў **лодцы сплаваць»** і шмат іншых.

Спыніўшыся на шматлікіх недахопах першага паэтычнага зборніка, хочацца падкрэсліць, што гэтая суровая крытыка не мае на мэце недацаніць яго станоўчыя якасці. Агульнае ўражанне зборнік пакідае добрае, у большасці вершаў адчуваецца жывое, паэтычнае слова. Трапныя, мілагучныя рыфмы, удалыя параўнанні, якіх больш у кнізе, сведчаць аб тым, што паэтэса шукае свайго ўласнага шляху ў паэзіі.

**М. ХВЕДАРОВІЧ.**

### «Збіцца з панталыку»

Гэты выраз мы часта ўжываем у сваёй гаворцы і чуем ад другіх. І сэнс яго нам зразумелы, аб чым сведчыць ужо сам дзеяслоў «збіцца». «Збіцца з панталыку» — значыць, як бы сысці з дарогі, з правільнага кірунку, пачаць не тое гаварыць.

Што яно так, ніхто не адмаўляе. Але што такое «панталык», адкуль ён ўзяўся?

А справа вось у чым.

Есць у Атыцы (паўднёвая вобласць Грэцыі) гара, якая ў старажытнасці славілася багаццем мармуру. Адусюль ішлі туды шукальнікі нажывы. Гара мела вялікую пячору з рознымі гротамі. І калі хто туды заходзіў, то доўга блукаў па лабірынце яе ходаў, пакуль выбіраўся наверх. Іншы ж раз чалавек так і заставаўся пад зямлёй. Называлася тая гара Пентэлік. Аб людзях, якія заблудзіліся ў гары, казалі: «Ён збіўся з Пентэліку».

Пасля выраз пераасэнсаваўся. Пэўным чынам змянілася і гучанне слова Пентэлік.

Сёння ж, гаворачы: «Збіўся з панталыку», мы нават і не думаем аб існаванні нейкай там гары.

### «Пацярпець фіяска»

Хлопец пакахаў дзяўчыну, а яна яго — не...

Студэнт «засыпаўся» на экзамене...

Вучань пачаў дэкламаваць верш і раптам забыў...

Што з імі здарылася? А нічога страшнага: яны проста «пацярпелі фіяска». Інакш кажучы: пацярпелі няўдачу, правал. Усім ім не пашанцавала.

«Пацярпець фіяска» ў перакладзе на рускую мову азначае пацярпець... бутэльку. Недарэчнасць нейкая, скажаце вы. Аж не. Быў у старажытнай Італіі такі вядомы жартаўнік фларэнціец Біянканелі. Ён карыстаўся вялікім поспехам сярод гледачоў, выступаючы перад імі з усякімі фокусамі. Ды вось аднаго разу яму не пашанцавала. Жартаўнік выйшаў на сцэну з бутэлькай, аплеценай саломай. Але колькі ні круціўся, як ні завіхаўся ён ля тае бутэлькі, ніхто з гледачоў нават не ўсміхнуўся.

Артыст пацярпеў бутэльку (па-італьянску — «фіяска»).

Так і да сённяшняга дня прадаўжаем мы цярпець не што іншае, як звычайную бутэльку.

### «Ні пуху, ні пяра»

«Ні пуху, ні пяра!» — жадаюць студэнты свайму аднакурсніку, калі той ідзе на экзамен. «Ні пуху, ні пяра!» — шлём мы на развітанне сваім сябрам і таварышам.

Гэты выраз-пажаданне стаў настолькі хадавым і звыклым, што ніхто з нас не заўважае ў ім адмоўнага значэння. Хіба добра, калі чалавек застанецца без пуху ды пер'я! Наўрад! А мы ж яму жадаем усяго найлепшага. Дзе ж логіка?

Шукаць яе трэба ў самой прыродзе афарызма.

Калісьці паляўнічыя, ідучы на здабычу, утойвалі ад злых духаў (дамавікоў) свае намеры. З гэтай мэтай родзічы паляўнічага і гаварылі: «Ні пуху, ні пяра» (маўляў, пайшоў чалавек так сабе ў лес, а не дзеля пуху ці пер'я).

Есць і такі варыянт тлумачэння гэтай ідыёмы. Князь Ігар, кажуць, вельмі захапляўся паляваннем. Ды ў гэтай справе ён быў няўдачнікам, заўсёды вяртаўся дадому з пустымі рукамі. Аднойчы, выпраўляючы Ігара на паляванне, яго жонка Вольга са злосцю пажадала мужу таго, з чым той прыходзіў з лесу кожны раз: «Ні пуху, ні пяра табе і сёння!»

Атрымалася нечаканае. Князь у гэты дзень вярнуўся з палявання і з пухам, і з пер'ем (прынёс пару пушных звяркоў і некалькі птушак).

Так і павялося з таго часу: жадаюць нібы дрэннага, каб сталася добрае.

**І. КУРБЕКА.**



## ЛЫЖНІЦА

Яна нарадзілася ў сям'і спартсменаў. Яе маці Валянціна Новік была выдатным бегуном і яшчэ лепшай лыжніцай. Рэдка хто перамагаў яе на лыжні. Бацька яе Мікалай Ачкін меў шматбаковы спартыўны талент. Ён пачаў з бокса і два гады быў чэмпіёнам Беларусі. Ачкін паспрабаваў свае сілы і на барцоўскім дыване — і тут заваяваў званне чэмпіёна рэспублікі. На наступны год ён таксама заваяваў гэтае ж званне, але ўжо па штанзе. У 1939 годзе ён узяўся адразу за ўсе віды лёгкай атлетыкі і дабіўся высокіх вынікаў і ў бегу, і ў прыжках, і ў кіданні. Баксёр, барэц, штангіст, Ачкін стаў яшчэ чэмпіёнам рэспублікі і па лёгкаатлетычнаму дзесяцібор'ю.

У гады вайны сувязная партызанскага атрада Валянціна Новік загінула пры выкананні баявога задання. Яе маленькую дачку Рыту забрала ў Магілёў бабуля.

Рыту, як і яе бацькоў, вельмі цягнула да спорту. Ужо ў сёмым класе яна трапіла да магілёўскага трэнера па лыжах Івана Жыткова. Дзяўчынка хутка авалодвала тэхнікай лыжнага бегу і стала гоншчыцай першага разраду.

Яшчэ не паспела адгрымець імя Мікалая Ачкіна на стадыёне, як прозвішча Ачкіных стала ўсё часцей гучаць на лыжні. Яго праслаўляла дачка старога спартсмена Рыта.

Рыта Ачкіна стала мацнейшай лыжніцай рэспублікі сярод дзяўчат. Пасля школы яна паступіла ў інстытут фізкультуры, той самы, які да вайны скончылі яе маці і бацька, і выйшла на вялікую лыжню (глядзі здымак на ўкладцы).

У гонках часта чуўся голас юнай спартсменкі:

— Лыжню!

Гэтае знаёмае ўсім спартсменам патрабаванне азначала, што лыжніца, якая ідзе ззаду, адчувае сябе мацней і хоча ісці ў абгон. Паводле спартыўных законаў, пачуўшы такое патрабаванне, трэба неадкладна саступаць з лыжні. І з кожнай гонкай усё больш і больш спартсменак сталі саступаць Рыце Ачкінай наезджаную да бляску вузкую палоску снегу, па якой так добра бегаць. Толькі лічаныя лыжніцы ўпарта адстойвалі свой прэстыж перад маладой спартсменкай. Але Рыта Ачкіна абагнала ўсіх. Цяпер у рэспубліцы Рыта Ачкіна — самая хуткая лыжніца.

Але мерка майстэрства — не ў Беларусі, дзе з-за кароткай, няўстойлівай зімы няма дзе разгарнуцца лыжным талентам. На спаборніцтвах усесаюзнага маштабу Рыта паказвае таксама высокія вынікі.

Летась Рыта Ачкіна выязджала з камандай Беларусі ў Карпаты. У маленькім горным сяленні Варахце праходзілі спаборніцтвы лыжнікаў пяці рэспублік. Рыта ў гэтым матчы праявіла вялікую волю, паказала высокую тэхніку і выйграла гонку на 8 кіламетраў. Гэтая перамога прынесла ёй званне майстра спорту СССР.

Беларуская лыжніца не спасавала і на першынстве краіны. Спаборнічаючы з мацнейшымі гоншчыцамі велізарнай і снежнай Сібіры і іншых марозных куткоў краіны, беларуска ў гонцы на 10 кіламетраў стартавала першай. Цяжка арыентавацца ў часе, калі наперадзе няма нікога. Тым, што ззаду, лягчэй: даганяй пярэдніх, вось і арыенцір! І Рыта ішла хутчэй, чым разлічыў па графіку яе трэнер. Гэтая самаадданая гонка прынесла ёй вялікі поспех — трынаццатае месца ў Саюзе. Калі ўлічыць, што савецкія лыжніцы — мацнейшыя ў свеце, дык гэтая лічба — вялікая ўдача на спартыўным шляху.

Нядаўна Рыта Ачкіна зноў была ў Варахце. На гэты раз спаборнічалі каманды чатырох рэспублік. Мінчанка з гонарам выйшла ў пераможцы. Яна заваявала першае месца ў гонцы на 10 кіламетраў і другое — у гонцы на 8 кіламетраў.

**І. ЦЫВЕС.**

## ГАНАРОВАЯ ЎЗНАГАРОДА

Спартыўны калектыў мінскага цагельнага завода № 2 параўнаўча малады. Ён створаны ў 1946 годзе.

У той час на завод прышоў працаваць Сяргей Аляксандравіч Карастынскі — пажылы чалавек, які з першага позірку нічым асаблівым не вызначаўся. Аднак трэба было бачыць яго



**Работніцы мінскага цагельнага завода № 2 М. Лопіна, В. Наўроцкая і Е. Заяц робяць спартыўную прагулку перад пачаткам работы.**

пасля працы на стадыёне. У сваё 46 гадоў ён быў выдатным нападаючым у футбольнай камандзе.

Сяргей Аляксандравіч здолеў арганізаваць вакол сябе моладзь, зацікавіць яе спортам. Так нарадзіўся заводскі калектыў фізкультуры, старшынёй савета якога быў выбраны С. А. Карастынскі. Ён працуе на гэтай пасадзе і цяпер.

Шмат цяжкасцей стаяла на шляху маладога калектыву: не было базы, спартыўнага інвентару, залы. На першым часе былі арганізаваны дзве секцыі—футбольная і гарадочная. Цяпер жа кожны трэці рабочы завода — фізкультурнік. У розных спартыўных секцыях займаецца 280 чалавек. Працуюць секцыі цяжкай і лёгкай атлетыкі, лыжная і канькабежная, футбольная і валейбольная, гарадочная і шахматная, секцыі плавання, стральбы і боксу, а таксама секцыя агульнай фізічнай падрыхтоўкі. Імі кіруюць трэнеры і грамадскія інструктары.

Фізкультурнікі цагельнага завода ўдзельнічаюць ва ўсіх спартыўных спаборніцтвах раёна, горада, а таксама рэспублікі. Яны не раз выходзілі пераможцамі першынстваў па розных відах спорту.

За пасяховую шматгадовую работу па развіццю масавай фізічнай культуры і спорту сярод рабочых і служачых калектыў узнагароджаны граматай Усесаюзнага камітэта па справах фізкультуры і спорту.

**В. БАРАНОЎСКІ.**

## НАПЕРАДЗЕ СПАРТАКІЯДА

Трыбуны стадыёна пустыя, але на бегавой дарожцы ажыўлена. Ідзе трэніроўка зборнай каманды... цяжкаатлетаў. Так, так. Ніякай памылкі тут няма. Штангісты, як і іншыя спартсмены, трэніруючыся, займаюцца ўсебаковай фізічнай падрыхтоўкай. Выбраўшы час, калі на лёдзе не было сапраўдных канькабежцаў, нашы лепшыя сілачы надзелі канькі.

Наперадзе Спартакіяда народаў СССР, і да яе трэба добра падрыхтавацца, трэба палепшыць ранейшыя вынікі. На мінулай спартакіядзе ў 1956 годзе зборная каманда штангістаў Беларусі заняла шостае прызавое месца. Цяпер, у абноўленым складзе, яна спадзяецца на большы поспех.

**Б. ВІТАЎ.**

**Зборная каманда штангістаў Беларусі.**
*Фота В. Бараноўскага.*



# *Шахматы*

**Пад рэдакцыяй майстра спорту А. СУЭЦІНА**

## КОНКУРС РАШЭННЯЎ ЗАДАЧ І ЭЦЮДАЎ

Конкурс будзе складацца з васьмі заданняў, кожнае з якіх ацэньваецца адпаведнай колькасцю ачкоў.

Прысылайце рашэнні ў адрас рэдакцыі!

№ 1. Знайдзіце лепшы ход!



Белыя пачынаюць і выйграваюць. **(2 ачкі)**

№ 2. Знайдзіце лепшы ход!



Чорныя пачынаюць і выйграваюць. **(2 ачкі)**

№ 3. Знайдзіце лепшы ход!



Чорныя пачынаюць і выйграваюць. **(2 ачкі)**

№ 4.



Эцюд: Белыя пачынаюць і робяць нічыю. **(2 ачкі)**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ?

1. Хто быў **першы** савецкі гросмайстар па шахматах? Назавіце яго прозвішча і год, у якім было яму дадзена гэтае пачэснае званне. **(1 ачко)**
2. У якім годзе быў выдадзен першы дапаможнік па шахматах у Расіі? Хто быў яго аўтарам? **(1 ачко)**
3. Хто зусім слушна лічыцца лепшым шахматыстам сярод рускіх пісьменнікаў-класікаў? **(1 ачко)**
4. Хто быў найбольшую колькасць разоў чэмпіёнам Беларусі па шахматах? **(1 ачко)**

**Прозвішчы нашых чытачоў, якія прышлюць правільныя адказы на працягу трох месяцаў з дня выхаду гэтага нумара часопіса ў свет, будуць апублікаваны на старонках «Маладосці».**

## ЗМЕСТ



### Гары, камсамольскі аганёк!



### Навука і тэхніка



### На атэістычныя тэмы



### Давайце пагаворым...



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак: «Зрабі сам!»**

---






Неаднаразовы чэмпіён Беларусі па скораснаму прыёму радыёграм з запісам на пішучай машынцы Міхаіл Валжанкін. На апошняй рэспубліканскай спартакіядзе Дабраахвотнага таварыства садзейння арміі, авіяцыі і флоту ён узначаліў каманду радыстаў, якая заваявала пераходны прыз часопіса «Маладосць».

**Фота А. Дзітлава.**

АТ 09684. Мінск, друкарня імя Сталіна. Зак. 365. Тыраж 30 000 экз.